## Замест прадмовы

У беларускай літаратуры імя вялікага князя Гедзіміна (Мікола Ермаловіч настойвае, што яго трэба называць акурат гэтак, і я ўзяла для друку ягоны варыянт) амаль не ўзгадваецца. І не дзіўна — нават самыя сучасныя падручнікі па гісторыі Беларусі (узяць хаця б адзін з апошніх, «Гісторыю Беларусі», Мн., 1999, пад рэдакцыяй прафесараў Я. Новіка і Г. Марцуля) пра перыяд Гедзіміна пішуць надта ж асцярожна, не адмаўляючы тэорыю таго ж М. Ермаловіча аб славянскім паходжанні князя, але і не падтрымліваючы яе. І сама дзяржава Гедзіміна атрымліваецца нейкаю няпэўнай — ці то яна літоўска-беларуская, ці беларуска-літоўская, ці ўсё яшчэ толькі літоўская...

Мне ж здаецца — важнае для нас тое, што мы, урэшце, ужо хаця б не адмаўляем сваю прыналежнасць да дзяржавы, якая прасціралася ад Чорнага да Балтыйскага мораў і мела вялікі ўплыў на Еўропу. І тады, калі мы гэта ўсвядомілі, мы заўважылі і магутнейшы славянскі пласт гэтай краіны. Тут усіх нас яшчэ чакаюць вялікія адкрыцці. Што да мяне, то найбольш прывабнай у гэтым перыядзе нашай гісторыі мне ўявілася постаць Ляздзейкі — і не таго сівога валхва-звездара, астранома, якім паўстае ён на карцінах пазнейшых мастакоў. У часы Гедзіміна ён не можа быць такім, бо, як нам вядома па летапісах, князь знайшоў яго, яшчэ малога, у арліным гняздзе. Таму я бачу вешчуна яшчэ досыць маладым, і мне цікава ўяўляць, якімі ж былі тады адносіны ўлады і таленту, як стаеавалася пушкінскае «валхвы не баяцца магутных уладык» і рэальнае жыццё мноства язычнідкіх свяцілішчаў, якім патрэбная была падтрымка ўлады, што разам з тым была пагібельнай для свабоды духу.

Можна запытацца: ізноў ейны галоўны герой — вяшчун, жрэц? Але ў тыя часы мастацтва было нераздзельнае, сінкрэтычнае, і Слова таксама, як і музыка, як і гаданне, успрымалася як свяшчэннадзейства. Бо яно давалася нябёсамі. Развітваючыся ў рамане з

Ляздзейкам, я развіталася і з тым агромністым, незвычайным, дзівосным пластом нашай культуры, які быў звязаны з язычніцтвам. Будуць іншыя творы — з'явяцца і новыя постаці...

***Аўтар***

## Заручыны

Гедзімін трымаўся прама, хаця я добра ведаў — скалечанае ў бітвах плячо яго зараз торгаецца ад болю, а спіна, шчыльна абцягненая барвовым каптанам з залатой аблямоўкай на рукавах, бесперапынна ные. Мезенец на правай руцэ, адсечаны крыжацкім мячом, тырчаў чырвона-сінім абрубкам. Я прытуліўся да крэсла, на якім ён сядзеў — яно было з чорнага дрэва з пазалочанымі ручкамі ў выглядзе львоў, а спінка, на якую абапіраўся вялікі князь, была ўся інкруставаная перламутравымі пласцінамі, — і адчуў, як разьбяная лапа льва ўпілася мне ў шчаку.

— Супакойся,— сказаў я льву, які глядзеў міма мяне некуды ўдалячынь і рабіў выгляд, нібыта ён тут ні пры чым, — я прыехаў сюды толькі на тыдзень, і ты зноў застанешся гаспадаром і гэтае залы, ды і ўсяго замка.

Навагародак ужо не сталіца княства, Гедзімін жыве ў Троках, і ўвесь двор пры ім, а тут ад ягонага імя валадарыць ягоны намеснік Петра Корсак, які гатовы выць ад адчаю, што не можа больш дурыць галовы прыўкраснай Дабранезе і не менш прыўкраснай Прадславе — дзвюм пярлінкам Гедзімінавага двара, дзвюм высакародным дамам, якія вечна спаборнічаюць паміж сабой — хто надзене больш модную сукенку, з тых, якія ўжо носяць пры двары нямецкіх курфюрстаў, хто мае лепшыя арафламы[1], і так да бясконцасці.

— Хіба табе не радасна за яго цяпер, —працягваў я ўшчуваць ільва, — цяпер, калі Гедзімін прыехаў у Навагародак на тыдзень, каб тут адсвяткаваць заручыны сваёй дачкі Марыі з княжычам мазавецкім.

Паглядзі, як радасна стаіць новагародскі наместнік перад тронам, бо вочы дзвюх сталічных прыгажунь раз-пораз спыняюцца і на ім. Ён, канешне, разумее, што найбольш ловяць яны погляд самога князя і княгіні Еўны, аднак перападае і яму. Усе ж ён з тых нямногіх, хто адзначаны гербам, на манер нямецкіх рыцараў. Ягоны герб называецца «Астоя», і я, разам з іншымі, толькі засвойваю хітрыя правілы геральдыкі, па якіх герб можа расказаць пра ўвесь твой род: у першым полі ставіцца герб бацькоўскага роду, у другім — мацярынскага, у трэцім — роду бабулі па бацьку, у чацвёртым — бабулі па маці, і etc cetera. Але Петра Корсак пакуль атрымаў гэты герб сам, і толькі ягоныя нашчадкі змесцяць «Астою» на нейкім там полі. А яна прыгожая, гэтая «Астоя»! На чырвоным полі два залатыя месяцы рагамі ў розныя бакі, паміж імі меч без похваў, рукаяткай уверх. На прылбіцы пяць страусавых пёраў.

Корсак ганарыцца тым, што яму дадзены герб — яго пры двары маюць ўсяго дзесяць чалавек, апроч самога князя і ягонай сям'і.

Нездарма тройчы прымушаў ён прыдворнага краўца перашываць свой новы аксамітавы каптан, каб ямчэй схаваць пад ім тоўстае бруха выпівохі і гурмана. Аднак, як яму ні хораша зараз, у душы ён баіцца. А раптам вялікі князь заўважыць, што кут у паўднёвай вежы залатаны толькі што, перад самым ягоным прыездам, а таксама тое, што брукаванка па дарозе праз пасад там-сям скрышылася.

Што ж да дзвюх нашых прыгажунь, дык яны баяцца таксама. Бо зараз у залу ўвойдзе дачка Гедзіміна Бірута са сваім Давыдам, кашталянам гарадзенскім, і адразу яны пададуцца бляклымі свечачкамі перад касніком агню. Так было не раз, калі на прыдворныя балі прыязджала Бірута, якая, хаця і пастарэла, усё ж дасюль лічыцца першай прыгажуняй княства.

Велізарная зала, дзе яшчэ няма гасцей, усё роўна не пустая — унізе, справа ад Гедзіміна, сядзяць ягоныя сыны — усе сямёра. Блішчаць паясы, фібулы, мігцяць

таямніча і зазыўна яханты і перлы на шыйках дачок — Данмілы-Лізаветы, Марыі, Альдоны, Офкі і Анастасіі-Аўгусты. Адзінаццацігадовая Альдона, якая стане польскай каралевай і ператворыцца ў Ганну, сядзіць на вялікай падушцы, аблямаванай залатымі кантамі — каб выглядаць дарослай. Я ведаю, яна вымаліла гэтую падушку ў княгіні Еўны — тая не цярпела парушэнняў прыдворнага этыкету і сама кожны раз правярала маршалка Скіргайлу, які, па ейных словах, болей любіў велікакняскія стайні, чымся баляванні і ўсялякія святы. Анастасія, якая праз адзінаццаць гадоў выйдзе за маскоўскага князя Сімяона, празванага Гордым, яшчэ меншая. Вочы ў Аўгусты вялікія, зялёныя, а валасы белыя, як попел на пажарышчы. Яна надта падобная да сваёй зводнай сястры Біруты, якую выглядае, выцягваючы вусны, нібыта для пацалунку. Бірута паходзіць ад першай жонкі Гедзіміна, язычніцы Віды, дачкі Відзімунта. Кажуць, што яе найболей любіў малады княжыч Гедзімін, хрышчаны ў праваслаўе яшчэ з маленства, і менавіта пасля яе ён стаў асабліва клапаціцца пра язычнікаў.

Лаўлю позірк сярэдняга з сыноў, Альгерда, які сядзіць недалёка ад мяне і напружана чакае выхаду гасцей, каб кожнага, хто спыніць на ім погляд, адарыць ветлівай усмешкай і тым зрабіць сваім прыхільнікам. Светла-русы, высокі, з яснымі шэра-зялёнымі вачыма, гэты сын Вольгі і ўнук Усяслава Смаленскага найболей падабаўся мне з Гедзімінавых сыноў — ён, як і я, не п'е ні мёду, ні піва, ні, тым болей, гарэліцы. Ведае, што і як сказаць. Але, вядома, найболыи падабаецца тое, што ён, гэтак жа як і я, ведае пяць моваў, і часам, злуючы іншых прыдворных, мы размаўляем з ім на грэчаскай альбо на лаціне. На нямецкай гаварыць нецікава: яе тут ведаюць амаль усе, і ўвесь двор зараз зачытваецца «Аповесцю пра трох каралёў», толькі што напісанай манахам Іяганам з Гільдэсгейма. Аднак я падазраю, што якраз з-за Альгерда мне не надаюць звання галоўнага святара княства, хаця ўсім вядома, што стары Галігін ужо амаль зусім перасяліўся ў Ірый і ледзь разумев тое, што дзеедца на гэтай грэшнай зямлі. У мінулае набажэнства, калі маліліся Перуну, сустракаючы

Грамніцы, ён загадаў перарэзаць пеўню глотку яшчэ да таго, як той напіўся падталай вады са свяшчэннага кубка, з-за чаго паміж людам, які, дзякуй Роду, яшчэ не ахрышчаны, узняўся вялікі галас — чакалі канца свету альбо вялікіх няшчасцяў. Зноў жа падазраю, што Альгерд адгаварыў бацьку якраз таму, што быў задаволены. Ён жа хрышчаны яшчэ сваёй нябожчыцай маці, княгіняй Вольгай, а з таго часу, як ажаніўся з князёўнай віцебскай, нават на ўрачыстых цырымоніях жрадоў стараецца не прысутнічаць. Сёння, калі ўзносілі хвалы Перуну на старажытным капішчы, што ўнізе пад замкам, ён увесь час употай хрысціўся, але не асмельваўся пярэчыць бацьку.

Ніжэй за Гедзіміна сядзяць браты вялікага князя — полацкі Воін і менскі Хведар. Яны вядуць ціхую гаворку між сабой. Сённяшняя падзея трохі горкая для Воіна — ён да апошняе хвіліны спадзяваўся, што заручыны адбудуцца ў Полацку, бо менавіта Полацк — найбольшая зямля сярод усіх велікакняжацкіх, да таго ж і найбагацейшая, нягледзячы на ўсе страты і аслабленне праз крыжацкія наступы. І хаця ўсе паны-рада даказвалі, што Навагародак прыдатны найболей, усё ж не забываецца князь Воін, што некалі запрасілі вольняне княжыць да сябе менавіта полацкіх князёў, палоненых кіянамі і засланых ажно ў Візантыю. І тут, на паседжанні паноў-рады, зноў узгадаў ён полацкага князя Расціслава Рагвалодавіча, што княжыў у Крывіч-горадзе два з паловай стагоддзі таму, і сыноў яго Давіла і Маўкольда, якія вярнуліся з Цар-горада да крывічоў-вольнян, і пра тое, што Міндоўг паходзіў ад Маўкольда, а значыць, Полацку належыць пяршынства ва ўсіх важных дзяржаўных справах. «Вяселле хай будзе ў Троках, — казаў ён горача, — а вось заручыны — толькі ў нас».

Так, зарыкалі валынкі, загудзелі трубы, запоўненая зала замаўкае. Прыём гасцей пачынаецца, герольд аб'яўляе кожную пару, але, вядома, першымі ўвойдуць польскія госці: жаніх — княжыч мазавецкі — сын Тройдзеня, і ягоныя паслы. Усе выцягваюць шыі, каб лепш іх разгледзець, я ж сяджу нерухома, бо добра

разгледзеў княжыча мазавецкага яшчэ ўчора, калі ён прыехаў у замак. Ён высот, танклявы, з доўгім носам і доўгім тварам, з прыемнай, хаця і трохі саладжавай усмешкай. Любіць кабет — праходзячы паўз баярынь, ледзь не ўшчыкнуў, відаць, па звычцы, прыгажэйшую, але тут жа апамятаўся, зрабіў выгляд, што хацеў злавіць муху, што надакучала яму. Аднак я пасмяяўся з ягоных хітрыкаў. Няхай ён здымае свой берэт перад князёўнай, хай шэпча ёй страсныя словы, і хай Гедзімінаўна да канца дзён сваіх верыць, што князь ніколі не палезе пад спадніцу якой-небудзь пані падчашай ці пані гетманшы, пакуль іхнія мужы будуць — адзін гнуцца над бочкамі з віном, выбіраючы найлепшае, другі — можа, над картай суседняе Польшчы ці Масковіі. Я ведаю — ён свайго не ўпусціць. Да таго ж ягоны бацька зусім нядаўна пісаў папе рымскаму Іаану XXII, разам з князем Самавітам, што мір з Гедзімінам заключаць не варта і што Ордэн не павінен перапыняць барацьбу з Княствам. Цяпер, калі крыжакі насыпалі яму солі на хвост, абрабаваўшы зямлю мазавецкую, ён спахапіўся і вырашыў шукаць саюзніка. «Хай выпраўляе памылку свайго прадзеда, Конрада Мазавецкага, які калісьці запрасіў крыжакоў на свае землі і даў ім дарогу на ўсход!» — сказаў на паседжанні паноў-рады вялікі князь, калі яны абмяркоўвалі прапанову палякаў ажаніць дачку Гедзіміна і мазавецкага княжыча.

Зразумела, княжыч не мог перамяніцца, і Марыя для яго толькі сродак для палітычных мэтаў. Але яна задаволеная — стане княгіняй мазавецкай, да таго ж дзеўцы трэба выходзіць замуж — пераспее, а тады і на маленькае жаночае шчасце нечага спадзявацца. А ёй хочацца шчасця — напружвае шыйку ў высокім, з адмыслова плеценых карункаў каўнерыку, нібыта цягнецца ўвысь, каб не быць надта малой. Іначай скажуць паслы — «куртатая», і панясецца па ўсёй Мазовіі знявага дзявочай красе. Але сказаць пра яе непрыстойнасць могуць толькі зласліўцы — хаця і невысокая, гэтая дачка Гедзіміна падобная да свежай, крэпенькай рэпкі, яна ўся свеціцца яснасцю, блакітныя яе вочы ў доўгіх пушыстых вейках здаюцца вялікімі, а

вусны — пульхнымі і вабнымі. На русявых вал асах — вяночак з руты, перавіты ніткай перлаў.

Рука Гедзіміна ўчапілася ў мае валасы. Так і ёсць — у залу ўваходзіць любая дачка. І адразу зала робіцца нібыта ніжэйшай. Бялявая Бірута і яе муж абое высокія, аднак яна ніжэй яго на паўгалавы. Давыд трымае яе за локаць, вузкі рукаў яе, што выглядае з доўгага, да падлогі, параднага рукава, амаль цалкам пакрыты яго даланёй. Яны садзяцца на крэслы, пастаўленыя ніжэй за трон, дзе сядзіць радня Гедзіміна, жаніх і дачка-нявеста. Бірута садзіцца недалёка ад мяне, яе парфума — відаць, вада з Кёльну — пахне свежым сенам, туфелька на магутнай назе ляжыць зграбна, саф'ян не моршчыцца. Жанчыны ўпіваюцца позіркамі ў яе сукню і бранзалеты, я ж гляджу на Давыда.

Каб сустрэць яго, новагародскі люд стаяў ля замка ўжо з досвітку. І я прачнуўся ад крыкаў — гучныя, яны данесліся да майго пакойчыка на супрацьлеглай ад пасада вежы, амаль пад самым дахам, прабілі магутныя сцены і абудзілі ўсіх. Цікава было б пабачыць у тую хвіліну твар Гедзіміна — яму крычалі хвалу таксама гучна, але без гэткай апантанасці і радасці. І хаця ўсе мы ведалі, чаму, аднак які валадар будзе радавацца таму, што ягонага зяця новагародцы любяць болей? Новагародцы, чые палкі і цяпер лепшыя ў войску, чыя ганарлівасць увайшла ў прымаўку, бо тут каранавалі яны некалі першага свайго караля, Міндоўга, шануюць Давыда болей, чым вялікага князя, які толькі пяць гадоў як перабраўся на сталец з намесніка Аўкштайціі і, можа, па гэтай прычыне заснаваў сабе сталіцу бліжэй да балтаў — спачатку ў Кернаве, пасля ў Троках. Ён, ён, Гедзімін, адмовіўся ад Новагародка! Навекі будуць яны памятаць, што сталіца — тут, а не ў Кернаве ці Троках, як таго захацеў Гедзімін. А Давыд... што ж — гэта ён ратаваў іх тут восем гадоў таму, калі крыжакі абклалі Новагародак такім шчыльным колам, што і мыш не магла пралезці ў замак без іхняга нагляду і калі Давыд даў ім тут такіх чарцей...

Ён набліжаўся да трона, і я заўважыў, як ён пастарэў.

Сінія вочы яго нібы згаслі, павекі прыпухлі, на шчацэ была ледзь зарослая блізна, а левае плячо трохі сагнулася. Так, я чуў, што ён быў паранены, але не думаў, што гэты вячысты дуб усё ж калі-небудзь сагнецца. Не, ён яшчэ не сагнуўся, але пахіліўся, і я ўпершыню выглянуў з-за Гедзімінавага трона, каб асабіста прывітаць яго.

Давыд нізка схіліўся перад князем і княгіняю, шануючы іх так, як павінен шанаваць суверэн свайго пана, але вочы яго свяціліся найбольш не стараннасцю і адданасцю, але прыязнасцю, а мне ён падміргнуў, кал і сустрэўся вачыма. Бірута ж пацалавала руку бацьку і мачысе, ад чаго вочы княгіні Еўны напоўніліся слязьмі, памякчэлі. Перад сваёй магутнай падчаркай княгіня выглядала куранём — сухенькая, маленькая, яна не выдавала на маці чатырох дзяцей, але багіня Мокаш дала ёй гэтае жаночае шчасце — раджаць здаровых наследнікаў для княства. Але такой жа пладавітай была і Вольга, і першая жонка Гедзіміна Грына, што значыць — жыццядайная. І ўсе сямёра сыноў ад розных жонак былі зараз тут: Монтвід і Нарымонт, Альгерд і Карыят, Яўнут і Кейстут, а яшчэ Любарт. Я ведаў, князі і паны, і больш дробныя рыцары — баяры княства шэпчуцца, што ажио занадта спадчыннікаў для княства, і вялікая завалока можа ўсчацца пасля смерці Гедзіміна, але ж хто не пазайздросціць бацьку, у якога столькі сыноў?

Аднак я чуў і іншую думку — што ўсіх Гедзімінавых сыноў, хіба што, можа, апроч Альгерда, перацягне адзін Давыд, і ніхто не любімы так народам, як ён, зяць, да таго ж прышлы, са Пскова. Канешне, усякаму, хто сказаў бы ўслых, што Давыд прышлы, яго воі перарвалі б горла, бо хто ж не ведаў тут ягоную гісторыю? Спадчынны нальшчанскі князь, вымушаны быў ягоны бацька Даўмонт збегчы адсюль у Пскоў, ратуючыся ад гневу Міндоўга, і там стаў ён пскоўскім князем і абаронцам княства. Пскоў прыняў Даўмонта, любіў яго, і там ажаніўся ён з унучкай Аляксандра Неўскага, забыўшыся на тое, што адабраў Міндоўг у яго ўласную жонку і тым зганьбаваў яго перад усімі князямі. Даўно адпомсціў Даўмонт і Міндоўгу, і адабранай жонцы, але

Давыд, сын яго, не мог даравацць бацьку. Ірваўся ён на радзіму. І хаця княства нальшчанскае даўно ўжо стала часткай Новагародчыны, прыняў яго Гедзімін і, хаця не аддаў спадчыннай зямлі, усё ж ажаніў яго са сваёй дачкой і тым таксама як бы вярнуў Давыду і гонар, і правы на землі Княства. Хаця быў Давыд толькі кашталянам гарадзенскім, трымаўся ён у Гародні як спадчынны князь, і Гедзімін таму не супраціўляўся. Па бацьку быў Давыд мужным воем, але па маці быў ён даверлівым і мяккім, і Бірута любіла яго з кожным годам болей і болей, і была, як ведалі ўсе пры двары, ўдзячная бацьку за ягоны выбар.

Герольд аб'яўляў госця за госцем, і Гедзімін стаміўся. Ён нервова паварушыў мае валасы (абрубак пальца зачапіўся за пасму) і шапнуў, не паварочваючы галавы:

— Ты зноў выйграў, Ляздзейка. Стаяць у натоўпе гадзіну — гэта не для тваёй нагі. Нават мне намуляла зад, хоць падушка мяккая, як добрая баба пасля лазні.

— Але для таго каб ты, вялікі князь, дазволіў мне сядзець ля трона, а не стаяць каля яго, я тыдзень прасіў Івора, галоўнага ўстаўшчыка двара...

— Івор правільна пярэчыў. Княжацкі варажбіт — не блазан, каб туліцца да маёй рукі. Твой чын патрабуе, каб ты стаяў у другім радзе справа ад мяне...

— Колькі разоў я прасіў скінуць з мяне гэты чын...

— І рабіў глупства. Без чына ты пры двары будзеш кожны раз бегаць да мяне, каб цябе не зацерлі ў чарговым пераездзе...

Пакуль мы з ім перагаворваліся (дакладней, шапталі адзін аднаму гэтыя словы), я няўважліва глядзеў на тых, хто спяшыў пакланіцца вялікаму князю. Мне абрыдзела за шмат гадоў гэтае відовішча — нехта, сапучы і крэхчучы, кланяецца, стараючыся не адрывацца поглядам ад княскага позірку, а ззаду таўстуха-жонка ў вузкім карсажы і высокай намітцы (якая б паказвала, чаго вартая кабета) прысядае,

паказваючы ў ліслівай ўсмешцы, якога зуба (ці зубоў) яна пазбавілася, грызучы свайго нарачонага. Новагародцы, праўда, трымаліся з большай годнасцю, чым жамойты. Тыя, у большасці сваёй язычнікі, глядзелі спадылба, але добра разумелі, што пры палачанах-прыдворных, якія ўсе не толькі ведалі грамату, але і гаварылі пераважна на трох мовах (сваёй, нямецкай і русінскай), ім не выпадае надта паказваць сябе. Праваслаўныя і каталіцкія новагародскія баяры таксама етараліся не адетаваць ад палачан, якіх прывезла з сабой княгіня Еўна і якія задавалі тон пры нашым двары. Да мяне, язычніка і насмешніка, прыдворныя ставіліся са страхам, і я яшчэ болей пасміхаўся, назіраючы, як спрабуюць яны ўлагодзіць не толькі хрысціянскага Бога, але і старых язычніцкіх, якіх яны ўпарта не хацелі забываць.

Гаворачы з князем, я амаль заплюшчыў вочы. І раптам адчуў нейкі штуршок і, няўцямна глянуўшы наперад, разам выпрастаўся, як страла, пакладзеная на цеціву.

Перад тронам стаялі трое. Старэйшага, пасярэдзіне, я пазнаў, хаця і не ў першае імгненне. Рацібор, сын новагародскага баярына Сакі, ён праславіўся восем гадоў назад пры абароне Новагародка ў 1314 годзе. А яшчэ тым, што ўратаваў тады кашталяна Давыда, зяця Гедзіміна, прыняўшы стралу, якая ляцела ў кашталяна, ў свае грудзі. Захіліўшы Давыда, ён не памёр, усім на здзіўленне. Тады, пасля перамогі над крыжакамі пад Новагародкам, і забраў яго Давыд да сябе ў Гародню і прызначыў начальнікам над ратнікамі.

А вось хлапца і дзяўчыну, якія стаялі па баках, я бачыў упершыню. Відаць, ягоныя дзеці, мяркуючы па тым, з якой любасцю глядзеў на іх Рацібор. Так і ёсць. Сястра і брат, (я не пачуў імені хлопца — наструнены, увесь з яркім румянкам хвалявання на шчоках, свежы і зыркі, як гіершы глыток маладога піва, ён быў самы звычайны, свойскі, тамтэйшы). А дзяўчына...

— Мая дачка Гайна, — гаварыў Рацібор, і дзяўчына пакланілася — трохі збянтэжана, бездапаможна-пакорліва, нібы прасіла: не крыўдзіцеся на мяне за тое,

што я займаю ваш час. Я разумею, што вы стомленыя, але ж я прыйшла сюды не сваёй воляй...

Цікава, што гул — той гул, які непазбежна стаіць на прыёмах такога роду, калі ў княстве адбываецца нешта значнае і процьма народу збіраецца разам, — гэты гул раптам замоўк.

Усе глядзяць на дзяўчыну. Гляджу і я. Спачатку — з трывогай. Што ў ёй такога, каб яна, простая гараджанка, прыцягнула маю ўвагу? Тое, што яна сапраўды асляпляльна прыгожая — гэта яшчэ не прычына. Прыгожых дзяўчат не так мала навокал. Асляпляльных — меней, але прынамсі ў гэтай зале іх трое. Не, з ёю — чацвёра. Але ж Дабранега і Прадслава, а таксама Бірута, хаця пра кожную з іх напісаныя песні і нават паэмы, не здольныя мяне ўразіць. Прыгажосць — гэта вада ў ручаі. Яна сплывае рана ці позна, застаецца рэчышча, сухое і зморшчанае. Дай ляскі, Пярун, каб не злоснае, бурклівае. Спакойна, Ляздзейка, давай разбярэм у гэтай дзяўчыне ўсё-ўсё паасобку, і тады адразу знікнуць чары.

Валасы? Яны залацістыя, доўгія, перавітыя чырвонымі каснікамі. Постаць? Зграбненькая, у меру хударлявая, але ж не худая — ручкі з-пад доўгіх рукавоў белыя і поўныя, клубы таксама ёсць. Грудзі? Невялікія, але таксама ёсць — значыць, будзе чым карміць дзіця. Вочы? Вочы і праўда незвычайныя — вялікія, ды нейкага незразумелага колеру, нязвыклага. Фіялкавыя, ці што? Свежанькія вусны, якія вінавата варушацца, нешта прамаўляючы. Не хачу слухаць яе — а раптам пора лухту? Як часта даводзілася шалець, пачуўшы з нявінна-прыгожых вуснаў чарговае жаночае глупства!

Яна кажа нешта зусім простае, і няважна, што гаворыць. Важна — як. Гэтая яе цнатлівасць — і разам з тым нешта невымоўнае, мудрае, нібыта ёй тысяча гадоў, і яна толькі гуляе ў нявіннасць, а сама ведае тое, да чаго просты смяротны не даўмеецца за ўсё жыццё. І чаму нешта ўсё наплывае на мяне — не то ўспамін, не то мара, не то... Ах, так — сон. Сапраўды, гэты сон я бачыў тройчы, як толькі стала вядома, што мы едзем у

Новагародак святкаваць заручыны малодшанькай Гедзімінавай.

Сон гэты я бачыў учора — якраз тады, калі мяне разбудзілі вітальныя крыкі ля замка.

Старая, вельмі старая жанчына спыняецца ля лесу. Ідзе сцяжынкай, азіраецца па баках. Прыходзіць да нейкіх зарослых камянёў — чорныя, паліраваныя, яны зараслі ажынай і алешшам, сунічнікам. Яна лашчыць камяні, нешта шэпча ім, а пасля кіруецца далей — туды, дзе паміж купін плешынамі выглядае патрэсканая зямля. Навокал бярозы і асіннік. Асіны высокія, хісткія, яны трапечуць пажаўцелым жнівеньскім лісцем, нібы адганяюць жанчыну. А яна ідзе, і крок яе такі стомлены, нібыта ўвесь цяжар свету на ейных плячах. Я раптам разумею, што жанчына прыйшла сюды паміраць і што некалі тут было возера. Я нават чую, як нехта ўва мне прамаўляе назву — «Менцязь», што на старажытнай, памерлай тут мове азначае — светлы валадар.

Але чаму гэтая жанчына са сну памроілася мне зараз? Здагадка прыходзіць раптоўна — у жанчыны з майго сну вочы такія ж, як у дзяўчыны, што стаіць насупраць трона і слухае, як княгіня Еўна прамаўляе ласкавыя словы да ейнага бацькі: вялікія, колеру ранішніх братак — фіялак, што рассыналыя на схіле ўзгоркаў.

«Гэта ж мая прабабка Жывена! — адразу пазнае жанчыну Гайна, калі я пазней раскажу ёй пра мой сон. — Якраз за тыдзень да вашага прыезду яна развіталася з усімі намі і сказала, што хоча памерці адна. Яе час наступіў, яна яго ведае. Мы не хацелі яе адпускаць адну, але хто б мог яе стрымаць?!»

Я даведаюся пра тое, што гэта яна, Жывена, ратавала свайго ўнука Рацібора, калі ў яго грудзі трапіла страла. Яна ведала даўняе, патаемнае знаццё, якое хацела перадаць ўнуку ці, пазней, праўнучцы.

«Але, дадала Гайна, — я, відаць, занадта дурная, бо нічога не магла запомніць. Нічога! Прабабка

адступілася ад мяне, яна зразумела, што я іншая, чым яна. У мяне свая дарога».

Гайна раскажа мне гэта тады, калі я лепей за іншых зразумею, якая яна. Навука — не для яе. Яна бесклапотная і лёгкая, як... як багіня вясны і кахання Ляля, або, як называюць яе на ўсходніх межах княства, Лада. Яна і без навукі ведае ўсё — і кожнага адчувае беспамылкова, хаця і не хоча нічога ведаць пра свет, у якім жыве.

Можа, ад таго і заціхлі прыдворныя? Праўда, доўжылася гэта колькі імгненняў, а потым падышоў яшчэ нехта, падобны да гарбуза ў каптуры, і я зноў учапіўся за львіную лапу, а леў зноў сярдзіта абадраў мне пазногаць, і гасцей запрасілі ў іншую залу, дзе гнуліся доўгія дубовыя сталы пад сярэбраным посудам, а яшчэ болей — пад смажанымі тушамі дзікоў і аленяў, пад узгоркамі зайчаціны і мядзвежыны, копамі кіслае капусты і салёных гуркоў, а яшчэ рознага птаства і рыбы.

Я не застаўся там. Узяў хлеба і трохі гароднiны і пайшоў сабе спаць у свой пакой пад самым дахам паўднёвае вежы, мімаходзь убачыўшы, што да Гайны кінуліся ажно трое малайцоў-прыдворных — з тых, што дурацць жанчынам галаву песнямі і лютнямі, а самі прыкідваюць, як ямчэй заціснуць яе ў цёмную нішу на пераходзе, якіх так многа ў такіх замках. Я быў спакойны за Гайну: каля яе бацька і брат — гэты хлопчык не праміне ніводнага слова ў гонар ягонай сястры, але пры гэтым будзе азірацца, ці няма блізка каго-небудзь з больш радавітых.

Калі я узыходзіў на скрыпучыя прыступкі вежы, мяне спыніў камандзір варты Сунгайла.

— Няўжо княжацкаму вешчуну так нецікава на ўрачыстым застоллі?

— Я хворы,— схлусіў я.— Вецер прадзьмуў мне спіну, хаця і лета ў самым разгары.

— А я думаў, што ты ніколі не хварэеш, — расчаравана прагудзеў Сунгайла. — Няўжо багі не дапамагаюць свайму служцы?

— Яны ў той дзень былі занятыя. Напіліся і спрабавалі выцягнуць Нябесны Кол.

Ён паглядзеў на мяне асуджальна, пасля напаўголаса заўважыў:

— Там госці ядуць — за вушамі трашчыць. Самае смачнае нам не дастанедца. А ты, княжы вяшчун, сапраўды дзівак. Ды мы тое і чулі. Цяпер сам пабачыў. Не баішся, што багі цябе пакараюць за непавагу?

— А яны ўжо далі мне сёння выспятка.

— Як гэта?

— Паказалі кавалачак неба, падражнілі, а пасля зноў усё хмарамі завалаклі. Ды, зрэшты, ты не зразумееш, Слаўны Абаронца.

Цяпер ён паглядзеў на мяне з павагай. Зарослы валасамі твар яго пасвятлеў:

— Ты, вяшчун, сапраўды разбіраешся ў імёнах. Мой дзед мне казаў, што значыць маё імя. Сёння людзі забыліся на многае, і на старое таксама. А дзед мой помніць. Ён казаў мне яшчэ...

Але я не слухаў яго, паплёўся па прыступках наверх. Карцела застацца аднаму, паглядзець на неба. У Кернаве і Троках замкі будавалі на раўніне, там неба далека, і стукацца да багоў даводзіцца доўга і цяжка.

Тут, у Новагародку, спалася легка і сны мае былі лёгкімі, яны абсядалі аканіцы, як галубы. Ды і тое — замак, узнесены на такую вышыню, што даліна ўнізе ледзь праглядалася ў сінім марыве летняга дня, лунаў над наваколлем і плыў, нібы карабель, у густой нябеснай сіняве вечара.

Я толькі з'еў сваю вячэру і, сеўшы ля расчыненага акна,

расшпільваў кашулю, як ў дзверы, не спытаўшыся, пралез нехта ў парчовым жупане і вялізным белым карункавым каўняры. У паўцемры я не адразу пазнаў сына галоўнага чашніка Патрыкея, а ён усхвалявана схапіў мяне за крысо:

— Шаноўны Ляздзейка, не сярдуй, я па дапамогу!

Я спакойна вызваліў кашулю з яго ліпкіх пальцаў.

— Яна не па табе, хлопча.

Ён, вырачыўшы вочы, ледзь не шмякнуўся на падлогу.

— Ты... ведаеш, пра што і пра каго я кажу?

Яшчэ б не ведаць! Ён кінуўся да дачкі Рацібора, як ганчак да спалоханага зайчаняці, як вуж да матылька, але яна, мабыць, з усяе сілы махнула сваімі крылцамі і адляцела ад яго пальцаў і тоўстых чырвоных вуснаў, гатовых прагна ўпідца ў здабычу. А часу мала. Мы ж з'язджаем адсюль праз два дні. І тут да яго дайшоў сэнс маіх слоў. Ганарыста натапырыўся, задраў галаву.

— А чаму... чаму гэта яна не па мне? Мой бацька — галоўны чашнік, а яна — усяго баярыня, нават не надта багатая!

...Яго бацька падносіць Гедзіміну віно, і таму ён лічыць сябе пупам зямлі! Я закашляўся, каб схаваць прыступ рогату. Падавай сынку чашніка ўсяго толькі багіню прыгажосці і вясны, ён яе схавае ў сваіх смярдзючых харомах і будзе адкусваць па кавалку, а пасля, чаго добрага, хутка пачне ўлягаць за іншай, якая яму пасуе болей — якойнебудзь цялушкай з тоўстым кароткім станікам і круглым! вачыма.

— Якраз таму і кажу, што яна не надта і багатая, а ты ж — сын галоўнага чашніка.

Ён відавочна супакоіўся, загарэўся зноў:

— Бацька дазволіць мне ўзяць яе. Усё-ткі Рацібор хаця і ў Гародні, аднак каля Давыда, зяця. А не ля князя.

Ён сказаў гэта голасам герольда.

— Усё роўна яна не пара табе.

— Ды чаму? Чаму?

— Давыд, у якога служыць ейны бацька, — не сын. Яму зямлі не дастанецца, апроч Гародні. І ягоныя слугі не хутка разбагацеюць, нават пры ўдалых паходах. Вось каб Рацібор быў галоўным ратнікам пры самім князю…

Ён зноў задумаўся.

— Можа, нацкаваць бацьку, каб ён выпрасіў у князя дазволу забраць Рацібора ў княжы двор?

— Сапраўды. Тады яна табе падыдзе, як ключ да замка: ейны бацька галоўны ратнік, твой — галоўны чашнік. Але ж во толькі ты багацейшы…

Ён яўна не разумеў іроніі. Спяшаўся. Матылёк лётаў перад ягонымі вачыма, перад тоўстымі пальцамі…

— А прыгажосць? — заспяшаўся ён. — Гэта таксама багацце, так што і праўда, мы з ёй будзем як ключ і замок...

Я ўзяў яго за плечы і ціха павёў да дзвярэй.

— Ты што, ты што? — вырываўся ён. — Ляздзейка, чым я цябе пакрыўдзіў? Чаго ты? Пастой!

Я зачыніў за ім дзверы. Ён яшчэ трохі паскробся ў іх, нібы раззлаваная мыш, пасля пабег назад, у залу — лавіць сваё шчасцейка.

Я зноў усеўся ля акна. Тым часам багі кінулі жменю залатых зярнят на цёмна-сіні покрыў неба, кажан прашалясдеў проста ля маёй рукі, кугікнула сава.

Я чамусьці ўспомніў, што мне трыццаць сем, што я кульгаю, а твар мой падобны да твару Жыжаля, бога падземнага агню — смуглявы і абветраны.

Прыбор з павелічальным шклом, праз які я гляджу на

зоркі, ляжаў на стале, захутаны ў палатно. Гедзімін яшчэ перад паездкай загадаў спытацца ў зорак, ці ўдалай будзе паездка. Зоркі абяцалі тое. І я магу яшчэ два ці ўсе чатыры дні мець свабоду і не надакучаць багам дурацкімі пытаннямі накшталт таго, ці зажыве прышч на плячы княгіні Еўны і каго народзіць ад княжыча Яўнута служанка гетмана.

Але, мабыць, я сапраўды сёння абразіў багоў — у дзверы зноў зашкрэбліся, але ніхто не зайшоў. Я сам мусіў выйсці.

Дабранега стаяла там — сарамлівай ласачкай, ласкавай і слязлівай. Усе ейныя жаданні можна было чытаць як па зорках. Быць самай спакуслівай, такой, каб узгараліся мужчыны юрам і шалелі, хочучы скокнуць на яе, як алені ў час гону. І яна мела гэтых скокаў столькі, колькі хацела. Прадслава чаравала іншым — апушчанымі вачыма, днатлівым выглядам і пяшчотным позіркам, але я цвёрда ведаў, што чаравала яна толькі тых, ад каго залежаў лес яе любага Траняты, прыдворнага герольда. Дабранега ведала тое і не хвалявалася. Цяпер жа яна моцна ўстрывожылася: у замку з'явілася новая саперніца!

Я абняў яе за плечы.

— Не бойся, ты застанешся самай прыгожай пры двары, і вялікі гетман не перастане цябе кахаць.

— Праўда, Ляздзейка?

— Ты мне не верыш?

Яна зноў захлюпала — але цяпер ад радасці.

— Ты мне гэта цвёрда абяцаеш?

Я зноў пагладзіў яе па плячы.

— Не хвалюйся. Будзе так, як ты хочаш.

Яна сабралася ісці, але спахапілася:

— Я ж нічога табе не адкрывала, а ты ўсё ведаеш! О вялікі! Скажы мне яшчэ, што яна прападзе. Што яе, гэтую ляльку, спякуць на агні, закапаюць у зямлю жыўцом, аддадуць Вадзеніку!

Я адхіліў яе ад сябе. Як апрыкралі мне людзі! Асабліва іхняя зайздрасць і злосць — чорная, няўтольная. Багі даюць чалавеку ўсё: зямлю і зоры, святло і радасць, але ім мала таго — штурхаюць адзін аднаго, каб выхапіць лішні кавалак, які ў рэшце рэшт тырчком стане ў горле!

— Ідзі. Я стаміўся.

— Ты... ты незадаволены мной, Ляздзейка ? Так, я гэта бачу. Гэта таму, што ты не ведаеш кахання, бо кажуць, ты не сапраўдны мужчына, ты...

Я зачыніў дзверы, незнарок прышчаміўшы яе фалендышовую сукню. Кабета рванулася прэч так, што затрашчала тканіна.

Самотны настрой апаноўваў мяне ўсё болей. Я зразумеў, што адседзецца тут не ўдасца — зноў некаму, сама таго не падазраючы, перайшла дарогу дзяўчынка з фіялкавымі вачыма, з палахлівым і адначасна мудрым позіркам, альбо прывабіла, альбо прымусіла адчуць нешта загадкавае, таямнічае, што абвявае нашы жыцці штодзённа, шточасна, толькі мы не заўважаем таго альбо, заўважаючы, адмахваемся, як ад незразумелага і ад таго — не патрэбнага.

Служка таямнічага, я змушаны чуйна слухаць навакольнае і лавіць знакі бостваў паўсюдна і заўсёды. Хаця — чаму змушаны? Мяне змусілі — яны, неўміручыя багі, што жывуць у кожным камені, у кожнай расліне і тым болей чалавеку. Гэта яны кінулі мяне, немаўля, у лесе, і я, плачучы, ішоў без дарогі, пакуль не натрапіў на мяккі мох і не заснуў там. Яны ж прывялі князя Гедзіміна ў той лес і ў той час, і ўзляцеў арол над дрэвам, дзе я спаў, і страла князя дастала яго ў небе. Арол упаў на мяне, але я не прачнуўся нават тады, калі слугі, уражаныя дзіўным відовішчам — мёртвы арол на грудзях трохгадовага хлопчыка, —

паклікалі князя, і той загадаў узяць мяне ў палац і сам выхоўваў знайдыша.

Думаю, што мяне проста выкралі недзе бадзягі альбо бацькі мае памерлі ад воспы, а я забрыў у той лес. Але слугі разнеслі паўсюль, што я жыў у арліным гняздзе, што я — вяшчун. Можа, якраз іхняя апантаная вера і сталася прычынай таго, што я рана стаў разумець уладу Таямнічага? Пры двары Гедзіміна быў немец, што варажыў па планетах, і я, часта прыходзячы да яго, неўпрыкмет вучыўся спакойна абыходзіцца з зоркамі і нават разумець іх вечны і несціханы бег праз Сусвет.

...Калі я першы раз прамовіў князю, каб не браў ён у замак краўчага Гінгвіла, а прагнаў яго, князь напачатку пасмяяўся. Аднак пасля таго, як краўчага злавілі, калі ён спрабаваў падсыпаць у бочку з віном атруту, а пасля прызнаўся, што падасланы крыжакамі, Гедзімін стаў глядзець на мяне з асцярогай. Хрысціянін, як таго патрабаваў трон, ён усё ж не забываўся на Перуна і Пераплута, на Мокаш і Вялеса, ды і балцкія багі былі яму не чужыя.

Краўчы Гінгвіл, паміраючы ў цямніцы пад бізунамі, не ведаў, што імкліва ўзвышаў пры княскім двары мяне. З хлопчыка, якога князь проста любіў, як падарунак багоў, я ператварыўся ў чалавека, якому багі адкрываюць свае таямніцы і з якім належыць быць асцярожным.

Трэба сказаць, што я супраціўляўся званню княскага вешчуна. Зацугляны неабходнасцю, я пераставаў быць свабодным, любіць багоў, якія давалі мне магчымасць калінікалі адкрываць таямніцы жыцця. Бо раней я прымаў ад іх светлыя моманты азарэння як падарункі, а цяпер я быў у іх на службе і мусіў прасіць іх, а яны капрызілі, капыліліся, часам шпурлялі ў мяне маланкі, каб я адчапіўся і не турбаваў іх. Таму аднойчы я зламаў нагу, якая так і не зраслася, а другі раз пажар у грыдніцы апаліў мне твар і пакінуў на ім сляды. І ўсё ж я ішоў і ішоў па дарозе, што аддаляла мяне ад іншых, бо чорнымі немачамі адорвае нас будзёншчына, наліпае, як пыл на люстэрку.

...З усіх нашых старых язычніцкіх багоў я найбольш любіў Лялю. Яна мільгала ў бярэзніку, прымаючы песні і карагоды, якія ў яе гонар ладзілі вясной дзяўчаты і хлопцы — легканогая, палахліва-пявучая, забываючыся на каханкаў, як толькі адыходзіла ад іх.

Зюзя прыносіў халады, і я курчыўся зімою ў каменным мяшку, нацягваючы на сябе воўчую шкуру, ад якой пахла зацкаваным зверам, што доўга ўцякаў ад паляўнічых. Я адкідаў яе, але тады карчанела мая спіна, павернутая да акна. У стылыя зімовыя ночы зорак не было, я вылічваў іх ход, крэмзаючы вострым сцілом па васковай табліцы, і часам, раззлаваўшыся, шпурляў кавалкі воску ў агонь.

Можна было б любіць Цёцю — мажная і магутная, яна часам валялася ў снапах, бессаромна раскінуўшы ногі, у спякоце ліпеня, і ў раскудлачаных яе валасах матляліся павуцінкі. Але мяне заўсёды бянтэжыла яе заўсёдная га~ тоўнасць дзяліцца ўсім, нават сабой, і ў бяздоннай глыбіні гэтай неўтаймоўнай жаноцкасці можна было згінуць без аніякага следу...

Жыцень жа вечна хітрыў — са смердамі, што прагна падлічвалі копы жыта, гурбы рэпы і бручкі, гарнцы гароху і бобу, з жанкамі, рыхтавалі да зімы верацёнцы і кроены, з дзеткамі, што цягнулі кашы з грыбамі. Ён, аглядаючы свае ўладанні, часам непрыкметна падпіхваў сувой, і той каціўся па схіле, прападаючы ў рэчцы, альбо напускаў на грады плойму хрушчоў, і яны прагрызалі дзіркі ў сакавітых залацістых пладах, альбо пырскаў дажджом на высушаныя вязанкі шчырых[2] грыбоў, што віселі пад стрэхамі.

Ляля не хітрыла — яна радавалася жыццю і свяцілася ад шчасця, калі дзяўчаты плялі для яе вянкі і кідалі іх у возера, альбо вадзілі карагоды і спявалі ёй песні, альбо калі кахаліся на мурожным лузе пад гукі жалейкі.

І, зноў падумаўшы пра дачку Рацібора, я вырашыў вярнуцца ў тлум і гвалт святочнай вячэры і паназіраць за ёй. Усё ж не так і многа радасці ў мяне, тым болей, што спаць мне ўсё роўна сёння не дадуць. Хутчэй за ўсё

княгіня Еўна занядужае, і трэба будзе разам з ейным лекарам завіхацца каля яе і гатаваць распараныя зёлкі набору, бо яна любіць добра паесці, а пароду мае кволую і далікатную.

У зале, доўгай і прасторнай, як страўнік велікана, па-ранейшаму народу было як бобу, толькі боб гэты ўвесь як бы набрак, пацяжэў і прыляпіўся да крэслаў. Гедзімін сядзеў бурачкова-ўзбуджаны, княгіня Еўна усё нешта дзяўбла з вялікай сярэбранай талеркі, а ў кутку гралі на валынках і дудах новагародскія музыкі, прытопваючы моцнымі нашмальдаванымі ботамі. Нявеста, бледная і стомленая, плячом прыціскалася да свайго нарачонага, а княжыч, ссунуўшы берэт на патыліду, сыпаў словамі, як гарохам, і быў надта задаволены ўсім навокал. Сыны Гедзіміна, таксама расчырванелыя, абсадзілі бацьку, як маладыя дубкі стары, велічэзны дуб, і жонкі іхнія ўсё пераглядаліся, мабыць, яшчэ не вырашыўшы, хто ж з іх апрануты сёння багацей і лепей за іншых.

Я адшукаў позіркам Гайну. Яна сядзела недзе ў канцы стала, брат нешта гаварыў ёй на вуха, яна ківала сваёй залацістай галоўкай, але вочы яе глядзелі кудысьці наперад. І гэта былі іншыя вочы, чым колькі гадзін таму — яны свяціліся і гарэлі, затуманьваліся сумненнем, прымружваліся ад дзіцячага жадання нічога — альбо нікога? — не ўпусціць. На каго ці на што яна так глядзіць?

Я адчуў неспакой і, асцярожна перамяшчаючыся за спінамі захмялелых і задаволеных гасцей, пайшоў так, каб перахапіць яе позірк.

Дзіўна, але сэрца мае збілася з рытму, калі я пабачыў, што не зводзіць яна вачэй з князя Давыда.

А ён, што ўзвышаўся над усім гэтым сталом, з чыйго шырокага пляча спаўзло чырвонае карзно, бо адшпілілася залатая фібула, якой тое было прымацавана, слухаў музыкаў, і твар яго быў адчужаны ад усяго, што адбывалася навокал. Такой жа адчужана-далёкай была і Бірута — яна паклала далоні на стол,

нібы абапіраючыся аб яго, і ззялі на яе пальцах пярсцёнкі з каштоўнымі камянямі, падскокваючы ў лад з песняй. Такая пара зводзіцца ў адно не людзьмі — багамі, а яны абое былі як адно.

Я ведаў, як умее кахаць Бірута. У тым верасні 1314 года, калі Давыд адправіўся з Гародні дапамагаць Новагародку, яна прыехала да маці ў Трокі. Было вядома, што вялікі маршал Генрых фон Процкі пайшоў на сталіцу двума шляхамі — на конях і караблях. Былы ордэнскі магістр быў увенчаны вялікай перамогай над войскам Віценя. Яму ўдалося разбіць у Прусіі лепшыя сілы княства, і ён тупаў, поўны веры ў канчатковую перамогу крыжакоў над вялікім князем. І хаця той ужо не жыў у Новагародку, аднак маршал хацеў спаліць гэты замак, які сімвалізаваў княжую ўладу, і тым замацаваць сваю перамогу.

Кожны дзень прыязджалі тады ў Трокі ганцы ад Давыда, І невясёлыя былі тыя весткі, хаця пісаў зяць Гедзіміна з упэўненасцю, што не ўдасца немцам узяць верх над Новагародкам. Я бачыў, як слухала тыя лісты Бірута: на мармуровым твары — ні ўсмешкі, ні страху, ні жалю, толькі зялёныя вочы заіскрацца на імгненне — і зноў спакой і годнасць. Вохкала княгіня Еўна, гнеўна стукалі кулакамі па стале прыдворныя, слухаючы, як немцы прадзіраюцца да сталіцы з няўхільнасцю року. А яна маўчала. Але я, тулячыся ўнізе пад самымі яе пакоямі, чуў, як хадзіла яна цэлымі начамі, спыняючыся перад вокнамі і зноў ходзячы з кута ў кут.

А пасля сталі прыходзіць і іншыя весткі — Давыд напаў на абоз, забраў усе даспехі і коней. Паўтары тысячы коней! Сто вазоў зброі і правіянту! А пасля — пажар на караблях, а далей напад на крыжакоў пад Новагародкам, і іхняе адступленне, і жах перад тым, што караблі спаленыя, а коней няма. І яны, баючыся застацца ў гэтай варожай краіне, згубіўшы свой славуты ваяўнічы шал, раптам ў паніцы кінуліся ўцякаць хто куды — і гінулі ў балотах, у сутычках з войскамі княства, на дарогах і ў вёсках, што ашчаціньваліся стрэламі і віламі.

А пасля прыехаў і сам Давыд, з перамогай, з крыкамі вояў і галёканнем коннікаў, і расказваў, як караскаліся па навагародскіх схілах і пасля кумільгом каціліся з іх неварушлівыя рыцары ў цяжкім узбраенні, і жалезныя іх латы грымелі па каменні, што сыпалася зверху.

Бірута не адыходзіла ад яго, і я бачыў, як, седзячы за сталом, пяшчотна дакранаецца яна да яго параненай рукі, калі князь, забыўшыся, узмахне ёю, каб паказаць, як акружалі яны пасад і падбіраліся да замка.

Тады ён не выглядаў на свае трыццаць. Гладкі твар з празрыстымі шэрымі вачамі, прамы нос і разложыстыя бровы рабілі яго падобным да сокала, які горда азірае наваколле, сцярожка косячы вокам на далёкі небакрай.

Цяпер жа, праз восем гадоў, вялікі шрам, які закрывалі густыя валасы, усё ж віднеўся на правай скроні, і ад таго адно вока выглядала меншым, а рот сціснуўся ў строгую і нават суровую лінію. Што ж — яшчэ ў дваццаць два гады ён разам з вялікім князем разбіў ля Гародні комтура Конрада Ліхтэнхагена, каменданта Брандэнбурга. Бой быў доўгім, Гедзімін змогся, тройчы мяняючы забітых пад ім коней. Адшчэплены мезенец матляўся на руцэ крывавай пячаткай, ён з гарачкі адарваў яго — і ледзь не сканаў ад страты крыві. І каб не Давыд, узялі б Гародню крыжакі! Аднак якраз Давыд у апошнім націску, як раз'ятраны тур, прабіў глухую сцяну крыжакоў і прымусіў іх адступаць. Дарэмна крычаў на ўсё поле комтур — рыканне Давыда перакрыла нават тупат цяжкіх крыжаковых коней, а Ліхтэнхагена валачыла па зямлі, аж пакуль не перахапілі яго збаўцы-збраяносцы. А праз год, у 1306 годзе, калі прыйшлі пад Гародню коннікі комтура Эберхарда Вірненбурга з Круляўца[3] (штогод раней несла іх на нашы землі), то ён спраўляўся з імі без Гедзіміна, адзін: той падхапіў недзе ў балотах трасцу, і лекары ледзь здолелі выгнаць яе. Але к таму часу і кёнігсбергскі (крулявецкі) комтур гэтак жа бясслаўна падціснуў хвост і збег назад, у сваё логава, як і комтур Конрад. І тады Гедзімін, які ўсё ж трохі касавурыўся на Давыда, пабойваўся яго, законнага нальшчанскага

князя, нарэшце здаўся — ён палюбіў Давыда, як сына. І нават болей. Гэтак любіць князь хіба толькі Альгерда, названага ў гонар маці сваёй Вольгі Алігердам. Што ж, дваццацішасцігадовы Альгерд, князь крэўскі, надта разумны. Праўда, бывае часам уедлівым — пакуль не разбярэцца ва ўсім да рысачкі, не супакоіцца. Жонка яго, Марыя, князёўна Віцебская, аднойчы не вытрымала, паскардзілася на яго Еўне, але тая толькі рукамі замахала — сама, маўляў, спраўляйся! А яны ж жанатыя ўсяго чатыры гады, ім жыць ды жыць. Вось і зараз Марыя, бойкая перапёлачка, нешта гаворыць мужу, ды ён не слухае, пільна сочыць і за Давыдам, і за бацькам.

Альгерд раўнуе вялікага князя да Давыда. А можа, баіцца, што Біруце, старэйшай сястры, і ейнаму мужу адарве Гедзімін гарадзенскі кавалак ад княства, а яму тады дастанецца меней. Сыноў жа ажно сямёра. І хаця Гедзіміну ўсяго пад пяцьдзесят, але ж войны адна за адной накатваюцца на Вялікае княства, і хто ведае, колькі каму наканавана. Праўда і тое, што княства за апошнія гады павялічваецца, а сыны робяцца воямі і разам з бацькам ідуць у паходы. А Альгерд прывык усё разлічваць на паўвека наперад. Вось жа толькі не ведаў, што падсякуць яму пад Коўнам нагу, і ходзіць ён цяпер, абапіраючыся на кульбаку альбо на слугу. Можа, нас і аб'ядноўвае тое, што мы абодва — калекі? Толькі мае калецтва трохі лягчэйшае, але затое ён — князь патомны, а я — хто я?

...Мабыць, і ён заўважыў позіркі маладой навагародчанкі, бо неяк увесь насцярожыўся, наструніўся, нібыта ягоны хітры розум ужо вылічвае, што з таго можа атрымацца. Яму не так крыўдна за гонар сястры, як забаўна з-за новае пешкі ў ягоных раскінутых на вялікую прастору ў часе варцобах: а раптам вялікі князь разгневаецца, бо надта любіць Біруту? А раптам той гнеў можна скіраваць на Давыда? І тады... ягоная галава ўжо пераматвае складаныя клубкі інтрыг пры княскім двары. І ўсё ж я люблю Альгерда — з усіх сыноў ён найбольш разумны. А розум — тое, што мне найбольш даспадобы ў мужчынах.

Але ж ты, дзяўчынка, ты, чыё імя значыць «светлая», нашто ты, як казюрка ў духмянай кветачцы, патанаеш у Давыдзе? Што ён табе? Хіба мала тут навокал рыцараў, хай сабе і менш слаўных, але ж затое прыгажэйшых і свабодных. Вунь смяецца з Прадславай весялун Андрэй, а яшчэ ёсць малодшы Гедзімінавіч, Яўнут, пакуль не жанаты. Калі б ты скіравала свой позірк на яго і ён тое заўважыў — ці не стала б ты вельмі хутка княгіняй, адной з нявестак вялікага князя? І не горшай, чым ганарыстая жонка Міхала Карыята, навагародскага ўладара?

Мабыць, я занадта ўважліва глядзеў на яе, таму што прыгажуня раптам перавяла позірк на мяне і ўсміхнулася. Зноў яе ўсмешка як разанула па сэрцы. Ва ўсмешцы была нейкая журлівая лёгкасць, яна глядзела на мяне і разам з тым скрозь мяне, гэтак, як глядзела б на куст, дрэва ці прыдарожны камень. Але я адказаў на яе ўсмешку, і тады яна паглядзела на мяне болыи уважліва, зноў адарыла белазубай, сарамлівай усмешкай, але цяпер я ведаў — яна мяне заўважыла. Заўважыла і тое, што сама занадта загледзелася на Давыда, але не ўспыхнула збянтэжанасцю, а неяк няўпэўнена паціснула плечыкамі — маўляў, што я каму зрабіла благога?

«Я ж помню, як стаяла разам з навагародцамі, калі ён ехаў па горадзе пасля перамогі над крыжакамі, — на вуліцах народу было што маку, і ён ўсміхаўся, а людзі кідалі яму кветкі і крычалі ад шчасця — раскажа яна мне пасля. — І цяпер, калі ўбачыла яго так блізка, адразу закахалася — як у свайго даўняга героя. Няважна было, што ў яго блізна, што ён выглядае старэй».

А Давыд не заўважаў яе позіркаў, ён усё слухаў музыкаў, і ўсё сядзела побач, паклаўшы далоні на стол, Бірута. Гедзімін жа, паціраючы абрубак мезенца, піў свежае піва, а вецер калыхаў тканыя посцілкі-шпалеры на сценах, адкрываючы магутныя бутавыя камяні, і было чутна, як перагаворваецца на двары варта, глуха звякае жалеза. Там пахне конскім потам і сёдламі.

Гучна рагатаў Лесь — любімы князем пасол, які гутарыў з немцамі і паіў іх моцнай медавухай недалёка ад мяне. Выпадкова зірнуўшы ў акно, я злавіў нейчы зірк — страсны, ліхаманкавы.

Зразумела, не толькі я адзін назіраў у той вечар за Гайнай. Але той, хто глядзеў на яе не тут, у зале, а з двара, са змроку, адразу ж адступіў назад. І калі я прыкульгаў да акна, пабачыў там толькі дзесяткі два вояў, якія гутарылі між сабой. Але пазнаць, хто з іх толькі што спапяляў яе позіркам, я не змог.

Цьмянае пачуццё бяды раптам ахапіла з такой сілай, што пашчэнкі мае звяло сутаргай. Пагроза была ў гэтым вечары — ў ліпнёвым паху агромністых дрэў унізе, ля капішча Перуна, у нягучнай гаворцы варты, у агеньчыках новагародскіх хат-мураванак, што стаялі на пасадзе, недалёка ад замка, у тым, як бліснуў на імгненне купал замкавай цэркаўкі Багародзіцы — нехта ішоў па пераходзе са смаляком у руцэ, і крывавы каснік агню крануўся звялай за цёплы дзень травы ў шчылінах Шчытоўкі.

Я глядзеў з акна, слухаючы ў сабе толькі гэтае пачуццё трывогі і не адразу пачуў гучны, трохі хрыплаваты голас Гедзіміна:

— Ляздзейка, гэй! Тху ты, нячыстая сіла, не чуе!

Падчашы Янук тузаў мяне за рукаў. Я ачомаўся. Музыкі скончылі граць, запанавала тая цішыня, з якой усе навокал слухала кожнае слова Гедзіміна:

— Пакажы мне чарадзейства, ну тое, галоўнае!

...Ні мае парады, пры якіх ён заўсёды выйграваў, ні гутаркі з ім доўгімі зімовымі начамі, калі ён прымушаў мяне тлумачыць напісанае ў кнігах, што купляла найбольш княгіня Еўна, — не, самым важным, што дзівіла іх ува мне, была тая забаўка, якую я і сам не мог вытлумачыць.

Я ўздыхнуў, падышоў да стала, спыніўся насупраць

вялікага князя. Чырвоная зіхоткая фібула на ягоным карзне была візантыйскай, філіграннай работы.

— Адшпілі яе, уладар.

— І ты, князь, — я паказаў мазаўчаніну на яго пярсцёнак — той таксама быў залаты, ажно ільсніўся ў святле смалякоў у сярэбраных зажымах.

— І ты, пані кашталянава, — у Біруты быў залаты ланцуг на высокай мармуровай шыі.

Яны знялі з сябе ўпрыгожанні — мазаведкі князь з недаверам, Біруга — з раптоўным дзіцячым бляскам у вачах. Яна з дзяцінства любіла гэтую забаўку.

Я працягнуў правую руку, засяродзіўся на залатых прадметах. Усё перастала для мяне існаваць, толькі лёгкае пакалванне ў руцэ, якое расло, расло...

Ускрыкнулі новагародчанкі, шырока перахрысціўся епіскап новагародскі Феафіл.

Залатыя ўпрыгожанні пацягнуліся да маіх пальцаў, нібыта прыліплі да іх. Я ўзняў руку — яны, нібыта прыбітыя нябачнымі цвікамі, не падалі, залаты ж ланцужок пачаў паціху пагойдвацца, нібыта ў згодзе з ударамі майго сэрца. Фібула трохі пахілілася, але таксама трымалася за мае пальцы.

Каторы раз я сам здзіўляўся разам з усімі. І спачатку нават цешыўся тым страхам, што выступаў на тварах навакольных, як пот, ад якога ільсніліся іхнія тугадумныя лбы. Але пазней, паказваючы гэтую «забаўку», як называў мае штукарства Гедзімін, я нязменна адчуваў раздражненне, што смактала пад дыхам, як атрута. У свеце столькі дзівосаў, столькі чараў, а людзей, асабліва ж уладара, цешыць нейкае глупства! Я і сам не ведаў, чаму золата так цягнецца да маіх рук — хіба магчыма таму, што я быў не толькі абыякавым да яго, але нават лічыў прыдумкай д'ябла, які хітрасцю прымусіў людства ўважаць гэты халодны, жоўты, як поўня, метал за найважнейшае ў свеце.

Даўно заўважана: тое, што прымушае трапятаць чалавечыя сэрцы, даецца ім цяжка, багі дражняцца, гуляюць у хованкі, то набліжаючы жаданае, то аддаляючы яго... Жаданым можа быць рознае — каханне, хцівасць, пажадлівасць дыктуюць кожнаму нешта іншае. Але золата, на якое можна купіць амаль усё — самае жаданае. Рэдкія сэрцы свабодныя ад яго. Вось і зараз — большасць вачэй скіраваная на фібулу, ланцужок і пярсцёнак, і толькі адны вочы — вялікія, фіялкавыя — глядзяць на мяне, на мой твар. Багіня кахання Ляля — ах не, яе ж завуць Гайнай! — узіраецца ў мае вочы. Дзіця, ты не адкрыеш у іх таямніцы, чаму так дзеецца. Я і сам не ведаю яе, але і табе не трэба спрабаваць адгадваць загадкі. Гэта — не для цябе. Ты сама такая ж загадка, як і мой злашчасны дар. Хаця — чаму злашчасны? Дзякуючы яму (ну і, вядома, некаторым іншым маім талентам) вялікі князь літоўскі, жамойцкі і рускі Гедзімін лічыць мяне пасланнікам багоў, якіх баіцца нават ён, зямны ўладар. І мне лягчэй жыць у свеце, дзе ўжо няма месца вольнаму чалавеку. Вольны — бадзяга, яго схопяць стражнікі, калі ён будзе брысці па дарогах, і ўчыняць допыт — куды ты і да каго? Калі ён нічый, то яго пастараюцца зрабіць нейчым — Князевым альбо баярынавым. Ён збяжыць, але там, куды ён пойдзе, яго зловяць іншыя, і іншыя таксама прыбяруць яго да рук. Вольнасць — раскоша. Вольным можна быць хіба ў пушчы, але і там знойдуць лоўчыя, альбо жрацы капішча, альбо, урэшце, згаладнелы за зіму мядзведзь...

Колькі разоў хацелася мне збегчы ў вольны свет — ляжаць пад зорамі, ведаючы, што ніхто не пастукаецца ў дзверы і не папросіць паваражыць па свяцілах, ці зможа ён заняць вышэйшую пасаду! Колькі галінак калыхала мяне ў снах — галінак дрэў, пад якімі я не буду начаваць ніколі! Не буду, таму што... Таму ёсць шмат прычын. Адна, самая дробязная: у Троках, у маіх пакоях, ляжыць у куфры чорная доўгая трубка з крышталём, праз які лягчэй бачыць свяцілы і адгадваць іхні ход. Гэтую трубку прывёз у падарунак Гедзіміну легат папы рымскага, калі прыляцеў весці перагаворы наконт веры каталіцкай на напаўязычніцкіх нашых

землях.

Жаніцьба вялікага князя з праваслаўнай князёўнай павялічвала ў княстве шанцы візантыйскай абраднасці і тым адсоўвала Рым, які таксама меў тут свае пазіцыі яшчэ з часоў Міндоўга. Аднак вагі калыхаліся то туды, то сюды, і няспыннае, упартае саперніцтва хрысціян толькі павялічвала жаданне Гедзіміна жыць па-свойму, па-старому. Аднак княгіня Еўна за гады шлюбу зрабіла свой двор амаль цалкам праваслаўным. Сыны ранейшых жонак князя, Віды і Вольгі, выбіралі жанчын з усходніх княстваў. Асабліва пасябравала Еўна з Марыяй, дачкой віцебскага Яраслава Васільевіча. Мяне ж яна цярпела — можа таму, што быў славянінам, можа, трошкі пабойвалася. Усё ж яна прыйшла сюды тады, калі тут, разам з сынамі Гедзіміна, выхоўваўся і я. Але з гадамі гэтая невысокая, з буйнымі попельнымі кудзерамі і сінімі халоднымі вачыма жанчына стала ўсё ж баяцца мяне.

Не, на яе не рабілі ўражання мае выбрыкі з золатам. Яе моцна бянтэжыў мой сокал-сапсан Фальк. Яго таксама падарылі Гедзіміну нямецкія паслы, але лоўчы аднойчы ў падарожжы недагледзеў, клетку ў фурманцы перавярнула, і малады сокал паламаў сабе крыло. Яно зраслося няправільна, і сокал ужо не мог кідацца на здабычу і тым болей падняць нават і маладога зайца. У тую хвіліну, калі яго хацелі выкінуць (а Зюзя намахаў паліцай так, што птушкі замярзалі ў паветры і зняможана падалі ўніз), я падышоў да воза. Сокал глядзеў панурабезнадзейна, ён, мабыць, адчуваў, што нядоўга валачыся яму па снежных сумётах.

— Нашто табе недарэка? — задзівіўся быў галоўны лоўчы, але пасля коратка глянуў на маю нагу, і я зразумеў ягоны позірк — маўляў, калека ратуе такога ж самага. Сапсан перайшоў на маю руку так паспешліва, нібыта баяўся, што я перадумаю.

Я назваў яго Фалькам — зрэшты, так яго называлі паслы, і ён, ужо тры гады жывучы ў маіх пакоях, зрабіўся такой жа прыналежнасцю майго жыцця, як і зоры, з якімі я размаўляў кожны дзень як з жывымі

істотамі, толькі іх я не мог пагладзіць так, як свайго Фалька — цёмна-бурыя спінку і крылы, кроплепадобныя стракаціны на грудзях, чорна-рагавыя кіпцюры.

Дык вось аднойчы княгіня Еўна разгневалася на мяне. Зацяжарала яе любімая прыдворная Святохна, але не казала, ад каго. Нехта шапнуў княгіні, што Святохна апошнім часам не раз прыбягала да мяне, шапталася аб нечым. І тады Еўна абрушылася на мяне. Яна загадала прыйсці ў тронную залу і, мусібыць, для большай важкасці села на троннае крэсла.

Калі ж я, паціскаючы плячыма, заявіў нявінным голасам, што нічога не ведаю, яна згубіла ўласцівы ёй спакой і нейкую млявую абыякавасць, якая авалодвала вялікай княгіняй апошнім часам усё мацней і мацней.

— Паганец, ты скажаш мне, чыё гэта дзіця! — крычала яна, стукаючы кулаком па галаве драўлянага льва. Яе сінія вочы іскрыліся, зморшчынкі пад вачыма разгладзіліся, яна разам памаладзела і стала падобнай да маладой, трохі сарамлівай княгіні, якая ўпершыню ўвайшла ў тронную залу пры мне і зачапілася покрывай за пашчу гэтага ж самага льва. Празрыстае покрыва на галаве было з Візантыі, і княгіня, не могучы зразумець, што яе трымае, тарганулася раз, другі — і на вачах усяе залы спынілася. Ейная пакаёўка стаяла збоку і адразу сцяміла, што да чаго. Я тады даггамог ёй — а яна ў адказ прапаліла мяне позіркам і пайшла далей, да трона... З таго прайшло шмат часу, яна тут даўно гаспадыня, і вось цяпер злуецца на мяне, як на звычайнага прыдворнага.

Я разумеў яе трывогу. За Святохнай улягаў княжыч Яўнут, але Святохна, каб схавацца ад гневу княгіні, прытворна прымала залёты баярына Грыўны. Калі дзіця ад Яўнута, то яно магло быць новым, непажаданым спадчыннікам на трон. А Еўна, як клапатлівая квактуха, сачыла за кожным зернеткам, на якое глядзелі яе пеўнікі-сыны. Святохна ж, разумеючы, што, прызнайся яна ва ўсім княгіні, яе тут жа сілком напояць адварам спарынні, якая выганяе плод, маўчала, як заклятая.

Я ведаў праўду. Жыццё, якое панесла ў сваім чэраве шэравокая, русакосая весялуха Святохна, выклікала ў маім сэрцы пяшчоту. Нейчая душа, якая вілася каля закаханых і толькі чакала моманту, увайшла ў ейнае тугое, ружовае, поўнае сіл цела. Што з таго, што бацькам будучага дзіцяці стане княжы сынок-спадчыннік? Няважна, чыё яно будзе. Яно ўжо расце, просіць есці і піць і хутка спазнае горыч нараджэння — але ж і найвялікшую радасць быцця. Ці я мог сказаць княгіні праўду? Ці мог я стаць, разам з ёю, забойцам?!

Я няўпэўнена паціскаў плячыма, але Еўну гэта не ашуквала. Можа, па ейнай просьбе ў залу ўвайшла старая княгіня, маці вялікага князя, і я адчуў, што тут мяне чорт накрыў хвастом: мне, яшчэ немаўляці, яна не раз задавала «трапача», і пры ёй я адчуваў сябе шчанючком, якога трэпле за бакі раз'ятраная ваўчыца. Аднак з таго часу прайшло шмат гадкоў. Гедзімін мяняў замкі, мянялася княства, а я рос. І вось цяпер я бачыў не раз'ятраную ваўчыцу, а тонкую сухую галінку, якую мог пераламаць сам гнеў. Доўгая яе рука з кашчавымі пальцамі сутаргава сціскалася. Сокал, якога я пасадзіў на акно, устрапянуўся — ён адчуў мой неспакой. Еўна ж тым часам настырна насоўвалася на мяне, выкрыкваючы абразы, і раптам — чорным імклівым воблачкам нешта звалілася на яе, і княгіня пранізліва ўскрыкнула. Яна паспела яшчэ прыкрыць твар левай рукой, іначай засталася б без вока: гэта мой Фальк не менш раз'ятраны, чым яна сама, кінуўся абараняць гаспадара, і чорныя яго кіпцюры драпанулі не руку, а рукаў княгіні, шыты золатам. Гэта ўратавала нас усіх.

Крыкні княгіня яшчэ раз, і мяне, магчыма, засекла б мячамі варта, што стаяла ля дзвярэй. Акрамя нас траіх, у троннай нікога не было — па-сірочы там віселі тканыя карціны ды дарагія вазы стаялі ў кутах. А сокала, якога я паспеў перахапіць і прыціснуў да грудзей, варта магла б і не заўважыць.

Але Еўна недарэмна была вялікай княгіняй. Калі варта падляцела да нас, вырачыўшы вочы, цiснучы бердышы, яна амаль спакойна, хаця і цяжка дыхаючы, прамовіла:

— Нічога страшнага. Лядашчык паказаўся ў акне, вось я і крыкнула.

Тое ж пацвердзіла і старая княгіня.

Абодва ахоўнікі схапіліся за абярогі, што віселі на грудзях, мармычучы замовы, адетупілі назад. Еўна пранізліва зірнула мне ў вочы:

— З-за цябе я саграшыла. Прыкрылася забабонамі. А я ж хрысціянка. Прыйдзецца спавядацца айцу Міхаілу.

— Сынок, цябе і птушкі ўжо бароняць,— дадала і старая ўладарка. — Не крыўдзі яго, Еўна, іначай нам багі таксама не паспрыяюць.

Вялікая княгіня выйшла, а старая стомлена села на лаву.

— Дарэмна мяне клікалі, ты так нічога і не сказаў. Гэта ж дзяржаўная справа, ці ты не разумеет? Княжае семя — не дзядоўнік, каб падаць дзе вецер панясе.

Я захоплена ўзяў яе руку, прыціснуўся да яе лбом.

— Маці, даруй мне. Я не магу табе сказаць нічога. Я сапраўды паганец.

Яна пагладзіла мяне па патыліцы.

— Чужыя таямніцы давядуць цябе да прорвы. А наконт дзеўкі... Можа, забіць яе, каб не сумнявацца?

Я пацалаваў яе маршчыністую далоньку:

— Ты ж таксама хрысціянка. Вам жа грэх забіваць.

Яна мацней, да болю, драпаючы пазногцямі, пагладзіла маю галаву.

— І то праўда, паганец. Ідзі! А твой сокал... Скажы праўду — ён нячысты дух, што служыць табе?

Я зазірнуў княгіні ў вочы. Яны ўсё былі яшчэ досыць ясныя, хаця і стомленыя.

— Ён сябра.

Княгіня цяжка ўздыхнула:

— І цябе трэба было б... Са скалы. Альбо з дуба скінуць. Яшчэ там, у лесе. Каб не ты, Гедзімін, можа, хутчэй бы прыняў ісцінную веру. Душой прыняў. А так... У царкву ідзе, калі паслы прыязджаюць. А трэба — дзень за днём, дзень за днём...

Яна, як і Еўна, ніколі не прасіла зазірнуць у будучыню. Я часта размаўляў пра тое з Фалькам, які моўчкі слухаў усе мае размовы, ледзь варушачы жоўтымі колцамі вакол вачэй, нібыта раздумваючы. А пасля ціха сіпеў, і голас яго гучаў у адпаведнасці з тым, што ён хацеў выказаць. Быў незадаволены, то выдаваў шмат гартанных клекаў, падобных на «к'як, к'як». Падабалася яму нешта — вуркатаў, як голуб. І я паступова навучыўся яго разумець. Гэта, мабыць, і ўспрымалася як чарадзейства. Але гэта толькі значыла, што мы — птушка і чалавек — разумеем адзін аднаго так, як, мабыць, разумеліся птушкі і звяры на самым пачатку Часу альбо перад самім Часам, які абазначыў аддзяленне чалавека ад таго, што яго парадзіла. Калі чалавек зразумеў, што ён нібыта лепшы і разумнейшы за птушку альбо звера, і пайшоў сваім шляхам. Дык хто з нас быў нармальны: я ці яны, хто дзівіліся з нашых адносін?!

...Вось і сёння, ледзь вярнуўся я з залы, як ён, перабіраючы лапкамі па жэрдцы, што гайдалася ля акна, ціха падаў голас:

— К'як, к'як, к'як.

І я канчаткова ўпэўніўся, што — усё, капцы, спаць сёння так і не давядзецца. Бо нехта сядзіць у наступным пакоі і зноўку пачнецца тое ж: «Браць за жонку тую ці іншую баярыню ці не?» Альбо: «Мець яго (Няжылу, Андрэя ) за Вялеса ў купальскую ноч ці выбраць іншага». Альбо: «Калі вялікі князь дасць майму сыну (мне, майму палюбоўніку ) вышэйшую пасаду?»

Так і сталася. Толькі пытанне было нечаканым, бо задаў яго староста гарадзенскі Давыд:

— Колькі мне жыць яшчэ, можаш сказаць?

Я нават не адразу пазнаў яго, бо вымавіў ён тое голасам нейкім здушаным, непадобным да звычайнага, таму на хвіліну сумеўся і таму прагаварыў, мабыць, трохі насмешліва:

— Багі адкрываюць сваю волю не так проста.

І, спахапіўшыся, дадаў мякчэй:

— Ты ж і сам тое ведаеш, князь. Трэба выбіраць дзень, рыхтавацца, пасціцца. Канец жыцця — гэта не мышыны хвост, за які можа ўхапіцца кожная ўдачлівая котка.

Давыд памаўчаў.

— Заўтра я еду дадому. Значыць, я так і не дазнаюся волю багоў. Можа, гэта і да лепшага.

Зноў памаўчаў.

— Калі столькі ганяеш немцаў, як я, дык хочацца ведаць, ці змірыш іх, нарэшце. Ці будзе мір на гэтай зямлі.

— На ўсё воля багоў, князь.

— Божая воля, хочаш ты сказаць. Але на тое яна і божая воля, каб спадзявацца на яе. А я, бач, і да цябе прыйшоў. Грэшны, але хацелася б яшчэ пажыць. Для княства зрабіць болей.

Ён сядзеў, не паднімаючыся, пасля, паклаўшы мне на стол залаты змеявік, пайшоў. А я сеў ля сокала і задумаўся.

Абавязкова пагляджу, калі ўдасца, ці доўгі ягоны век. Штосьці ж падказала яму прыйсці да мяне. Ніколі, ніколі князь Давыд не пытаўся пра будучае.

А можа, гэта Гайна паглядзела на яго, і ён, зачараваны

прыгажосцю, задумаўся пра свой век і пра тое, што паспеў зрабіць у жыцці. Калі так, то Бірута абавязкова прыйдзе сюды таксама.

Я паклікаў слугу, загадаў яму прынесці лучыну і замацаваць яе за дзвярыма ў высокім жалезным зажыме.

Ноч тупатала па замкавых дарожках пажадлівым подбегам прыдворных, што ганяліся за дзеўкамі-прыслужніцамі, ламала кустоўе і хлябтала, высалапіўшы языкі, ваду з крыніцы пад паўднёвай сцяной, вохкала і гукала, зняможана плялася ў пакоі. Вухкалі совы, асыпаўся пясок ў гадзінніку, што стаяў на маім стале. Святлела неба., і першы ветрык асцярожна дакрануўся да белай кісяі ля акна, якою быў прыкрыты мой ложаіс. Сокал драмаў, жоўтыя колцы пад ягонымі вачамі беєперапынна трапяталі, нібыта гэта думкі варушылі пяшчотнае перайка над дзюбай. Доўгі хвост здаваўся клінком, што ўбіўся ў сценку.

Тужліва, так, што я ад нечаканасці страпянуўся, закугікала сава, зарагатала страшная Стрыга, узвілася белая камка над полагай. Ледзяны холад папоўз па мне, валасы заварушыліся. Гэта яна, багіня смерці Мара, пралятаючы за акном, на імгненне зазірнула ў мой пакой і, усміхнуўшыся, паляцела далей, асляпляльная, раўнадушна-прыўкрасная. І не паспеў я апамятацца, як скрыпнулі дзверы, і ціхі нізкі гол ас як скінуў насланнё:

— Ты тут, Ляздзейка?

— Я тут, княгіня Бірута.

— Колькі табе казала — заві мяне проста Бірута.

Яна ўвайшла, і мой пакой адразу стаў маленькім. Я паспешліва запаліў ад лучыны свечку, другую. Сокал быў страпянуўся, ягоны хвост шаргануў па каменнай сцяне, але княгіня села, і ён супакоіўся, цёмныя плямы пад круглымі вачыма апусціліся.

Я глядзеў на Біруту. У дзяцінстве яна заўсёды

пераганяла мяне, калі мы плылі цераз Неман. І лук яна трымала лепей за мяне. І ўмела ткаць так, што, давядзіся ёй спаборнічаць з Мокашшу, што дапамагала ў ткацтве, то невядома, хто перамог бы. Моцныя рукі яе, абвітыя сярэбранымі бранзалетамі з галовамі свяшчэнных змеяў, спакойна ляжалі на чырвонай сукні з залатой аблямоўкай па падоле, валасы па-ранейшаму ззялі, як карона, але вакол зялёных вачэй ужо лучыліся зморшчыны, і вусны сціснуліся неяк па-старэчы. Калі гаварыла, нібыта варушылася сухая, зморшчаная вусеніца.

— Пра што ў цябе пытаўся Давыд?

Я падаў ёй вялікі кубак з квасам.

— Ты раўнуеш, Біруta?

Мне здалося — змеі на ейных бранзалетах паднялі галовы і зашыпелі, рыхтуючыся кусьнуць таго, на каго пакажа палец. Жанчына адным рухам рукі нібы адвяла кубак.

— Раўную, так. Але толькі табе магу гэта сказаць. Што гэта за лялька?

— Табе яна не саперніца.

— Бо я княгіня? Бо яна не зойме майго месца? Як быццам ты не ведаеш: я не пацярплю ні наложніцы, ні проста... проста ягонага. позірку на іншую.

— Таму што ты княгіня?

— Таму што — жанчына. І Давыд мой. Мой! Да смерці. У той дзень, калі ён мне здрадзіць...

Яна задыхнулася. Памаўчала.

— Я памру.

Мабыць, позірк багіні Мары моцна скалануў душу, бо нешта ўва мне раптоўна сказала:

— Табе ён ніколі не здрадзіць.

— Праўда?

— Вер мне, Бірута. Ён будзе з табой. Толькі з табой.

Яна паўглядалася ў мае вочы. Вусны яе раптоўна перамяніліся — яны не былі сухой тужлівай вусеніцай. Яны затрапяталі, як пунсовы матылёк. Зніклі зморшчыны ля вачэй.

Колькі жыву, не магу не здзіўляцца цуду жаночай прыгажосці. Яна стала... як зорнае неба, зацьмяваючы пурпур сукенкі, а змеі схавалі галовы і ператварыліся ў бліскучыя абручы-ўпрыгожанні. Лёгка зняла адзін з магутнай пясці і паклала на стол.

— Дзякуй табе, Ляздзейка.

— А ты... ты беражы сябе, Бірута, — зноў сказаў нехта маім голасам. Але яна ўжо не чула нічога, яна пакрочыла па калідоры, як сапраўдная каралева, так што кожны крок гулка стукаўся ў сцены.

Вогненны меч світанку ляжаў на небе, пульсаваў, шырыўся. Шчабяталі птушкі, трава на схіле кручы пералівалася перламі, зіхцела кустоўе, што ўпівалася ў зямлю вакол сцен, вартавыя сонна стаялі ля брам, закамянеўшы ў пільнасці. Закукарэкаў певень, што абудзіў зорку Канопус[4], загаўкаў сабака ў пасадзе, і заспаныя дзеўкі ўнізе, дзе толькі разышліся госці, пачалі збіраць посуд.

Пачынаўся новы дзень. З канцавой вежы выйшаў княжыч Альгерд і пайшоў да брамы — мусіць, каб прайсціся па Навагародку і яшчэ раз агледзець яго. Альгерд — гаспадар, ён прыкідвае ўсе землі — і цэнтральныя, прыслугоўваючыя, і мяжуючыя. Бацька сабраў ужо нямала, болей, чымся кароль Міндоўг і Віцень — узяць хаця б такія, як Падляшша, Валынь, Падолле. Але Манівід старэйшы. І Любарт, і Міхал-Карыят... А тут яшчэ бацька незадаволены Трокамі, яны ўбаку ад гандлёвых шляхоў. Хацеў цішыні — але для

велікакняжага двара патрэбна, каб паслы і ганцы маглі прыехаць і прыплыць хутка, як толькі спатрэбіцца. Таму глядзіць Гедзімін зараз на Крыў-горад, што стаіць на рацэ Віллі.

Я чытаў ягоныя заклапочаныя думкі так ясна, нібыта ён гаварыў услых. Бывае ў мяне, хаця і не надта часта, такі стан, калі вялікая, але спакойная радасць нібы ахоплівае кожную часцінку істоты, а на галаву і грудзі апускаецца залаты пыл, трохі падобны да пылу гарлачыкаў, калі лёгка страсаеш іх, праплываючы праз чараты. Гэтыя залатыя пылінкі танцуюць — але не так, як храмавыя танцоўшчыцы — рэзка, пажадліва, страсна. Яны лёгкія і чыстыя, і таму радасць таксама чыстая і светлая, яна ахоплівае ўсяго, і тады ўсё ў свеце робіцца зразумелым і ясным. Я люблю, калі на мяне апускаецца залаты пыл. Люблю, калі, углядаючыся ў далёкія планеты, раптам адчуваю іх рытм — той самы, у якім жыве ўсё на зямлі і на небе. Гэты рытм і ёсць здароўе — неба, зямлі, чалавека. Калі чалавек збіваецца з гэтага ўсясветнага рытму, ён хварэе...

Спаць не давядзецца. Ніхто, бадай, ужо не прыйдзе да нас з Фалькам, але хто можа заснуць пасля таго, як яму ўсміхнулася багіня Мара?

І я міжволі стаў зноў думаць пра сябе, пра Гедзіміна і тыя таямнічыя сувязі паміж людзьмі і падзеямі, якія разгадаць у сілах хіба жрацы альбо тыя шчасліўцы, якіх багі абралі для таго, каб праз іх часцей нагадваць чалавеку, што ён толькі пясчынка ў агромністай гайданцы Сусвету.

Вось і я сам — хто я? Вярхоўны жрэц разам з князем некалі расказаў усім, што мяне знайшлі ў арліным гняздзе. Але як там было на самой справе?

Няўжо я — крапіўнік, байструк, якога падкінулі альбо на княжацкі ганак, альбо ў лесе дзесьці ля князевай стаянкі? Легенда была занадта прыгожая, каб я ёй верыў. Я павінен быў бы быць удзячным таксама і вярхоўнаму жрацу Галігіну — хто б я быў без ягонае прыдумкі? Просты воін альбо пакаёўнік, які бегаў бы

зараз, чысцячы медны посуд для кухні і попелам націраючы жалезныя бакі катла. А цяпер мяне баяцца — а таму паважаюць. У мяне пытаюцца пра будучае, і я навучыўся без страху ўваходзіць у той стан бяспамяцтва і адрачэння ад самога сябе, калі нейчая чужая, іншая воля гаворыць тваімі вуснамі і кідае жменю промняў, асвятляючы чорную, страшэнную бездань Часу. У гэтай бездані існуе ўсё — мінулае і будучае, і часу там няма ўвогуле. Я бачыў там некаторых людзей адначасна старымі і юнакамі, бачыў іхнюю смерць і нараджэнне, і бывала гэта так жахліва, што яшчэ гадоў пяць назад я не мог без дрыжыкаў гаварыць з чалавекам, чыю страшную гібель назіраў два дні назад. І што адметна — калі я казаў таму ці іншаму прыдворнаму: не ездзі, напрыклад, у наступным месяцы на паляванне, не пераязджай Неман ля Заечай заставы — ён выслухоўваў мяне, але часта як бы забываўся на папярэджанне, і багіні-судзяніцы вялі бедалагу якраз да той пераправы, да прагнага, як пашча дракона, віра, што, сакавіта чмякаючы, засмоктваў яго якраз так, як мне бачылася...

Але пасля ўсяго, што адкрывалася, я мусіў доўга адлежвацца. І была яшчэ адна таямніца, якую, аднак, ведалі ў замку ўсе — я не быў мужчынам, я не мог мець нашчадкаў. «Еўнухам» назвалі б мяне пры двары якога-небудзь усходняга ўладара і даверылі выбіраць для яго прыгажунь. І тое злое дзела ўчыніў нада мной стары жрэц Галігін, чыё імя ідзе ад арыйскага «гайл», што значыць светлы. Праўда, ёсць і яшчэ адно значэнне — люты. Але ні лютым, ні светлым Галігін, або, як яго яшчэ клікалі, Ягайла, не быў. Быў ён ліслівым і подлым, таму і падрыхтавалі яму багі зняважлівую старасць — памыляцца пры абрадах і дрыжаць, каб не загадалі калі мудрыя старцы запіхнуць яго ў мех і скінуць уначы ў Нёман. Папусціўся ён і перад князем — любіў прыязджаць да яго і жыць пры двары, дзе палілі ў кафляных печах духмяныя паленцы, што прывозілі з далёкіх краёў; дзе сцены хаваліся ў пушыстых тканках, а замежныя кухары падавалі штодзень новыя дзівосныя стравы, і ён мог цікаўна, як дзіця, смакаваць кожную і хіхікаць ад задавальнення. Любіў атрымліваць

падарункі — складаў іх у сваім пакоі і клікаў мяне, каб я мог памацаць і аксамітавы каптан, і шапку з лісіных хвастоў, і залаты кубачак, у якім падавалі яму настой з грыбоў, які даваў мары і трызненне[5]. Але ён з гадамі не любіў звяртацца да багоў, баючыся іхняга гневу, і таму ўсё болей набліжаў мяне, каб таемна пакарыстацца маёю сілай. Часам выпіхваў ён мяне наперад і тады, калі Гедзімін гневаўся і ў гневе сваім не шкадаваў нікога і нікога не баяўся — нават Перуна, хаця потым падаў на калені і прасіў у яго даравання.

А ў свае крэўкія, гарачыя хвіліны ён мог, наліваючыся тугім, помслівым гневам, затупаць нагамі так, што ўсё змаўкала ў замку, а яго невысокая постаць, здавалася, вырастала да столі. Не помнячы сябе, кідаў ён злавесныя словы — і яны прараслі горкім палыном на магілах вінаватых. Пасля мог і плакаць у сваёй лажніцы. Але на людзях ніколі не шкадаваў аб тым, што загадаў.

Такі ж быў і ў сечы. Загараўся агнём, у якім і сам мяняўся — на вачах вырастаў, мацнеў, і голас яго ўзвышаўся, хрыпеў, але вёў за сабой самых слабых і баязлівых. І я любіў яго — як героя, якога бачыў на полі, дзе пырскала кроў з адсечаных галоў і дзіка ржалі, узвіваючыся на дыбкі, коні. Колькі разоў, тулячыся да паходнага будана, назіраў я разам з вярхоўным жрацом бітву!

Гэта там я аднойчы ўпершыню ўбачыў, як, радасна ашчэрыўшыся, лятаюць над людскімі кучамі, што шалёна малацілі адна адну, вупыры з чырвонымі тоўстымі вуснамі і смокчуць, смокчуць, смокчуць свежую кроў, што цячэ па шлемах, па скураных панцырах, навершах, суліцах, шчытах, а людзі таго не бачаць. Не раз жахаўся, чаму не дадзена людству пабачыць тое, што веецца, кружыць, рагоча над ім — і вядзе ў багну, у бездань, у небыццё!

Ноч праходзіла, і свежым ветрыкам аднесла ўбок тонкі полаг над ложам, а звярыныя скуры на ім запахлі мацней, так што нават мой сокал страпянуўся і са здзіўленнем расплюшчыў круглае вока.

Вярнуўся Альгерд. За ім ужо бег новагародскі пасаднік Корсак. Пранырлівы таўстун нешта даводзіў княжычу, а той крочыў шырока і рэзка, аб нечым думаючы.

Бадай што, ён думаў пра Крыў-горад.

Колькі тыдняў таму, палюючы разам з бацькам на дзікоў, ён заехаў з ім у даліну Швінтарога, туды, дзе хавал! памерлых, недалёка ад маленькага селішча, што тулілася вакол вялізных пустэльных гор ля ракі Віліі. Населішча звалася Крывым горадам, у гонар самай вялікай гары. Я прыехаў з імі, але не скакаў па ўзгорках, даганяючы перапалоханых звяроў, а сядзеў у сваім будане з яловых лапак і рэзаў магічны жэзл з маладой ліпы. Уласна кажучы, магічнай гэтая палка стане яшчэ не хутка, над ёю будуць тварыцца многія абрады, і толькі калі вярхоўны жрэц нарэшце прашамкае патрэбныя словы і паставіць яе на ноч у галоўнае свяцілішча, — толькі тады гэтая палка будзе мне дапамагаць пры служэннях.

Мне не хацелася нікуды выходзіць, тым болей прысутнічаць пры тым, як будуць абдзіраць дзікоў, сячы іх на кавалкі і пасля, распаліўшы на паляне вогнішчы, піць піва і гучна рагатаць. Хаця мы і прытуліліся да даліны, і попел памерлых пахаваны быў не тут, але я чуў шапатлівыя галасы і бачыў за ялінамі цені — чыесьці душы былі тут, яны нечага хацелі. А можа, гневаліся, што спакой іхні парушае хтосьці, хай сабе і вялікі князь, які, магчыма, якраз сюды і прыйдзе на вечны спачын? Але наўрад ці яго пахаваюць тут — таго не дапусціць ні княгіня Еўна, ні яго праваслаўныя сыны і дочкі.

Калі шапаценне ўзмацнялася, я казаў яму насустрач — сціхні! Мабыць, зноў памыліўся ў нечым, ліючы віно на ахвярнік, галоўны жрэц, зноў не знайшоў ён патрэбнага слова ці інтанацыі, якая б супакоіла дзядоў. Але — мы шануем вас, мы прыехалі сюды не толькі на паляванне, але і каб прынесці вам ахвяры, бо галовы дзікоў будуць спаленыя ў даліне, і сіні дым спатоліць ваш голад і пераадолее сцяну забыцця, якая вас акружае. І я вінаваты ў тым, што рэдка нагадваю аб памерлых, аб

дзядах, да якіх трэба прыходзіць два разы на год неадменна, на Асяніны і на Радаўніцу, а ў астатнія дні таксама нельга пакідаць іх тут адзінокіх. Можа, таму яны і не задаволіліся ахвярамі, а скардзяцца ці гневаюцца, хаця зняможаны пасля ахвярапрынашэнняў жрэц модна спіць у сваім будане, а я рэжу сваю палку і слухаю шапаценне — а можа, гэта летні дождж пачынае сваю нязмоўчную песню ў калматых суровых ялінах навокал?!

Я уяўляў сабе санлівага, неахайнага Галігіна і пасміхаўся, калі ўзбуджаны Альгерд праціснуўся ў мой будан, стараючыся не ўляцець у яго.

— Сталіцу трэба рабіць тут!

Я ўзняў на яго вочы.

— Чым табе не дагадзілі Трокі?

— Там балота. Там канец свету і па вечарах няма чым дыхаць.

— Тады едзьце ў Новагародак.

— Навагародак занадта ганарлівы. Там веча, якое трэба ламаць і ставіць на калені. Да таго ж Крыў-горад бліжэй да Еўропы і там лепшыя водныя шляхі.

Вывалак мяне з будана і на жоўтым пяску, што сыпуча пераліваўся пад чырвоным вечаровым сонцам., некалькімі рухамі накрэмзаў лазінай горы і раку Віллю, а пасля мора і ганзейскія гарады.

— Ордэн стараецца перапыніць гандаль Ганзы з Полацкам. Час перавесці ўсю купецкую гайню сюды.

Пастаяў, падумаў.

— Апроч таго, новая сталіца яшчэ больш аславяніць балтаў-язычнікаў, — сказаў ён. — У сё ж полацкая зямля і дасюль нясе нам пісьменства і будаўніцтва. Не толькі Рым, але і Візантыя — чаму б не?

— Твой бацька ціснецца да Аўкштайціі і Жамойтаў, — я паціснуў плячыма. — І не так проста яго адтуль вывалачы.

— А ты мне дапаможаш.

— Я? Чым жа?

Ён задумаўся. Але я бачыў, што план ужо прадуманы ім да дробязей.

— Ты ўбачыш сон.

— І ты ведаеш гэты сон?

— Я ведаю толькі адно — пасля гэтага вешчага сну мой бацька паслухаецца Перуна... і мяне. А ты станет вярхоўным жрацом княства.

Ён ведаў, як я не люблю старога вешчуна, як раздражняе мяне тое, што ён зусім забываецца на абрады. Таму, не паспеў я сказаць хаця слова, ён пакінуў мяне — паспеўшы, аднак, хутка сцерці ўзмахам рукі колцы і лініі будучай сталіцы.

...І ўсё ж пасля я сапраўды бачыў гэты сон. Бачыў пазней, праз дзве сядміцы пасля ад'езду. Паляванне тое запомнілася: я прымусіў жраца падняцца на Крывую гару. Дакладней, яго неслі на насілках маладыя служкі, а я крочыў сам, хаця, калі дабраўся да вяршыні, сэрца выскоквала з грудзей.

Жрэц сатварыў ачышчальныя абрады гары, просячы Перуна, Вялеса і Рода даць гэтай вышыні вецер і сонца. Я ж стаяў нерухома і, гледзячы на бедныя замурзаныя хацінкі ля гор, на некалькі святочна-белых мураванак пад гарой, дзе жылі багатыя рамеснікі і баяры, меркаваў, дзе тут можа быць пасад, Князевы палац, вежа-старожа, дамы паноў-рада, войска — усё тое, без чаго немагчымае жыццё сталіцы.

Свяшчэнны дубовы гай стаяў злева ў нізіне цяжкай зялёнай кучай, Вілія сярэбраным вужом вілася па даліне. Фальк раптам сарваўся з майго пляча і сеў на

спарахнелую крывую вярбу, што вытыркалася з-за травы мёртвымі галінамі. Жрэц павярнуў змярцвела-ссохлы твар з чорнымі вачніцамі і раптоўна пусціў у яго сукаваткай, на якую абапіраўся. Твар яго абліўся потам, ён прашамкаў праклясцце. Але я засмяяўся. Галасы продкаў не пераставалі шалясцець над ім, яны нагадвалі мух, і ўсё кружыліся і кружыліся побач. Яму не жыць. Багі ўжо адступіліся ад яго. І ён, мабыць, гэта адчуваў, бо раптоўна. сеў на траву і заплакаў старэчымі слязамі, выціраючыся парчовай накрыўкай, якая драпала яго бяскроўныя шчокі...

Мабыць, ягоныя слёзы і мроіліся мне, калі я заснуў ля свайго крыштальнага шара, як быццам упаў у прорву.

Быў той жа самы летні дзень, калі шматкі хмар час ад часу закрывалі сонца і цені беглі па дрыготкіх мяцёлках проса, што расло на палях пад гарой.

На Крывой тары, што парасла быльнягом і крапівой, стаяў вялізны жалезны воўк. Ён выў, задзіраючы ўвысь голаў. І няспыннае гэтае выццё палохала ўсё навокал — заціхла рака, спалохана збілася ў кучу вараннё, а дзікі за колькі вёрстаў ад Крывой гары, таксама падняўшы лычы, спалохана нюхалі паветра і таксама раўлі. Я ледзь не аглух ад ўсяе гэтае гамоўні, і валасы на маёй галаве паднімаліся, а воўк выў і выў... Я кінуў у яго каменем, але ён нават не зірнуў у мой бок, толькі зморшчыўся, аскаліўшы вялізныя белыя іклы і яшчэ болей высалапіўшы доўгі чырвона-шызы язык.

Княгіня Еўна пераказала той сон князю, і ён устрывожыўся. Паклікаў галоўнага вешчуна, але той плёў нешта пра рок і няпэўнае будучае для Гедзімінавага роду, пра згубу некага крэўнага. Тады, зусім асеўшы, княгіня паклікала мяне.

— І як выў той жалезны воўк — спалохана, ваяўніча, жалобна? — зноў і зноў пытаўся Гедзімін.

— Роўна і гулка, княжа. Так, як быццам ён гатовы не змаўкаць вечнасць.

— Адкуль ты ведаў, што гара — Крывая?

— Я ж бачыў яе, княжа. Тут жа старажытнае капішча бога Рагуціса, я прыязджаў сюды разам з галоўным жрацом, ты, відаць, забыўся на тое. Яно недалёка ад Крывой гары — праўда, яе ўсё часцей цяпер клічуць Лысай.

— І ты можаш сказаць, што ўсё-ткі значыць гэты сон? — асцярожна, не спускаючы з мяне вачэй, прамовіў вялікі князь.

Было бачна: Альгерд нешта гаварыў яму пра Крывую гару і пра тое, што тут лепшы выхад да мора. Але Гедзіміну не хацелася з'язджаць з Трокаў. Таму так і ўглядаўся ён у мае вочы.

— Гэта значыць, што там павінен быць горад. Вялізны горад.

І, таксама гледзячы ў ягоныя вочы, цвёрда дадаў:

— Твая сталіца, княжа.

Рукі яго ўпалі. Але праз хвіліну, сціснуўшы вусны ў талер, прамовіў:

— Я падумаю над тваімі еловамі.

А праз тыдзень, па ўказе вялікага князя, пацягнуліся ў Трокі муралеі-хітрацы з Германіі, Чэхіі і Польшчы, прывабленыя вялікімі грашыма і заваблівай радасцю свае выдумкі ўвасобіць у жыццё, узводзіць палацы і дамы на новым месцы. Гедзімін і Альгерд амаль не выходзілі з пакояў, дзе месцілася княская казна, а таксама куфры з мапамі, на якіх намаляваныя былі планы іншых еўрапейскіх сталіц. А да таго часу, пакуль мы не сабраліея ехаць у Новагародак, усе ведалі — у Крыў-горад пруць і пруць вазы з рабочым людам, з зямянамі і простай чаддзю, каб выцягваць з тамтэйшых ваколіц валуны і збіраць іх на падмуркі, каб вазіць пясок і валіць сосны.

Вось чаму, убачыўшы Альгерда, я адразу ўспомніў і

Вільню. Мы жылі ў Троках, але сам вялікі князь пастаянна ездзіў туды альбо пасылаў некага з сыноў.

Будаўніцтва новай сталіцы запатрабавала шмат працы. Ды князь, падтрыманы астатнімі сынамі, цяпер сам прыспешваў муралеяў. Да вясны трэба было ўправіцца.

Ужо цяпер, відаць, куфры з каштоўнымі камянямі, талерам! і дынарыямі ў замку ў Троках сталі нашмат лягчэйшымі. Будаўніцтва новай сталіцы нагадала мне калодзежны вал — ланцуг з цэбрам, які спускаецца ў чорную бездань, спачатку разматваецца спакваля, неахвотна, але пасля вал круціцца ўсё мацней, і яго ўжо не стрымаеш, не спаймаеш цэбра...

...Аглядаючы зверху Новагародак і дзівячыся з яго прыгажосці, я пашкадаваў, што не быў тут раней. Тады, можа, усё было б іначай. Можа, я не расказаў бы пра сон Гедзіміну. А можа, і ўвогуле ўбачыў бы не яго, а нешта іншае, каб вярнуцца сюды — у мясціну, дзе было шмат святла і багі — цёмныя, змрочныя, падземныя — тут з'яўляліся рэдка. Есць мясціны, над якімі нават неба нібыта святлейшае, а ў сіняй яго глыбіні, калі прыгледзецца, ззяюць іскрынкі — зіркастыя, лёгкія, радасныя, яны нібыта танцуюць у паветры. Іх бачыў я тут, на дасвецці — значыць, месца гэтае сапраўды жыццядайнае і блізкае добрым багам.

Сталіца Міндоўга!

Юнае сонца ўспыхвала на крыжах царквы Барыса і Глеба, бязлітасна высвечвала чэрава спаленага крыжакамі касцёла мінарытаў, пабудаванага францысканцамі. Падобны да пашчэрбленага зуба, ён пароў далягляд напамінкам аб нядаўняй бядзе. Крыжакі падчас свайго нападу палілі тут усё, асабліва ж бязлітасна нішчылі багацце Новагародка ;— гандлёвыя рады, крамы і склады. Сведкам таму, што не аб хрысціянстве яны дбалі, было і ацалелае Перуновае капішча, і шматлікія восеці, дзе, бачна па ўсім, маліліся язычнікі — іх лёгка было пазнаць па каляровых стужках. Гэтыя стадолы былі тут, у Новагародку, доўгія, і я ведаў: там, унутры, стаялі стоды. Адзін з іх я ўбачыў

учора ў аддаленай, для варты, вежы замка — там печ была ў выглядзе вялізнага страшыдла з разяўленай пашчай і вачыма, у якія былі ўстаўлены чырвоныя аскабалкі граніту.

Ацалела і другая святыня Новагародка — магіла першага вялікага князя. Яна таксама была тут непадалёку, за капішчам Перуна, і рознакаляровыя стужкі на вяршаліне ўзгорка ўспыхвалі чырванню і ядвабам сярод зеляніны.

Што, калі схадзіць туды? Я выйшаў з пакоя — сокал цяжка ўзляцеў і апусціўся на мае плячо, драпаючыся кіпцюрамі, каб утрымадца, — і выглянуў у двор.

Вільготна цьмянела макаўка яшчэ не дабудаванай замкавай цэркаўкі, адсюль, зверху, падобнай да жоўтай, новай цацкі, але з адчыненых дзвярэй чуліся спевы, і адтуль чырвоным вугольчыкам выбліснула лампада. Мабыць, там ужо маліліся княгіня Еўна і ейныя дочкі. Верагодна, і Альгерд — ён хрышчаны як Аляксандр — са сваёй Марыяй там жа. Кажуць, віцебскі Яраслаў Васільевіч, ейны бацька, надта ж заўзяты хрысціянін, адпраўляючы дачку сюды, у двор Гедзіміна, загадваў ёй з усяе сілы змагацца з намі, язычнікамі. Выйшаў, пакачаўся на доўгіх нагах рымскі легат, таропка пайшоў да брамы — хутчэй за ўсё маліцца ў новым, перад самым прыездам вялікага князя, закончаным касцёле. Вострая ягоная дзіда стараецца прадзіравіць неба там, на ўсходзе, за навагародскімі мураванкамі. На першым паверсе замка, там, дзе былі кухня і ядальня, пачулася ціхае бразгаценне — замак прачынаўся. Аднак на другім паверсе, дзе былі лажніцы, у пярынах, на пуховых падушках, пад полагамі з кісяі ўсё яшчэ грэлася, мармытала ў снах і ўчэпіста трымалася за ранняе цяпло знатнае гаспадарства.

Я спусціўся па скрыпучых дубовых прыступках і выйшаў на ўсходні бок Шчытоўкі. Уніз можна было прайсці, толькі трымаючыся за вяроучатую лесвіцу, што спускалі раніцай па патрэбе, а ўвечары хавалі. Вартавы ля вежы, падобны да вялізнагага майскага хрушча ў сваім карычневым каптане са скураным шчытом на грудзях і

шлеме з пушыстай заечай прылбіцай, паспешліва дастаў яе з вартавога памяшкання, паклікаў на дапамогу яшчэ аднаго воя. Той, бліскаючы цёмна-жалудовымі вачыма, хутка спусціў па схіле цяжкую, добра пашкуматаную лесвіцу і як яшчарка слізгануў уніз, замадоўваючы калкі паабапал выбітых у камяністым схіле прыступак. Пасля зноў ускараскаўся наверх і схіліўся перада мной у паклоне.

— Можаш спускацца, гаспадзін. Калі хочаш, я дапамагу табе.

Ён увесь ззяў свежасцю, нібыта вымыты ў расе гурок. Круглы, яшчэ безбароды твар усміхаўся, два зубы трохі выпіралі наперад, як у зайца. Я хацеў быў адмовіцца, але ягоная радасная гатоўнасць ісці са мной сагрэла цяплом душу.

— Адпусці яго са мной, — загадаў я старэйшаму. Той таксама схіліўся ў паклоне.

— Вядома, пан звяздар.

Я з задавальненнем падумаў, што маршалак навагародскі сапраўды бязмерна стараўся сустрэць вялікага князя: варта ведала мяне.

— Тады пайшлі.

Хлопец спрытна перабіраў рукамі, гайдаючыся разам з вяроўкамі. Я ледзь паспяваў за ім.

— Цішэй, як цябе завуць!

— Гердзень.

— А, валадар дзіды!

— Што кажаш, гаспадзіне?

— Тваё імя значыць — валадар кап'я. Ты гэтага не ведаеш?

— Не, гаспадзін. Я грамату ведаю, хадзіў дзве зімы ў

школку і нямала бярозы пакрэмзаў свярдзёлкам. Але тое, што ты кажаш, можа ведаць хіба святар.

— Дык ты хрышчаны?

— Вядома. Язычніка ў школку не возьмуць. Але я хаджу на капішча, хаця і патаемна, і нашу ахвяры Перуну. А пасля малюся Іллі-прароку, каб не вырваў з маіх рук дзіду ніякі крыжак.

Я задыхаўся, нага мая анямела, пакуль мы сышлі з гары. Гердзень цяпер шыбаваў за мной, мабыць, думаючы, што я іду ў капішча Перуна. Але я абышоў свяшчэнныя дубы, лістота на якіх ужо трохі пажаўцела і адлівала бронзай.

— А куды ты ідзеш, гаспадзін? — ён стараўся плесціся ў адну нагу са мной, але маладая сіла жыцця ажно прыўзнімала яго над долам. Скураныя лапці яго нібыта самі сабой танцавалі.

— Па магілу Міндоўга. Ці ходзяць сюды людзі?

— А як жа! Рэдка бывае, каб тут не было якой душы. Лічаць, што князь Міндоўг святы, хаця і забілі яго родзічы. А першы раз я прыйшоў сюды з дзедам. Мне шэсць гадоў было. І ў той дзень на князевай магіле чараўніца сядзела. Усе ёй кланяліся, а дзед стаў перад ёю на калені. Я помню: яна ўся ссохлая, а вочы — як фіялкі! Я за дзеда схаваўся. Думаю — ператворыць яшчэ мяне ў ваўкалака альбо птушку. Але нічога.

— А дзед не баяўся?

— Ды ён яшчэ маладым з каралём Міндоўгам у паходы хадзіў. І чараўніцу тую ведаў з дзяцінства. Яна тут усіх у горадзе і наваколлі лячыла. Ды вы ж бачылі ейную праўнучку. Учора толькі аб ёй і казалі. Паслы нямецкія і чэшскія яшчэ ў сваіх пакоях пра яе гундосілі, калі ім піва ў пакоі насілі.

— Ты што, падслухоўваў?

— Ды не. І так усё тут, на замкавым двары, чуваць. Мы

ж усіх вас і бачылі, гаспадзін. І што кояшы казаў, усё колькі разоў языкамі абмянташылі. Толькі як гэта — ты такая важная асоба пры двары, а ўчора за тронам, як злыдзень які, туляўся і адтуль зіркаў?

Я раздумваў, што ж яму адказаць.

Глячык з мёдам, які я захапіў з сабой, матляўся ў скураным мяшку, я рухаўся асцярожна, каб яго не раздушыць.

— Ты мне скажы, Гердзень, калі б ты схацеў замест таго, каб ўначы на варце напружвацца, пасядзець на рэчцы з венцерам ці нечым смачным паласавацца — змог бы ты тое сабе дазволіць?

— Не, гаспадзіне. Што мне скажуць, тое і рабіць мушу.

— Ну а я захацеў пасядзець каля трона — і змог. У тым і розніца паміж намі.

— Але ж і ты мусіш слухацца вялікага князя.

— Аднаго. А над табой — колькі іх, хто табе можа загадваць?

— Уга колькі!

Хлопец задумаўся, ажно спатыкнуўея на выбоіне. Пачаў пералічваць: камандзір варты, сотнік, ваявода, маршалак, намеснік... Пасля змоўк і нейкі чае толькі соп, размахваючы рукамі. Лапці яго шоргалі па пяску, збіваючы расу з някошанай, пабурэлай травы, што, падросшы, хінулася заняць усё навокал, каб знішчыць тое, што спрабаваў адваяваць у яе чалавек.

Тым часам мы дайшлі да кургана Міндоўга, і я пачаў караскацца наверх па вузенькай сцяжынцы, якая агінала курган, хаваючыся ў густым кустоўі.

За шэсцьдзесят з гакам гадоў, што прайшлі пасля пахавання караля, тут, мабыць, ужо не закопвалі нікога. Не чуваць было шапацення. Толькі сямейка саракушаў, попельна-шэрых з жаўтаватым адценнем птушачак,

седзячы на арэшніку, замяніла сваё мілагучнае «труітт», «труітт» трывожным «чэк-чэк-чэк» і пырхнула ўверх, у неба, далей ад нечаканых госцейкаў.

На самым верее кургана ляжаў валун. Літары на яго шэрай, з цёмным адлівам паверхні дзе-нідзе пазарасталі мохам. Я прысеў і сцізорыкам стаў аддзіраць зеленавата-жоўтае месіва. Яно крышылася, падала на жоўты чысты пясок, злёгку набрынялы вільгаццю ночы. Стужкі на дубе, што ахінаў магілу, выцвілі, але былі і зусім новыя.

— Давай, гаспадзіне, я сам пачышчу, — распарадзіўся Гердзень і забраў сцізорык. Тады я дастаў з мяшэчка глячык, адчапіў покрыўку.

Гердзень адступіў на крок.

...Я тварыў абрад памінання не спяшаючыся, з урачыстым пачуццём далучанасці да ўсяго свету і да тых, хто прыходзіў на гэтую зямлю і яшчэ прыйдзе на яе пасля нас. Я быў часцінкай існага, і ў гэтым існым Міндоўг чуў мяне, хаця Ірый, дзе спачывала яго душа, быў далёка. Зямля прагна піла жоўтыя кропелькі мёду, і пурпуровыя вяночкі сардэчніку хіліліся да маіх ног. Недалёкі замак, шэры і грозны, як старажытны вялет у шлеме, займаў паўнеба, над ім трапятаў бел-чырвона-белы сцяг — харугва вялікага князя. Булькатала і выблісквала на сонцы крыніца пад паўднёвай вежай, сіняе неба раптам ірванулася ўвысь. У мяне закружылася галава. На імгненне здалося, што я ўрастаю сюды, у гэты затравянелы, парослы ўчэпістым кустоўем курган і навекі застануся ў ім. Але душа не ўздрыгнула ад страху, а, наадварот, аддалася на волю гэтай хвіліны, і ўзнагародай за давер убачылася — незнаёмы твар з зеленаватымі вачыма, роўным, трохі воўчым аскалам усмешкі, уладны і жорсткі, і чамусьці побач з ім — дзяўчынка, якая прыйшла ўчора ў замак са сваім братам і бацькам. Яна плыла побач з незнаёмцам, але я здагадаўся, хто ён.

Міндоўг!

Мабыць, я прамовіў гэта ўслых, таму што Гердзень адскочыў ад мяне. Я азірнуўся, і тое слова, якое вось-вось прамовіў бы мёртвы кароль, упала падстрэленым вераб'ём і знікла ў чорнай бездані.

— Не бяры дурняў з сабой, колькі заракаўся!

— Не гневайся, гаспадзін. Мяне як крыга ў бок таўханула, я спужаўся.

Гердзень выглядаў з кустоў, побач з ім туліліся два зарослыя валоссем дзецюкі ў парваных портах, дзіравых кашулях, але з касцянымі медальёнамі на шыях. Яны ўпалі перада мной на калені.

— Ты бачыў яго, вялікі жрэц?

Я кіўнуў галавой, пайшоў назад, а душа мая ўсё яшчэ нібы не вярталася да мяне, яна ляцела за Міндоўгам у тую бездань, каб злавіць ягонае слова, але ён быў больш лёгкі, як стрыж. Вось у цемрадзі апошні раз мільганула белае пяро, ён знік, а мая душа схамянулася і, ірвануўшыся назад, замітусілася, шукаючы выйсця з бездані, куды заляцела амаль знянацку, азартна, але адкуль магла і не выбрацца...

— Гаспадзін, гаспадзін!

Гердзень тармасіў мяне, і я разляпіў павекі. Я ляжаў на сцяжынцы, жук поўз па маёй шчацэ, пясок зацерушыў вочы.

— Што са мной?

— Ты самлеў. Вочы закаціліся. Вялікі Пярун, ты мог бы памерці, і мяне сцялі б за горла!

Я сеў і паспрабаваў усміхнуцца.

— Заплаціў бы штраф за забойства — дваццаць грыўнаў серабра — адпусцілі б.

— Дваццаць грыўнаў! Я ніколі не трымаў у руках такіх грошай! І гэта там у вас, у сталіцы, гэтак плацяць.

— А. колькі плацяць у былой сталіцы?

— За знатнага, такога, як ты, — пятнаццаць грыўнаў. А за простага халопа — паўгрыўны.

— Ну а ў Троках і Полацку — адну.

— І грыўна для мяне, простага вартавога, вялікія грошы. Каб я меў пятнаццаць грыўнаў, я ажаніўся б з Агрэнкай Васкаўнай.

— Хто гэта?

— Дачка баярына Даўгаля.

— Прыгожая?

— О!

Пасля ён усё ж спахапіўся і, дапамагаючы ўстаць, раздумаўся:

— Не такая прыгожая, як Гайна, дачка Рацібора, але і я не пасаднік.

Ён зноў нагадаў мне пра Гайну. Чаму яна — каля Міндоўга? Я ніколі не дазнаюся таго, але, мабыць, мела ейная прабабка нейкае дачыненне да вялікага караля. Наложніца? Каханка? Памочніца? Ці проста лекарка, якая яму дапамагла ў цяжкую хвіліну?

Гэта быў, несумненна, Знак. Знак таго, што не проста ўвайшло гэтае дзеўчанё ў мае жыццё. Яму патрэбна мая абарона, мая дапамога.

І, уяўляючы ўладны, жорсткі твар з зялёнымі вачыма і белым, трохі ваўчыным аскалам, я сказаў кудысьці ў прастору, каб, магчыма, слова тое расінкай упала недзе ў далёкім Ірыі:

— Я дапамагу ёй, вялікі кароль...

Нешта зашалясцела вакол, нібыта вецер прайшоўся па кустоўі. Але я ведаў — гэта не вецер. Гэтак адказвае зямля, калі просіш яе аб нечым. Зямля, куды сыходзяць

цьмы цем[6] людзей, год за годам. Але кожнаму там, у надземным царстве Чорнага Сонца, у падзямеллі, дзе царуе Марэна, ёсць сваё месца, і яны таксама помняць нас: на Дзяды і Радаўніцу прыходзяць і моўчкі сядаюць за памінальны стол. А такім, як кароль Міндоўг, мабыць, дазваляецца і часцей прыходзіць у свет жывых, і мне падалося, што ён і зараз чуе мяне і бачыць.

Назад да Шчытоўкі я не палез. Гердзень збегаў у бліжэйшы двор, і зямянін хутка запрог каня. Я ехаў на замкавы двор цераз пасад, дзе каля Князевых стайняў тоўпіліся паслы, забіраючы сваіх коней; праз падвесны мост, які з самага рання апусцілі над ровам, праз заходнюю браму. Унутры чатырохвугольнага двара ўжо было цесна ад фурманак і карэт. Я даведаўся, што ад'ехалі магістр і паслы і што ўжо ў дарозе кашталян гарадзенскі і ягоная Біруга. З усходняе вежы выходзілі мазавецкі княжыч і Марыя. Я заўважыў сярод іх рыцара з даўгаватым носам і ганарыстымі вуснамі, ён азіраўся вакол, нібыта выглядаў кагосьці. Марыя сонна хуталася ў плашч, падбіты гарнастаем, сын Трайдзеня нешта ёй казаў, відаць, казычучы руку вусамі, бо яна час ад часу спрабавала забраць яе і нервова ўздрыгвала. За імі выйшаў каталіцкі біскуп, ён звыкла блаславіў жаніха, і той, тройчы пакланіўшыся нявесце (яна таксама кланялася яму ў адказ), ускочыў на прыгожага гнедага скакуна і паскакаў да брамы.

Рыцар, які апошнім узлез на свайго каня, не спяшаўся. Ужо схаваліся за брамай ягоны гаспадар і воі, а ён, зрабіўшы выгляд, што падцягвае аброць, азіраўся.

— Пане Анджэй! — данеслася з пасада. — Спяшайся!

Рыцар здрыгануўся, позірк яго чамусьці спыніўся на маім высокім каўпаку звяздара, і нешта ценькнула ўва мне, нібыта страла праляцела міма.

— Хто гэта? — спытаўся я хутчэй сам у сябе, але Гердзень паслужліва адказаў:

— Гэта рыцар Анджэй Гост.

І па-змоўніцку прашаптаў:

— Учора і ён з нашай новагародскай панны вачэй не зводзіў.

— З якой панны?

— З панны Гайны.

— Анджэй Гост! Госць! Гасцявецкі! — панеслася ў прасторы, загукала, загалёкала. Я азірнуўся. Ніхто, як заўсёды, нічога не чуў. Але ўва мне замацавалася гэтае імя, як прадвесце нейкага няшчасця, зла, нечага чорнага і няўмольнага...

Оршак[7] Гедзіміна таксама адпраўляўся назад у Трокі. Але ніхто не выходзіў у двор, над якім, зазіраючы ва ўсе куты, ярка свяціла сонца позняе раніцы. Начальнік варты спалохана прыспешыў мяне:

— Вялікі князь тройчы пытаўся пра вас.

Але перш чым пакульгаць наверх, я папрасіў прынесці мне кашэль з грашыма. Ён паслаў аднаго з варты, і той, спалохана мармычучы замовы, пацёгся ўверх, відавочна баючыся зайсці аднаму ў пакой вешчуна, і неўзабаве вынес мне мой вялікі пацёрты кашэль з пенязямі, падобны да растрапанай Лоймы, злыдухаўкі. Гердзень глядзеў бліскучымі вачыма-вішнямі.

— Бяры, браце.

Ён, падставіўшы далонь, спалохана адхіснуўся, калі ў яе лінулі сярэбраныя манеткі. Пасля я дастаў яшчэ, адну за адной, пяць цяжкіх грыўнаў.

— Гэта замнога, гаспадзіне.

— Бяры. Ты ж мог мяне там пакінуць альбо абшукаць разам з бадзягамі і падзяліць здабычу на трох. А тут болей, чым было дабра пры мне там, на гары. І дастаткова, каб даць іх тваёй маці на вяселле і ажаніцца з Агрэнкай Васкаўнай.

Ён узяў цяжкія, як зубрынае капыта, манеты. Але чамусьці не спяшаўся знікнуць з імі. Муляўся. Затрымліваў мяне.

— Ты што? — запытаўся я нецярпліва.

Гердзень раптам уціснуў манеты мне ў рукі.

— Калі такая твая ласка, гаспадзіне, то я лепей бы прасіў іншага.

— Адчапіся ад яго, вартаўнік! — закрычаў, выбегшы, стольнік Верабей. — Вялікі князь не прывык чакаць!

— Дык чаго ты хочаш, кажы! — загаварыў я, ужо не хаваючы нецярпення.

— Вазьмі мяне з сабою ў Трокі! — раптам, рашыўшыся, загаварыў хлопец. — Я ведаю, што пскавічы просяць КНЯЗЯ Давыда ім дапамагчы. Паслужу табе, павучуся трохі — і, можа, буду хадзіць у паходы з княжай дружынай. Я сам хачу зарабіць грошы. А не браць іх ні за што, незаслужана.

— Ты адмаўляешся ад пяці грыўнаў, смерд?!

— Я вазьму шэлег. Можа, столькі я і зарабіў. А астатняе — дурныя грошы, яны не прынясуць шчасця.

Я імгненне глядзеў у ягоныя вішнёвыя вочы.

— Добра. Чакай тут.

Ён ажно падскочыў ад шчасця. Але я і сапраўды не меў для яго часу. Падбегам заспяшаўся ў ядальню.

Усе яшчэ сядзелі за сняданкам — доўгі стол ажно ламаўся ад падносаў і чараў, бегаў, вярнуўшыся, стольнік Верабей і яго памагатыя, шоргаючы ботамі. Тварог ляжаў у драўляных місах снежнымі гурбамі, жаўцела ў гляках смятана. Мяне, аказваецца, чакалі. Князь хацеў, каб я, а не вярхоўны жрэц, правёў абрад дарогі, што будзе спрыяць падарожным. І яшчэ па адной прычыне ён сустрэў мяне пахмурна:

— Тху ты, нячыстая сіла! Носіць цябе!

— Даруй, княжа. Хадзіў пакланіцца каралю балтарусаў.

— Ведаю, дзе быў. Мог бы і мяне папярэдзіць. Я не адмовіўся б нагадаць багам пра Міндоўга. А яшчэ болей пра Войшалка. Усё ж той чужых жонак не хапаў, а манастыры засноўваў.

Княгіня Еўна, якая і ўвяла яму усё гэта ў вушы, згодна ківала галавой.

І адкуль яны ўсё ведаюць?!

## Назад у Трокі

Фурманка, якую запрэглі для мяне, вярхоўнага жраца Галігіна і ягоных чатырох служкаў, была ўся абцягненая ласінымі шкурамі, і таму сонца не паліла нас. Але дарога была з нейкім гаркавым пылам. А можа, гэта ад таго, што мне не хацелася развітвацца з Новагародкам? Галігін, наадварот, імкнуўся хутчэй на сваё звыклае ложа, якое ў яго ў Троках было сапраўды раскошным, як у якога валадара, а не сціплага служкі багоў. Ірваўся ён да звыкласці, у якой яму было ўтульна і хараша. Ён нават не надта злаваўся на тое, што тварыць абрад перад паездкай папрасілі мяне, бо гэта пазбаўляла яго ад напругі, а старэчыя яго сілы былі яўна на зыходзе.

Выязджаючы з Новагародка, давялося ехаць паўз мітрапалітавы двор і царкву святых Барыса і Глеба — вярхоўны жрэц зафыркаў, адвярнуўся, нацягнуў свой суконны каўпак глыбей, па самыя вочы. Цягнуліся і цягнуліся вуліцы, гандлёвыя рады, крамы, дзе сядзелі пошлыя[8] купцы, цэрквы, але раптам ўсё гэта скончылася, і, ад'язджаючы, я высунуўся з вазка і яшчэ раз агледзеў горад, што узвышаўся над далінай — ён ляжаў, як жамчужына ў ракавіне, з чырвонымі чарапічнымі дахамі, са свежымі белымі мураванкамі, і залатыя крыжы на цэрквах і на мітрапалітавым двары

здаваліся рукаяткамі мячоў у неабсяжным прасторы зеляніны.

Гердзень курчыўся ў нашых нагах, таму Галігін грэў на ягоных сцёгнах свае схаладнелыя ногі і спаў амаль усю дарогу, пакуль мы з хлопцам вялі ціхую, нетаропкую гаворку. Ен расказаў мне ўсё сваё простае жыццё беднага смерда, узятага за храбрасць у воі. А вызначыўся ён тады ж — сем гадоў назад, калі крыжакі палілі Новагародак, а князь Давыд уратаваў яго. Я даведаўся шмат цікавага і нават хацеў быў запісаць усё гэта на пергаменце, каб нашчадкі прачыталі пра той сапраўды гераічны час, але ж я не летапісец. І не такі стары, каб занатоўваць жыццё, а не глядзець наперад і чакаць ад яго падарункаў.

А падарункі сапраўды былі. На адной са стаянак, калі распрэглі коней у селішчы і слугі абкружылі княскі двор палаткамі з аленевых шкур, я раптоўна ўбачыў Гайну. У блакітнай спадніцы, падшытай белымі шлямамі — карункамі, у белай ільняной кофце, у вяночку з рамонкаў, яна лоўка несла тонкае, амаль празрыстае палатно, паклаўшы яго на руку, а другой прытрымліваючы, каб не знёс яго вецер.

Я падышоў да яе. Яна глядзела на мяне ветліва, але ў фіялкавых вачах была і цікаўнасць. Упершыню я ўбачыў, што ў яснай чысціні дзявочых вачэй ёсць чорныя кропачкі — каля зрэнак. Так бывае ў кветак, калі глядзець на пялёсткі скрозь сонца. Трохі рабаціння было і на ейным носе, каля шчок, нібыта Лель, прабягаючы і жартуючы, кінуў на яе жменю сонечных пылінак.

— Ты пазнала мяне?

— А як жа, пан княжы звяздар!

— А як ты апынулася тут?

— Мяне ўзялі з сабой нашы валадары.

Дзіўна, але яна мяне не баялася. Даверліва чакала,

пакуль скажу, дзеля чаго падышоў. «Як лясны алень, які ніколі не бачыў чалавека», — чамусьці падумалася нечакана. Было бачна, што яна ўлюбёнка багіні Дзявоі, якая аберагае дзявочую цнатлівасць — ад яе нібы ішоў пах лясных кветак і дабрыні.

— Хацеў запытацца пра твайго бацьку. Чаго яго тут не відаць?

— Ён застаўся ў Новагародку, але праз тыдзень яны з Вітам едуць у Гародню.

— З Вітам?

— Так, з маім братам. Князь аказаў нам вялікую міласць — брат будзе служыць у Давыдавым войску. А мне вялікая княгіня загадала даглядаць князёўну Ганну.

Радасць па-новаму асвяціла ейны твар. Я ўгледзеўся ў яго. Белая скура, глыбока пад якою пульсуе свежая, не сапсаваная страсцямі і горыччу кроў, ад чаго тварык свежы, як... як глыток майскага паветра, калі салоўка вядзе свае трэлі ў кустах шыпшыны.

— Ты радая гэтаму?

— Вядома!

Міласнікі — ключнікі і слугі князевага двара — неадабральна пазіралі на дзяўчыну, якая не пацалавала руку звездару і жрацу. Але я не крыўдаваў на яе — яна, мабыць, і не здагадвалася пра іхнія позіркі, проста не заўважала іх. І мне яна ўсміхалася неяк легка, бесклапотна, а позірк яе, хаця яна і глядзела мне ў вочы, нібыта праходзіў скрозь мяне, не затрымліваючыся.

— Добра, Гайна. Калі што не будзе ў цябе ладзіцца, звяртайся да мяне.

Яна гэтак жа радасна адгукнулася, ніколькі не здзівіўшыся майму клопату:

— Добра,гаспадзін.

І тады ўва мне нешта заспявала, заіскрылася, нібы адна бессмяротная душа адгукнулася на ззянне другой, і адразу ў свеце павялічылася святла і шчасця...Я адчуў сябе не заклапочаным, ужо не маладым служкам, а дзіцем, бесклапотным і свабодным. Як жа даўно не было ў мяне гэткае бязважкасці, ладу ў душы! Дзякуй табе, улюбёнка Дзявоі, альбо, як яе называюць тут, Гожні. О, нездарма агонь аберагаюць цнатліўкі, бо іхняе адчуванне шчасця найбольш поўнае, яны абароненыя ад граху і спазнавання яго ў сабе і іншых!

У наш вазок вяртаўся я ўпэўненым, што яна тут жа забылася на нашую размову. Жыццё разгортвала перад ёю свае дары. Будучая праца была не цяжкаю — прыдворная дама князевай дачкі, яна павінна была толькі пальчыкам паказваць слугам, што і як рабіць. Але ўжо калі князёўна выйдзе разам з бацькамі прымаць іншаземных паслоў у пакамечанай сукні альбо з пярсцёнкам, што не пасуе да ўбору — тут Гайне давядзецца мець добрыя трапачы ад княгіні альбо маршалка. Прыдворны этыкет быў у нас на вышыні, кожны, хто выходзіў у парадную залу, павінен выглядаць так, каб не пісалі потым іншаземныя паслы ўсвае дзяржавы, што пры Гедзімінавым двары адно лесуны ды балотнікі.

Чамусьці на гэты раз дарога падалася мне карацейшай. На прыпынках, калі ставіліся ўсе вазы і фурманкі на якой вялікай паляне, спадцішка назіраў я за Гайнай. Ці то яна кожнае раніцы прасіла ў Спешкі — Спарышкі дапамогу, і тая, прылятаючы да яе на сваім матыльку, непрыкметна дапамагала ў кожнай рабоце, ці ўжо сама такая ўдалаея, але ўсё ў ейных руках жвавела, святлела і выглядала весялей, чым у іншых баярак, якія, здавалася мне, соўгаюцца, як восеньскія мухі — мо стараюцца выглядаць важнецкімі панямі?

Калі мы нарэшце зноў атабарыліся ў Троках, я непрыкметна працягваў назіраць за ею, хаця было гэта і нялёгка. Шляхі звяздара і прыдворнай баяркі не часта сыходзіліся, а плётак я не слухаў. Да таго ж усе цяпер ведалі, што вясной прыйдзецца пераязджаць у новую

сталіцу, і гэта было галоўнай тэмай для гаворкі.

Стары жрэц усё слабеў, мне даводзілася служыць у замку трэбы без яго альбо ўслед за ім, як бы падхопліваючы ягоныя словы, а на самой справе выпраўляючы памылкі, без якіх ужо не абыходзілася ніводная служба. Але мудрыя старыя, што кіруюць і вярхоўным жрацом, і ўсімі свяцілішчамі краю, яго не чапалі. Аднак адчуваў я, што пільна прыглядаюцца яны да мяне.

Альгерд яшчэ быў пры Гедзімінавым двары, хаця ўсе ведалі, што сталец віцебскага князя дастанецца яму. Ён, праўда, прападаў у Крыў-горадзе, аднак Марыя была тут, у Троках, і прыдворнае жыццё ішло як звычайна: амаль кожны вечар у замку ладзіліся баляванні. То нехта з замежных паслоў прыводзіў у замак музыканта альбо штукара, альбо лекара, альбо гусляра. Тады нашыя пані і панны кругам садзіліся вакол і слухалі альбо глядзелі штукарствы, а рыцары ахіналі іх ад дыму печак альбо стараўся накінуць на плечы цёплае карзно, бо ў лютыя маразы не ратавалі нават і печы, і холад тачыўся ў шчыліны, а вецер уздымаў на каменных сценах тонкія тканыя карціны — шпалеры.

Гедзімін часта клікаў да сябе пісараў. Дыктаваў граматы і лісты.

Трывожна каркалі на абледзянелых бярозах вароны, гайдаліся чорнымі злавеснымі нотнымі крукамі[9], ствараючы агульную музыку магчымай вайны.

Пскоў і Ноўгарад, Масква і Кіеў, Рыга і Ордэн слалі то пагрозлівых, то заклапочаных ганцоў. Грукаталі на гасцінцы капыты коней, слізгалі па заснежаным возеры палазы, дудзелі валынкі, аб'яўляючы чарговага госця перад брамай, дзе хуталіся ў кажухі вартавыя, выскокваючы з вартоўніц і апускаючы ландугі мастоў.

Часта, праходзячы ў замкавую бібліятэку, спыняўся я перад расчыненымі дзвярыма пакоя, дзе Гедзімін, седзячы за таўшчэзным сталом, слухаў тое, што ў пергаментных скрутках з цяжкімі пячаткамі на

шаўковых шнурках прывозілі заснежаныя ганцы:

«Немцы ў час міру перабілі купцоў на возеры і рыбакоў на рацэ Нарове, спустошылі там зямлю. Б'ём чалом тваёй міласці, каб адпусціў ты да нас старосту гарадзенскага Давыда, сына Даўмонта, хрышчанага Цімафеем, слаўнага князя пскоўскага. І будзе Давыд нам заступай, і абаронцам магіл сваіх дзедзічаў, і спадкаемцам мяча Даўмонтавага»[10].

Альбо чуўся раздумлівы голас вялікага князя, калі ён раіўся з любімым паслом сваім Лесем і ваяводам Скіргайлам:

— Зноў збіраюцца рыжане да нас ехаць, прасіць заступніцтва ад крыжакоў. Што там твае лазутчыкі кажуць — можа Ордэн іх апярэдзіць і па нас новым паходам грымнуць?

Я, не слухаючы адказу, ішоў далей. Ваявода, як усе, добра памятаў паход маршала Генрыха фон Процкі на Княства. Тады, два гады назад, пад Меднікамі нашае войска, закідаўшы дарогу за крыжакамі паваленымі дубамі, абышло іх і ўдарыла спераду. А калі яны, не вытрымаўшы націску, паспрабавалі адступіць — коні іх не змаглі прабіцца скрозь сучча. Дубы нібы трымалі чужаземных налётчыкаў-вояў, і дарога абарочвалася балотамі. Жах ахапіў рыцараў, ды такі, што беглі яны без памяці, пакідаўшы коней. На той дарозе лёг сам маршал і амаль усё войска, а намесніка магістра рыцара Герарда Родэ прынёс Гедзімін у ахвяру багам, што дапамаглі яму ў той бітве.

(Пра тое, як гарэў на ахвярніку рыцар і як ён страшна енчыў, не раз на баляваннях спявалі гусляры, а летапісцы ў многіх краінах напісалі пра тое, пужаючыся магутнасці Вялікага княства. Тады ж ажно скакаў ад радасці Галігін, бо ён змог дагадзіць багам так, як не ўдавалася дагаджаць амаль пяць гадоў. Нават і сёлета ў ахвяру старажытным багам кідалі іншую, больш дробную ваенную здабычу. Галігін казаў, што пасля палення крыжакоў багі падаюць добрыя знакі — мусіць, і нябёсам было прыкра ад хцівасці і шалёнай жорсткасці

гэтых вояў...)

І заўсёды там, у Ліповай зале, названай так таму, што ўся мэбля — лавы, шуфляды, стол — была з ліпы, сядзеў і Альгерд. Мне было цікава слухаць, як размаўляе ён з бацькам — пачціва, не асмельваючыся пярэчыць. Але калі ён казаў «так», то можна было не сумнявацца, што неўпрыкмет паспрабуе падвесці бацьку да таго, што хацеў бы зрабіць — ды так, каб Гедзімін думаў, што сам прапанаваў тое. Гедзімін жа слухаў яго ўважліва, часам згаджаўся, але бывала, што, нібы пры гульні ў варцобы, апярэджваў сына на шмат хадоў наперад. І тады зміраўся Альгерд і, схіляючыся над мапай ці пасланнем з якой замежнай краіны, напружана абдумваў бацькавы словы, тузаючы чуб над ілбом, як мачала.

Гедзімін, бывала, запрашаў мяне да стала, але я нядоўга сядзеў з імі. Нудзіўся ўсімі гэтымі разлікамі: колькі сена з'ядуць за паход коні і колькі ручніц трэба заказваць збройнікам, якія дзіды колюць лепей і што новага прыдумалі ва ўзбраенні рыцары Ордэна. Лічылі і маршалак, і паны — рада, і ваявода — ды бывала, што і пралічваліся, і памылкі тыя дорага абыходзіліся ліцвінам. Я ведаў тое, аднак не маё яно было — бойкі і перамогі, сеча і кроў...

Вялікі князь смяяўся пасля, калі мы, бывала, гулялі з ім у варцобы:

— Тху ты, нячыстая сіла! Гэта ж трэба драмаць, калі прыкідваюць, колькі дзідаў заказваць збройнікам! Няўжо нецікава табе, што рыжане зноў напісалі на Ордэн скаргу папе ў Рым? Вось цяпер і пачнецца — папа змушаны будзе адказваць, а Ордэн — дрыжаць. Што, калі папа аб'явіць крыжакоў вераадступнікамі і хціўцамі?

— А калі не аб'явіць, калі згодзіцца з нашымі ворагамі?

— Будзем думаць, як прымаць рыжан і арцыбіскупа іхняга. Ці даць спачын войску, ці весці яго на абарону Рыгі.

— Нам і ў сябе ёсць што рабіць.

— Нецікава з табой, Ляздзейка. Ты думает, багі не хочуць ведаць, як мы тут, на зямлі, распараджаемся нашым жыццём? Што робім? І ўвогуле — як бы жылі багі без нас, людзей?

Часта прыязджалі пасаднік і галоўны мураляў з Крыўгорада, і тады Гедзімін збіраў сыноў, каб паказваць ім планы хітрацоў-мураляў.

— Крыў-горад будзе маёй апошняй сталіцай, дзеці! — гаварыў князь, пацірающы скручаны мезенец. — Ен дастанецца камусьці з вас, але ведайце — у яе найлепшае месца. Ніякі вораг не захопіць Крыў-горад, бо ён увесь на ўзгорках, і там можна абараняцца нават з невялікім атрадам!

Аднойчы, калі яны, схіліўшыся над мапай, разважалі, дзе лепей размяшчаць пасольства ад ганзейскіх гарадоў, Карыят заўважыў:

— Бацька, калі ты хочаш мець Крывіч-горад за сталіцу, то трэба мяняць назву. Не адны крывічы жывуць там, але шмат і яцвягаў, і прусаў. Ды і балты там жывуць спрадвеку таксама.

Сыны зашумелі, заспрачаліся. Гедзімін нічога не адказаў Карыяту, але на наступны раз, калі сеў пісаць лістраспараджэнне пасадніку будучай сталіцы, вымавіў цвёрда:

— Зваць горад з гэтага дня Вільняй[11]. Па рацэ Вяльлі, як тое спрадвеку вядзецца, калі горад засноўваюць..

У той жа дзень летапісец, макаючы пэндзаль у кінавар, запісаў новую назву Крыў-горада, і доўга вымалёўваў першую літару, стараючыся, каб выйшла яна падобнаю да назвы Віфлеема, бо вельмі стараўся падахвоціцца да вялікага князя. І сон мой прыпісаў Гедзіміну, бо, будучы хрысціянінам, не мог аддаць першынства язычніку-жрацу. Я, даведаўшыся пра тое, пасмяяўся ў душы, бо ўжо і сам не памятаў, ці бачыў сон напраўдзе, ці

прыдумаў яго. Ды, урэшце, жыццё наша — хіба не сон, дзе цяжка бывае разабрацца — ці то ты сніш жыццё, ці само яно сніць цябе?

У тую зіму я часта не спаў начамі. Ці то одум такі напаў, ці то проста ўсё навокал закручвалася не так, як таго хацелася.

За Гайнай пачаў улягаць сын маршалка, Дамарат.

Дзяўчына яшчэ больш пахарашэла з лета, зацвіла, як каліна вясной, калі абагрэе яе жыццядайны Ярыла. Яна цяпер хадзіла ў адамашкавай[12] сукні, што шчыльна аблягала яе стан, і ў белым празрыстым караблікувэлюме, што абвяваў тварык і надаваў яму таямнічасць. Я здаля пазнаваў яе па імклівай хадзе — юхтавыя пантофлікі, здавалася, неслі яе па камяністых калідорах замка, і я, бывала, назіраў, падыходзячы да пакояў малодшай князёўны, як мільгае белым матыльком у вокнах танюткая постаць новагародчанкі. І ўсё ж у фіялкавых вачах красуні часам мільгала туга. Тады я ўспамінаў позірк, якім яна глядзела на Давыда. Няўжо аб ім думае яна тут, сярод забаў і тлуму велікакняскага двара? Няўжо і сапраўды не цешыць яе ўвага Дамарата?

Высокі бялявы хлопец з аксамітавымі карымі вачыма, з усмешкай, што невымоўна цягнула да сябе позіркі дзяўчат і маладзіц, ён прывык да іхняе ўвагі. І калі спачатку на новенькую пазіраў ён са звыклым пераможна-лагодным выглядам, то праз колькі тыдняў увесь двор заўважыў, што ён перамяніўся — стаў злосна-раздражнёным, часта кпіў, а жартачкі яго наконт кабет былі зласлівыя і балючыя, як укусы позніх асенніх мух.

Але яна не зважала на тое. І аднойчы, позным вечарам, калі падталыя за дзень ледзяшы са звонам падалі з верхніх байніц, а я, захлынаючыся тугой, глядзеў на агеньчыкі трокскіх хат, дзе дзеці сядзелі з бацькамі і дзядамі за вячэрай альбо баялі казкі, прадучы кудзелю, маладзіцы, па калідоры пачуліся лёгкія крокі. Нехта бег, і мой сокал ледзь утрымаўся на жэрдцы, калі з размаху ўляцела да мяне расчырванелая Гайна. Ён

залапатаў крыламі, і я ледзь паспеў ухапіць яго за крыло, калі ён рынуўся быў на госцю.

Дзяўчына плакала. Слёзы цяклі па шчоках, як бярозавы сок сцякае па ствале — часта-часта, не спыняючыся. Я падсунуў ёй крэсла, яна ўпала ў яго.

— Ён не дае мне праходу, а зараз ледзь не зацягнуў у грыдніцу. Сказаў, што прышле да бацькі сватоў у Гародню. Але я не хачу. Не хачу!

Я нават не пытаўся — хто. Толькі працягнуў ёй белы паркаль, якім выціраў крыштальны пацік[13]. Туга раптам пакінула мяне, а пакой мой адразу стаў прасторным, як тронная зала.

— Супакойся. Тут цябе ніхто не кране.

— Тут! Але ж мне не выйсці з пакояў Ганны, каб ён не цікаваў дзе-небудзь паблізу. Што мне рабіць? Ты сказаў, што можаш мне дапамагчы.

— А ты не хочаш замуж за Дамарата? — запытаўся я асцярожна. — Для твайго бацькі гэта быў бы вялікі гонар — мець сватам самога маршалка.

— Хіба каханне мае прыдворныя рангі? — запыталася яна нечакана.

Я сумеўся.

— Так прынята ў людзей.

— Але ж ты жрэц. Ты ведаеш волю багоў. Хіба Ярыла пасылае больш промняў на маршалка альбо ягонага сына, чымся на апошняга жабрака?

Дык, значыць, яна сапраўды кахае Давыда! Толькі яно, каханне, магло падказаць ёй гэтыя словы. Дзве рэчы робяць чалавека мудрым — веды, памножаныя на духоўную дысцыпліну, і каханне. І калі першага трэба дабівацца, можа, усё жыццё, то другое прыходзіць само, нечакана, неспадзявана, як... як маланка.

Яна чакала адказу. Тады я ціха прамовіў, гледзячы ў яе заплаканыя вочы:

— Я ведаю, пра каго ты думаеш. Можа, хочаш, каб я запытаўся ў багоў, што чакае цябе — і яго?

Яна ледзь прыкметна здрыганулася, але адказала проста:

— Што ж, папрасі. Калі багі скажуць «не!», я... я не змагу жыць.

-— А калі яны абвесцяць, што ты будзеш з ім?

Яна апусціла галаву.

— Калі я застануся з ім, гэта будзе значыць, што Бірута памрэ. Чакаць ейнае смерці?!

Я раздумваў. Легка сказаць — памагу. Маршалак пашле сватоў у Гародню, і бацька загадае ёй выходзіць за Дамарата. Нездарма ж ягонае імя значыць «слаўны пакарыцель». Скарыць гэтую крэпасць здаецца маршалкаваму сыну не так і складана. Да таго ж яшчэ трохі — і сама княгіня, можа, загадае дзяўчыне выходзіць за гэтага жаночага пестуна. Яны растопчуць гэтую кветку, хаця кожны нібыта хоча ёй дабра.

...Але гаданне мае не дало вынікаў — багі мне не адказалі, колькі я ні прасіў. Можа, таму, што надта ж хацеў даведацца пра ейнае будучае, а служка павінен быць свабодным: толькі тады нябёсы схіляцца над ягонай галавой.

Таму ў наступны раз, калі зноў прыйшла яна да мяне з просьбай аб дапамозе, я прапанаваў:

— Ці хочаш ты стаць маёй памочніцай? Тады ніхто не прымусіць цябе шлюбіцца з Дамаратам.

— Жрыцай Перуна? — у фіялкавых вачах мільгануў спалох, шчокі запунсавелі. — Але ж гэта значыць, значыць...

Яе не вабіла вечнае дзявоцтва. Ёй прагна хацелася шчасця.

Тоўстая кніга на стале, у якой, намаляваныя чарнілам з арэшкаў алешніку, таемнымі лініямі перапляталіся шляхі зораў і людзей, наганяла на яе жах. Я супакоіў прыгажуню:

— Ты будзеш усяго толькі даглядаць свяшчэнных змей. Прыносіць ім малако.

— Ты думаеш, мяне адпусціць княгіня? Яна абяцала бацьку клапаціцца пра мяне. А яна ж хрысціянка.

— Я не буду забараняць табе хадзіць у царкву. Зрэшты, сам вялікі князь, у душы язычнік, дазваляе сваёй жонцы будаваць храмы. І касцёл у Троках падтрымлівае. Бог — адзін. Мы проста ўсе бачым яго па-рознаму.

Яна глядзела на мяне з сумненнем.

— Ты не станет мяне прымушаць браць удзел у абрадах?

— Не. А карміць змей — гэта тое ж, што і іншае жывое стварэнне. Сокала, напрыклад.

Мой Фальк спаў, хаця пры гэтых словах страпянуўся, жоўтае пер'е вакол вачэй заварушылася.

— І тады сын маршалка супакоіцца?

— А што яму застанецца рабіць? Жрыцу ніхто не пасмее зачапіць. Нават сын маршалка. Нават бацька над ёю не мае ўлады.

Яна вагалася.

Я паціснуў плячыма.

— Што ж, ты можаш стаць пані маршалковай.

— Не!

Яна проста выкрыкнула гэта, і Фальк зноў страпянуўся.

Тады яна ціха папрасіла:

— Праводзь мяне да пакояў Ганны. Не хачу зноў яго сустракаць. І каб жа ён адзін чапляўся!

Я накінуў на плечы карзно. У калідорах замка гуляў скразняк, смаляк у маёй руцэ трапятаў, як чырвоны каснік. Няроўныя пліты чапляліся за скураныя поршні, халадзілі ногі.

Яна ляцела наперадзе — у плашчы, падбітым рыжай лісой, светлая каса матлялася па цёмным сукне. Ледзь паспяваючы за ёю, я даклыгаў да паварота, там гарэла лучына ў зажыме, але наперадзе зіркала варожая цемра.

— Як ты трапіла ў гэтае крыло?

— Мне перадалі загад — прыйсці па Ганну. Яна заседзелася ў маці. Але аказалася, што яна была ў княгіні Марыі. Калі я вярталася...

У мяне сціснулася сэрца. Яе сапраўды ўпалююць, як... як гэтую лісіцу, што грэе цяпер ейныя плечы. Чарговы слуга перадасць, каб яна прыйшла туды, дзе да мяне не дабяжыш.

За прыгажосцю ў гэтым свеце палююць гэтак жа, як і за грашыма, за ўладай, за задавальненнямі. Ёй не выжыць тут адной, без бацькі, без брата. А і з імі не надта лягчэй. Тут, у гэтым замку, сабраліся больш магутныя паляўнічыя, і іх не ўтрымаюць зямныя законы. А князю Гедзіміну, нават калі я папрашу для яе абароны, будзе не да дзяўчыны Гайны, нават такой чароўнай, як сама багіня кахання. У яго — крыжакі, рыжане, мазавецкія князі Земавіт і Тройдзень, маскоўскі князь Іван Каліта, польскія землі і папа. Яму трэба шукаць, як абыходзіцца з кожным, чаго ад іх чакаць і як адказваць. Ён і так падбірае пад сябе землі і абараняе іх. Пры ім Вялікае княства паступова, але няўхільна расце.

Не дапаможа і Еўна. У яе — дочкі, якім трэба рыхтаваць пасаг, якіх трэба даглядаць, вучыць іх мовам, музыцы,

палітыцы — у той ступені, каб яны маглі гаварыць аб ёй з мужамі. У яе сыны, якім трэба шукаць нявестак, такіх, напрыклад, як Марыя Віцебская, што прыносілі б Вялікаму княству новыя землі, а не дзялілі іх. Хаця і глядзяць Алелькавічы, Друцкія, Глебавічы, Гальшанскія, Кішкі, Радзівілы, Сапегі на маладых княжычаў, палюючы на іх, каб сасватаць за дачок ці сясцёр, аднак не з імі трэба радніцца княжычам. Столькі сыноў у Гедзіміна! Калі кожнаму аддаваць па надзелу, можна зусім раздрабніць княства.

І каму тут справа да гэтай дробнай птушкі, якая ляціць наперадзе мяне па цёмным, змрочным калідоры, дзе зараз не бачна ніводнага слугі? А яе чакалі. Вось там, дзе новы паварот вядзе ў вежу, нехта хаваецца. Я чую крокі і шыпенне факела, які тушаць нагой. Паплыў пах гарэлага, а яшчэ вісіць у паветры нейкі іншы — не, не пах, але адчуванне, якое мяне не ашуквае — пажадлівасці і злосці.

— Калі да цябе яшчэ нехта з гэтых малойчыкаў падыдзе, я напушчу на яго чорную немач, — кажу я гучна. За паваротам чуваць сапенне, але я не зазіраю туды. Дамарат і пара яго хаўруснікаў ці слуг — вось хто там стаіць.

Яна ляціць, не слухаючы нічога.

Я не ўратую цябе сваімі словамі, птушка. Пажадлівасць мацней. Ен, можа, будзе трэсціся ад страху, але ўсё роўна пастараецца цябе ўпаляваць.

Што ж, трэба ісці да Гедзіміна.

Ён спачатку не згадзіўся на маю прапанову.

— А ў княгіні ты пытаўся? Гэта ўсё ж яе, бабскія справы, — адарваўшыся ад мапы, пытаецца з незадавальненнем. Я яго разумею — учора галоўны каморнік даводзіў, што трэба ўздымаць падаткі на соль, каб купіць тры сотні ручніц. Новая гэтая зброя пакуль надта дарагая, а княскія аружэйнікі яшчэ толькі асвойваюць незнаёмыя прылады. Наша руда занадта

мяккая, жалеза з яе разлятаецца пасля некалькіх стрэлаў.

— Валхваванне — не бабская справа, — кажу я сярдзіта.

Прадказанні, звяздарства — гэта мае, толькі тут я магу спрачацца з Гедзімінам.

— Я змушаны прасіць цябе аб дапамозе. Свяшчэнныя змеі не ядуць мышэй, я мяркую, што памочніца парушаная. Нехта з замкавых каморнікаў прыходзіў да яе.

— Дык загадай яе сцяць горлам! — Гедзімін адкідае сціло, ваявода і маршалак адступаюць ад стала, у іхніх вачах спалох.

— Але ж ад гэтага змеі не стануць есці. Мне патрэбна замяніць дзеўку, іначай каляднае ахвярапрынашэнне прыйдзецца адмяняць. Гайна — найлепшая. А маладой князёўне можа прыслугоўваць і не цнатліўка.

Гедзімін сціснуў рот, абрублены мезенец стаіць кручком. І ён злосна тыцкае ў мяне гэтым кручком:

— Тху ты, нячыстая сіла! Згодны. Але ты знойдзеш Ганне другую, такую ж чыстую дзеўку. Не хачу, каб князёўнаваждалася з тымі, хто на Купалле пад быка[14] падсцілаўся. Ганьба мне будзе, калі хрысціянскаму гаспадару аддам дачку парушаную.

Я ведаю, што яшчэ пяць гадоў таму Гедзімін хадзіў на Купальскія гульбішчы, праўда, тайком ад княгіні. Шаленства гэтай начы надоўга супакойвае пажадлівасць, агонь жа ачышчае ад прагі крыві і залішняй ваяўнічасці. Але пярэчыць яму не выпадае.

— Дык вялікі гаспадар дазваляе забраць Гайну, дачку Рацібора?

— Яшчэ і бацька можа скардзіцца. Давыд яго шануе... — раздумвае Гедзімін. Але я радасна цалую яму руку.

— Дзякую, вялікі князь. Мне пристала першаму думаць

аб трэбах.

— Ёсць для таго галоўны жрэц! Ты ўсяго толькі звяздар! — усё яшчэ гневаецца Гедзімін. Але скалечаны яго мезенец апускаецца, і маршалак з ваяводам зноў падступаюць да стала. Навальніца прайшла. Можна зноў абмяркоўваць, колькі валоў давядзеццца гнаць за войскам, калі ісці пад Рэвель, і колькі фурманак з зернем і гарохам спатрэбіцца на харч, калі будуць палонныя.

Мая мэта дасягнутая. Але нечакана ўзбурылася княгіня.

— Ты хрысціянку хочаш зноў у паганства вярнуць! — крычала яна. — Мала табе іншых дзевак ў Троках! Што я буду казаць Давыду?!

— Калі я гадаў на будучую памочніцу, я бачыў у сне Гайну, — смірэнна адказваў я на кожны ейны гнеўны вокліч.

— У сне, у сне! У сваёй матне ты бачыў яе! — бушавала яна. — Дзяўчына радуе нас тут, хлопцы за ёю гужам. Замуж бы аддала яе за знатнага пана. А то застанецца ў дзеўках....

Ёй падабаўся Дамарат, і яна не пайшла б наперасцігі, каб гэты певень выдзеўб сабе жаданае шчасце. Яна аднойчы бачыла яго ў аплеччы, латах, панцыры і пры суліцы, і калі ён зняў перад ёй свой шалом, княгіня ўздумала яго сабе гэткім жа далікатным і ў жыдці. А ён жмундзяк і характару, як баволна, — тыцкай агромністы куль, таўчы яго, а ён толькі прымнецца, а пасля зноў выпростваецца.

Яна нарэшце сціхла. Папрасіла настою апіевай[15] травы, прагна выпіла. Задумалася.

— Глядзі, які аскітнік. А красуню выбраў. Мне ж таксама хочацца бачыць каля сябе, пры двары, кветачкі, а не старыя пасохлыя сукі.

— Ёсць тут дастаткова дзяўчат і кабет. Вунь

Прадыслава адна чаго вартая.

— Прадыслава! Надакучыла яна мне. Цяжкі ў яе характар. А гэтая — лёгкая, як алянятка. Я ўжо збіралася ёй сукню з араша заказаць краўцам. Але цяпер ты апранаць яе будзеш. На гэткую красачку накінеш пасконне...

Я перадыхнуў з палёгкай і хацеў быў ісці.

— Пачакай, — ласкава прамовіла княгіня. — Калі ты сабраўся да мяне, я ўзгадала, што не аддзячыла табе за лекі, якія ты даў Ганне. Яны ёй дапамаглі, як ніякія іншыя. Хадзі сюды...

Калі я наблізіўся, яна дастала нешта са складак сукні, заціснула мне ў руку, а пасля махнула хусткай да дзвярэй — разьбяных, з пазалотай на мордах ільвоў.

У бэзавым зімнім вечаровым святле я ўбачыў залаты медальён. Абярнуўся. Але княгіня ішла ў процілеглы бок, яе паходка была грузнаватай, нібы несла яна на сабе частку цяжару самога вялікага князя.

Знак той аказаўся прарочым. Уначы ў галоўным свяцілішчы Перуна памёр Галігін — ціха, спакойна, папрасіўшы сатварыць над ім усе патрэбныя абрады. Жоўты, як скамечаны твар, калі дыханне адлятала з ягоных вуснаў, быў надзіва лагодным, урачыстым, і нейкія нібыта праблiскі радасці прабіваліся на ім, як водсветы блізкага Ірыю. А пасля яго абмылі, апранулі ў святочнае адзенне і паклалі ў дубовую калоду, паабапал якой на стале ляжалі яго чараўнічыя бомы, жэзл з арэшыны, стаялі сасуды з зернем і свечы.

Пад раніцу на нейкі час мы засталіся ўдвух — ён ляжаў у жаўцюткай, як вераснёўскі мёд, калодзе, з насунутым на высокі лоб каўпаком, цені трапяталі на запалых шчоках. Я думаўаб душы, што блукала па цёмных, страшных сцяжынах, дзе цікавалі пачвары і жахлівыя здані-ваўкалакі, каб высмоктваць з памерлых мозг і выпіваць вочы, і душыць, і захіляць вечнае святло. Што адкажа душа Галігіна на Страшным судзе, калі будуць у

яе пытадца, ці выканала яна запаветы Адвечнага? Што ўспомніць са скарацечнага зямнога жыцця, якое сталася для вярхоўнага жраца пад канец занадта доўгім і цяжкім?

Мне было нялёгка з ім, і таму побач са смуткам паціху прабівалася ў душы палёгка.

Не будзе нада мной старэчага скуголення, а побач — паху плоці, якая паступова ператвараецца ў нешта студзяніста-шэрае, цяжкае і балючае. Ніколі не стану такім. Забрыду, як звер, у гушчар і застануся там, пакуль зямля не ўсмокча мяне назад.

Але пакуль трэба жыць. Настройваць сябе кожны дзень на радасць. На змаганне з усім злом свету...

## Вярхоўны жрэц

Вышэйшая Рада жрацоў — сем мудрых старцаў — упершыню сабіралася ў былым Крыў-горадзе, ці, як яго называлі цяпер ва ўсіх княжых пасланнях, Вільні. Капішча Перуна, вярхоўнага бога, было тут зусім не старажытным: самыя старажытныя капішчы краіны былі ў Полацкай зямлі і ў Нальшчанах, дзе вось ужо тры стагоддзі абіраліся новыя вярхоўныя жрацы.

Але на гэты раз Гедзімін прасіў зрабіць іначай. І калі я прыбыў туды разам з Гердзенем, то адчуў, што жрацы настроены ваяўніча — даўнія іхнія правы ўшчамляліся ўладай.

Тут, у Вільні, свяцілішча месцілася пад гарой. Раней гэта было зручна — гара закрывала ад паўночнага ветру. Калі выходзілі на дах круглае будыніны, здавалася — свяшчэнныя дубы, што атулялі капішча, сягалі да неба. Цяпер, калі ўверсе будавалася вежа, мы ўсе нібыта сядзелі пад князем, і гэты злавесны знак выклікаў у святароў усяе Гедзімінавай зямлі і страх, і жаданне паставіць на сваім.

Некаторых жрацоў я ведаў — яны не раз прыязджалі ў Трокі, мы разам маліліся Перуну і Дажбогу, Вялесу і Марэне, Мокашы і Рагуцісу. Ведаў і сем жрацоў Вярхоўнай калегіі, мудрых старцаў, хаця бачыць іх можа не кожны жрэц — яны жывуць у аддаленых свяцілішчах і не часта збіраюцца разам. Усе гэтыя старцы маюць за сотню гадоў, некаторыя з іх — Рош і Радзівой — былі і вярхоўнымі жрацамі, але пасля сышлі ў цішыню, даўшы дзесяцігадовыя абеты маўчання, каб абтрэсці з сябе грахі, якіх набраліся падчас свайго служэння. Той тэрмін скончыўся, але і Рош, і Радзівой ужо не размыкалі вуснаў. Ды гэта не мела значэння, бо абодва мелі дар разумець без слоў. І якраз яны абодва і вызначалі здольнасці будучага вярхоўнага жраца.

Дзесяць жрацоў, кожны з якіх мог стаць вярхоўным над усімі, былі вызначаныя імі ў свяцілішчах краю — усяго дзесяць. Але гэта быў толькі пачатак. І сёння мудрыя старцы павінны былі абраць усяго трох, якія прадоўжаць выпрабаванні ў старажытнейшым лабірынце, у самым гушчары бароў пад Вевярэйскам.

Мы стаялі перад імі — Шварна[16] з Крыў-горада, Гедр з Аўкштайціі, жрэц багіні Аўшры, яшчэ шэсць жрацоў, якіх я не ведаў, і старэйшы за нас гадоў на дзесяць святар з Жамойці Ун. 1мя яго з незапамятных часоў прайшло праз гісторыю сыноў Роша-леапарда і значыла «юны», хаця гады і суровая школа жрэчаства сагнулі яго магутныя плечы і забралі чорны колер у капны густых валасоў і барады. Ён быў увесь сярэбраны, але вочы былі надзіва яснымі — шэрыя кружочкі на сіняве бялкоў пранізвалі субяседніка, доўгія рукі, падобныя на лапаты, былі сплеценыя ў жэсце, што азначаў пакорлівасць і ўвагу. Шварна, перабіраючы каралі з зубоў кабана, увесь час ціха ўсміхаўся — ласкавы, лёгкі, ветлівы, але і ягоны позірк быў як лязо нажа, схаванае ў похвы. Я, як і ўсе, быў апрануты ў белую доўгую кашулю, а таксама доўгі плашч, зашпілены на шыі бронзавай фібулай, але на маёй шыі грузнеў залаты медальён — падарунак княгіні, і я адчуў, як над сталом прашалясцела, як няўлоўны подых ветру, незадавальненне. Мудрыя старцы золата не любілі — я

здагадаўся аб тым пазней.

Старцы сядзелі — усе як адзін стончаныя часам. Як лёзы сярпоў, якімі доўга, з пакалення ў пакаленне, жнуць цяжкое, высокае жыта. Дзіўнымі для нас, зразумелымі толькі ім, былі іхнія распараджэнні — зняць абручы з галоў, расплесці вяровачкі на шыях, якімі сцягваліся кашулі, выбраць сабе плашчы са стоса, прынесенага служкам!.

Дзіўна было і тое, што мне і яшчэ чатыром загадалі зашпіліць плашч унізе, па сцёгнах, — ды не адной, а дзвюма зашчапкамі. І я стаў падобны да хрушча — бакі мае раздаліся ўшыркі, пагрузнелі. Гедр жа падобны быў на Жыжаля — каратканогі, чырванашчокі, з доўгай шэрасівой пушыстай барадой, і адзіным упрыгожаннем на ім быў шкляны крышталь, якім запальваюць агонь. Яго давялося зняць, як і мой медальён, як і каралі Шварна. Нішто не павінна было нам дапамагаць — толькі воля і прыязнасць багоў.

У самым канцы залы, на стале, ляжалі скруткі з бяросты, усяго дзесяць. Кожны з нас павінен быў выбраць свой, прачытаць надрапаны старажытнымі рунамі загад і ісці яго выконваць.

Я падышоў да стала чацвёртым. Чырвоную нітку, якой была завязана непакорлівая бяроста, давялося парваць. Калі я прачытаў тое, што там было напісана, спачатку не паверыў сваім вачам: трэба было ўзысці на вежу Гедзіміна і... кінуцца ўніз! Можа, я памыліўся? Даўно не чытаў старажытнага рунічнага пісьма — болей карыстаўся вяроўчатым. Магчыма, вось гэтая руна значыць — возера? Кінуцца ў возера — гэта зусім не тое, што з высачэзнай вежы. Але, помніцца, што такая руна азначала не возера — гару.

Ногі мае сталі цяжкімі, яны наліліся страхам, вязкім, як балотная Я крадком зірнуў на мудрых старцаў, што моўчкі сядзелі вакол стала — чырвоныя іх кашулі рэзка кантраставалі з сівізной барод і беллю каўпакоў на галовах. Але што яны маглі мне яшчэ сказаць?

І я пайшоў — пайшоў насустрач гібелі, насустрач небыццю.

Смерці я не баяўся — баялася маё цела, яно крычала, маліла: далей адсюль, зашыцца ў цішыню і бяспеку! Я нават здзівіўся таму, як моцна сядзіць у чалавеку гэтае пачуццё самазахавання. Колькі разоў глядзеў я ў вочы смерці, але яна была чужая, не мая, і таму я здаваўся сам сабе недасягальным для гэтага иершабытнага, сляпога, дзікага страху. Але воля гнала наперад, наверх, на вежу, па каменных прыступках, праз пакоі варты. Нарэшце я забраўся на самы верх, дзе шалёна свістаў вецер, аблокі слаліся нізка-нізка над галавой і адкуль неаглядна, на ўсю даліну, бачыліся пабурэлыя вяршаліны дубоў. Апошні раз я глянуў на бяросту, апошні раз запытаўся ў багоў: возера ці гара? Але яны маўчалі. Тады, яшчэ раз скалануўшыся ў роспачным жаху і тут жа паслаўшы сваё цела ў бездань, я скокнуў наперад...

Я задыхнуўся ў халодным ледзяным патоку і амаль аслеп. Некалькі доўгіх, як само жыццё, імгненняў я падаў, падаў уніз, і ў вачах пранесліся твары многіх, нават і забытых мною людзей, размовы ля вогнішча пасля палявання, вялікі князь Гедзімін, які здымае мяне, дзіця, з дрэва, Тайна, якая ўваходзіла ў залу ў Новагародскім замку, Гердзень, што спалохана тарашчыўся вішнёвымі бліскучымі вачыма на свяшчэнных змей...

Я не ўрэзаўся ў зямлю і не разбіўся. Вецер надзьмуў плашч, а бронзавыя фібулы вытрымалі ягоны напор і толькі пагнуліся пад цяжарам майго цела. Я паспеў ухапіцца за пругкую галіну агромністага дуба, міма якога пралятаў і, спружыніўшы, гахнуўся аб іншыя, меншыя. Калі б плашч не надзьмуўся пад ветрам, я, мабыць, разбіў бы аб сукі галаву. Аднак волі багоў на тое не было...

Калі я прыплёўся назад — кульгаючы, абадраны да крыві, з вялікім пісягом на шчацэ і знямелай левай рукой — убачыў, як пацяплелі вочы ў мудрых старцаў. Мяне завялі ў лякарню — там, на лаўцы, ужо ляжаў

Шварн, чыё акрываўленае цела расціралі настоем асінавых шышак юныя жрыцы. Ён мусіў таксама выбіраць: ратаваць дзіця ад раз'ятранага мядзведзя ці не? — і змог справіцца са зверам, але сілы зусім пакінулі пахолка, і ён змог толькі плюснуць вачыма — у знак прывітання.

Вытрымаў выпрабаванне і Ун — пагружаны мудрымі старцамі ў чараўнічы сон, дзе яму давялося перажыць адзін з жахлівых момантаў свайго жыцця, ён даказаў сваё права на духоўнага правадыра: адмовіўся ад пометы за згвалчаную баярынам сястру і выбраў дараванне.

З астатніх жа трое загінулі: іхнія плашчы не былі падколатыя фібуламі, багі адвярнуліся ад іх і не абаранілі. З астатніх чацвярых хто памыліўся ў прачытанні рунаў, хто не рашыўся рызыкаваць жыдцём і, спалохаўшыся, павярнуў назад. Гэта значыла — яны ніколі больш не вернуцца ў свяцілішчы...

Шварну ж, Уна і мяне віталі вянкамі з дубовага лісця і святочнай вячэрай. Упершыню нам далі пasпрабаваць дзівоснага напою, аб якім шапталіся жрацы, што ён не толькі вяртае сілы, але і доўжыць жыццё. Заўсёды піць яго маглі толькі мудрыя старцы, вярхоўным жа святарам дазвалялася тое толькі падчас вялікіх святаў. Карычневы, ледзь гаркавы напой цяжка пахнуў кветкамі, але я не змог вызначыць, якімі. Заўважыў толькі, што мае парэпаныя, падрапаныя рукі і плечы перасталі смылець, боль аціх, як пасля макавага адвару.

На кароткі час мы вярнуліся назад, але мусілі неўзабаве ехаць у храм Перуна, што быў пабудаваны амаль у той жа час, што і старажытнейшы храм славянаў на Руяне — сённяшнім Ругене, разбураны дашчэнту. Там былі дзівосы, якім зайздросцілі ўсе іншыя храмы — люстэрка, якім у поўню можна было прасвяціць чалавека і ўбачыць, дзе ў ім звілі гняздо чорныя сілы, вялікую мапу з зоркай Арконай, якой пакланяліся продкі ў векапомныя часы і якая цяпер свеціць у іншай частцы неба, а таксама залатую чашу, у якой самі па сабе збіраліся кроплі пітва багоў, якімі можна было

вылечыць любое скуллё, што раз'ядала цела. Я збіраўся туды з хваляваннем — нават вялікі князь не мог без спецыяльных абрадаў зайсці ў тайная тайных гэтага свяцілішча і пакратаць нейкую са святых рэчаў: ударам маланкі забіваў вялікі Пярун любога кашчунніка.

Храм той стаяў на высокай гары сярод пракаветнага лесу, і ўнізе, як бронзавае люстэрка, ляжала возера, а на тым баку возера туліўся пагорак. Адтуль ўставала сонца, і першыя промні яго падалі на макаўку драўлянага, з залатымі насечкамі па плячах Перуна, што глядзеў удалячынь чорнымі, з каштоўнага агату, вачыма. Тады працяжны, нізкі гук праносіўся над возерам, над вяршалінамі дубоў і ялін. Наступаў новы дзень, які павінны былі спецыяльным гімнам-спевам вітаць усе насельнікі свяцілішча, сярод якіх шмат было хворых і нямоглых з усяго нашага краю. Яны першымі пабеглі да нас, калі мы, трое жрацоўпрэтэндэнтаў на галоўнага святара княства, выйшлі з вазка ля першай брамы свяцілішча пад гарой. Падаючы, стараліся яны пацалаваць плашч, папрасіць блаславення. І гэта давалася кожнаму з нас нялёгка — мы не павінны былі растрачваць сілы.

Тыя, апошнія, іспыты былі такія ж старажытныя, як і сама гісторыя жрэчаства, і не кожны мог іх вытрымаць. На лязе паміж жыццём і смерцю трэба было прайсці, і той, хто прыходзіў першым, рабіўся вярхоўным жрадом. Але часта бывала і так — паміралі ўсе, хто ішоў на выпрабаванне, і тады праходзіў год, калі мудрыя старцы бралі на сябе ўпраўленне і выбіралі, хто дастойны зноў спрабаваць свае сілы.

Унізе, пад свяцілішчам, каменнай спіраллю ляжаў лабірынт. Апроч сямі мудрых старцаў увайсці ў яго маглі толькі тыя, хто праходзіў іспыты. Астатнія, хто спрабаваў пашукаць скарбы альбо зведаць старажытныя таямніцы, адтуль не выходзілі, і ніхто не ведаў, як сустрэлі яны сваю смерць. Але нават не гэта было самым жахлівым: душы рабаўнікоў не маглі трапіць у Ірый, яны асуджаныя былі вечна блукаць паміж верхнім і ніжнім светам і не знаходзіць сабе

спатолі.

Тры дні мы, трое выпрабаванцаў, не елі ані драбочка ежы, толькі пілі ваду са святой крыніцы і чыталі спецыяльныя ачышчальныя малітвы.

Ночы былі зорнымі, і, выходзячы са свае келлі апоўначы, я глядзеў на зорку Мілавіцу, што ў гэты час рабілася найярчэйшай на ўсім небе. Яна трапятала, мігцела ў чорным бяздонні — светлая, поўная жыцця і сілы, і мне, калі я заплюшчваў вочы, мроіўся чамусьці твар Гайны. У душы не было хвалявання, толькі сум — такі ж светлы, як гэтая зорка кахання. І я дзякаваў багам за тое, што прыйшоў сюды, на зямлю, дзе кожная зёлка, кожная казюрка радуецца сонцу і валодае часцінкай вечнай прыгажосці. І ніхто не пытаецца, навошта ён тут, бо знаццё тое закладзена ў кожнай часцінцы жывога. І толькі чалавек страціў сваю сувязь з існым, толькі ён можа адчуваць сябе няшчасным, бо варагуе адзін з адным, бо незадаволены тым велізарным багаццем, якое яму дадзена.

У такія хвіліны я раздумваў, ці варта мне ісці на іспыты, ці магу я спадзявацца на літасць багоў. Што, калі гэта промні Чорнага Сонца варушаць душу, а не воля Прадвечнага? Ці правільна я разумею тое, што штурхае мяне, ці, можа, іду насустрач гібелі, у той час як можна проста жыць, проста захапляцца вечнай, неўміручай Прыгажосцю, якою перапоўнены свет?

Пад раніцу Мілавіца мянялася. Яна цяжэла, і не залатой, а зеленавата-жоўтай кропляй нябеснай расы пералівалася над самым краем неба, нібыта сталела за доўгія хвіліны, што і мне то здаваліся бясконцымі, то пралятАлі як імгненні. На зыходзе трэцяй ночы нешта як абарвалася ўва мне, і я адчуў, што гатовы ісці ў лабірынт...

Шапаткія сцены сцераглі кожны крок і адгукаліся няўлоўным гулам. Можа, ад таго, што высока ў кутах шэрымі мяшкамі віселі сонныя кажаны. Мой смаляк чадзіў, яго магло хапіць на самы кароткі час. Сапраўды — не паспеў я прайсці праз вялікую галерэю, дзе на

двух скурчаных, як бы вывернутых нейкай нетутэйшай сілай шкілетах бліснулі металічныя нажы, як стала цёмна. Не, нават не цёмна — на мяне абрынулася такая непрагляднасць, такая чарнеча, нібыта я трапіў ў самую сярэдзіну Чорнага Сонца, таго, якое свеціць у апраметнай. Я спыніўся.

«Павярні леваруч!»

Голас прагучаў так блізка і выразна, што я здрыгануўся, кашуля на плячах пацяжэла. Гэты голас не належаў чалавеку, ён быў нежывы і раўнадушны. Можа, гэта нежыці, нячысцікі гуляюць са мною? Можа, гэта багіня смерці Марэна кліча мяне ў абдымкі?

«Хто са мной гаворыць?»

Голас мой прагучаў у пустой — несумненна пустой! — прасторы. Нікога не было побач. Але ж я чуў яго!

Хвіліны цяклі, трэба было на штосьці рашацца. А можа, усё гэта памроілася? Адзін няверны крок — і ўсё скончыцца.

Я пайшоў налева, і там сапраўды была шчыліна, у якую я і праціснуўся. Крок за крокам, абмацваючы перад сабой дарогу, цягнуўся я па вузкім лазе, дзе плечы мае, варта было хіснуцца, дакраналіся да адсырэлых камянёў. Пот ліўся з мяне цурком, кашуля даўно была хоць выкручвай. Але часу на тое не было.

«Направа!»

Зноў той жа голас, але цяпер здалося, што прагучаў ён ува мне. А што, калі не паслухаюся, пайду наўпрост?

Два крокі — і я ледзь паспеў адхіснуцца, адкаціцца назад: бездань, куды я ледзь не зваліўся, азвалася шапаценнем, стогнам, як агромністы звер, гатовы заглынуць усе жывое. Тады асцярожна павярнуў направа, і зноў там аказалася вузкая трэшчына, за якою хаваўся яшчэ адзін калідор.

«Хутчэй! Спяшайся!»

Цяпер я не пярэчыў. Голас прыходзіў унутр, і якраз у патрэбную хвіліну, як нехта мною кіраваў. Мудрыя старцы нібыта бачылі мяне скрозь усе гэтыя каменныя нагрувашчванні. І я прыспешыў хаду, набіраючыся ўпэўненасці, што ўсё пакуль ідзе так, як трэба.

«Стой!»

У вочы так магутна і так нечакана ўдарыла святло, што я міжволі сагнуўся, зашчыміўшы вачніцы далонямі.

«Глядзі!»

Разляпляючы, праз слёзы і імглу, павейкі, я ледзь не паваліўся на каменныя пліты ад відовішча, што паўстала перада мной.

У высачэзнай, нібы яна даставала да самога неба, зале, у якой не было сцен, а далячыні пераліваліся серабрысташэрым, свяцілася нясцерпным святлом гало. Калі я прыгледзеўся, убачыў — яно складаецца з незлічонай колькасці светлавых нітак, што наматаныя па спіралях, якія круцяцца ў тым шары з неверагоднай хуткасцю. Пакуль я, выціраючы вочы, жмурачыся, разглядаў гэтае вогненнае кола, нешта прымусіла мяне падняць галаву ўверх.

Там, над шарам, як серабрыстая здань, убачылася мне жанчына. Твар яе няможна было разгледзець, але відаць, што яна лунае над усім у зале, нібыта не мае вагі, нібы сатканая са святла і бляску. У левай руцэ яна трымала жэзл, на верхнім канцы якога круціўся каляровы шар, раскідаючы промні ва ўсе бакі.

Крык прымусіў мяне павярнуць галаву. Справа ад мяне курчыўся, хапаючыся за жывот, Ун. Злева, за сляпучым ззяннем, мне ўбачыўся — а можа, прымроіўся — Шварна. Пакуль я прыглядаўся да яго — а ў вачах, ды і ў галаве, усё плыло, цямнела, хісталася — нешта адбылося ўверсе. Я перавёў позірк на жанчыну — але шара пад ёй ужо не было, быў жоўты, жывы, пералівісты серп месяца, на які яна паставіла левую нагу. Святло ў зале прытухла, і нібыта праступіла з

самога паветра вогненнае кола, на якім заззялі зоркі. Іх было адзінаццаць — дванаццатая была на лобе жанчыны. Я пазнаў яе, магутную багіню, пра якую казалі, што яна апранутая ў Сонца і якую называлі то Мокаш, то Жытняя Баба[17]. Яе вышываюць на грудзях славяне, і тыя ж дванаццаць зорак па яе баках, бо ў ёй пачынаецца і канчаецца сіла жыццядайнасці, без якой немагчымае жыццё... Кола павольна круцілася, кожны раз новая зорка аказвалася на ілбе жанчыны і на нейкія імгненні застывала.

Кожнае тое імгненне ўрэзалася ў мяне назаўжды, нібы яго сапраўды выразалі на мне, як на граніце. Яно было доўгім, як жыццё, і разам з тым хуткім, як бліскавіца.

Я ўбачыў — раз за разам, — як зліваліся ў адно Зямля і Неба, нараджаючы незлічоную колькасць жывых істот, якія праходзілі па зямлі і затым знікалі ў вялізнай прорве. Убачыў Ірый і свет Чорнага Сонца, дзе плакалі душы ўсіх, хто некалі жыў на зямлі, убачыў таксама, што недзе, у страшнай глыбіні неба, ёсць і іншыя кроплі жыцця, непадобныя на нас. Адчуў, што мы збочылі з вялікай дарогі, па якой павінны ісці, і страшнай расплатай абрынецца тое на нашых патомкаў. І шмат чаго іншага, аб чым не магу гаварыць.

І ў той момант, калі мне здалося, што я спасцігнуў усе таямніцы свету, нешта апякло мяне злева, выбухнула цьмой цем аскабалкаў і пахавала мяне назаўсёды...

Я ачуняў ад промняў, што ласкава пагладзілі твар, прабіўшыся скрозь празрыстую слюду акна.

Насупраць мяне, на лаве, на касматай поўсці кабана, ляжаў непрытомны Шварна, правая яго рука, што звесілася ўніз, чырванела апёкамі, пальцы апухлі. Я перавёў погляд на сваё цела. Тое ж, толькі на левай руцэ, было і ў мяне, і якраз у той момант, калі я пабачыў сваё распухлае і нібы абваранае плячо, дзікі боль валам накаціўся на мяне так, што я ўскрыкнуў. У той жа момант расплюшчыў вочы і Шварна.

Нешта штурханула мяне ўстаць, і, мабыць, тое ж адчуў і

ён, бо бездапаможна затузаўся на лаве. Я, мабыць, быў усё ж мацнейшым — у той момант, калі ў пакой адзін за адным сталі ўваходзіць старцы, я стаяў, хаця ногі мае дрыжалі і млосць падступала да сэрца, а кашуля, як быццам каменная, цягнула ўніз.

Старцы глядзелі на нас, і Шварна таксама, хаця і калоцячыся, узняўся з лавы, пацягнуўшы за сабой скуру, што доўгімі валасамі прыліпла да ягоных ран. Але ён разумеў, што прайграў — на апошніх хвілінах, прапоўзшы, як і я, праз лабірынт і праз святло Жытняе Бабы. Але чаму менавіта да яе прыйшлі мы ўтрох?

— Вы прайшлі праз меч Перуна, таго не заўважыўшы, — адказаў адзін са старцаў, і я пазнаў гэты голас: ён вёў мяне праз лабірынт! Старац, кашчавай рукой адхіліўшы з ілба доўгія сярэбраныя космы, абвёў позіркам астатніх, і яны ківалі галовамі ў адказ. Я чуў іх галасы, хаця яны не гаварылі ўслых. Пачуў таксама, як дзіка закрычаў Шварна, адчайна пратэстуючы супраць таго, што зараз ён забудзе ўсё, што спазнаў у зале лабірынта і што павінен ведаць толькі вярхоўны жрэц. Ягоны крык абарваўся — вочы вешчых старцаў разам упіліся ў яго твар, які сказіўся, як тое бывае ў бешанцаў[18] ці лунатыкаў.

Праз нейкія імгненні страшна скрыўлены яго твар стаў спакойным, але ў поглядзе, якім ён акінуў мяне, пакідаючы пакой, стаілася нянавісць. І я зразумеў, што ўсё паміж намі толькі пачынаецца.

## Гаданне

Зараніца рассекла сваім вострым мячом цемру, і ў шчыліну хлынуў багрэц.

Я толькі што вярнуўся з капішча Перуна. Грамніцы — гэта ягонае свята, свята грому і ачышчэння, вясны і бурлівых сіл матухны-Зямлі, якая яшчэ не абудзілася, але ўжо адплюшчыла вочы пасля доўгага зімовага сну і пацягваецца пад бялюткай зімовай коўдрай, і валасы

мае, падпаленыя на галаве свяшчэнным агнём, яшчэ смуродзелі пахкім ядлоўцавым дымам. Гэтак жа — спераду, ззаду і па баках — падпаліў і я валасы на галовах жрацам галоўнага дзяржаўнага свяцілішча, а якраз зараз яны робяць тое ж з паствай, ачышчаючы яе ад цемрадзі і злых духаў. Пасля, забраўшы абпаленыя Знічам свечы, пойдуць гаспадары па хатах, еўнях, сенцах, каморах, абводзячы агнём сцены, а рэшткі свечак пакладуць да бажніц, каб прыберагчы да зажынак, да Юр'я, да памінак — увогуле, да любое цяжкае пары. Тады, калі прыйдзе яна, дапамагае грамнічнае святло пры хваробе ці родах. А то, калі памірае родны, можна ўкласці яму ў рукі і глядзець, куды пойдзе дым — за дзверы ці расцячэцца па хаце. Калі нясе пахкі струменьчык да парога — збірайся, чалавеча, у далёкую дарогу! Пакладуць тваё цела ў дубовую калоду, а душа паляціць у Ірый, каб там узважылі багі яе на вагах і паглядзелі, што ж рабіў ён на зямлі і чым аддзячыў ім за тое, што далі яму сонца і сосны, каханне і неба, і многае іншае, што дае пякучую радасць быцця...

Я задумаўся, гледзячы на марозны наст пад аканіцамі, і схамянуўся, калі сокал коратка махнуў крыламі, цяжка пераляцеў мне на плячо. Вачыма ў жоўтых пушыстых кругах ён разам са мною паўзіраўся ў жытнія зярняты, што ляжалі на нядаўна выструганым стале. Я не стаў запісваць на бяросце тое, што снег хутка растане, бо раніца на Грамніцы сцюдзёная — зраблю гэта пазней. Мне карцела гадаць: што чакае нас сёлета. І, хаця я не ведаў, што пакажуць мне багі, а можа, якраз таму, я ўсё роўна чакаў гэтае хвіліны з глыбокім хваляваннем, як заўсёды, калі нас чакае цуд.

Я ведаў: зародышавы канец зярнятак, той, адкуль прарастае сцябло, заўсёды скіраваны да поўдня. Не раз, збіраючыся наведаць тое ці іншае капішча, я браў з сабою жменьку — на лясных сцяжынках, дзе цікуюць Стрыга і Лясун, лёгка заблудзіцца.

Відаць, душу маю ўсё ж хвалявала не тое, ці прышле паслоў сюды папа рымскі, як таго хацеў Гедзімін.

Чамусьці, кідаючы ў прастору кліч багам, я нечакана для сябе задаў не тое пытанне, якое збіраўся. Вусны мае вымавілі іншае: ці вернецца князь Давыд з паходу? Ці вернуцца жывымі бацька Гайны і ейны брат?

Сонца, выбліснуўшы з-за хмары, лягло на маё плячо. Так, яны вернуцца. Але цяжэла ў маёй руцэ зерне, калі я прамаўляў сам сабе імя Давыда.

Дзе ён зараз, неўтаймоўны, гарачы князь, які некалі зусім юным пакінуў Пскоў, дзе па праве бацькі мог бы атрымаць стол — пакінуў, каб вярнуцца да жэглішчаў дзядоў, а зараз абараняе слаўны гэты горад ад Ордэна? Можа, кал ее недзе на ўзгорку, назіраючы, як нямецкае войска спрабуе клінам урэзацца ў ягонае войска і рассячы яго напалам? Можа, сёння, на Грамніцы, едзе па ссінелай, у цёмных палосах дарозе, згінаецца над талай вадой у калюжыне і пырскае ёю на разгарачаны твар?

Лава пада мной рыпела, калі я прыўставаў, каб яшчэ раз угледзецца ў цвёрдыя, жаўтаватыя зярняткі. Магутная сіла таілася ў іх — тая сіла і праз многія гады абудзіцца, варта толькі кінуць іх у зямлю, пагоніць у рост сцябло, прымусіць жыта красавацца і ўздрыгваць хвалямі пад ветрам.

Тая ж сіла віруе зараз у Гайне. Ейны час, ейная пара красавацца пад гэтым жамчужна-шэрым небам ранняе вясны 1323 года, хаця ідзе вайна з Ордэнам і Гедзімін у замку дыктуе чарговае пасланне папе ў Рым аб тым, што ён хацеў бы хрысціцца ў каталіцкую веру і ахрысціць свой народ. Але амаль увесь двор ужо праваслаўны, і паны-рада абурана шэпчуцца аб тым, што час збіраць сойм і аспрэчыць вялікага князя. Аб тым жа гавораць і язычнікі, якіх шмат у Троках, але яшчэ болей ў Вільні.

Зярняткі ў маёй руцэ сталі цёплымі. Вочы заплюшчыліся, нібыта іх намазалі мёдам. І, нібы з нейкае трубы, з далёкае цемры паўстала відовішча.

...Давыд ляжаў на мядзведжых шкурах, а малады

хлопец расціраў яму спіну тлушчам. Вузкае акенца ледзь прапускала святло, але было бачна, як набрынялі вадою навіслыя на рамах ледзяшы, як то святлеюць, то зноў цьмянеюць кінутыя ў кут нагавіцы і парты, прыціснутыя зверху цяжкім скураным шчытом і шаломам — мабыць, сонца то нырала ў хмары, то прабівала шэрае нізкае аблочча. Ваявода сядзеў ля дзвярэй, ягоная кальчуга была парваная каля горла, павязка на галаве закарэла ад крыві.

— Данясенне напісанае? — пытаўся князь, з натугай паварочваючы галаву, і я ўбачыў за ягоным вухам чырвоную, набрынялую блізну.

— Ганец ужо як тры гадзіны з'ехаў. Не турбуйся, Гедзімін заўтра ж будзе ведаць аб перамозе. Зноў Ордэн будзе скавытаць ад бяссілля, зноў будзе слаць да папы сваіх лісаў — манахаў. Але цяпер і вялікі князь іначай папе пісаць стане.

Давыд усміхнуўся і тут жа паморшчыўся ад болю.

— А існягіні напісалі? — запытаўся ён цішэй.

— Пані кашталянавай паслалі пергамент яшчэ раней, — азваўся юнак. — Я сам надрапаў яго, калі над полем твая харугва ўзвілася, княжа...

Я хацеў бліжэй угледзецца ў рану на галаве князя, але паплыў шэры туман, усё заклубілася, нібыта скручвалася ў вялізны світак, і разам знікла. Я адчайна не хацеў расплюшчваць вочы, але Фальк крэкнуў раз, другі, і я зноў апынуўся ў сваім пакоі, дзе пакачваўся крыштальны шарпацік і віўся сінявата-празрысты дым ад духмянай свечкі.

Я быў спустошаны, але радасць ахоплівала мяне. Апоўдні трэба быць у троннай зале, там Гедзімін прымае пасланцоў з Рыгі. І хаця гэта яшчэ не пасольства, аднак вестка аб перамозе Давыда будзе дарэчы. За радасную вестку я магу нешта прасіць у князя. І я ведаў, што капішча Перуна ў Вільні, дзе я хутка буду служыць свой першы ўрачыеты абрад

вялікага жраца, павінна быць не толькі захаванае, але і павялічанае. Я буду праеіць з княжацкае казны самацветаў, каб аздобіць драўляныя постаці Рода і парадзіх, а таксама каб аднесці жменю да багіні смерці Мары, прасіць яе адвесці ад княжацкае сям'і (і, вядома, ад мяне) свой страшны позірк. Я выйшаў, каб праверыць, ці гатовае ўсё да вячэрняга малення ў падземным храме, што месціўся ва ўсходняй частцы замка. А заадно і сказаць маёй новай памочніцы радасную вестку, аб якой яна прасіла яшчэ ўчора.

Гердзень схапіў кінжал, намкнуўся ўслед.

— Чаго тут баяцца?— запярэчыў я, убачыўшы, як ён на хаду зашпільвае скураны пояс з похвамі.— Гэта ж не бітва, тут усё-ткі замак.

— Няхай будзе, гаепадзін,— хлопец ўпарта трымаў руку на поясе.— Пераходы тут цёмныя і вялікія. Хто ведае, што можа чакаць?

Па калідоры гойсалі скразнякі, штурхалі ў плечы, абцягненыя суконным каптанам. Моцна запахла хлебам. Тут, унізе, размяшчаліся княжацкія каравайчаты і галоўная каравайніца Асея. Далей за яе пакоямі грыдніца, дзе жыве і гатуе адвары і парашкі княжацкі лекар Лось. Паміж ім і чашнікам Гневашам летась ішла ўпартая барацьба за тое, хто будзе гатаваць князю любімы яго аўсяны кісель. У кожнага з іх быў свой спосаб — у Лосевым кісялі болей малака, у Гневаша — мёду, які даводзяць толькі да закіпання і прыпраўляюць адной шчопцяй сухога святаянніку. Князь нават пытаўся ў мяне, чыё пітво смачнейшае. Я адказаў: і тое, і гэтае роўныя. Хай разбіраюцца самі. Вядома ж, усе ў палацы змагаюцца за тое, каб быць бліжэй да Гедзіміна альбо хаця б да ягоных дзяцей: «Усякі чорт на сваё кола ваду цягне», — кажуць у народзе. І гэта праўда. Мець княжую ласку — значыць упіхнуць у замак радню, бо толькі галоўны каморнік ведае, колькі лёкаяў, швачак, пральніц, нянек у палацы. І ўсё гэта — вушы, вочы, цікаўныя і ядавітыя языкі. Клубок з чалавечых памкненняў, пажадлівасці, юру, хоці... О, як прыцягвае гэта ўсё розных духаў — Дзедку,

што бліскае ў цемры вогненнай барадой і спакушае дурняў кладамі, якія ён сцеражэ і нібыта можа адкрыць! Дурняў — таму што людзі ніяк не навучацца таму, што за ўсё трэба плаціць, не даюць веры, калі золата асляпляе вочы, што плата будзе значнаю. Падумаеш, заплаціць сваёй душой! Што гэта такое? Пра гэта кажуць жрацы, але ж душы толькі зрэдзь паказваюцца смяротным людзям, і то чалавек схільны не верыць ні вачам, ні вушам альбо ж пасля хутка забывацца на ўсё жахлівае... Баяцца нас, лекараў альбо звездароў, называюць воблакапрагоннікамі, але бягуць і бягуць па дапамогу, а таго не разумеюць, што за душу сваю трэба баяцца болей і не аддаваць яе абы-каму. Бо ёсць чарадзейства злоснае, чорнае, страшнае, яно — на згубу і страту. Калі ж лекар парыць траву і чытае замову на святло, то выздараўлівае чалавек і паднімаецца да жыцця...

Я нячутна ішоў па доўгім калідоры, дзе ў канцы быў вялікі пакой для варты. Яшчэ здалёку пачуўся голас:

— Волаты-вялеты не ўсе пахаваныя ў курганах. Яшчэ калі немцы ледзь Навагародак не ўзялі, казалі людзі, што, калі б Гарыня дарогу не ачысціў, не паспеў бы князь так хутка на дапамогу.

— Ты скажаш — Гарыня! Гэта ж асілак, які каля Лаўрышава яшчэ пры Міндоўгу пахаваны! — пачуўся недаверлівы голас.

— А я табе кажу: людзі бачылі тыя дубы з коранем павырываныя. Тады ж дарога лёдам уся лягла, коні па ёй бы не прайшлі. Тады Гарыня новую дарогу зрабіў, і князь у тыл немцам зайшоў. Можа, ён з кургана падняўся!

— Ага, гэта можа быць! — зазначыў нехта хрыплым голасам. — Кажуць жа, што ён ведаў, калі памрэ, і сам сабе курган насыпаў. А пасля яго пад тым курганам і пахавалі, бо памёр якраз у дзень і час, калі сказаў.

— Хіба ён жрэц быў, што ведаў час сваёй смерці? — пачуліся галасы.

— Калі такі жрэц, як Ляздзейка, то, можа, ведаў.

— А што Ляздзейка? Занадта ён малады. Шварна куды мудрэйшы, аднак ён далека ад трона, а гэты побач.

— Ага, Гедзімін яго любіць.

— І княгіня.

— А Шварну затое жрацы падтрымліваюць. Не падабаецца ім Ляздзейка.

— Ага, ён нейкі дзівакаваты. У Новагародку сеў за тронам, як блазан.

— Жрацы і гусляры — яны ўсе не такія, як мы. І лепей пра іх не гаварыць, а то ператвораць у кажаноў.

Я параўняўся з расчыненымі дзвярыма і бачыў, як некалькі чалавек схапіліся за абярогі, а двое перахрысціліся.

Хацеў прайсці міма незаўважаным, але вартавыя мяне, канешне ж, заўважылі, бо адразу ўсе змоўклі. Я пайшоў хутчэй. Чамусьці стала яшчэ халадней — можа, таму, што тут быў бакавы выхад? А можа, таму, што ўсё гэта чуў Гердзень?

Пераедзем у Вільню, не буду жыць у замку. Ды, зрэшты, мне і не дазволяць. Я жыў пры князю як звяздар, а вярхоўны жрэц павінен месціцца ў капішчы.

Адчуў, што душа смыліць. Ці то так укусілі словы вартаўнікоў: бач, вярхоўным жрацом мяне зрабілі таму, што больш мілы я быў Гедзіміну, чым Шварна, а не таму, што лепей за іншых перанёс іспыты мудрых старцаў. Пра тое ведаў я сам, але простыя людзі меркавалі па-свойму... Яны ведалі, што мае прадказанні былі больш трапнымі, чым у Шварны — нездарма ж у тыя дні, калі можна. было прымаць зямян, чарга да мяне збіралася нашмат даўжэйшая. А можа, проста зашчымела даўняе жаданне — брысці па дарозе, кудысьці далека, каб быў я самнасам з зорамі і з небам. А то пялёхкаюся тут у чалавечых дробных памкненнях,

нібыта ў балоце, і не заўсёды ўдаецца ачысціцца абрадамі так, як тое належыць...

Аднекуль здаля чуліся спевы. Відаць, выходзячы са свяцілішчаў, дзеўкі спявалі грамнічныл песні. Тую, што гучала зараз, ведаў кожны змалку:

*А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне,*
*Зіма з летам стрэліся, стрэліся,*
*Лета зіму піхнула, піхнула,*
*І ножачку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета прыйшло скачучы, скачучы.*

Знаёмы матыў віраваў у маіх вушах, пакуль я спускаўся яшчэ ніжэй, у самае падзямелле свяцілішча, гучаў у душы нават тады, калі заглухлі галасы звонку. Але зіме яшчэ не прыйшоў час плакаць, бо, як высветлілася, злыя духі валадарылі на ўсю мод. Прыслужнікі свяцілішча сустрэлі мяне спалоханымі позіркамі — Гайны нідзе не было. Яна пайшла па малако ў селішча, але не вярнулася. Па дарозе знайшлі перакулены глячык і белую лужыну застыл ага на марозе малака.

— Дрэнная прыкмета! — шапацела па капішчы. — Знікнуць на Грамніцы! Ох, нядобра! Здавалася, гэта шэпчуць сцены — па чырвонай плінфе скакалі цені ад смалякоў, кожны крок, здавалася, абуджаў гарцукоў, што на ноч залеглі ў спячку. Занадта глыбокі гэты падвал, занадта блізка чорныя гарбатыя чалавечкі, прыслужнікі бога падземнага агню Жыжаля, які куе зброю!

У падзямеллі цяжка пахла сырасцю, у куце чорнай соннай вязкай віселі кажаны, аркі з жоўта-бруднага туфу здаваліся волатамі, што сагнуліся пад цяжарам каменных сценаў. Жрацы сядзелі ў каморках, зласліва чакалі, што будзе. Ярка асветлены свечкамі так, што была бачная кожная маршчына на яго сухім, падобным да жоўтага. пергамента твары, самы стары слунска свяцілішча Сушка тоўк ў каменнай ступцы сухія кветкі гарыцвету, не паднімаў галавы.

Свяшчэнныя змеі, што цяжка пялюхаліся ў пяску, сустрэлі мяне раз'ятраным шыпеннем. Сурова зіркаў з кута драўляны Пярун, рубіны ў цёмных яго вачніцах бліскалі крывавымі іскрынкамі.

Душа зашчымела яшчэ болей, горкі прысмак адчуўся ў роце.

Неба, дзе я ўзіраўся ў ход планет, было мне нашмат бліжэй, чым усё, што пакінуў на мяне памерлы Галігін. Вось і другі, ахоўнік Зніча Пунігайла, зіркае спадылба, у гэтым падзямеллі сам падобны да старога кажана. Найгарчэйшай жа была зайздрасць, што адчувалася ў паветры, як пах атруты — той, якую непрыкметна сыплюць шчопцяй у кубак таго, каго хочуць адправіць у дубовую калоду.

— Што рабіць, гаспадзін? Змеі не далі яду, яны галодныя, — турбаваліся простыя служкі.

Але Гердзень, мацней сціскаючы кінжал, цыкнуў на іх:

— Дзяўчына прапала, а вы тут пра змей!

Сушка, не падымаючы галавы, азваўся са свайго месца:

— Дзевак знайсці няцяжка, а вось свяшчэнную змяю — паспрабуй!

Барвовы румянак заліў мае шчокі. Гердзень суцяшальна дакрануўся да пляча.

— Што трэба, гаспадзін? Ты толькі скажы — я гэтага пацука не пабаюся...

Я супакоіў яго і загадаў прынесці малака з княскага кароўніка.

— Але ж яно павінна быць ад каровы, што пaслася на свяшчэнным лузе, — нясмела заікнуўся адзін са служак вышэйшага абраду. Я абарваў яго, сказаўшы, што ведаю законы. Жрэц нізка схіліўся, але ў падслепаватых вачах успыхнулі варожыя агеньчыкі.

Я падняўся наверх, кульгаючы мацней, чым заўсёды. Князь не прымаў — ён другі дзень сядзеў з панамі-радай і пісцамі. Давялося ісці ў далёкія пакоі, да вялікай княгіні. Яна была, на шчасце, адна — чытала на грэчаскай мове Запаветы хрысціянскага бога. Яна нядаўна прыйшла з храма, мокрыя кропелькі ад расталага інею зіхацелі ў русявых валасах і шчокі палымнелі свежай, здаровай чырванню. Тоўстая свечка стаяла ў ейнай святліцы, у куце залацеў новы, толькі што напісаны абраз, пад ім дрогкім агеньчыкам мігцела лампада — слабы водгук Зніча, які ў язычніцкіх храмах шугае ўверх магутна і вольна, абкладзены тоўстай цэглай са знакамі зорак.

Дзіўна, але хрысціяне таксама святкавалі сустрэчу — Стрэчанне. Толькі, паводле іхніх паданняў, у гэты дзень маці Бога, якую называюць Марыяй, прыйшла ў галоўны храм іудзеяў са сваім сынам, і там сустрэў яе славуты прарок тае зямлі Сімяон, якому было некалі абяцана, што не памрэ ён, пакуль не ўбачыць пасланца Бога на зямлі. Што ж, княгіня таксама радавалася ў гэты дзень і таму сустрэла мяне прыветна.

Я пакланіўся так, што дастаў рукою ногі яе, абутыя у чырвоныя саф'янавыя пантофлікі, і расказаў пра знікненне Гайны.

— Хаця ты і паганец, але ж цяпер галоўны ў іх, і нягожа дароўваць тым, хто тваю памочніцу ўмыкнуў, — сказала яна раздумліва. — Калі гэта спусціць, не адшукаць дзеўку, то цябе перастануць паважаць свае ж. А значыць, і вялікаму князю будзе страта. Я дам табе варту. Шкада, што няма вялікага князя, ён не любіць, калі я ўмешваюся не ў свае справы.

## Пагоня

Коні ляцелі, як быццам за імі гналіся нячысцікі. Можа, гэта мой трывожны настрой перадаўся ім. Гердзень скакаў наперадзе, ляцеў, як ганчак — распластаўшыся

на спіне рудога скакуна і ўвесь выцягваючыся наперад, нібы востры яго нос адчуваў здабычу.

Мы даімчаліся да ўскраіны Трокаў хутка.

Выцягнуўшы з хаты перапалоханага агнішчаніна, даведаліся, што дзеўку ўмыкнулі чатыры коннікі, за якімі валюхаўся вазок, куды воі і ўпіхнулі сваю ахвяру.

Вось гэты след, глыбока прарэзаны ў снезе, і вёў нас — міма святочных паселішчаў, дзе свісцелі дудкі і гралі валынкі, міма заснежаных соснаў, з якіх, разагрэтыя сонцам, час ад часу грузна шмякаліся на дарогу хрумсткія камякі спрасаванага снегу, міма шэрых згаладнелых дзікоў, якія цэлымі вывадкамі тупалі па заснежаных яшчэ палянах. Гердзень, які любіў ловы, кожны раз зайздросліва крэхкаў, але я гнаў свой атрад, даючы адпачыць на прывалах усяго на056 вераб'іны скок, і пах конскага поту ахутваў нас усё болей і болей.

— Ты б, гаспадзіне, не ехаў сам. Не твая гэта справа, — заікнуўся быў адзін з вояў, Зух, але Гердзень зняважліва абарваў яго:

— Памаўчы, Дзяволтва[19]! Ці можа дапусціць галоўны жрэц такое святатацтва? Адабраць у яго жрыцу! Сам ён і пакарае гэтых збродняў!

Я не пытаўся ў сябе — чаму я сам, задыхаючыся ад марознага ветру, гупаюся ў рыпліва-халодным сядле, каб дагнаць невядомых збродняў, а не сяджу пад гулкай столяй замка і не ўзіраюся ў пацік, крыштальная паверхня якога часам наліваецца чырвонай, страшнай чырванню і адкрывае таемнае. Я не мог бы нічога ўбачыць — мяне перапаўняла чорная, шалёная нянавісць.

Дзяўчынку, чый стан тонкі і далікатны, як у маладой бярозкі, якую легка пераламаць адным рухам пальцаў, чые вочы нагадваюць колерам браткі, а выразам — алянятка, якое яшчэ туліцца да ўсіх, як да абаронцаў і верыць у дабрыню свету — яе цягнуць зараз па дарогах, як упаляваную дзічыну! І ад аднаго ўяўлення пра тое,

як трымціць жахам яе цела і вочы затуманеныя слязьмі адчаю, я шалеў яшчэ болей. І раптоўна, у той міг, калі, здавалася, нешта няўцямна-вар'яцкае ўнутры разарве мяне на кавалкі, мне здалося, што дзееьці там, у вогненным крузе стомленага сонца, што садзілася ў барвовыя хмары, нешта сапраўды разарвалася. Яскрава пачуўся трэск перапілаванага дрэва, енк. Можа, гэта мая злосць, мая сіла сабраліся ў адно і перагарадзілі дарогу ўцекачам. А можа, багі пачулі мяне і зрабілі ўсё самі?!

Рукі мае адпускалі лейцы, і гняды, храпучы, запавольваў хаду. Услед за мной паціху спыняўся і наш невялікі атрад. Людзі глядзелі дапытліва і трывожна.

— Яны недалёка. І не ўцякуць цяпер ад нас. Дайце мне вады, а то вусны перасохлі.

Гердзень падаў скураную біклагу, ледзяны струмень апаліў разгарачанае нутро.

— Прыгатуй бяросту і мох. Там шмат крыві, выцягні з мае сумы змяіны яд, тоўчаны святаяннік. Хто яшчэ з вас можа лячыць?

Воі адмоўна хіталі галовамі, страх у іхніх вачах узмацняўся. Калі Гердзень выканаў мае загады, я зноў прыўзняўся у страмёнах, гікнуў, і мы паляцелі наперад з новымі сіламі, толькі ярасць мая паступова пераходзіла ў трывогу.

Нібыта вяшчала сэрца, што для Гайны ўсё абыдзецца, але ж я не мог ведаць усяго. Ці не змерзне яна, як безабаронны перад Зюзяй кляновы лісточак, што цудам застаўся на сукастай галіне? Я зноў адчуваў яе жах, яе адзіноцтва і пачынаў гнаць каня, а пасля спахопліваўся, бо гняды быў усяго толькі з.вычайным конікам, трохі лепшым за астатніх, але ён не мог ляцець у паветры, як Вогненны Змей, і сілы ягоныя былі ўжо на зыходзе.

Калі мы даскакалі да лясной дарогі, упоперак якой ляжала кашлатая яліна, было цёмна. Аднак тады, калі мы з невысокага пагорка аглядалі раздарожжа, не

ведаючы, куды павярнуць, з-за аблокаў выплыла поўня, і прызіднажоўтае яе святло лягло на пульхныя белыя галіны соснйў,на паваротку, дзе ўдалечыні горбіўся вазок і дзе мітусіліся людзі і коні, зліваючыся з дрэвамі і ценямі. І ў тым быў знак для мяне — за хрыпам сваіх скакуноў мы маглі б не пачуць гаманы і павярнуць убок ад іхняе дарогі.

Яна была скончаная прынамсі для аднаго — на нашых вачах выцягнены з-пад яліны Дамарат ужо спруцянеў: яго рукі страшна тапырыліся пальцамі, нібы ён у апошнюю хвіліну хацеў адштурхнуць ад сябе багіню смерці, раздаўленыя грудзі нагадвалі блін, размазаны па акрываўленым снезе, а твар застыў у пякельна-пакутлівай грымасе. Яго конь здыхаў — ён яшчэ слаба торгаўся пад калючым веццем, ледзь бачны з-за яго, але ўсё слабей і слабей.

Трое спадарожнікоў Дамарата не выказалі асаблівага страху, убачыўшы нас, — прыгнечаныя няшчасцем, яны мітусіліся каля хлопца. Аднак жа яшчэ двое, выскачыўшы з-за вазка, наставілі на нас дзіды:

— Не падыходзіць! Мы — княжыя людзі! А хто вы, бадзягі?

— Гэта вялікі жрэц Ляздзейка! — крыкнуў Гердзень, а я падняў высока ўверх свой знак-медальён, стараючыся, каб нежывыя промні поўні ўпалі на яго. Тады яны паваліліся на калені.

— Вялікі жрэц!

Я абышоў іх і па ўтаптаным, акрываўленым снезе дакрочыў да вазка.

Святло поўні падала на стос ваўчыных скур ў куце. Я раскідаў іх.

Гайна ляжала без прытомнасці, скурчаная, звязаная скуранымі путамі, як галубка, якую ўпалявалі каршуны. Я схапіў яе на рукі, вынес з вазка, паклаў на шкуру, якую паслужліва кінуў на снег адзін з варты. І зароў на

іх так, што пасыпаўся снег з бліжэйшай галіны.

— Як вы насмеліліся ўкрасці маю жрыцу?!

Яны, усё яшчэ стоячы на каленях, закалаціліся ад страху. Аднак крайні з іх — рыжы, ваўкаваты дзяцюк — стаў адпаўзаць убок, да рэзкага чорнага ценю, які падаў з гушчы лесу. Гердзень, перахапіўшы мой погляд, кінуўся да яго, узмахнуў мячом:

— Не рухацна!

— Гаспадзін, мы ўмыкнулі яе па загаду з княжага палаца, — закрычаў худы, жылісты дзяцюк. — Вось, паглядзі!

Ён выхапіў з-пад аўчыны скрутак, падаў мне.

— Свяці!— загадаў я аднаму з вояў. Той хуценька запаліў смаляк, паднёс да пергаменту.

Я не верыў вачам: літарамі славянскага пісьма напісана было распараджэнне завезці баярскую дзеўку Гайну да свяцілішча Мокашы пад Крэва і абвянчаць там з сынам вялікага маршалка Дамаратам. На подпісе вялікага князя чырванела малая пячатка, і нават імя пісара не было забытае — Скурат. Што ж бы гэта значыла? Дамарата не было пры тым, як яе схапілі. Значыць, ён чакаў недзе ва ўмоўленым месцы? І ці ведаў пра тое ягоны бацька? Наўрад ці. Сын вялікага маршалка не можа проста так з'ехаць з простай дзяўчынай — нават і з баярскай дачкой — каб патаемна спаўзціся, як вужакі пад калодай! І сам Дамарат таксама не мог такога прыдумаць, нават калі ён і надта закаханы ў Гайну! Але што яны там гаварылі аб Крэве?!

— Мы ж праехалі міма Крэва!

— І яе там абвянчалі! Мы заязджалі туды!— заенчыў дзяцюк. — Усё так, як было загадана! За што ж ты злуешся на нас, гаспадзін? Адкуль нам ведаць, ці згодны ты быў на тое, ці не?

— Дык чаго ж яе зноў звязалі?

— Яна ж білася, не давалася вянчацца! — тлумачылі яны напярэсціг адзін аднаму.

— Не рабі нам крыўды, мы людзі паднявольныя! — крычалі яны, паўзучы да мяне і спрабуючы пацалаваць рукі.

— Не ператварай у ваўкалакаў!

— Не аддавай Марэне!

Я не стаў іх распытваць далей, толькі загадаў распаліць тут вогнішча і вартаваць усіх, каб дазнацца ўрэшце праўду. Трэба было паклапаціцца аб Гайне. Ці ў сваёй памяці была яна, як абводзілі яе вакол алтара, як абсыпалі зернем і сухім лісцем руты? Ці бачыла яна, як ялінай прыдушыла Дамарата? І... — я схаладнеў ад тае думкі —ці былі яны разам пасля таго, як выйшлі са свяцілішча?! Калі яна была з ім... вялікі маршалак можа дамагчыся, каб ў магілу сына, побач з дубовай калодай, паклалі і яе — разам з баявым канём, з сокаламі, з рушнікамі і грабянцом, а таксама мядвяным пітвом і ежай. У дзяўчыне будзе ён бачыць прычыну смерці свайго першынца. У ёй — і ўва мне.

Ды, зрэшты, так думалі ўсе вакол. Я расціраў рукі Тайны, яе тварык, белы і нерухомы, а шэпат за маёй спіной узмацняўся:

— Ён ведаў, што будзе кроў...

— Нашто было ім ісці супраць вялікага жраца?

— Вялікі маршалак валасы на сабе будзе рваць...

— А хто ж той загад аддаваў? Хіба што Шварна?

Шварна! Я падумаў пра яго, але ён не такі дурны, каб пакінуць за сабой сляды. Хутчэй за ўсё той слуга княскай канцылярыі, якому за тое, што ён паставіць на загад малую пячатку, паабяцалі вялікія грошы і ад'езд у адзін з ганзейскіх гарадоў, ляжыць дзе-небудзь у завулку горада з праломленай галавой. А можа, калоціцца ад страху, перабіраючыся праз мяжу, бо,

нават калі ён і хрысціянін, усё роўна будзе баяцца старадаўніх багоў. А можа, Шварна паабяцаў яму абарону?

Нашто мне цяпер гэта ведаць? Вярнуць бы яе ў гэты свет, куды душа яе, можа, і не хоча вяртацца... І я шаптаў старажытныя замовы, і абціраў яе парашком, і хутаў у смярдзючую шкуру танюткія плечыкі, сціскаючы і расціскаючы іх, каб кроў-руда хутчэй пабегла па целе і ажывіла яго.

Блізіўся час першых пеўняў. Каліннікі-маразы прыхоплівалі вушы. Рыпелі ў блізкім лесе крокі насмешлівага Зюзі, якому не цярпелася паказаць слабым людцам сваю сілу. Вочы балелі ад трапятлівага мігання факелаў. Зоркі буйнымі чырвона-жоўтымі кроплямі бурштыну віселі над намі.

Гайна расплюшчыла вочы. Яны здаваліся бяздоннымі, быццам глядзелі з нейкай незямной далечыні, не пазнаючы тут нікога і нічога. Але праз некалькі імгненняў яна страпянулася, адштурхнула мае рукі.

— Мне балюча! Пусці!

І тут жа пазнала мяне:

— Вялікі жрэц!

— Ляжы!

Я ведаў — воі будуць расказваць, як завіхаўся я вакол дзяўчыны. Папаўзуць чуткі, пры двары будуць мянташыць языкамі. Што ж, не гэта страшна. Страшней будзе, калі праз гэтае здарэнне выйдзе яна на суд да мудрых старцаў, а тыя, хутчэй за ўсё, загадаюць прынесці яе ў ахвяру камусьці з багоў. Такая прыгажосць не павінна належаць смяротнаму чалавеку, яна і так сталася прычынай няшчасця...

— Скажы мне, Гайна...

Я запнуўся — яна глядзела міма мяне, на раструшчанага Дамарата, чый скрыўлены, белы, як

снег, мёртвы твар выразна бачны быў пры святле вогнішча, якое палала пасярод паляны і дзе сядзела варта.

— Ратуй мяне, Чур!

І тут жа дадала:

— І Ісус Хрыстос, сын Божы!

Перавяла позірк, поўны жалю і болю, на мяне:

— Гэта ж ты яго, Ляздзейка, зачараваў. Ты, гаспадзін... Праўда?

— Не, Гайна. Калі чалавек не мае правіны, яго не закранеш так проста.

Але яна страсна пахітала галавой:

— Я казала, што будзе няшчасце. Душа мне тое падказвала. А ён смяяўся, жартаваў. І ўвесь час расказваў, як багата станем жыць...

Яна заплакала. І я бездапаможна глядзеў на тое, не могучы суцешыць гэтае дзіця, даць яму спакою. І зноў нешта заплакала ўва мне, пацягнула прэч, прэч, далей ад людзей, якія глядзяць са страхам, але гатовыя былі ўчапіцца ў бездапаможную жанчыну і насільна вянчаць яе вакол старадаўняга дуба. Яна ўжо ўдава — і што я магу зрабіць, каб не кранула яе нянавісць, што вірыцца вакол яе і якой ніяк не паставіш заслону?

## Суд на гары

— Тху ты, нячыстая сіла! Не павінен быў вярхоўны жрэц сам скакаць за дзеўкай!

Гедзімін гахнуў па стале кулаком, трапіў на паранены мезенец, скурчыўся ад болю.

— Каб цябе скуламі абсыпала!— зноў закрычаў ён.

Шкляная бутэлька з бабровым струменем — мой падарунак — падскочыла, перавярнулася, густая вадкасць палілася па жоўтых палавіцах пакоя, моцна, да казытання ў носе, запахла непаўторным пахам фіялак і лесу. Мы абодва глядзелі, як плыла шырокая стужка пад самыя ногі вялікага князя, абмачыўшы яго боты з тонкай чырвонай юхты.

— Выцірай!

— Хаця цябе і выбралі багі на вялікі сталец, усё ж не гнявi іх, вялікі князь. Не табе я падпарадкоўваюся. Помні — не табе, — сказаў я ціха.

— А, ты мяне яшчэ палохаць будзеш!

Ён паддаў нагой аскабалкі бутэлькі, яны са звонам разляцеліся па святліцы, адзін, дзынькнуўшы аб празрысты алавастравы сасуд на паліцы, упаў на пушысты дыван ля сцяны.

— Сто нагат альбо трыццаць кун,— мой голас прагу чаў спакойна.

— У вашых падзямеллях усяго хопіць!

— Мы шмат аддаем і табе, вялікі князь.

Але ён ужо выдыхнуўся. Загадаў стольніку паклікаць служанак і, пакуль тыя, асцярожна макаючы белыя палотнішчы ручнікоў у каштоўную вадкасць, валтузіліся ўнізе, сказаў як адрэзаў:

— На ахвяру яе. Не хапала яшчэ, каб вярхоўны жрэц галаву згубіў! Што ты мне тут ні напляцеш, я табе не веру. Да таго ж — з мерцвяком абкручаная.

— Сілком. Па фальшывым загадзе.

— А як баб браць інача́й? Яны тое любяць. Думаю, яна з ім згаварылася, бо выйсці за сына вялікага маршалка кожная дзеўка марыць. А ты зараўнаваў. Для сябе яе рыхтаваў. Ведаю, што не можаш ты з дзеўкай жыць — дык хаця вочы на яе драць будзеш.

Я адчуваў паміж намі сцяну. І нічога не мог яму даказаць.

Адкуль яно бярэцца, гэтае непаразуменне паміж людзьмі? Як мне ўратаваць Гайну? І як давесці, што не Дамарат быў ёй патрэбны?

— А чаму ты не хочаш, вялікі князь, каб яе судзілі мудрыя старцы?

У мяне больш не было ніякай сілы, і я адчайна чапляўся за тое, каб у мяне заставалася хаця трохі часу.

— Таму што не хачу ім аддаваць гэтую справу. Яна не боская, а чалавечая. Да таго ж не жадаю, каб цябе заплямілі, бо і так пра цябе шмат чаго плятуць. Згарыць яна — і ўсе канцы ў ваду, і маршалак задаволены, і люд сцішыцца. А што бацька ці брат запярэчаць — то не страшна. Дам ім лішні лен зямлі, адсыплю жменю золата са скарбніцы ці падару па мячу з земляў усходніх, і хутка забудуць яны сваю дзеўку...

... Чаму мне здаецца, што калі згарыць Гайна ў агні, жыць мне стане зусім невыносна?

І я паспрабаваў апошняе:

— Я даб'юся ад Рады, каб наступнага вялікага жраца зацвярджаў ты, вялікі князь...

Я ведаў, што кажу. Гедзімін быў моцна незадаволены ўплывам жрацоў у Крыў-горадзе і шукаў способу, як той уплыў абмяжоўваць. Прапануючы яму дапамогу, я мог толькі спадзявацца, што памру пазней за яго і змагу перайначыць наша пагадненне.

Яго шырокі твар разгладзіўся. Палітык у ім быў заўсёды вышэй за чалавека. Жыццё нейкай там дзяўчыны для яго не значыла анічога, але выйграць ход у гульні, якою ён жыў — гэта было цікава для яго. І ён згадзіўся:

— Тху ты, нячыстая сіла! Калі так, давай наладзім вогненны суд. Але пры ўсіх. Трэба ж, каб і людзі душу адвял!. Калі багі сапраўды за яе, яна не згарыць. Ну,

можа, трохі пабрыдчэе...

Ён пасміхаўся, задаволены.

— Ну дык не хочаш выцерці мне боты ад гэтае... парфумы? Калісьці ты трапаў свае поршні аб мае калені і аб Відзіны таксама. І нічога, я цярпеў. І Віда, вялікая княгіня, цярпела таксама. Яна да цябе, як да ўласных дзяцей, ставілася, ты хаця помніш яе?

Я не памятаў Віду, толькі яе калені і пах — ад яе сапраўды пахла бабровым струменем, вось чаму і Гедзімін успомніў яе. Казалі, што Бірута была ўся вылітая маці... І мяне ахапілі жаль і прыкрасць ад таго, што сёння ўсё іначай. Зусім іначай...

— Калі як бацьку дагаджаць — я вытру, вялікі князь. Але калі я для цябе тут толькі жрэц, то гэтага не будзе ніколі!

— Ну, жартую, жартую! А ў варцобы згуляць не хочаш? Давай на тваю дзеўку згуляем, га?

— Я табе заўсёды прайграю. Дык навошта прапануеш такое?

Ён зарагатаў грамчэй.

— Дык значыць — суд вогненны?

Вогненны суд! Страшнае відовішча! Але і гэта — лепшае, чым мудрыя старцы, над якімі я не маю перавагі. Але там ішоў бы час, і, магчыма, удалося б выкрасці Тайну. А гэты суд звычайна творыцца амаль адразу пасля распараджэння вялікага князя. І я зноў паспрабаваў схітрыць:

— Здаецца, ты на гэтым тыдні прымаеш паслоў з Польшчы?

Ды тут ужо ён не даў мне спатолі:

— Твае хітрыкі мне надакучылі. Хочаш адцягнуць прысуд? Дык вось: вогненны суд пройдзе заўтра.

Я паспрабаваў абысці яго з другога боку:

— Няўжо, княжа, ты не хочаш нават дазнацца ўсё, што звязанае з гэтым выкраданнем? Хто загадаў падрабіць твой подпіс, хто аплаціў пісару пастаўленую пячатку?

— Гэта і так ясна — сын маршалка быў закаханы ў дзеўку, ён і пастараўся. А можа, і сама яна. Пісар, калі пападзецца, будзе сцяты горлам — на тое ёсць загад.

Ён зірнуў на пясчаны гадзіннік, дзе бесперастанна, танюткім, як прамень, струменьчыкам цёк жоўты пясок.

Падняўся. Скурчанае плячо павяло яго ўбок, ён паморшчыўся.

— Усе мы смяротныя. Ніхто не застанецца тут. Дык чаго скуголіць, раней ці пазней мы адправімся ў Ірый?

— Добра табе казаць. Яна-то маладая. Пажыць не паспела.

— І Дамарат таксама. Ім ужо ўсё роўна. А мне з вялікім маршалкам, можа, заўтра ў бой ісці. І таму...

Ён не дакончыў сказ. Але мне здалося, што ў паветры зазвінелі, як клінкі, нашы погляды. Я першы апусціў галаву.

Гайна была ім ужо выкінутая з жыцця — да мёртвага Дамарата, у дубовую калоду якога яе ўсё ж не паклалі. Але мая зацятая барацьба за яе заканчвалася.

Не, няпраўда, яна закончыцца толькі тады, калі агонь спапяліць яе, калі попел развеецца па ветры альбо лёгкім шэрым пылам асыплецца на магілу Дамарата. А да таго часу ёсць надзея. На справядлівасць багоў, якім я служу ўсё сваё жыццё і якія не могуць... не, не могуць асудзіць яе на смерць!

Я правёў тую ноч перад Знічам.

Ён гарэў неспакойна — магчыма, мая душа, што бунтавала супраць прыгавору Гайне, не давала яму

спакою. Я адчуваў віну перад ім, але мне неабходнае было ачышчэнне, цішыня ў душы. І мы глядзелі адзін на аднаго, аж пакуль я не адчуў, што ён нібыта залізаў сваімі вогненнымі языкамі маю душу, што таксама гарэла на пякельным агні. Ды той агонь, які цяпер напоўніў мяне, быў іншы — роўны і дабрадатны. Я пакарыўся ўсяму, што павінна адбыцца, я падрыхтаваў сябе да самага горшага.

Калі я апранаў урачысты ўбор, здзівіўся, што нідзе не відно Гердзеня. Служкі, якія аббеглі свяцілішча і святліцы навокал, вярнуліся ні з чым, так што мне давялося ехаць да Алтарнай гары толькі са жрацамі.

Там сабраліся траха не ўсе месцічы, нягледзячы на тое, што ўчарашняя адліга абярнулася прымаразкамі і Алтарная гара нагадвала тую Шкляную гару, куды мы будзем караскацца пасля смерці на Страшны суд, коўзацца і енчыць ад страху. Але пакуль што коўзаліся, ды ўсё ж упарта лезлі наверх душы жывыя — у кажухах, каўпаках, корзнах і проста ў воўчых шкурах, накінутых на плечы. Па дарозе, ачышчанай ад ільду і снегу, іх не пускалі — па ёй паважна, сапучы, тупалі людзі імянітыя, а таксама жрацы. Вось-вось павінен быў паказацца князь, але адзін, без княгіні і дочак. Мне даклаў гарадскі войт, што князёўна Ганна надта плакала і прасіла князя за Гайну, але ён не схацеў яе слухаць.

Рэдкі снег порхаў над горадам, над гарой, што самотна высілася над далінай. Шэрыя мяцёлкі бур'яну шархацелі пад ветрам, празрыстая наледзь на адзінокай бярозцы пазвоньвала, калі галінкі цёрліся адна аб адну, сонца ваўкавата бліскала з-за тоўстых бела-шэрых аблокаў, тут жа хаваючыся за імі, нібы не хацела бачыць ні людзей, ні сам гэты горад, што курыўся сіняватым дымам печаў з курных хацін і мураванак. Яны тоўпіліся вакол княжага палаца — там, з кананай карычнева-чорнай брамы, ужо выехаў княжы поезд, і воі, нібы паязджане, гарцавалі ўслед за княскім гнядым. Мне на імгненне захацелася, каб разам ператварыліся яны ў ваўкалакаў і са скуголеннем рассыпаліся па дарозе, па

полі — ажно да бліжняга лесу, і каб сам Гедзімін, жахнуўшыся з таго, павярнуў назад. Але не — яны імкліва набліжаліся, а з імі і тое, чаго я так баяўся.

Я страшыўся глянуць на Гайну — унікаў нават сустрэцца з ёю поглядам. І таму, ідучы па выгаптанай да шэрага змерзлага друзу пляцоўцы, глядзеў направа, дзе, сагнутыя ў аркі, суцэльным калідорам чарнелі асіны, пераплеценыя сухім лыкам.

Вогненны суд звычайна ладкавалі так — санкі (а ўлетку калёсы), дзе сядзеў асуджаны, разгойдвалі так, што яны, праляцеўшы па схіле колькі метраў, траплялі ў вогненны калідор. Высахлыя і з лета сагнутыя асаблівым чынам асіны ўспыхвалі імгненна.

Бывала, што разгайданыя санкі спыняліся ў агні, і тады ад асуджанага заставаліся толькі абгарэлая скура ды страшныя масляні костак. Бывала, што людзі праляталі праз чырвонае пекла так хутка, што на іх амаль не заставалася слядоў. Але часцей, атрымаўшы апёкі, асуджаны мучыўся да самай смерці, бо нават пырскі гэтага полымя былі смяротна небяспечныя — наверх, на лыка, якім звязвалі асіны, налівалі змяіную атруту.

І ніколі не маглі дабіцца стражнікі, каб люд навокал не падступаўся да агню. Наадварот, як толькі ўспыхвала дрэва, натоўп — вохкаючы, рагочучы, прагна, але неадольна, нібыта цягнула яго туды нетутэйшай сілай, — пнуўся да няшчаснага. Бывала, што калі ўратоўваўся западозраны ў забойстве альбо вядомы злодзей, людзі самі, не зважаючы на дараванне, забівалі яго — камянямі, палкамі, кулакамі. Але на тое не асабліва глядзелі ўлады, бо трэба ж было даваць людзям нейкую спатолю ад цяжкага жыцця. Бывала, што, лезучы ў агонь, згаралі некаторыя асабліва порсткія, але і тое не ахалоджвала.

Я адчуваў, што мяне ядуць вачамі. Пакуль былі тыя позіркі проста цікаўнымі, але легка маглі яны змяніцца на варожыя. І ўсё ж ноч, праведзеная каля Зніча, надала мне моцы — спакоем, цяжкім і одумным, паволі налівала мяне, як алавастравы сасуд. І калі стаў каля

санак, на якіх сядзела захутаная шкурамі Гайна і дзе паўкругам выструніліся жрады і паны-рада, адчуў, што магу глядзець і на яе.

Яе вочы — фіялкавыя, глыбокапяшчотныя, як браткі на схіле гары, цяпер займалі, здавалася, увесь твар, на які падалі бялявыя валасы, што кудлаціў ледзяны вецер. Яна не бачыла ні мяне, ні кагосьці навокал, а глядзела ўдалячынь. Вялікі маршалак стаяў наводдаль, яго запалы твар выдаваў цяжкую, страшную нянавісць да дзяўчыны, і пальцы яго, задубелыя ад холаду, бесперапынна варушыліся, нібыта хацелі зараз жа ўпіцца ў яе тонкую шыю.

Нехта суцяшальна дакрануўся да пляча — Гердзень стаяў за мной, я заўважыў, што ля правага боку ў яго, пад касматай шкурай рысі, вісіць гакаўніца, а наверсе, як звычайна, у похвах цяжка ляжыць меч.

— Усё будзе добра, гаспадзін, не хвалюйся.

Я не стаў пытацца, куды ён быў знік. Нешта хавалася за ўсім гэтым, але мяне суцешыла, што мой ахоўнік нарэшце з'явіўся. Ніхто не мог прадказаць, што тут можа пачацца праз хвіліну.

Воі вялікага князя, хто спераду, хто ззаду за ім, цяжка ўздымаліся да пляцоўкі. Адны яны мелі права быць тут на конях, і ўсе, хто тоўпіўся на пляцоўцы ці, зачапіўшыся за быльнёг, абляпіў гару, упалі перад Гедзімінам на калені, апроч жрацоў і паноў-рады. Адзін бедалага, не ўтрымаўшыся, нават слізгануў назад, і рогат пакаціўся быў па натоўпе, але тут жа змоўк: з Гайны знялі шкуры, прымусілі падняцца, і ўсе, хто там быў, прагна глядзелі на яе твар, на белую тонкую шыю і грудзі, якія ўздымаліся пад белай кужэльнай кашуляй, амаль празрыстай.

— Ну і красуня!

— Красачка!

— Журавінка!

Але былі і іншыя галасы — зласлівыя, раздражнёныя:

— Пакрычыш, як твой Дамарат крычаў!

— Каб ты згарэла, як галавешка!

Але такіх галасоў было намнога менш. Гайна выклікала найбольш шкадаванне. І ўсё ж... І ўсё ж людзі сабраліся на відовішча, і іхнія вочы гарэлі цікаўнасцю і чаканнем.

«Як быццам ваўкі селі пад дрэвам і чакаюць, пакуль ахвяра зваліцца ўніз, проста ў іхнія лапы», — думаў я з болем і бяссіллем. Мне выпадала самая страшная роля, і я не мог ухіліцца ад яе: вогнішча павінна загарэцца ад мае рукі, бо Вогненны суд — найбольш суд, дзе сваю волю твораць багі, а найперш — Пярун, бог агню і грому, які шпурляе вогненныя стрэлы ў грзшнікаў.

Зноў запанавала цішыня. Трэба было пачынаць. Гедзімін нахіліў галаву, і я пайшоў да «калідора». Там з нагі на нагу нецярпліва пераміналўся сам радца Віленскага месца — яму не цярпелася пачаць Вогненны суд. Хітрыя, вузкія, як шчыліны, вочы пад калматымі брывамі глядзелі з патаемнай зласлівасцю, сачылі за кожным маім рухам. Ды і ўсе, хто быў там, не зводзілі з мяне вачэй, і я з усіх маіх сіл стараўся трымаць спіну прама і не сціскаць вуснаў, каб ніхто не ўбачыў, колькі напругі каштуе мне ўзяць з рук радды пук смалякоў. Ён стукнуў крэсівам — гук гэты, нечакана скрыпучы, прымусіў многіх уздрыгнуць, і амаль з першага разу загарэліся тонкія, сухія палачкі.

Імгненне — і рука мая паднялася да першых сагнутых асін, на якіх ляжаў луб. Я гучна прачытаў малітву Перуну і Роду і ткнуў вогненную кветку ў пук лубу. Ніколі не думаючы раней аб уласнай смерці, я не быў цяпер упэўнены, што не кінуся следам за Гайнай ў полымя. У тую ж хвіліну раздалося галёканне — памочнікі радцы схапілі санкі і шпурнулі іх наперад, па раскатанай напярэдадні каляіне.

Мне здалося, што Гайна — у белай кашулі, з распушчанымі белымі валасамі, з агромністымі вачыма-

фіялкамі — ляціць проста на мяне. Цяпер, калі ўспыхнула дрэва і я павінен быў хутка адысці назад, я не рухаўся. Ногі мяне не слухаліся, а рукі я міжвольна працягнуў наперад — каб перахапіць яе, ці што? Але яна праляцела міма, у полымя, якое, аднак, не паднялося так высока, як трэба было чакаць. Больш таго — загарэлася толькі першая палова калідора, другая ж толькі дымілася сінім чадам, і санкі з дзяўчынай праляцелі скрозь гар і дым амаль не кранутымі вогнішчам. Амаль — таму што, упаўшы ў снег, так што санкі кульнуліся наверх, на яе, дзяўчына ляжала, закрываючы твар рукамі, і я першы кінуўся да яе, хаця і мяне апякло так, што правая рука мая доўга пасля паднімалася з болем.

Гайна не загінула, і нават твар яе застаўся не пашкоджаным, толькі абгарэлі валасы, што узняў над галавою вецер, калі яна пралятала скрозь вогненны калідор, ды чырвона-чорнымі галавешкамі прапаліла там-сям кашулю.

Яна не чула, які галас узняўся над Ахвярнай гарою — сумесь радасці і злосці, расчаравання і ашуканых спадзяванняў. Асабліва выдзяляўся адзін — не голас, а рыканне. Не адразу, але ўсе замоўклі, і тады кожны мог пачуць і ўбачыць, як прама на нас — на Гайну, што ляжала без прытомнасці, і на мяне, які схіліўся над ёю і спрабаваў прывесці яе да розуму, насоўваецца вялікі маршалак, трымаючы ў левай руцэ адну з асін. У правай ён трымаў меч.

— Ты, Ляздзейка, гэта ты загадаў заліць вадою асіны! Паглядзіце — на іх вада!

Усе адхлынулі назад. Я глядзеў на раз'ятранага маршалка, не адчуваючы страху. Што ён значыў перад тым, што Гайна засталася жыць, што багі выказалі тут сваю волю! І я падняўся насустрач.

Сіла мая была пры мне — яго рука з мечам задрыжала, саслабела, але левая моцна трымала сагнутае дрэўца, і ён узмахнуў гэтым дрэўцам, цэлячыся ў маю галаву. Ды не паспеў — рука Гердзеня перахапіла яго рукі, і тут на

маршалка наваліліся і воі з дружыны вялікага князя.

— Скруціць яго — і прэч адсюль! — грозна прагрымеў Гедзімін. — Бешанец, лезе супраць волі Перуна!

І ён плюнуў на снег:

— Тху ты, нячыстая сіла!

І зноў усе хлынулі да нас, ды варта стала адцясняць натоўп уніз, не клапоцячыся пра тое, што людзі, падаючы, слізгацелі па схіле на спінах і на тым, што ніжэй яе, рвучы свае кажухі альбо плашчы. Толькі жрацы пайшлі ўніз па дарозе ўслед за князем, ды той-сёй з паноў-рады падышоў да перакрыўленага, абвіслага на руках варты маршалка ды спрабаваў яго суцешыць.

Я глянуў на сябе, на прапаленае агнём адзенне і таксама пайшоў уніз, загадаўшы служкам Перуновага храма паклапаціцца пра Гайну, якая трохі ўжо апрытомнела. Плячо гарэла агнём, торгалася. Гердзень спяшыў следам.

Калі я лёг у святліцы, перавязаны і супакоены гаючай маззю, ён запытаўся:

— Ты задаволены мною, гаспадзін?

— Чаму — табою?

Ён хітра глядзеў на мяне, шырокі рот расцягваўся ва ўсмешцы:

— Бацька мае Баяны служыць у радцы памочнікам.

— Баяны? Помнілася, у цябе Агрэнка... як яе там?

— Васкаўна? Гэта ўжо даўно мінула, гаспадзін. Яна ўжо даўно пабралася з іншым. Са стралком баярскім Галляшам.

— Дык што там з Баянай?

— Я ж і кажу — ейны бацька сам клаў той калідор.

— І што?

— Маршалак праўду казаў — асіны вадою былі аблітыя, таму і не загарэліся толкам. І на луб яду не лілі, толькі напачатку трошкі, і то па сценах, каб жрацы не разгледзелі падману. Але затое, гаспадзін, ты дасі Баяне пасаг, калі яна за мяне пойдзе, і сам нас вакол алтара абвядзеш?

Я ажно прыўстаў:

— Ты што, ашукваць багоў уздумаў?!

І ён, пасур'знеўшы, аднак не перастаючы смяяцца вачамі, смірэнна заўважыў:

— Я ж толькі дапамог ім, гаспадзін. Бо калі б яны супраць тваёй жрыцы былі, то, значыць, няўдзячныя яны надта. І табе дапамог — зусім трошкі... Ці не так? Калі гневаешся — загадай забіць твайго вернага слугу!

Я павярнуўся да сцяны, каб ён не ўбачыў, як я смяюся. Толькі сказаў, стараючыся, каб мой голас быў суровым:

— Тры дні будзеш стаяць на каленях перад Перуном. Ды не адзін, а з ёю.

І дадаў:

— Каб ён тваёй... як яе там?

— Баяне!

— Каб тваёй Баяне касу не падпаліў.

Ён шчасліва засмяяўся, а я ў тую ж хвіліну, нібы праваліўшыся ў бездань, заснуў — і прачнуўся толькі праз трое сутак. Перш чым нясцерпна запякло руку, што развярэдзіў сам у сне, паспеў пераможна падумаць, што Гайна засталася жывою. Жывою!

## Закладка на Крывой гары замка

Вясна таго году была ранняй, азіміна пайшла ў рост адразу, як толькі сышоў снег. І аднойчы, прачнуўшыся ў свяцілішчы, я пачуў старую, дарагую мне з дзяцінства песню:

*Аддай, Юр'я, ключы,*
*Замкнуць люту зіму,*
*Адамкнуць цёпла лета.*

І згадаў, што сёння, на Юр'я, калі пырскаюць ліловымі і фіялетавымі кроплямі па схілах узгоркаў браткі, на ўрачыстую закладку княжацкай вежы на Крывой гары на самым досвітку збяруцца зацныя — лепшыя — паны княства. Худенька ўстаў, сатварыў абрады. Надзеў высокі каўпак са знакам вялікага жраца, апрануў чыстую палатняную кашулю і суконны плашч, і праз паўгадзіны быў на гары, нагадваючы сам сабе словы малення і парадак абраду.

Адначасна я паціху цікаваў за нашымі панамі — цікава, хто з іх сёння паспеў абмыцца юраўскай расой? Да каго ў хату на досвітку прыйшлі з песнямі жанкі і пацягнулі ў двор, дзе, падобна русалкам, зацягнулі ў свой заваблівы дзявочы карагод і прымусілі спяваць і нават два-тры разы, прытупнуўшы, пакруціцца на гразкім яшчэ, перарэзаным палазамі грунде? Чые аканомы паспелі ўжо пакласці на краёчак поля ўначы выпечаны хлеб, соль і напоі і пакланіцца святой ніўцы ад імя гаспадара? Але тут яны нібы паказваюць свае багацці і ўласную веліч іншым, важна выставіўшы жываты, падперазаныя бліскучымі паясамі, і ўсё ж не дзедаўскія звычаі цікавяць іх, а іншае — злавіць погляд Гедзіміна, ліслівa пакланіцца альбо ўсміхнуцца яму. А ён, высокі, мажны, грузна стаіць, стараючыся, каб хворае плячо не надта цягнула яго ўбок, не хіліла гордую галаву з усё яшчэ густымі чорнымі з сівізной кудзерамі.

Галоўны хітрэц-муралей Нарбут (чыё імя ў старажытнасці азначала «невымерна храбры воін») стаяў на гары, не здымаючы воўчае шапкі, бо баяўся холаду. Затое ягоны памочнік, Андрэй, здавалася, увесь гарэў — з-за расшпіленай кашулі бачна было, як хадзіў у яго па шыі адамавы яблык, калі ён трымаў драўлянае

мярыла ў чатыры смаленскія локці. Над гэтым мярылам, выструганым з маладой ліпы, цэлы тыдзень перад тым тварыліся спецыяльныя абрады ў падземным капішчы Трокаў, каб засцерагчы ўсё, што будзе служыць вялікай, ужо звыклай для княства справе — закладанню новых крэпасцяў альбо вежаў.

Чакалі сонца. Праваслаўны і каталіцкі біскуп — на гэты раз удвух, як згаварыўшыся, пярэчылі таму, каб тут першым за іх валадарыў я. Але калегія жрацоў стаяла насмерць, яна нават падсылала да мяне Шварну, нібы не спадзеючыся, што я адзін ўгавару вялікага князя, каб ён аддаў перавагу старадаўнім звычаям, а не хрысціянскаму богу. І хаця на Гедзіміна з другога боку ціснулі і нявесткі, і Еўна, і нават старэйшая Марыя, што спадзявалася на шлюб з венгерскім альбо польскім каралевічам, Гедзімін, аднак, вырашыў на нашу карысць, хаця ведаў, што немцы зараз жа выкарыстаюць гэта і зноў напішуць папе ў Рым, як паганскім звычаем закладалі ў Вільні княжацкую вежу.

І ўсё было так, як я хацеў: пырснула вясёлымі кроплямі сонца, устаючы следам за Заранiцай, кінуліся некуды ў нетры гары аднавокія малюткі-гарцукі, палохаючыся свяціла, радасна затрашчалі вераб'і пад стрэхамі маленькіх хат, і зямля, якую толькі што раўнялі рыдлёўкамі рабочыя, заблішчэла, як чорнае «масла святога Квірынуса»[20], якое прадавалі ў нас баварскія манахі. Я махнуў шырокім рукавом, і адразу хор жрацоў зладжана заспяваў старажытны гімн Сварожычу, богу агню і сыну сонца, а рабочы ля Андрэя лоўка забіў кол, абвязаны вяроўкай, і тут жа пабег ў бок, супрацьлеглы ад таго, дзе ўставала свяціла. Тады Андрэй, амаль бегучы за ім, вострым канцом мярыла павёў глыбокую баразну па соннай яшчэ зямлі, і, адмерыўшы загадзя вызначаную велічыню, спыніўся, чакаючы, пакуль рабочы забівае кол на восі ўсход-захад. Тады сам хітрэц-муралей забраў у Андрэя мярыла і, падышоўшы ў цэнтр, акрэсліў вакол сябе кола. Я ўзяў за руку вялікага князя і ўвёў яго ў гэтае кола.

Жрацы заспявалі іншы гімн — цяпер гэта было маленне

да цара вятроў Стрыбога, да ўладара грому Перуна і ўладара падземнага царства Жыжаля, каб ніхто з іх не гневаўся на тое, што мы, людзі, трывожым спакой зямлі і неба. Шварна разам з іншымі жрацамі паднёс да кола чорнага пеўня, які спалохана драў у паветры рагавістымі кіпцюрамі і тапырыў каляровыя пёры на хвасце, а таксама сярэбраныя пенязі і вялікі залаты чэшскі грош. Яго аддалі Гедзіміну, а пенязі паклалі ў далоні Еўне і старой княгіні. І дзеці Гедзіміна стоўпіліся ля кола, але ў іхніх далонях былі драўляныя чашы з півам і мёдам.

— Хай стаіць твая вежа, пакуль скончыцца Час, і хай нашчадкі твае славяць справы вялікага Гедзіміна!

Мой голас прагучаў так моцна і ўрачыста, нібыта самі багіні судзяніцы, уладаркі Лёсу, дапамагалі ў гэтую хвіліну. Нарбут капануў рыдлёўкай, і ў тую ж хвіліну вострым нажом жрацы перарэзалі горла пеўню. Пырснула цёмная, амаль чорная кроў, трапяткое, яшчэ жывое цела птушкі кінулі ў яму, і туды ж паляцелі пенязі, а следам залатая манета, якую навольна, нібы апускаючы яе ўніз, паклаў Гедзімін. Манета бліснула, і тут жа яе залілі мёдам і півам маладыя Гедзімінавічы, і кожнага з іх прагна разглядалі, стоячы наводдаль, баяры і зямяне Вільні — учарашняга Крывіч-горада (я заўсёды называў яго менавіта так — «горад крывічоў»)... А пасля большая іх частка ўпала на калені — тады, калі схіліў галаву перад воляй багоў і невядомага нікому лёсу сам вялікі князь, молячыся аб тым, каб усё задуманае ім здзейснілася.

Пасля тварылі свае службы праваслаўны і каталіцкі біскупы. Падалі ніц то адна, то другая купа людзей, але найболей было ўсё ж язычнікаў. Перад каталіцкім біскупам схілялі галовы найбольш паслы ды замежныя рыцары, што прыехалі на службу да славутых і багатых вільнян. Але былі ўжо і простыя рамеснікі — іх, немцаў, датчан ды фламандцаў вабіў сваімі лістамі вялікі князь літоўскі, абяцаючы вялікія заробкі і шмат працы. І яны ехалі — гарбары і залаташвеі, шорнікі і ювеліры, карэтных спраў майстры і куафюршчыкі, якія

рыхтаваліся выкладаць на галовах віленскіх модніц самыя адмысловыя прычоскі, карыстаючыся для таго конскім воласам і нават мачалай, фарбаванай галінкамі вольхі.

Гедзімін стаяў у магічным коле, але яму давялося слухаць усе тры малебны. Я ж, калі адышоўся ад яго, мог наблізіцца да палаткі, што паставілі на паўднёвым схіле жрады-язычнікі. Усё яшчэ знаёміўся я са служкамі капішчаў Крыў-горада. Іх было шмат — і славян, і балтаў, найбольш у белых доўгіх адзеннях з узорыстымі то залатымі, то сярэбранымі аблямоўкамі, з магічнымі палкаміабярогамі ў руках, дзе рукаяці былі таксама з каштоўнымі камянямі і разьбой. Але былі і валхвы-чарадзеі — тыя абраслі валоссем, і адзенне на іх было з грубае пасконіны, перавязанай раменнем ці проста скруткам сухіх змей альбо свяшчэнных вужоў. Апошніх я, як новы вялікі жрэд, амаль не цікавіў — яны ўжо ў паабеддзе схаваюцца ў сваіх пячорах альбо зямлянках, удосталь нагледзеўшыся на княжацкіх дзяцей і цівуноў.

Але жрацы — тыя назіралі за мной не тоячыся, і ў іхніх вачах чыталася сумненне. Надта маладым я быў, і хаця ўсе ведалі, што вырас я разам з дзецьмі вялікага князя, аднак пакуль я не надта праславіўся вялікімі прароцтвамі альбо абаронай старых багоў, хаця ўсе ведалі пра чараўнічы сон каля тары. Наадварот — жывучы ў замку, я штодзень сутыкаўся са служкамі новага бога хрысціян. І ці не разгневаюцца за тое старыя багі?

І як прымуць нас, усю нашу жрэчаскую калегію з Трокаў мясцовыя? Яны глядзяць на мяне па-рознаму: хто з надзеяй спадабацца і хутчэй ўвайсці да мяне ў давер, іншыя — недаверліва. Ёсць і такія, хто ледзь утойвае цёмны, злавесны бляск зрэнкаў. Але ёсць адзін твар — немалады, але па-дзіцячы адкрыты і шчыры. Такі погляд, як у яго, я ведаю — чалавек слухае цябе, але ўсё ж як бы адначасна і ўслухоўваецца ў нешта іншае, чутнае яму аднаму. Я давяраю такім. Яны не будуць плесці павуцінавыя цянёты, каб радасна слухаць

пасля, як б'ецца ў іх даверлівая муха.

— Як цябе завуць?

Ён пакланіўся, рэзкім рухам закінуў за вуха доўгую русявую пасму валасоў.

— Домаш, гаспадзін.

— Адкуль ты?

— З Мількавіч.

— Дзе гэта? Далека адсюль?

— Ля Сіняга Каменя.

Я чуў пра гэты Сіні Камень. Туды прыходзяць з усяго Княства пакланіцца дзіву — цвікам, убітым у аграмадны валун. Казалі, што гэта вялеты-асілкі Дубыня, Гарыня і Вернідуб спрачаліея, хто з іх зробіць нешта самае незвычайнае. І Гарыня пяткай укалаціў у валун тыя жалезныя двікі і стаў пераможцам[21].

— Пойдзеш у замак?

Ягоны шырокі твар успыхнуў сінню вачэй:

— О не, гаспадзін. Мне тут будзе тлумна, у вялікім горадзе. Я зараз і паеду назад, бо нагледзеўся ўсяго. І цябе пабачыў. Ці праўда, што гэта па тваім сне князь Гедзімін тут сталіцу засноўвае?

— Ён сам гэты сон бачыў. І не каля гары, як кажуць, а на самым гарбе, на ўзвышшы. А я... я толькі расказаў, што той сон значыць.

Цяпер я ведаў, што паданні пра вешчы сон разнясуцца па Княстве яшчэ шырэй, хутка ўсё гэта будзе запісана і летапісцамі. Што ж — магчыма, і легенды пра вялетаў таксама толькі чалавечыя прыдумкі?!

Шкада, што гэты Домаш не застанецца каля мяне. Калі б не Гердзень, я быў бы зусім адзінокім. Але ён, гэты навагародскі хлопча, заўсёды са мной. Вось і цяпер —

стаіць ззаду за жрацамі, але не зводзіць вачэй з натоўпу, які, вiруючы, патроху прасоўваецца да нас. Асцярожна падышоў, адцяснiў самых цiкаўных. Няхай iдуць слухаць туды, дзе князь i сям'я. Бачыць, што мне трэба пагаварыць са жрацамі.

І я гаварыў — ажно пакуль не скончыліся набажэнствы і нас усіх не запрасілі ўніз, у новыя палаты старасты віленскага Глеба, дзе пачалося баляванне вялікае, пасля якога ледзь не тры дні адлежваліся і паны-рада, і сам князь Гедзімін. Але, як казаў мне галоўны чашнік, він і пітва ў падзямеллях Глеба не надта паменшала, таму што віленскія купцы навезлі яму цьму цем бочак і гарлачоў пітва і напояў. І ўсе ведалі прычыну — спадзяваліся купцы на гандаль з Ганзай, на які пакуль мелі дазвол толькі Полацк, Навагародак, Крэва і Трокі ды розныя там дробныя гарады.

А раніцай я пайшоў аглядаць капішча Свінтарога, дзе некалі, гадоў восемдзесят таму, быў пахаваны балцкі князь і дзе цяпер валадарыў Пярун. Яно мела ў даўжыню каля 150 аршынаў, у шырыню каля ста. Вышыня сценаў гэтага, не такога і старога, збудавання дасягала 15 аршынаў. Без даху, з адным уваходам з захаду, гэтае збудаванне было падобнае да крэпасці.

Пярун сустрэў мяне каля ўвахода. Ён стаяў пад магутным, каржакаватым дубам, цёмнае дела яго было амаль такім жа маршчыністым, як і дуб, але пранізлівыя вочы, зробленыя з бліскучых смарагдаў, грозна глядзелі на людзей. Я паднёс яму дары — глячык з бабровым струменем, запячатаны пчалінай смолкай, і пайшоў у храм.

Капішча ўражвала. Ахвярнік вышынёй з тры аршыны і шырынёй прыкладна дзевяць быў асветлены агнём, які гарэў наверсе, ў выемцы. Я падняўся па дванаццаці прыступках (замяшчальнік галоўнага жраца Куп пыхцеў следам, як грузны сом, якога валакуць за жабры) і асцярожна паставіў ля Зніча і другое сваё прынашэнне — медны кубак з мёдам. Мы прачыталі малітвы, і я асцярожна паліў агонь мёдам. Адразу запахла летняй ноччу, калі цвіце ліпа і жоўтая квецень

злёгку калышацца пад ветрыкам.

Мяне здзівіла, з якім майстэрствам было пабудаванае прыбежышча для полымя. Які б лівень ні хлынуў, немагчыма было б затушыць гэтыя каснікі агню, якія вырывалі з цемры знакі на прыступках. Я паўзіраўся ў адзін з іх.

— Што, сапраўды ў наступным месяцы поўня счарнее і будзе бяздожжа?

— На жаль, год сапраўды будзе цяжкім, — стары жрэц паглядзеў на мяне з павагай.— Я не думаў, што ты, такі малады, гэтак добра ведаеш усе старажытныя знакі, — дадаў ён пазней, калі мы спусціліся ўніз і пайшлі да чатырохбаковай вежы, адкуль звычайна жрацы Перуна вяшчалі волю багоў.

Вежа прытулілася да самай Крывой гары, і значэнне яе, а разам і капішча, невымерна ўзрастала цяпер, калі на гары вырасце галоўная вежа вялікага князя.

Я задуменна аглядаў жраца. На ягонай шыі шчэрыліся каралі з зубоў лісіцы — значыць, ён хацеў бы быць хітрым. На мне яшчэ з дзяцінства заўсёды, калі выходзіў на людзі, матлялася нітка з нанізанымі ікламі тыгра — іх калісьці павесіў на маю шыю Гедзімін з пажаданнем, каб я быў харобрым. Думаецца, ён і сапраўды не хітры, а, хутчэй, неасцярожны, нягледзячы на свой ўзрост. Багі часта выбіраюць такіх, каб дыктаваць праз іх сваю волю.

Вядома, сюды, у галоўнае капішча новай сталіцы, трэба было б ставіць першым памочнікам каго з маладых, прыезджых святароў, блізкіх да двара. Але гэты грузны, з гладкім круглым тварам жрэц меў нейкія безабаронныя, даверлівыя вочы і, нягледзячы на сваю таўшчыню і вонкавую слабасць, густыя валасы і моцныя рукі з тонкімі пальцамі. Ён любіць прыгожае — гэтыя пальцы толькі што пяшчотна агладзілі крутое цела каня на кубку, які я паставіў каля Зніча.

Зніч! Бясконца прымаючы новыя і новыя формы, ён

нязменна заставаўся тым жа, ачышчаючы ўсё навокал сябе. Ад яго беглі цёмныя духі, хаваючы свае мярзотныя аблíччы ад усепранікальнага святла, ён саграваў цела ў сцюдзёную ноч. Калісьці кожны, самы цёмны чалавек, ведаў: да Агню нельга паварочвацца спіной, плявaць у яго ці класці ў вогнішча вострае і нават заліваць вадой. Але пастунова гэта забывалася.

Агонь, які чырвонымі каснікамі трапятаў перада мной, не згасаў з часоў, калі, здаецца, не было і самога часу. Капішча Перуна восемдзесят гадоў таму будавалася вакол яго, і таму я апусціўся перад Знічам, працягнуў да яго рукі і папрасіў з усёй той сілай, якая жыла ўва мне:

— Адкрый мне мае будучае, свяшчэнны агонь!

Я глядзеў прама ўнутр вогненных пялёсткаў, але адказу не было. Хвіліна, другая... Раптам нешта нібыта шуснула збоку, і агонь здрыгануўся. Узляцелі, закружыліся іскры, вогненнай хваляй хвастанула па цэгле перад маім тварам, і ў агні я ўбачыў сябе.

Чорнае вараннё кружылася перад высокімі вокнамі замка, дзе я сядзеў адзін. Я ведаў: у падзямеллі мяне чакаюць жэглішчы продкаў, але ўсе яны, спаленыя некалі на агні, цяпер сядзяць і чакаюць мяне там, унізе. А я павінен буду прайсці між імі, і кожны прапануе кубак з пітвом. У адным з тых цяжкіх сярэбраных, гліняных, там-сям нават яшчэ неабпаленых кубкаў плешчацца атрута.

Жах ахопліваў мяне ўсё болей, але нейкая сіла міма волі цягнула ўніз, і я павалокся туды праз сырыя доўгія калідоры з заржавелымі дзідамі і счарнелымі чарапамі ў кутах, па замшэлых, пашчэрбленых прыступках.

Яны і праўда чакалі: селянін у чыстай вышыванцы з кутасамі на грудзях, вершнік у скураным нагрудніку і панцыры, амаль сатлелы пісец у доўгім ваўняным каўпаку і накідцы, зашпіленай сярэбранай фібулай і яшчэ многія, каго я ўжо не мог разабраць у прывідным святле гнілякоў, што свяціліся па ўсёй падлозе. Але

кубкі з то фіялетава-чорных, то распухлых, то празрыста-струменьчатых, ужо і нематэрыяльных пальцаў я браў. Пітво было featured рознае — ячменнае піва, гарэліца, ад якой перахоплівала горла, бурштынавае ці пурпуровае заморскае віно... Не хмялеючы, прабіраўся я да запаветнага выхада, які адчуваў усёй скурай як нешта светла-радаснае там, у глыбіні бязмернага таго падзямелля, куды імкнуўся, як жалезныя апілкі да магутнага магніта.

Залаты кубак нібы вынырнуў з цемры сам сабой, і рука, якая яго падавала, была дзіўна знаёмая. Мёд, трохі збрадзелы, але хмельны, заманліва пераліваўся ў залатым кубку, і я ведаў — вып'ю, і кубак застанецца са мною, і жаданы агонь забыцця і спакою разальеццв па жылах. Але тады замкнецца прастора і не будзе выйсця адсюль.

Млявае воблака абвалакло з ног да галавы, захацелася апусціцца тут і застацца навекі. Невядома як кубак апынуўся ля вуснаў, я амаль прыгубіў заманлівае пітво, якое ўжо апякло мне вусны, як... як атрута!

Дык вось яна якая, пастка, у якую заманьваюць невядомыя, але магутныя сілы!

Стома гнула да зямлі, вусны гарэлі. Я шчыльна сціснуў іх, вільгаць пралілася на грудзі. І ў грудзях запякло. Тады, хістаючыся, я падняўся і, устаючы, адштурхнуў кубак. Амаль уламіў яго ў чужыя пальцы, тонкія, нервовыя. Нешта знаёмае было ў іх, нейкая прыкмета, якая нібы ўцякала ад мае свядомасці, расплывалася ў ёй...

І тады мяне панесла да выхада, да святла, да сонца, якое праглядалася ў зрадзелай ужо цемры недзе далека, як прасвечвае жаўток скрозь мутнае шкарлупінне...

Свядомасць вярнулася, я зноў апынуўся каля Зніча. Мы са жрацом асцярожна спусціліся з прыступак — цяпер, зверху, на іх можна было прачытаць выбітую табліцу месяцовага календара — ад маладзіка да поўні і да

танюткай, як дужка, апошняй яго квадры. Пасля мы пайшлі далей, да усходняе часткі храма, дзе пад багоўняй звычайна жывуць у падзямеллі свяшчэнныя жывёлы храма. Я шмат чуў пра чорных вужоў, але толькі тут пабачыў іх упершыню.

Толькі вопытнае вока магло адрозніць такога вужа ад гадзюкі, і таму, калі жрэц узяў аднаго з іх у руку і абярнуў чорнай варушлівай стужкай вакол запясця, я толькі з цяжкасцю мог суцішыць нейкае непрыемнае пачуццё. Трызненне, што паўстала перада мной з полымя, было звязанае з атрутай, са змяінай празрыста-жоўтай вадкасцю, якую так легка падліць у кубак. І хаця ўсе мы, жрацы, падлівалі ў сваю ваду па кроплі -дзве змяінай атруты, каб захаваць цела ад магчымага атручвання, усё ж было вядома: з далёкіх краёў завозілі ў Княства атруту больш магутную, страшную, невядомую. І ад яе перасцерагчыся было куды цяжэй.

Аднаго з вужоў я захацеў пакарміць малаком. Гэта быў абрад, які тут давяралі толькі галоўнаму жрацу і ягонаму памочніку, нават вялікі князь не смеў таго рабіць, калі б і захацеў.

А пасля мы вячэралі. На стале стаяла няшмат страў, але ўсе яны былі згатаваныя з вялікім майстэрствам. Я нават не пазнаў па смаку белязеня — вялікія рыбіны былі нафаршаваныя морквай і пасыпаныя жоўтым парашком з вострым нязвыклым пахам.

— Шафран, — патлумачыў Куп, заўважыўшы мой позірк. — Спецыяльна для цябе, вялікі жрэц.

— Адкуль жа ведаў, што я прыеду да цябе абедаць?

— Ты, жрэц, пытается аб тым? Знакі. І адчуванне, што нашы шляхі будуць звязаныя.

Я зноў уважліва паўзіраўся ў Купа. Хоча ўкласці мне ў галаву тое, аб чым марыць: заняць месца ля майго пляча? Той, хто атрымлівае хаця якую ўладу, ведае: разам з ёй, як якое пракляцце, валачэцца не толькі

зайздрасць і нянавісць, але і ліслівасць, і хітрасць, і шмат чаго іншага, што прыгінае да зямлі слабога.

Але гэты немалады чалавек, здаецца, гаварыў тое, у што ён верыў. Ды і ў мяне самога было пачуццё, што мы знаёмыя даўно, нібыта і сапраўды былі разам, паблізу адзін аднаго, у Ірыі, адкуль вяртаюцца на зямлю душы, каб пачаць сваю бясконцую і вечна новую службу на Зямлі.

Мне хацелася яму верыць.

— Тады скажы, як калегія вашых жрацоў прыме мяне?

— З насцярогай і без радасці. Нам было тут утульна. Цяпер, калі княжы двор пераязджае ў Крыў-горад і нават назва яго мяняецца, многія баяцца перамен. Трэцяя жонка князя — хрысціянка з Полацка. Ваш двор амаль увесь таксама моліцца новаму богу. І сыны вялікага князя — таксама. Я бачыў Альгерда. На ім — пячатка будучага ўзвышэння, улады, а ён разам са сваёй жонкай, таксама палачанкай, падаў на калені перад крыжам!

— Але Кейстут не хрышчаны.

— Усяго двое з сямі! А дочкі — усе яны, калі пойдуць замуж у еўрапейскія краіны ці на ўсход, мусяць прыняць веру мужоў. Дык ты сам і падумай, што ж застаедца старой веры. Якая ў яе будучыня?

— Вакол нас — хрышчаная Еўропа. Але і там, нават прыняўшы хрысціянства, не ўсе адракаюцца ад бацькоўскіх звычаяў.

— Бач, і ты робішся паблажлівым, ты, замест таго, каб прызваць нас сабраць усе сілы і ўстаць сцяной, не дапусціць сюды чужынцаў, ты, галоўны жрэц, гаворыш спакойна аб рэчах, аб якіх спакойна гаварыць немагчыма!

Ён падабаўся мне ўсё болей. Неасцярожны, і праўда неасцярожны! Але затое шчыры, затое гаворыць, што думае.

І я, калі пасля караскаўся наверх, у вежу капішча, каб адтуль зірнуць на наваколле, думаў пра яго з цеплынёй. Мне патрэбныя такія людзі. Якія думаюць не пра сябе — пра родную зямлю, і гатовы за яе змагацца, і не хочуць прымаць чужаземнае, таму што лічаць — сваё не горшае за чужое, сваё — гэта тое цяпло, якое набралі продкі і якім, як коўдрай, ахутаны край. Усе звады і спрэчкі працінаюць тую коўдру, і голымі перад светам застанемся мы, як і кожны народ, калі растрацім сваё. А можа, і не застанемся, растворымся, як іншыя плямёны, ад якіх скаланаўся свет і пра якіх сёння ніхто не ўспамінае...

## Паслы

Трубы заспявалі разам, рэха паляцела наверх, ударылася аб мае акенца і крыштальнымі аскабалкамі пасыпалася на двор. Я хуценька накінуў на сябе зялёнае аксамітавае карзно і пачыкільгаў уніз.

Апошнія два дні я начаваў у замку, хаця мае новае жытло месцілася ўдалечыні ад вялікага князя. Канешне, нядобра, што вярхоўнага жраца вестка аб паслах заспела тут, а не ў ягонай уласнай рэзідэнцыі. Але гара, пазней празваная Алтарнай, ніжэйшая за Князеву, і назіраць зоркі лепей тут, у Верхнім замку.

Я не спаў усю ноч і цяпер збіраўся выйсці праз чорны ход і выкарыстаць усю гэтую мітульгу з прыёмам такога мноства гасцей, каб зрабіць тое неўпрыкмет. Аднак трэба было сустрэцца з Гедзімінам і перадаць яму скрутак пергамента, дзе я запісаў свае назіранні. Мяркуючы па ўсім, сустрэча прынясе вынікі, зоркі паказалі ўлагодненасць стыхій неба і зямлі. Можна было б перадаць яго з Гердзенем, але мой памочнік, стомлены доўгім чаканнем, заснуў на лаве, і я не стаў яго будзіць: прачнедца і будзе пачуваць сябе вінаватым, а з вінаватым лягчэй гаварыць... Гердзень усё болей апекаваўся мною, як малым дзіцем, і часам мне гэта бывала непрыемна, хаця я і разумеў, што ён аддадзены

мне бязмерна. Але кожны, каго ты набліжаеш да сябе, да сэрца, хоча пастаянна адчуваць тую ніту. А яна бывае і цяжкай, бо без патрэбы тузае за душу…

Да таго ж хацелася перакінуцца з Гедзімінам некалькімі слоўцамі. Апошнім часам мы ўсё ж мала бачыліся: ён бясконца засядаў з сынамі і ваяводам Гаштольдам, раскладваючы, як варцобы, магчымыя хады праціўнікаў і спрабуючы перайграць іх.

Ягоная гульня ўключала ў сябе велізарныя прасторы і агромністыя войскі некалькіх дзяржаў, а сягала яна і далека на поўдзень, да папскага двара, і на ўсход, да ханаў Залатой Арды, і на захад, да Рыгі і далей, дзе крыжакі таксама спрабавалі перахітрыць Княства зброяй і павуціннем інтрыг, і ў далёкую Масковію, якая пачынала ўсё болей паднімаць галаву.

Я помніў тыя пасланні, якія пісалі манахі-францысканцы пад дыктоўку вялікага князя, пацеючы ад напружання і паспешліва соўгаючы вострыя гусіныя пёры ў чорнае месіва атраманту. Асабліва запомнілася канцоўка. Пасля пералічэння ўсіх крыўдаў, якія чынілі крыжакі на балцкіх і славянскіх землях, Гедзімін дыктаваў, размерана ходзячы ўзад-уперад па каменнай, выглянцаванай да бляску рыжскімі каменячосамі падлозе:

«Святы і паважаны Айцец, мы з хрысціянамі вялі барацьбу не дзеля таго, каб знішчыць каталіцкую веру, але каб супрацьстаяць несправядлівасці, якую чыняць каралі і князі хрысціянскія; гэта відавочна, паколькі ў нас жывуць браты Ордэна мінарытаў і Ордэна праведнікаў, якім мы далі поўную свабоду хрышчэння іншых абрадаў.

Мы, паважаны Айцец, напісалі Вам гэта таму, каб Вы ведалі, чаму нашы продкі ўпалі ў грэх нявернасці і паняверкі. Але цяпер, святы і паважаны Айцец, мы дбайна молімся, каб Вы звярнулі ўвагу на нашае гаротнае становішча, паколькі мы гатовыя, як і іншыя хрысціянскія каралі, за Вамі ва ўсімісці і прыняць каталіцкую веру, толькі б нас ні ў чым не прыцяснялі

нагаданыя каты, а менавіта магістры і браты».

Я патаемна папрасіў манахаў перапісаць мне тую грамату і часта чытаў яе ў сваім пакоі, спрабуючы разгадаць, колькі праўды ў тых словах. Ці сапраўды збіраецца хрысціць свой народ Гедзімін? І ці сапраўды ў веру каталіцкую? Гэта для яго гэтак жа небяспечна, як і заставацца язычнікам. Вялікая Полацкая зямля, якая зусім нядаўна ўвайшла ў склад Княства, ўся пахрышчаная. І калі просты люд на ёй застаўся на справе язычніцкім, то ўсё баярства ўсё ж спавядала хрысціянскую веру грэчаскага абраду, ездзіла ў Візантыю і мела Святы Афон за духоўны ўзор.

Язычнікі — а гэта былі і Аўкштота, і Жамойць, і Крэва, і Дзяволтва, і Літва, і Нальшчаны — верылі ў Шкляную Гару, на якой вяршыцца суд багоў. З заходняга хрысціянства ў Княстве меліся толькі прыезжыя майстры, гандляры і іншы люд, якога багата панаехала сюды ў апошнія гады, спадзеючыся на добрую працу і нядрэнныя заробкі. Кляўся ж у сваіх пасланнях да гараджан Любека, Брэмена, Магдэбурга, Штральзунда і іншых гарадоў наш князь так урачыста, як мог: «Клятваю абяцаем вам усім, што ўстановім такі мір, якога хрысціяне ніколі не ведалі». Для іх будавалі касцёлы і манастыры, але тутэйшы люд не асабліва спакушаўся на тое, ён пакуль што ішоў да нас.

І можа, не варта трапляцца на вочы паслам хрысціянам? Аднак жа цікава, ці буду я запрошаны на ўрачысты прыём? Момант няпросты — яны, мабыць, прыехалі выведваць у яго, ці сапраўды будзе ён прымаць хрысціянства, і асабліва — якога абраду?

Паслоў тут чакалі. Увесь тыдзень палацавая чэлядзь мыла мэблю, чысціла, націрала сталы халадзенкай мятай, шліфавала ружовыя гранітныя камяні на падлозе ў пакоях, прызначаных для іх светласці пасланнікаў рыжскага магістрата, Лівонскага ордэна і дацкага намесніка Рэвельскай зямлі.

Павольна, не спяшаючыся, не паварочваючы галоваў, ішлі пажылыя і маладыя, чорнавалосыя і сівыя паны

праз двор, вымашчаны гранітнымі плітамі. Аднак я заўважыў, што некаторыя з іх вострымі, спрактыкаванымі позіркамі чэпка намацвалі ўсё, што іх абкружала, каб пасля дакладваць аб убачаным. Што ж, нам няма чаго саромецца — замак наш пашыраецца, але ён і зараз не горшы за Рыжскі, дзе ўсё ж збіраецца болей багаццяў з Захаду і Усходу, чымся зараз у нас. Багатае Полацкае княства падточана, як шашалем, крыжакамі, Вільня ж яшчэ не стала сапраўднай сталіцай, бо незадаволеныя новагародцы не перастаюць са зларадствам сачыць за кожным пралікам віленскіх баяр і святароў, а мітраполія Новагародская пананейшаму не хоча перасяляцца сюды, у Крыў-горад.

Адзін з паслоў спыніўся і глянуў наверх, у акно, ля якога я стаяў. Злавіў, мабыць, мой позірк. Можа, гэта пасланец ад арцыбіскупа Рыжскага Януарый? Моцна пасварыўся той з лівонскім магістрам Кетэльгодам, а той усё ж бліжэй да папы, бо, кажуць, ягоны сваяк пры папскім двары. Лівонскія магістры ненавідзяць нас, ліцвінаў. Яшчэ не адгулі па княстве тыя грымоты, якія ўчыніў вялікі магістр Ордэна Карл Трырскі, калі рашыў пасадзіць на вялікакняскі пасад князя Полюша. Плюндравалі тады крыжакі зямлю Новагародскую, але злавіў Гедзімін і Полюша, і ягоных памочнікаў Драйка і Свірылу і злупіў з іх жывых скуру, бо моцна даліся тыя гіцлі нашай зямлі. А цяпер дастае Кетэльгод.

Жнівеньская раніца дыхала гарачай вільгаццю — ноччу ішоў дождж, вільготныя палі ўдалечыні курыліся парай, зіхоткае сонца парылася на купах векапомных дубоў, што сцяной стаялі над капішчам Рагуціса. Дзе-нідзе сярод камяніц, шэра-белых, падобных да францысканскіх манахаў, весела чырванелі дахі перасяленцаў з ганзейскіх гарадоў, што прыехалі ў Вільню па закліку Гедзіміна. Адтуль чуўся звон — мабыць, хутка набягуць да Ніжняга замка немцы і датчане, франкі і карнуэльцы, якіх цяпер нямала, і будуць вітаць сваіх. У гэтыя дні тут, у Вільні, будзе вырашацца вялікая справа: будзем мы разам з рыжанамі і лівонцамі супраць хцівых крыжакоў ці яны нас пастараюцца пасварыць з папам, раздзяліць, каб

пасля жалезнай хадой крок за крокам прасоўвацца на ўсход?

Я схамянуўся. Гедзімін, мабыць, вось-вось пашле па мяне (ён не прасіў гадаць наконт прыезду паслоў), а гэта будзе значыць, што ён незадаволены.

Вецер ускудлаціў мае валасы і бараду, і яна зачапілася за шыты золатам каўнер. Я пацягнуў яе, і сівы волас абвіўся вакол пальца. Ці не рана мне сівець? Адчуваю сябе маладым, і кроў бяжыць па целе моцна і пругка, і рукі мае налітыя сілай, з якою нялёгка спраўляцца, і нават строгія пасты не знішчаюць блазнаватага настрою і нястрымнага, нічым не знішчальнага жадання жыць, удыхаць паветра, у якім прыхаматліва змешваюцца пахі каменнага сховішча, дзе стаю, і спелага коласа, што наплывае з палёў...

Я пайшоў у пакоі вялікага князя, але ён не прыняў мяне. Толькі мечнік, што вартаваў разам са стражай уваход на княжы наверх, узяў з рук пергамент і сказаў, што Гедзімін пашле па мяне пазней, бо рыхтуецца да сустрэчы і ў яго ўжо сядзяць маршалак, ваявода і паны-рада. Жрэц з Аўкштоты Ерыдоне сядзеў каля дзвярэй на воўчай шкуры — ён таксама не быў дапушчаны да князя.

Кальнула нядобрае прадчуванне: вялікаму князю не хацелася, каб паслы даведаліся, што вярхоўны жрэц разгульвае па замку, як па сваім жытле. Ім не растлумачыш, што я вырас разам з княжымі дзецьмі і даўно стаў тут як свой. Але, можа, я і сам перабольшваю сваё значэнне для княскае сям'і? Можа, стаўшы вярхоўным жрацом, я мушу быць больш абачлівым?

Нядобрыя прадчуванні спраўдзіліся. На ўрачысты прыём я не быў запрошаны. А гэта яскрава казала аб тым, што мае значэнне — і значэнне язычніцтва — падае. Ці, прынамсі, упала на гэты момант. Верх узялі — хто? Праваслаўны ці каталіцкі біскуп? Мы жылі тут, гайдаючыся, як на бязмене, і кожны зорка сачыў за іншымі. Таму, вярнуўшыся, я сабраўся адправіць у

замак вялікія дары, але, падумаўшы, вырашыў адарыць толькі княгіню Еўну і дачок. Можа, яны пастараюцца, каб Гедзімін адчуў сябе перада мною вінаватым?

Праз тыдзень вялікі князь паслаў па мяне. Пасланец прывёз мне залатое блюда і пярсцёнак з зялёным ізумрудам. Гэта значыла, што вялікі князь разумее, якая абраза мне нанесена, і хоча, каб я прысмірэў душой, а не гарачыўся і не сварыўся.

І сапраўды, ён быў нязвыкла ціхманы. Сышоў з лавы, абняў мяне. Пакой, дзе ён сёння прымаў, туліўся па-за лажніцай, і туды прыходзілі толькі самыя блізкія. Я адразу заўважыў, што на стале, на вялікім сярэбраным падносе, стаялі дзве чары і коўш з чорна-чырвоным віном, а таксама грудзіліся вараныя ў воцаце ласіныя губы, якія паклаў сярэбранай лыжкай на асобную талерку чашнік Гневаш, які, не паднімаючы вачэй, адразу ж знік за дубовымі дзвярыма з выразанымі на ім стрэламі Перуна.

— Ведаеш, сынок, — адразу пачаў князь, гледзячы мне прама ў вочы, але нешта вінаватае стаілася ў вуснах, у шырокім, як высечаным сякерай, твары, — калі б я выставіў на гэтай сустрэчы цябе, то што б я казаў у сваё апраўданне паслам? Ты ж ведаеш, я абяцаў ім прыняць хрост. А ты... ты нават прысутнасцю сваёй сведчыў бы, што ўсё гэта няпраўда, што я змушаны абяцаць і абяцаць, бо праклятыя Ордэн спрабуе выгрызці нас адсюль і ўжывае ўсё, што можа. Ты ж помніш: двух гадоў не прайшло, як папа Ян XXII прадпісаў дамініканам прапаведаваць крыжовы паход на Літву і Жамойць, і толькі мае пасланні да яго, ды яшчэ звады паміж рыжанамі і Ордэнам, спынілі тую вайну. Я не баюся бітваў, але калі рыцары з усяе Еўропы збяруцца супраць нас, як супрацьстаяць такой сіле?! Ты можаш гэта зразумець?

— Гаспадзін мой Гедзімін, цяпер мне цяжка будзе гаварыць з народам. Калі сам князь адварочваецца ад нас, то як будуць людзі прыходзіць у капішчы? Ці ўпэўнены ты, што, кал.і мы адвернемся ад багоў, яны не адвернуцца ад нас? І дзесяці гадоў няма, як яны наслалі

на нас голад. Ты помніш, як людзі глыдалі сваіх дзяцей, бо тыя былі слабейшыя і не маглі супраціўляцца модным?!

Моцна пахла мятай, якой нацёрлі крэслы і сталы, і было бачна, як сонца грала на ложы, пакрытым сінім, пафарбаваным валошкамі, пркрывам. Там жа, побач з ложам, паклаўшы галаву на тоўстыя лапы, сцярожка драмаў вялікі ваўкадаў, высалапіўшы чырвоны язык.

— Калі ты гаворыш пра тое, што прынашэнні паменшацца, то я дабаўлю табе з княжае казны і ты не пацерпіш стратаў,

Ён рабіў выгляд, быццам не разумее мяне, і ўгаворваў, як малое дзіця. А я і. адчуваў сябе так, нібыта само неба адвярнулася ад мяне, і я ахутаны чорным, беспрасветным покрывам ночы. І што мне цяпер былі тыя ласункі і падарункі князя! І горай за ўсё было тое, што свет вакол нас звужаўся і сціскаў нібыта нябачнай пятлёй тых, што любілі старых багоў і служылі ім.

Паўсюдна наступала хрысціянства, яно шырылася і на тыя землі, што былі язычніцкімі. Просты народ захоўваў веру — але баярства, паны-рада, — усе яны глядзелі на Візантыю альбо на Рым, і плынь паломніцтваў павялічвалася з кожным годам. І што такога чароўнага было ў тых вялізных гарадах, што брала душы ў палон? Можна было ўтрымліваць вялікага князя, які душою ўсё ж хінуўся да нас, але загароду, якую мы, жрацы, нібыта тыя бабры, спрабавалі ставіць перад новым вучэннем, размывалі гэтыя паломніцтвы, гэтыя падарожжы ў вялізны свет, які вакол нас ужо ледзь не ўвесь быў хрысціянскім.

Мы гаварылі з ім да самае начы, але ў кожнага была свая праўда, і ўпершыню я не змог яго прымусіць са мною згадзіцца. Заўсёды я мог паўздзейнічаць на ягоны настрой — праўда, ніколі тым не злоўжываў. Але зараз ён рабіўся тым каменна-цвёрдым, як валун, вялікім князем, перад якім мусілі схіляцца самыя магутныя вoі нашай зямлі. Мала таго — мы разышліся ворагамі, ён упершыню крыкнуў на мяне, а я, замест таго каб

схіліцца перад ім, не помнячы сябе, назваў яго клятваадступнікам. Тады Гедзімін з усяе сілы храснуў кулаком па стале; спалоханы Гневаш падскочыў да мяне разам з мечнікам і, амаль падхапіўшы пад рукі, вынеслі з лажніцы.

Калі я вяртаўся з замка, пах мэблі, нацёртай халадзенкай, здавалася, уеўся ў маё цела, і з таго часу я адчуваў яго як пах няшчасця — а яны, няшчасці, тым годам пасыпаліся на мяне так, нібыта і сапраўды нехта сыпануў іх поўнай жменяй, і ўся яна раскрылася нада мной.

Праз тыдзень я паехаў у капішча Рагуціса, каб пабачыцца са Шварнам. Хацелася прыцягнуць яго на свой бок. Я ведаў: ён вораг, але ягоная варажнеча шкодзіла нам абодвум. Нам трэба было трымацца разам — прайшоўшы іспыт мудрых старцаў, хаця і прайграўшы мне, ён тым не меней быў цяпер самым вядомым і нават знакамітым язычніцкім жрацом у Вільні. Я не мог даказаць ягоную віну ў тым, што Дамарат дамогся свайго, схапіў Гайну, таму стараўся забыцца на тое. Цяпер, папярэдзіўшы аб сваім прыездзе, я хацеў разам з ім абмеркаваць, што ж трэба зрабіць, каб не даць хрысціянам браць над намі верх, а таксама паменшыць уплыў маладой княгіні Марыі на дзяржаўныя рашэнні паноў-рады, якія як славяне болей хіліліся да хрысціянства грэчаскага абраду, раз ужо нельга было пазбегнуць хросту. Аднак тоўстыя, абабітыя ўзорыстым жалеззем вароты не расчыніліся перада мной. Зверху праскрыпеў насмешлівы голас брамніка, а ўдар мяча, якім, не вытрымаўшы такой абразы, гакнуў па клямцы Гердзень, нават не здрыгануў дзвярэй, якіх не маглі ўзяць нават тараны, хіба што грэчаскі агонь.

На нейкі момант я разгубіўся. Шварна, чыё імя нездарма значыла на старой мове, што была ў самых старажытных храмах Ашвінаў, «валадарны» альбо «непахісны», кідаў мне выклік не проста так. Яго падтрымліваюць многія віленскія жрацы, незадаволеныя нашэсцем навагароддаў і трокаўцаў.

Цяпер самы прыдатны момант для бунту: Гедзімін адвярнуўся ад мяне, а тады хто зможа мяне падтрымаць? Абедзве княгіні? Не, яны не пойдуць насуперак вялікаму князю. Нехта з сыноў? Хто? Альгерд, Манівід, Міхал-Карыят?

Манівід!

Ён старэйшы сын, і ён адзіны з княжацкай сям'і, хто ад усяго сэрца, шчыра пакланяецца багіні кахання Ладзе і яе сыну Любчыку. І ён любіць мяне. Мяне, а не Шварну! Гэта я выратаваў яго, калі ён гарэў агменем, я сам рабіў яму адвары каранёў лопуху і паіў сокам палыну, каб гной сышоў з горла, калі хлопца душыла Трасавіца. Тады лекар Гарох разгубіўся, бо ягоныя славутыя шарыкі з ліпы, расцёртыя ў парашок, не дапамагалі ані. І ён мне сказаў, калі ачуняў, што бачыў Мару з распушчанымі валасамі, якая празрыстай рукой вабіла да сябе, і ён гатовы быў пайсці за ёю, бо яна абяцала палёгку і радасць, але мае рукі трымалі яго і не аддалі грознай багіні смерці.

Імгненна ўсё расставіўшы па сваіх месцах і нават прадумаўшы, хто будзе маім абаронцам пры двары, я, аднак, зараз не мог пайсці ад брамы і вярнуцца з воямі, каб сілком, гвалтам прарвацца ў храм. Я сядзеў у вазку, мой валох[22] нервова перабіраў нагамі, нібы палохаючыся тае варожае сілы, якая ішла ад капішча.

— Едзь па пергамент ад Манівіда. Хай напіша што хоча, але каб пергамент быў хаця б з малой княжай пячаткай, — ціха загадаў я Гердзеню.

— Але, гаспадзін, ты застанешся тут адзін? — запярэчыў быў мой хлопец, ды я жорстка глянуў на яго, і ён імгненна скочыў на свайго каня і паляцеў прэч. Фурман трывожна касавурыўся на мяне, а малады служка Даўгаль дык той увабраў галаву ў плечы — відаць, ад нечуванага сораму і неспадзеўкі.

Я глядзеў на браму. Трэба было не даць злоснай, гняўлівай хвалі авалодаць душой і целам. Халодную злосць, што ўпівалася ў мяне ўсё мацней, нібыта п'яўка,

таксама трэба было як найхутчэй выдраць. Мне патрэбныя былі сілы. І — уменне.

Там, у глыбіні свяцілішча, каля алтарніка са Знічам, сабраліся жрацы. Яны, апроч таго што зачынілі браму, звяртаюцца і да багоў з просьбай адагнаць мяне ад свяцілішча і тым зганьбіць на ўсё княства.

Як добра, што торба з крыштальным пацікам і патрэбнымі травамі заўсёды была пры мне, да таго прывучаў мяне яшчэ сам вярхоўны жрэц. Я, памятаю, пасмейваўся: хто ж пойдзе насуперак жрацу, але ён загадваў, каб я нікуды не выходзіў без свайго начыння, і можа, сёння яно мне спатрэбіцца...

Вецер дзьмуў у бок свяцілішча, аблокі то накрывалі сонца, то вызвалялі яго, і тады промні пырскалі скрозь гушчу пракаветных дубоў, што гаем абкружалі капішча. Вуркаталі галубы, іхнія шэрыя пёркі адлівалі шызым. З недалёкае галіны хітра пазіраў на мяне, падрыгваючы зеленаватаблакітным апярэннем, сіваграк. Гэтак жа імкліва, як робіць свае налёты гэтая птушка, хіба без ейнага хрыплага «рак-рак», могуць кінуцца на мяне забойцы.

Галінкі ясенца — куста, які адурманьвае чалавека, ляжал! ў торбе на самым дне, разам са свярдзёлкам. Даўгаль адразу зразумеў, што мне трэба, яго маладыя рукі хутка закруцілі жалезны наканечнік у кавалку з сасновага пня. Агонь узгарэўся амаль адразу ж, і я, паклаўшы на медны паднос жменю травы, якая гарэла нябачным у сонечным святле полымем, наблізіўся да брамы.

— Як завуць цябе, брамнік? — мае пытанне прагучала лагодна, нават ласкава. Сіняваты струменьчык пацёк прама ў расчыненае акно брамніцы, і вартаўнік, выглянуўшы адтуль і глытнуўшы востлага, казытлівы водару, ужо не мог адарваць позірк ад майго твару. Сіла ўздымалася ў мне — сіла, якая прыходзіць не так часта, як хацелася б, але якая не падвяла мяне цяпер, у гэты цяжкі, як кавалак застылай крыцы, момант.

— Тройдзень, гаспадзін.

Было бачна, што ён адчайна хоча адвесці вочы, але я адчуваў у сабе непарушны спакой, халодны, як лязо мяча.

Ягоныя вырачаныя вочы паступова шклянелі. А я казаў далей — выразна, павольна, неадступна:

— Ты зараз спусцішся ўніз і адчыніш мне браму. Я твой гаспадзін, вярхоўны жрэц, і іншага гаспадзіна ў цябе няма. Паўтары!

Ён, запінаючыся на кожным слове, паўтараў гэтыя словы, як закліnанне. Нешта тузала яго, нібыта тая моц, якая ішла з капішча, вяртала яго назад. Але я быў бліжэй.

Ледзь перастаўляючы ногі, ён павалокся ўніз, і я разам з ім лічыў усе прыступкі, як бы трымаючы яго за плечы, каб ён не паляцеў тарчма і не разбіўся.

Калі ключ павольна паварочваўся ў замку, я пачуў нейчы тупат, але было позна — зарыпеўшы, цяжкія створкі павярнуліся, і я паклаў руку на цаўё мяча, падоранага мне некалі братам вялікага князя, Воінам. Ніколі не браў я з сабою мяча — што ж штурханула на гэты раз?

Вой стаяў і за брамай. Быў ён у скураным каптане з медным шчытом на грудзях — з варты храма, якая таксама бегла да дзвярэй, тузаючы похвы.

Зацокалі капыты па каменнай дарожды ззаду. Я не паварочваў галавы — гэта відавочна скакаў Гердзень.

Граматы з ім магло і не быць — але я адчуваў яе, адчуваў нават пячатку — родавы герб Гедзімінавага родуплемені Калюмна, выціснуты на пафарбаваным у чырвонае воску, які яшчэ не застыў. Можа, каб не было пергаменту, я мёртвым упаў бы каля гэтай брамы, ад якой я проста не мог адысці. І толькі пазней я даведаўся, што і сапраўды не мог бы адысці — напярэсціг мне вылецела б засада, якая чакала майго

вяртання, але, разгубіўшыся, прапусціла аднаго Гердзеня, а можа, спадзявалася, што так лягчэй будзе мяне забіць.

Пергамент быў! Такі, які мне прымроіўся, і пячатка была яшчэ вільготная, не застыглая, жоўтая, як напоены сокам восеньскі яблык. Я выцягнуў яе перад вартай, перайшоўшы праз таўшчэзныя вароты, якія і сапраўды маглі б вытрымаць асаду крыжакоў. І яны схіліліся ж столькі перад ёю, колькі цяпер ужо і перада мною.

— Вітаю цябе, вярхоўны жрэц! — вінавата азваўся нарэшце камандзір варты. Ён быў таксама жрацом, але ніжэйшага абраду, і сіняваты меч яго быў са сталі намнога ніжэйшага гатунку, чымся ў мяне. Я забраў ягоны меч, а ў астатніх — Гердзень. Усіх іх чакала пакаранне, і яны ведалі гэта.

Ведаў гэта і Шварна. Княжая пячатка значыла для яго тое ж, што і для астатніх — гнеў вярхоўнага ўладара зняты з мяне, а для яго толькі пачынаецца следства.

Нашмат пазней я даведаўся, што карані змовы супраць мяне былі далека адсюль, у Кракаве, дзе не жадалі майго ўплыву на Гедзіміна, і што сам мой сапернік таго не ведаў, а ведаў адзін са жрацоў, падкуплены хрысціянамі. Шварну хацелася быць вярхоўным уладаром язычнікаў, і яму абяцалі падтрымку з княжага двара і нават родзічы Гедзіміна па першай жонцы, для якіх я быў трохі не сваім, трохі як бы — праз двор — звязаны з хрысціянствам.

(Пакараны толькі няволяй і пашкадаваны мною, а таму не забіты, Шварна ўсё ж выплыў — якраз ён і стаў вярхоўным жрацом пасля мяне. Але гэта сталася пазней, нашмат пазней. А тады яго звянзенілі, і ён тры гады сядзеў з ланцугом на шыі ў падзямеллі капішча Перуна, дзе свяшчэнныя змеі злавесна высоўвалі свае смертаносныя джалы, спрабуючы да яго дацягнуцца.)

Калі я ехаў назад, мне ўвесь час здавалася, што сухі пыл, падняты ветрам, забіў усё горла і дыхаць было

амаль немагчыма. Цягнула апынуцца ў сваім пакоі, зняць з сябе цяжкі скураны каптан, залаты змеявік, які здаваўся пудовым, высокі валяны каўпак, з-пад якога ліліся мне на бровы цуркі поту, скураныя поршні, ад якіх ацяжэлі ногі, быццам яны былі тыя самыя жалезныя боты, якіх трэба было знасіць ажно тры пары, каб знайсці наканаванае. А яшчэ льняная кашуля, вышыўка на якой, здавалася, пякла грудзі, а яшчэ ніжнія і верхнія парты, якія таксама звльгатнелі ад поту, які быццам бы ліўся з кожнае поры на целе.

На кожнай прыступцы, што вяла ў святліцу, я спыняўся, а пасля загадаў прыгатаваць бочку для мыцця. І толькі там, у вадзе, куды падлілі настою распаранага чабору і мыльнянкі, я нарэшце сабраўся з сіламі, якіх у мяне засталося зусім мала пасля паядынку са жрацамі гэтага магутнага, самага ўплывовага пасля Перуновага, свяцілішча.

Я перамог іх! Адчыніў браму, за якой яны хаваліся, яны, чорныя пацукі! Я ўваліўся да іх, як кот-паляўнічы — але іх было шмат, і яны маглі б мяне загрызці. У магутным дубовым гаі я знік бы разам са сваім вазком, фурманам, Даўгалём і Гердзенем, і яны аб'явілі б, чаго добрага, што бачылі, як я жывым узнёсся на неба, і вераломна лілі б слёзы радасці (альбо гора, гледзячы па настроі вялікага князя).

Мыўся і разважаў: што гэта — нянавісць да мяне альбо ўсё ж прага да ўлады Шварны і ягонага клубка сяброўпаплечнікаў, родзічаў і прыхільнікаў? Альбо нелюбоў да Гедзіміна, якога тут баяцца, бо ён меней шануе балтаў, чым славян і мае жонку-славянку, да таго ж яшчэ хрысціянку? Альбо зайздрасць да мяне, маладога яшчэ па іхніх мерках хлопца, якому проста пашанцавала быць побач з уладай. А яна, адчуў я цяпер ўсім сэрцам, сапраўды нясе нейкі смертаносны пачатак. Яна такая салодкая, невымерна прыцягальная, што дзеля таго, каб быць альбо пры ўладзе, альбо блізка ля яе, людзі, і нават жрацы, гатовы ісці на злачынства.

Але мне... Хіба мне так ужо яна патрэбная? Хіба цешаць маю душу сагнутыя спіны жрацоў, зямян, нават паноў-

рады? Хіба радасна мне ад таго, што жанчыны пры двары пакорліва зазіраюць у вочы, спрабуючы нешта праз мяне дазнацца ў будучыні?

Я адзінокі. Адзінокі, як апошні ліст на дубе перад марознай непагаддзю. І, як ліст, разумею, што няма ў мяне (амаль няма ) жадання ўтрымацца на галіне таго дуба любым коштам. Няма ў мяне жадання плаціць той кошт. Няма ў мяне хоці весці свой струг па рацэ, лоўка ўхіляючыся ад камянёў, меляў ці... ці стрэлаў з берага, дзе хаваюцца забойцы і толькі ловяць тое імгненне, калі рукі мае і галава занятыя ветразем, што вырывае з рук вецер.

І не першы раз шалёная думка абпаліла мяне, так што я нават вылез з агромністае бочкі, над якой курылася духмяная пара — збегчы адсюль. Кінуць усё гэта, знікнуць, растварыцца ў прасторах вялікай краіны.

А яна цяпер сапраўды велізарная, яе межы пашыраюцца штогод. Гедзімін — вялікі князь, вялікі воін.

Я ўбачыў перад сабой яго магутную постаць, яго палец з адсечаным мезенцам, яго скрыўленае плячо.

Ён мне заўсёды здаваўся бацькам — не заўсёды справядлівым, але заўсёды разумным. І я не мог ні душой, ні сэрцам адарвацца ад яго. Занадта ён быў магутны — мядзведзь, валадар лясных нетраў, Вершнік на белым кані, што шалёна рвецца ў бой.

Але я рабіўся для яго палітычнай постаццю, і душа яго была аддзеленая ад палітыкі. А мне... мне патрэбна было, каб мяне любілі.

Палітыка без любові, без адчування сям'і — нішто. У тым і была розніца між намі. І сыны Гедзіміна былі амаль такія ж.

Альгерд быў найлепшым. Але і для яго я быў цяпер праціўнікам. Мяне выстаўлялі наперад, як шчыт, язычніцкія жрацы, каб я змагаўся за старую веру.

Але я не хацеў змагацца. Я хацеў, каб валадарыла любоў, каб людзі самі выбіралі, чаго яны хочуць, да чаго цягнуцца іхнія душы. Каб прыходзілі яны да нас не ад страху, не ад пакланення ўладзе.

Пранізлівы, страшны вецер улады — а чым вышэй, тым болей ён пранікае ў тваю галаву і душу — быў не для мяне.

Але гэтыя думкі яшчэ не былі рашэннем, яны толькі апякалі мяне і хаваліся некуды далека. Таму, абцёршыся доўгім ручніком, я лёг у ложак і заснуў моцна, як у дзяцінстве, каб сілы вярнуліся да мяне, бо сіл мне было патрэбна нямала.

Апошняе, што пачуў праз сон — мой Фальк цяжка пераляцеў на жэрдку ля акна, якое было расчыненае. Хай пасядзіць, гледзячы на бяскрайняе неба. Можа, ён таксама сумуе па ім? Можа, і яму не хопіць маёй любові, каб заставацца тут, у пакоі, дзе так мала прасторы для ягонага лёту? Дзе таямнічы крыштальны шар пераліваецца ў куце тысячай граняў, і сокал здаецца ў іх маленькай кропкай быцця, якая варушыць крыламі і лапоча, хочучы аб нечым паведаць свету...

З тым я заснуў, каб паспрабаваць прачнуцца іншым — гатовым да жыцця, да ягоных звіваў і перамен, да таго, што трэба ісці ў замак і спрабаваць сустрэцца з Гедзімінам — прасіць яго, каб не забіралі маладых нашых служак у войска, тое вось-вось пойдзе насустрач крыжакам, што, як стала вядома ў Вільні, напалі на Жамойць. Войска не хапала — палякі плюндравалі землі на Валыні, туды ўжо рухаліся лепшыя лучнікі. Давыд быў у Пскове, а частку рыцараў Гедзімін адправіў у Рыгу.

Прачнуўся не сам — Гердзень кранаў мяне за голае плячо, тармасіў спалохана:

— Гаспадзін, у свяцілішчы вялікая князёўна!

— Каторая?

— Ганна.

Я хутка ўстаў, Гердзень нацягнуў на мяне чыстую кашулю, поршні, карзно.

Праз колькі імгненняў я крочыў па падземных пераходах да перадпакоя, дзе за столікам з мядовым напоем з рутай сядзела князёўна Ганна.

Я даўно яе не бачыў — мабыць, з паўгода, і цяпер ажно страпянуўся ў душы: што робіцца з падлеткам усяго за колькі там месяцаў! Белы карабельчык з празрыстым белым покрывай адцяняў яркі румянак на яе твары — ужо зусім дзявочым, дарослым.

З усіх дочак Гедзіміна яна была найбольш падобная да яго: тыя ж трохі глыбока пасаджаныя шэрыя вочы, той жа разлёт шырокіх брывоў, толькі ягоная каржакаватасць ператварылася ў ёй у моднасць гожага баравічка, які выцягнуўся сярод травы і прабіўся да сонца. Ды і сукня на ёй была залаціста-карычневая, з жоўтымі карункамі вялікага каўняра, з якога яна сапраўды як выглядала.

Я працягнуў ёй руку, і яна схілілася перада мной у паклоне, а я пагладзіў яе па галаве, як некалі ў дзяцінстве. І ўсё ж мы былі цяпер іншыя, чым колькі гадоў назад у Троках, дзе я часта гуляў з князёўнамі ля возера і расказваў ім паданні і казкі нашага краю, а яны прагна слухалі мяне, як старэйшага брата.

Цяпер я не быў братам, і яна, прыехаўшы ў капішча Перуна, а не папрасіўшы мяне ў замак, яскрава паставіла ўсё на свае месцы: ёй патрэбная была парада вярхоўнага жраца, і я ведаў, для чаго: аксамітавы мяшэчак туліўся на палічцы ў куце.

— Тваё маленне будзе сёння ж данесенае да багоў, але я не ведаю, ці захочуць яны табе адказваць.

— А ты моцна папрасі іх, вялікі жрэц.

— Ты хочаш ведаць, ці будзе шчаслівым шлюб з Казімірам? Як прымуць цябе ў Кракаве? Што нясе твая

прысутнасць там Вялікаму княству? Ці будуць у цябе дзеці і колькі?

Янаківала галоўкай, а румянак на ейных шчоках разгараўся яшчэ болей.

— І, — дадаў я зусім ціха, — ці зможаш ты ўзяць з сабой у Кракаў у тваю світу аднаго рыцара ? Я не называю ягонага імені, але аб ім ты часта думаеш, князёўна, гэтак жа як і ён думае пра цябе!

Яна ўскінулася, як наравістая кабылка, але перамагла сябе і нават усміхнулася:

— Ад цябе і сапраўды не схаваешся, Ляздзейка!

І, гледзячы мне ў вочы, страсна дадала:

— І гэта таксама! А можа — спачатку якраз гэта!

Я ведаў адказ — Гожы, сын ваяводы Гаштольда, не зможа паехаць з ёю. Іх выдадуць у першыя ж дні тыя позіркі, якімі каханне меціць кожнага са сваіх слуг. Для таго каб трымацца спакойна і раўнадушна, трэба мець трохі халаднейшую кроў, чымся гэтая палымяная дзяўчына, на тварыку якой страсць напісаная гэтак жа выразна, як быццам яна крычыць аб ёй на плошчы перад Ніжнім Замкам. Я са шкадаваннем глядзеў на яе. Княжая дачка, няўжо табе з пялюшак не ўбілі ў галаву простую і страшную ісціну: трон не ведае спагады да такой дробязі, як чалавечае сэрца. Затое твае чорныя валасы ўпрыгожыць залатая карона, і ты будзеш сядзець высока над іншымі, больш разумнымі і здольнымі, і твой указальны пальчык, які зараз тыкаецца ў мяне, ужо цяпер не просячы, а як быццам загадваючы самім багам, можа паслаць нават на смерць! Польская карона не самая горшая ў Еўропе. Яна, канешне, не такая, як у Людовіка Баварскага, твой муж не зможа аб'явіць сябе германскім імператарам і хаця ў чымсьці пярэчыць папе. Аднак Уладзіслаў Лакетка носіць уласную карону і вядзе сваю палітыку, хаця таксама мае мала сілы супраць крыжакоў. Для таго і сватае свайго сына за цябе, каб мець родзіча

свайго Гедзіміна за саюзніка. Твой маленькі пальчык, на якім ззяе чырвоны камень, зменіць становішча ў Еўропе, як толькі на яго надзене яшчэ і шлюбны пярсцёнак сын Уладзіслава.

Але я і сам бы хацеў запытаць пра цябе багоў: ці будзеш ты ўрэшце шчасліваю? І колькі гадоў жыцця адмерылі табе Судзяніцы? Ты падабаешся мне, як усё маладое і моцнае, як усё, што прыйшло разам са мною на гэты свет, і спраўляе сваё свята жыцця, і пье горыч гэтага свету, як пачала піць і ты, бо табе давядзецца расстацца са сваім Гожам, які і сапраўды гожы і разумны, але ён не сын караля Польшчы і не ён распране цябе ў першую шлюбную ноч і на калматым кажуху возьме тваё дзявоцтва... Нават тваё дзявоцтва — тавар. Ты павінна будзеш везці яго з сабой, яно ўваходзіць у кошт дамовы паміж дзвюма вялікімі краінамі.

І я нізка схіліўся перад ёю, маленькай прыгожай кветачкай, якуюператруць вялізныя жорны палітыкі, а яна, зразумеўшы гэта як прызнанне яе ўлады, задаволена ўсміхнулася і ласкава, як у дзяцінстве, пагладзіла мяне па руцэ.

...Я гаварыў ёй тое, што можна было сказаць, не парушыўшы дамовы паміж намі, жрацамі, і Невядомым. Яно, Невядомае, не хацела расчыняцца, а мы настойліва спрабавалі ўваходзіць у яго, чытаць ягоныя знакі. І мы ведалі, што ёсць глыбіні, якія, калі дакранешся да іх, б'юць альбо і забіваюць. Ніколі не павінен жрэц гаварыць чалавеку аб блізкай смерці, нават калі той моліць-просіць сказаць, колькі яму застаецца. Няможна дапамагаць пры злых памкненнях, няможна помсціць, нават калі зямянін мысліць супраць цябе нядобрае.

І ўсё тое, чым адарыла цябе жыццё, трэба скіраваць на тое, каб паменшыць у гэтым свеце чарнату...

Мы развіталіся з ёю задаволеныя адно адным. Ганна пайшла насустрач свайму лёсу, а я вярнуўся ў ложак, каб у трызненнях і снах зноў прыйшло да мяне тое Невядомае, якое няўмольна насоўвалася на нас, а мы, як сляпыя кацяняты, спрабавалі адчуць яго — слыхам,

душою, а найбольш — адчаем няведання і неразумення...

Гайна ўсё яшчэ хварэла, ейны бацька, прыехаўшы ў Вільню, загадаў перавезці яе са свяцілішча Лады, дзе яна жыла, у дом да нейкіх віленекіх месцічаў. Я туды не хадзіў, толькі Гердзень час ад часу насіў ёй ад нас лекі, каб яна нарэшце ўстала і ачуняла пасля ўсяго перажытага.

А дні ляцелі і ляцелі, як лісты са свяшчэннага дуба, у кожнага быў свой смак, сваё адденне, але яны забываліся ў хуткаплынным часе, ажно пакуль не прыйшоў дзень горкі і скрушны.

## Смерць Біруты

Бушавала вясновая мяцеліца. Ліпкі, вільготны снег ляпіўся на твар, шчыміўся за каўнер воўчага футра. Гердзень, што борзда шыбаваў ззаду, не пераставаў бурчэць:

— Калі б ты захацеў, гаспадзін, то мог бы трохі і паклапаціцца пра свайго слугу. Сам ведаеш, ён просты чалавек, якому хочацца цёплага і светлага.

— Ты ўсур'ёз верыш, што я магу разганяць аблокі?

— Веру. Ты толькі прыкідваешся, бо часам лянуешся падумаць і пра сябе самога.

— Я не хачу сварыцца з нячысцікамі. Іm жа таксама нейкая радасць патрэбная — зрабіць такому добраму чалавеку, як ты, нейкую паганую штуку.

Так мы перагаворваліся з ім, прадзіраючыся скрозь вячэрнюю каламуць, але на душы ў мяне было чамусьці сапраўды пагана, і нячысцікі, мабыць, сапраўды радаваліся таму, бо іхняя справа — насылаць у чалавечыя душы трывогу і адчай.

Прадчуванне нейкай бяды не ашукала: перад самай брамай, дзе, захутаўшыся ў кажухі, нерухома стаяла варта, пачуўся пошчак конскіх капытоў — па бруку, якраз пасярэдзіне, дзе адтаў рыхлы сакавіцкі снег, скакалі коннікі. Іх было шмат — але хто, апроч ганца, мог так шалёна скакаць пад вечар да замка Гедзіміна?

Пярэдні скакун ледзь не наляцеў на мяне, бо стаяў я якраз пасярэдзіне адчыненай брамы, якую, аднак, сцярожкая варта гатовая была зачыніць перад незнаёмцамі. Краем вока я бачыў, што наверсе, у вежы, заварушыліся наводчыкі, якія стаялі ля парока «Пярун» — новае гэтае, страшнае сваёй магутнасцю кованае бервяно, якім ламаюць вароты пры асадзе, Гедзімін нядаўна закупіў у Любеку.

— Кашталян гарадзенскі Давыд! — толькі цяпер даляцеў да нас крык герольда, які не паспеў за сваім панам і адчайна стараўся апярэдзіць бяду.

Давыда пазналі не адразу — твар яго быў страшна скажоны, ён, сцебануўшы каня і нікога не бачачы перад сабой, паскакаў па дарозе, што вілася наверх. Я адхіснуўся не столькі ад пырскаў, што паляцелі на мяне, колькі ад нечаканасці.

Калі я дайшоў да замка, пабачыў: парадныя вароты адчыненыя, а ў вокнах, нібы расцякаючыся па ўсім замку, успыхвалі чырвоныя, трывожныя агні.

Таўстун-прытворнік стаяў бледны. Ён хрысціўся, але тут жа, убачыўшы мяне, спалохана апусціў руку і, нібы адказваючы на позірк Гердзеня, ціха прамовіў:

— Княгіню Біруту забілі крыжакі. І дзяцей таксама.

Раптоўнае рыканне, нібы тыя сто ваўкоў, якія невядома ці сапраўды прысніліся мне, раўнулі разам, данеслася да нас, і ўсе мы здрыгануліся.

Няўжо вялікі князь мог так закрычаць?

Так, гэта быў ягоны рык — я чуў яго аднойчы, калі сядзеў пад ялінай недалёка ад поля, на якім ішла бітва.

Тады шляхта стала адступаць, пахіснулася бел-чырвонабелая харугва, з трэскам зламалася дзіда ў ахоўніка, і паменела тых, хто абкружаў харугву, зберагаючы яе. Тады Гедзімін, што сядзеў на лаве перад шатром і якому перавязвалі плячо, гэтак жа, раз'ятрана зароўшы, ускочыў на любімага жарабка Сокала і паляцеў наперад, пакідаючы ў руках лекараў мох і белыя палатняныя стужкі. Як сам Пярун з ягонымі вогненнымі маланкамі, так секануў ён бліскучым мячом крыжакоў, якія падабраліся пад харугву. Мне тады здалося, што ў яго адразу некалькі рук — меч так і мільгаў пад сонцам. Нават шляхта не адразу зразумела, хто там ля сцяга, але калі Гедзімін, палажыўшы пад ім некалькіх крыжакоў, падняў трапяткое палотнішча высока, ліцвіны, як атрымаўшы хмельнага пітва, раз'ятрана кінуліся наперад.

Немцы падалі з коней няўклюдна, жалеззе на іх грымела, стукаючыся аб камяні, вывернутыя з поля тысячамі капытоў, і кроў цякла, цямнеючы на сонцы і застываючы страшнымі камякамі. Адсечаныя галовы глядзелі страшнымі вырачанымі вачамі, нейкі прыблудны сабака лізаў адну з іх, баязліва падцiскаючы хвост, а жоўтае восеньскае лісце ляцела здалёку, захінаючы чырвоныя плашчы і шэрыя шлемы, і тонка трапятала на ўваткнутым вастрыі харугвы.

Пасля той бітвы я не ездзіў у паходы, і таму цяпер, пачуўшы знаёмы рык, не адразу пазнаў яго. Але праз імгненне, перабягаючы праз тры прыступкі, пабег наверх, у асабістыя пакоі князя.

Варта мяне прапусціла, але ён, мабыць, загадаў бы таго не рабіць. Сядзеў на лаве, і твар выглядаў так, нібыта яго хтосьці проста сцёр вялізнай далоняй, а на тым месцы, дзе былі вочы і шчокі, засталося толькі нешта валасата-скрыўленае і безаблічнае. Давыд сядзеў, абхапіўшы галаву магутнымі рукамі. Княгіня Еўна плакала, бялюткае празрыстае покрыва на яе намітцы жалобна схілілася над ружовым тварам. Князёўны спалохана туліліся ля яе. Альдона трымала за руку Офку, на бледным тварыку яе рэзка чарнелі бровы,

вочы пачырванелі. Кейстут сядзеў у нагах бацькі, на лавачцы, у чырвонай кашулі, на ёй цямнелі плямы поту — відаць, займаўся фехтаваннем. Было бачна, што сабралася княжая сям'я разам нечакана, і цяпер кожны змог бы пераканацца, што, з'яднаныя горам, дзеці Гедзіміна, здаецца не падобныя адно на аднаго, усе разам нагадвалі бацьку — крутой лініяй ссунутыя бровы, падцятыя вусны, суровы выраз вачэй. Нават маленькая Офка, якая яшчэ не вырасла з белай ільняной кашулі і нават зараз другой ручкай чэпка трымала драўляную ляльку з такімі ж кучаравымі, як у яе, кудзерамі, выглядала як часцінка Гедзімінавай радзіны — упартай, нязломнай і рашучай.

Убег Альгерд. Ён, відаць, толькі што скакаў на кані — боты заляпаныя брудным снегам, русявыя валасы спацела віселі над вачыма, ён нецярпліва адкідаў іх назад. Тонкі твар з шэрымі разумнымі вачамі нібы асунуўся, вусны гаротна сцяліся. Абняў Давыда, моўчкі прысеў побач. Убачыў мяне і адразу ж загаварыў заклапочана:

— Пахавальныя абрады на папялішчы правялі?

Давыд падняў галаву, модныя пальцы яго схапіліся за ўзорысты разьбяны завіток на лаве, зламалі яго. Голас быў хрыплы, нібыта горла яму раздзіраў моцны боль.

— Святар адпеў у царкве тое, што засталося. Я пазнаў яе костачкі... па медальёне. Там пасма маіх валасоў. Усё згарэла, а яны ў медальёне... яны там... цэлыя! А дзяцей... дзяцей не змог! Адны галавешкі, попел ды куродым!

Усхліпнула Еўна, узорыстым рукавом выцерла твар.

— Ордэн адкажа за гэта! Усёй іхняе крыві не хопіць, каб заліць вогнішча, дзе яны спалілі яе!

Гедзімін устаў. Сцёрты яго твар зноў ажываў, вочы шалёна ўспыхнулі, калі ён, ледзь расціскаючы вусны, выдаўліваў з сябе гэтыя словы.

— Што там было, Давыд? Як яны дабраліся да сям'і? Раскажы ўсё, — папрасіў Альгерд, паклаўшы руку на плячо сваяку. І Давыд, спачатку цяжка, а пасля усё хутчэй, стаў гаварыць.

Выходзіла, што план гэты выношваўся крыжакамі даўно. І яны ведалі, калі Давыд паехаў у Гародню, таму што двор яго, што месціўся за некалькі вёрст ад Гародні, быў узяты амаль адразу ж.

— Іх было шэсць сотняў, — гаварыў Давыд. — Але я нават не ведаю, ці быў там комтур, ці гэта проста гайня сабак, якую мог узначаліць хто заўгодна, бо яны не збіраліся ні штурмаваць горад, ні нават паказвацца мне. І як яны маглі прабрацца так, каб ніхто іх не заўважыў, каб ні варта на дарогах, ні на рэках іх не бачыла? Зрабілі сваё, сплюндравалі дворышча, спалілі селішчы навокал і нарабавалі, што маглі. А Біруту... Каб жа толькі спалілі!

Ён зноў абхапіў галаву рукамі. Альгерд жа моўчкі падышоў да сцяны, адсунуў заслону.

Гэтую мапу, зробленую з тонка вырабленых цялячых скур, аграмадную, ажно на цэлую сцяну, я не любіў, хаця заўсёды пазіраў на яе з цікавасцю.

Усё Вялікае княства — княства, дзе валадарыў Гедзімін, знаходзілася там, акрэсленае тоўстай чорнай паласой, і нагадвала кляновы ліст. А на ім, прымацаваныя нашымі майстрамі, жаўцелі бурштынавыя пацеркі-гарады. Самая вялікая, празрыстая — Вільня, меншыя — Навагародак і Трокі, яшчэ меншыя — Ліда, Ваўкавыйск, Крэва, Услонім, а насупраць іх, на ўсходзе — Смаленск, Дзебранск, а на поўдзень — Кіеў[23]. Усё было там, і нават тоненькія шнурочкі — межы ранейшых княстваў, дзе і цяпер яшчэ захаваліся — ужо не валадары, а толькі даннікі — Дзяволтва і Нальшчаны, Полацкае княства і Віцьбескае, Тураў і Аўкштота з Жамойцю.

— Дай зірнем, дзе яны маглі прайсці.

Альгерд узяў тонкі дубчык з ядлоўцу, павёў па Нёмане,

чыя сіняя дарога, як жылка, вілася па мапе, а затым далей, да Рыгі.

— Яны маглі плыць, — сказаў ён. — Але іх не толькі вялі тыя, хто добра ведаў, дзе стаіць варта, але і чакалі тыя, хто ўсё ведаў пра цябе, Давыд.

— Не веру, — прашаптаў Давыд. — Усіх жа ведаю, не раз у бой хадзілі разам. І слугі таксама. Хіба што прусы, якія нядаўна прыехалі цэлым атрадам? Але ж яны якраз ад крыжакоў і беглі. Іх жа і палілі першымі.

Яны разам зірнулі на мяне. Я схіліў галаву, і яны, зразумеўшы, што я правяду гаданне, загаварылі далей. Гедзімін, які сядзеў наводдаль, таксама ўпёрся поглядам у карту, падаў сваю рэпліку, і трохі пазней яны ўжо спрачаліся, з якое крэпасці былі тыя, што палілі гняздо гарадзенскага старосты і загубілі дачку вялікага князя. Тады я ціха падняўся і выйшаў, на ўваходзе сустрэўшы цэлы гурт родзічаў, што спяшаліся да вялікага князя. Радні сапраўды трэба пабыць зараз разам, і хаця я заўсёды адчуваў сябе ледзь не членам княжацкай сям'і, мне хацелася пабыць у адзіноце. Сэрца мае шчымела.

Біруту я бачыў зараз у розных пластах часу — то сарамлівым падлеткам, то спакойнай, разважлівай дзяўчынай, якая нясе ў далонях глячык са свяшчэнным агнём і твар яе, асветлены знізу, здаецца ружова-малочным, то нявестай у рутавым вяночку і з зярняткамі, што зачапіліся за ейную касу, калі маладых абсыпалі хмелем і жытам.

Як яе палілі? Аб кім думала сяброўка маіх дзіцячых гадоў у апошнія хвіліны, калі невыносным жарам, скручваючы ў вогненныя пялёсткі яе плоць, абрынуўся на дом агонь? І чаму я нічога не адчуў тады, чаму багі зачынілі перада мной дзверы ў свае свяцілішчы і не далі аніякага знаку? Але як я мог бы папярэдзіць Давыда, калі б нешта і знаў? Не ў чалавечых гэта сілах — гаварыць адзін з адным на адлегласці, хаця, кажуць, старажытныя мудрацы маглі так рабіць. Але з кожным стагоддзем чалавек апускаецца ўсё ніжэй у матэрыю, у

зямны бруд, і многія дасягненні Духу робяцца для яго недасягальнымі.

Я ішоў па замку, а пасля, павольна, нібы ногі самі панеслі ўніз, спусціўся ў падзямелле. Насустрач мне ішоў адзін са жрацоў, Пуціла, ён нёс бронзавы келіх з накрыўкай — толькі што ў змей бралі яд. Зеленаватыя смертаносныя кропелькі дапамагалі спыняць кроў пры раненнях, а таксама, змешаныя з салам, грэлі перахалоджанае марозам цела, калі да хворага пачыналі чапляцца Трасяніца альбо Ліхаманка. Ён зірнуў на мяне спалохана (усе ўжо ведалі пра няшчасце), але тут жа твар яго на імгненне асвяціўся ўсмешкай:

— Яна тут, гаспадзіне! Нарэшце выздаравела!

Сэрца мае грукнула так сутаргава, што на міг я нібы аслеп, а пасля, стрымліваючы нецярплівасць, зайшоў у вялікую залу з вузкім акном, дзе пруты, упаяныя ў тоўстую сцяну, трывала захоўвалі ўсе нашы таямніцы.

Сапраўды, ля свяшчэнных змей я згледзеў Гайну. Відаць, яна спяшалася, таму што дыхала з цяжжасцю, нібыта пасля доўгага бегу. Тоненькая дзяўчына ў белай сукні з накінутым на плечы таксама белым ваўняным кабатам выглядала на фоне шэрай, з чырвонымі абручыкамі плінфы сцяны як русалка, якая слізганула сюды праз вузкую шчыліну адзінага тут акна, з якога цадзілася ўніз бледна-жоўтае святло, ды і забылася, нашто ёй гэта спатрэбілася. Яна моўчкі сядзела на каменнай лаве, гледзячы на свяшчэнных змей, якія сыта звіваліся-развіваліся пругкімі чорна-зялёнымі клубкамі вакол тоўстага дубовага слупа, ад чаго зігзагі на вільготным пяску таксама нібы варушыліся, мяняючы сваю форму. Смалякі, якія гарэлі тут удзень і ўночы, трашчалі жывіцай, час ад часу сыплючы на падлогу вогненныя пыркі, вочы змей блішчэлі нежывым, раўнадушным бляскам. Бялявыя валасы дзяўчыны пругкімі звівамі спускаліся па плячах, металічны абручык на галаве здаваўся падковай, убітай у гэты прыгожы, высокі лоб конскім капытом. Уся яна была нейкая як не свая: фіялкавыя вочы згаслі, рукі

млява ляжалі на каленях.

— Табе блага, Гайна?

— Яму зараз блага. Яму, а не мне.

Галасок быў ціхі, і здавалася — яна сапраўды зараз асунецца на падлогу і растворыцца ў шэрай гранітнай пліце пад нагамі,ператворыцца ў адну з пясчынак, якімі тут шчодра пасыпаная падлога.

— Ты, значыцца, ужо ведаеш?

— Усе ведаюць.

Яна казала запаволена, нібьгга сонная. Ногі ў зграбных поршнічках скрыжаваныя, нібыта ад нячыстай сілы. Я падумаў з болем: гэтае подлае жыццё мучыць яе гэтак жа, як і ўсіх нас, а можа, і яшчэ болей. Бо ёй дадзеная прыгажосць, якую многія хацелі б захапіць гэтак жа, як хочацца ім захапіць паболей палёў, лясоў, бабровых гоняў ці сенажацяў.

«Але, — раптам ускочыла мне ў галаву думка, — смерць Біруты вызваляе дарогу ёй. Пройдзе час, усё забудзецца, і яна зможа заняць месца каля Давыда».

Яна ўзняла галоўку і сумна ўсміхнулася. У вачах быў дакор.

— Ляздзейка, памажы яму. Яму!

Я сумеўся. Няўжо прачытала мае думкі? Канешне, я буду маліцца за яго. Але Давыд моцны. А яна — адна тут. Хто яе абароніць?

— Тут холадна, Гайна. І на лаве нічога няма. Зараз паклічу слуг, каб прынеслі табе футра.

Ледзь не зняў сваю шапку з бабровай прылбіцай, каб прапанаваць ёй. Але спахапіўся: жрацы не даруюць такога святатацтва.

— Я не магу тут быць, каля гэтых змей, — раптам

сказала яна з адчаем. — Яны мудрыя, я ведаю, але мне... мне хочацца на сонца. І ў храм, дзе песні ляцяць у неба і Божая Маці падобная да мае мамы.

— Ты хочаш вярнуцца да хрысціян?

— Я хачу быць там, дзе ён. А ён — ён адкрыў у Гародні новы храм, і бацька яго — святы Даўмонт.

Я мог бы ёй болей расказаць пра святога Даўмонта. Непакорны князь нальшчанскі забіў караля Міндоўга, і перш за ўсё з-за свае жонкі. Але забіў і яе — ахвяру пажадлівасці і гвалту, а таксама непавінных отракаў — нашчадкаў дынастыі. Войшалк жа аказаўся бясплодным, і з-за гэтага краіна ледзь не ўпала ў прадонне небыцця. Сваркі і кроў, крыжакі ля Навагародка і пажары на нашых землях — усяго гэтага, можа, было б меней, каб не Даўмонт! Але ёй гэтага не скажаш, ён для яе — бацька Давыда, і ў Пскове ляжыць ягоны меч, на якім клянуцца ў вернасці гораду, а каля храма ёсць лесвіца Даўмонта, па якой ідуць на веча князі, якіх там выбірае народ.

Як бы адчуўшы мае думкі, яна дадала ўпарта:

— Калі быў Вогненны суд, я малілася. Не, не Перуну, не Мокашы, не Вялесу! Я малілася Божай маці — той, якой заўсёды моліцца ён. І яна мне дапамагла.

— А можа, і я маліўся?

— Ты не маліўся. Ты падносіў агонь да асін. Ты — падпальваў.

Трашчалі смалякі, і пах жывіцы здаваўся іголкамі, што колюць глотку.

Мне не было чаго казаць. Гэта была праўда, але, як гэта звычайна бывае, унутры яе была і іншая праўда. Але Тайне пра тое ведаць не варта. Ды і нашто? Хто я для яе? Нейкі час яна ішла побач — але ў сваім часе, абкружаная ахоўнай абалонкай свайго лесу. І не я мог прабіць тую абалонку, давесці ёй, як важна для мяне тое, што яна ёсць, што яна існуе. Нашто быў бы свет,

дзе знікла б прыгажосць? І прыгажосць павінна быць свабоднай, бо яна радня ветру, святлу і сонцу. Сапраўды, калі ёй трэба быць бліжэй да Давыда, то давядзецца адпускаць яе. Але куды? У Гародню?

І тут яна паказала, што жанчына, калі ёй чаго-небудзь хочацца, можа рабіцца відушчай не горай за самага вялікага мудраца. Яна падышла да мяне і ўмольна схіліла галаву.

— Я пакрыўдзіла цябе, а ты добры. Ты самы добры, каго я толькі бачыла ў сваім жыцці, апрача матулі. Адпусці мяне ў Гародню. Цяпер гэта можна — я не служу пры двары Гедзіміна. Я паеду туды.

— Да каго?

— Да бацькі і брата.

— У Рацібора — каханка з прускіх шляхцянак. Твой брат жыве пры двары, і ў яго няма ўласнага жылля.

— Мае бацькі былі не бедныя. Ад мамы я маю добры пасаг, і мне хопіць грошай, каб купіць у Гародні свой дом. Я вазьму старых слуг з Навагародка.

— Але кім ты будзеш у Гародні? Ты будзеш далей ад Давыда, чым нават тут. Сюды ён прыязджае часта, і тут ты зможаш хаця б бачыць яго. Тут ён не ўсясільны гарадзенскі ўладар, як там. Жрыца вярхоўнага капішча можа падысці да яго калі захоча. А дачка баярына Рацібора?

Яна не слухала мяне. Я быў бяссільны, бо гнала яе пачуццё, вышэйшае за яе маленькае, такое прыгожае і гнуткае цела, за ўсю яе, такую бездапаможную. І такую раптоўна рашучую.

— Я браў цябе сюды, каб выратаваць. Але, мабыць, лес вышэйшы за нас.

Горыч гэтых слоў і бяссілле атуліць ад бедаў апантанае гэтае дзеўчанё падступілі да горла. Але на гэты раз яна пачула. Фіялетавыя вочы яе (як браткі, рассыпаныя па

веснавым схіле) заззялі такой радасцю, што, здавалася, у цёмным склепе стала святлей.

— І ўратаваў. І не раз. Думаю, мой брат Віт і бацька яшчэ змогуць табе аддзячыць.

— Мне? Вярхоўнаму жрацу?! Гарадзенскі баярын і малодшы отрак княжацкай дружыны? Дзяўчына, ты ўсё ж думай, што гаворыш!

О, сляпы і дурны зямны чалавек! Мне думалася, я шмат ведаю, шмат значу. І нават тое, што магу смірэнна схіляць сябе перад багамі, залічваў я тады ў сваю мудрасць. Калі я праз гады бадзяжыў па дарогах княства і рабаўнікі на-палі на мяне, спрабуючы забраць нейкія сцёртыя манеты, дадзеныя за гаданне, якраз брат яе, што вяртаўся з Вільні як княжы ганец, разагнаў той зброд, нават не пазнаўшы ў зарослым сагнутым старцы, якога ўратаваў, былога вярхоўнага жраца. Ён напаіў мяне віном, якое сагрэла мае косці, што адольвала ламота, і паклаў ў сумку бохан хлеба — я цэлы тыдзень жаваў той каравай, а ён доўга не чарсцвеў, бо спечаны быў вопытнымі княжымі каравайніцамі з асвечанай мукі. А пазней стаў Віт, гэты румяны, як яблык, отрак, вялікім і слаўным воінам Гедзімінавай, а пасля і Альгердавай дружыны, і далі яму празванне — Вялет. Ён загіне ў бітве на Сініх водах, захіліўшы сабой Альгерда, і застанецца ад яго песня — легенда, якую доўга будуць спяваць на Беларусі...

## Развітанне

Я развітаўся з ёю праз тыдзень, калі Давыд вяртаўся ў Гародню. Яна напрасілася ў ягоны атрад, і ён дазволіў дачцы Рацібора ехаць з імі.

Сэрца маё сціскалася, калі я пабачыў зверху, з байніцы, як яна садзілася ў вазок. У кажушку, у рыжай лісінай шапачцы, яна здавалася адуванчыкам, што першым вылез на свет каля прыгрэтай сонейкам прызбы і светла глядзіць навокал. Але яшчэ грукнуць маразы, яшчэ

скалее пад сцюдзёным зімовым ветрам адзінокая рабіна ля брамы...

Усё вакол здалося мне іншым, калі вазок, калываючыся, схаваўся ўдалечыні. А за ім — воіны ў шлемах, з вастраверхімі дзідамі, у скураных каптанах і воўчых шкурах, накінутых на плечы і зашпіленых на шыі фібуламі. Усе яны паступова знікалі, раствараючыся ў блакітнай смузе, нейкія нерэальныя, нібыта знаходзіліся адначасна і тут, і ў Ірыі. Туды ўрэшце сыдзем мы ўсе, але туды ісці не хочацца, пакуль б'ецца сэрца, гонячы кроў гарачымі штуршкамі ў скроні. Я не заўважаў, што холад танюткімі іголкамі ўпіваецца ў шчокі, у нос, што плечы мае закалелі і застыглі. Багіня прыгажосці пакідала горад, але гэтага ніхто не заўважыў, а я... я хацеў бы закрычаць на ўсю ваколіцу, на ўвесь свет, што яе трэба вярнуць, што без яе горад астывае і відавочна змяняюцца ягоныя абрысы, нібы цвярдзеюць у вечнай зменлівасці формаў быцця...

Назаўтра ў Троннай зале было вялікае зборышча.

Сабраліся ледзь не ўсе паны-рада. Гаварылі пра адно — жамойты пагражаюць паўстаннем, таму што біскуп віленскі пастанавіў разбурыць пад Меднікамі храм Перуна.

Усе ведалі — гэта было повадам. Напраўдзе балты бунтавалі па многіх прычынах. Не забывалі яны перш-наперш былой вольнасці і таго, як яшчэ пры Міндоўгу не раз прымушалі гордага князя ратавацца ад ваяўнічых жамойтаў і аўкштайтаў, якія разам з налылчанамі і яцвягамі калыхалі трон. Страчвалі сілу балцкія князі, усё меней улады заставалася патомным князькам Дзяволтвы і Нальшчан, і не хацелася ім быць усяго толькі васаламі вялікага князя. Год за годам страчвалі балцкія плямёны сваю самастойнасць, паганскія багі іхнія слабелі, а пры двары балцкае мовы і не чуваць было, хаця пры першай жонцы Гедзіміна было іначай. Але цяпер ўсе дочкі і сыны валадара, апроч Кейстута, гаварылі на мове славянскай, асабліва ж калі пры двары з'явілася маладая княгіня віцебская Марыя. Альгерд, ейны муж, набіраў сярод іншых найбольшую

вагу, хаця, як усе бачылі, княгіня Еўна высоўвала наперад сваіх дзяцей. Але і яна была палачанкай, і яна не надта шанавала старых багоў.

Паны-рада ведалі: за балтамі стаялі немцы, яны падбухторвалі дробных княжычаў і гатовыя былі пры любой мітрэнзе загрымець сваімі жалезнымі латамі па дарогах княства. Таму трэба было шукаць рашэнне, якое б хаця на нейкі час прымусіла замаўчаць жамойтаў і разам з тым дазволіла паказаць сілу вярхоўнага князя. Многа шумелі і калацілі па крэслах кулакамі, кідалі шапкі аб стол і кляліся Перуном і Вялесам, а нека'торыя прапаноўвалі ісці на Аўкштоту вайною і прымусіць упартых балтаў скарыцца. Ваявода Гаштольд, мажны і агромністы, як мядзведзь, таксама разануў, як гакнуў сякерай:

— Задушым гіляў, як гадзюк, у нас жа зброя самая новая — гакоўніцы, а ў іх толькі дзіды ды мячы!

І тут усе зноў загудзелі шэршнямі — у бліскучых корзнах, з залатымі фібуламі на плячах, з ланцугамі на шыях і высокімі пушыстымі капелюшамі яны і сапраўды былі падобныя на залаціста-чорных шэршняў.

Гедзімін слухаў усіх цярпліва. Яго плячо час ад часу нервова торгалася пад цёмна-шэрым юхтавым каптанам, на якім цьмяна блішчэлі залатыя гузікі. Сівая грыва навісала над лбом, вочы былі прымружаныя. Але ён нікога не перабіваў.

Я ж сядзеў у самым куце, за спінамі паноў-рады, і спіна мая трохі мерзла ад каменнае сцяны, а вострыя выступы цаглін уразаліся ў рэбры, таму гатовы быў часам заткнуць глотку якому красамоўцу хаця б ільняным жмутом, якімі пакаёвыя служкі запальвалі смалякі. Сітуацыя была для мяне спрыяльнай — жамойты паказалі, што яны не дапусцяць, каб старых багоў у княстве крыўдзілі і пагарджалі іхнімі святымі пачуццямі. Значыць, я змагу таксама паставіць на месца задзірыстага біскупа, які пасунуўся да трона так блізка, як толькі мог. Вось толькі прапановы пачаць новую мітрэнгу мне не падабаліся: меч падняць легка, а вось

паспрабуй спыніць духаў вайны, якія ніколі не могуць напіцца чалавечае крыві да схочу!

Але вялікі князь, як заўсёды, знайшоў нешта іншае. І зноў паказаў, што ён вялікі стратэг, які можа глядзець у будучае і закідваць туды каменьчыкі, каб пасля было з чаго будаваць гаць. Ён знакам паказаў, каб паднеслі кубак з гарачым мёдам, глытнуў трохі і разважліва прамовіў:

— Мы не толькі адновім там храм Перуна.

Памаўчаў, нібы ўзважваючы кожнае слова.

— Гэтага цяпер, пасля неразважлівых дзеянняў біскупа, мала, да таго ж народ будзе думаць, што молена нас спалохаць, і пачне ціснуць мацней, — вымавіў ён нарэшце. — Мы пачнём там будаваць вежу і ўмацаванні. У Крэве і Лідзе. А не толькі ў Вільні.

— А... а майстры, а матэрыялы, а муралеі?

Гоман падняўся ў вялікай зале, рэхам адбіўся ад сцен і нібы валам абрынуўся на вялікага князя.

— Трэба пісаць лісты ва ўсе краіны Еўропы. Хай прыязджаюць сюды хітрацы і муралеі. Хай прапануюць сваё ўмельства. Яны не пашкадуюць.

Я адразу зразумеў тое, чаго ён не сказаў. Сюды, а таксама ў Крэва і Ліду, прыедуць майстры з Еўропы. Усе яны хрысціяне. Чым болей перасяленцаў, тым мацнейшай будзе там велікакняская ўлада. Калі я думаю правільна, значыць, ён зараз павінен націснуць на будаўніцтва менавіта ў Крэве — горадзе непакорным і бунтоўным. І ён сказаў:

— Найперш пачнём з Крэва. Там паўстане замак. І хто выбера там лепшае месца?

Запанавала маўчанне. І раптам, нібы насланнё, на мяне наляцела мроя: кроў, многа крыві, і льецца яна на барвы, на залатое шытво. Крывёй запахла так моцна, што я адхіснуўся да сцяны, агледзеў прысутных. Але

ніхто з іх не павёў вухам — яны слухалі князя, а ён казаў Альгерду:

— Як валадар крэўскі, выбірай, хто з табой паедзе.

— Вядома, ваявода Гаштольд, — упэўнена адказаў Альгерд.

— А са святароў?

«Ваявода возьме з сабою святара, а не жраца, — думаў я. — Але я мушу быць там, каб не выбралі яны таго клятага месца, дзе будзе ліцца кроў».

Месца пад замак павінна быць чыстае. Каб ні забойства, ні злачынства там не адбылося калісьці, каб не плакала над тым месцам чыясьці няшчасная душа, якую не адправілі ў Ірый жрацы і не пралілі над ёю мядовае вады родзічы. Каб гарцукі не закапалі там клад з пракляццем і каб не смактала недзе блізка кроў падарожніка Стрыга альбо рагатаў над тапельцам Балацянік. Можа, мне папрасіцца ў ваяводы і паехаць з ім разам?

— Не, Ляздзейка, ты патрэбен мне тут, — Гедзімін, як заўсёды, злавіў позіркам мой парыў. Ён рашуча павярнуўся да сына:

— Прыгледзь, каб месца было прыдатнае для абароны. Лепей там, на ўзвышшы, за самым паселішчам, памятаеш, цябе там параніла? Можа, твая кроў, пралітая некалі ў бітве, стане ахвярнікам на тым месцы і духі злітуюцца з нас усіх?

Я зніякавеў. Сапраўды, можа, гэта кроў ваяводы Гаштольда прымроілася мне? Ды і ці мала там, на крэўскім узвышшы, пралілося чырвонае руды? Ваююць усе і заўсёды. Але... калі паедзе ваявода Гаштольд, то ён відавочна не стане браць з сабою ні жраца, ні святара. Ён не надта верыць у духаў, хаця і робіць выгляд, што моліцца. Ды ён ні хрысціянін, ні язычнік. Ягоныя багі — гэта мячы, дзіды, ды вось цяпер — гакоўніцы, новая, яшчэ больш страшная зброя, каб знішчаць як мага

болей людства... Калі ўсе разыходзіліся, я падумаў, што самыя важныя гістарычныя падзеі адбываюцца неяк проста. Па сённяшнім слове Гедзіміна хутка, як толькі гэта магчыма, над рэчкай Краўлянкай паўстане абарончы замак. І гэта нягледзячы на тое, захоча таго нальшчанскі намеснік ці не. Галоўная ўлада цяпер тут, у Вільні, а пачата ўсё яшчэ Міндоўгам, які бязлітасна паставіў на калені і нальшчан, і яцвягаў. Ды, зрэшты, Нальшчанская зямля была аддадзена бацькам Гедзіміну, і ён цяпер яе спадчыннік, а не князь Давыд, гарадзенскі кашталян, які мог бы прэтэндаваць на кроўнае, бацькоўскае, Даўмонтава. Ды Даўмонта выгналі, яго прыняла Пскоўская зямля, так што вольны князь Гедзімін рабіць там усё, што хоча.

Калі я, кульгаючы, паволі тупаў да сябе, пачуў голас дзесяцігадовага Яўнута, які вартаваў пад дзвярыма і прагна слухаў усё, аб чым гаварылася ў зале. Гедзімін не дазволіў яму сядзець разам з усімі — хлопчык сталее з чатырнаццаці, тады ён зможа нешта кеміць у дзяржаўных справах. А пакуль Яўнут толькі вучыўся скакаць на кані ды абараняцца мячом і дзідай.

— Вырасту, папрашу ў Альгерда Крэва, а свой удзел аддам яму.

— Але чаму, княжыч?

— Там жыве сам Балацянік, і балота там цудадзейнае. Варта толькі з мясцовай руды зрабіць дзіду, як яна ніколі не гнецца і сама забівае ворагаў...

Я ўсміхнуўся. Ягоная нянька з нальшчанак, і яна ажно зачаравала хлопца ўсялякімі нальшчанскімі байкамі. Можа, Крэва і сапраўды дастанецца яму, але Нальшчанская зямля найбліжэйшая да Вільні, і палачанка Еўна абавязкова будзе спадцішка змагацца за тое, каб гэты кавалак вырвалі менавіта ейныя дзеці. Яна не згодзіцца з тым, што Альгерду аддалі Крэва, а яму ж дасталася па жонцы яшчэ і Віцебскае княства. Вось Кейстуту, хутчэй за ўсё, пасля смерці бацькі дастанецца Аўкштота альбо Жамойць — яны яшчэ не скарыліся, яны яшчэ помняць сваю вольнасць, і сыну

вялікага князя там будзе не салодка...

Як несалодка даводзіцца і люду, які цяпер будуе новую сталіцу Вільню. На свае вушы чуў новае пракляцце: «Каб табе да смерці ў Вільні камяні цягаць!» Так, Гедзімін уздыбіў княства, і далека да яго братам — Хведару ды Воіну. Апошні, хаця імя ў яго харобрае, сядзіць сабе ціха ў Полацкай зямлі і толькі назірае, што робіць брат. Праўда, ён заўсёды спраўна рыхтуе войска, якое ідзе ў новы паход разам з воінамі з усяго Вялікага княства, але сам стараецца не надта браць у тым удзел. Гедзімін — вось хто сапраўдны вялікі князь, і дай яму Пярун і Рагуціс велічы і сіл!

Дарэчы, пра Рагуціса. На гэтае старажытнае капішча ўжо квапілася маладая княгіня Марыя віцебская. Казала, што тут якраз добрае месца для царквы. Я з трывогай падумаў, што трэба неадкладна прыдумаць нешта, каб хутчэй адправіць яе разам з Альгердам у Віцьбеск, да бацькі. Той яшчэ здаровы, і, хаця княжыч Альгерд лічыцца ягоным спадкаемцам, усё ж пакуль што ён жыве ля свайго бацькі тут, у Вільні, праўда, часта наязджаючы ў сваё княства. Гэтая начная зязюля кукуе яму па начах, і ён усё часцей выступае супраць старадаўніх язычніцкіх абрадаў, а бацька прыслухоўваецца да яго. Цяжка нам, сапраўды цяжка. Княгіні-хрысціянкі пры двары многае змянілі нават за апошнія пяць-шэсць гадоў.

З гэтымі думкамі я прыплёўся ў свой пакой. Сокал цяжка ўзмахнуў крыламі, сеў на плячо, трохі патузаўшыся на чорнай суконнай гладзі плашча, дзе ад ягоных кіпцюроў была нашытая скураная латка. Мой адзіны сябра, істота, якой я магу даверыць усё. Але як сказаць яму аб тым, што няма ў мяне былой ахвоты рабіць сваю справу — пытацца ў багоў пра іхнюю волю, слухаць ноч і адчуваць неадчувальнае? Што са мной? Мне десна ў гэтым замку, хаця ён сёння — найвялікшы ў княстве, і менавіта сюды звезенае ўсё самае дарагое, што ёсць у краіне — скарбы, золата і каштоўныя камяні, тканыя дываны, дарагая мэбля. Княгіня і князёўны ажно зіхцяць дыямантамі, але калі ўявіць, чаго каштуе

хаця адзін каменьчык у параўнанні з тым, што здабывае сабе чорнай працай за год які-небудзь бедалага-селянін, то колькі трэба такіх сялян, каб на пальчыку князёўны Альдоны ўспыхнула адна такая іскрынка?!

«Ляздзейка, — сказаў я сам сабе, прытуліўшыся да цёплага чарэня кафлянай печкі ў куце, — каму, як не табе, ведаць, што ўладара выбіраюць нябёсы і што народу, над якім ён пастаўлены, даецца таксама выбар — разам з уладаром ці насуперак яму развівацца і ісці ў Вечнасць? Народ — гэта нешта большае, чым сума адзінак. Народ — гэта як грыбніца, у якой схаванае мінулае і будучае, і нават калі сёлета гарачыня і бездажджоўе і няма нідзе ні каліва, то на наступны год усё роўна вытыркнецца там ці тут грыбок, варта толькі пырснуць дажджу, пасланцу Перуна, нябеснага Грамоўніка. На грыбніцы запісаныя нейкімі невядомымі нам літарамі маланкі — вогненныя і чорныя, асляпляльныя і зусім непрыкметныя, як зараніцы. Запісаныя і грымоты, і шалясценне травы, і драцінкі, што ўтыкае раніцай у зямлю Дажбог. І страсць, з якою рвецца ў Існаванне ўсё жывое, аплодненае Вялесам.

А ўладар? Струмень вады, які выкідае ў свет жарало крыніцы. Дзе і як — мы таксама не ведаем. Чаму Гедзімін, а не Воін альбо Хведар? І хто, напрыклад, будзе наступным — той, хто нарадзіўся ў княжай сям'і альбо нехта новы, іншы, каго мы не ведаем?

Галоўнае адно — каб кожны, каго выкідае ў свет уладаром, разумеў, што гэты дар яму д а е ц ц а. І спытаецца з яго болей, чым з каго іншага. Чым, напрыклад, з тых бедных зямян, якія зарабляюць сваім гарбом зіхотку на пальчыку князёўны Ганны.

Але, разумеючы ўсё гэта, ты, Ляздзейка, усё роўна няшчасны. Душа твая плача ад таго, што зараз, у гэтую хвіліну, нехта не мае прытулку і цёплага кутка на зямлі, а нехта памірае ад голаду, а нехта захліпаецца ад слёз на гаротнай зямлі.

А можа, і яшчэ ад чаго іншага? Ад таго, напрыклад, што вочы твае ўжо не цешацца прыгажосцю дзяўчыны, якую

ты палічыў за жывы вобраз бессмяротнай багіні прыгажосці?!»

Тут я спыніўся. Плячо мае анямела ад цяжару птушкі, цела здранцвела. Я зняў сокала, перасадзіў яго на жэрдку, але ён пакрыўджана зіркнуў на мяне жоўтым вокам, і таму, валячыея на мой жорсткі ложак, я не стаў пярэчыць, калі ён, як і заўсёды, сеў на мае ногі. Так яму ўтульней. У яго ж таксама нікога няма. Апроч мяне.

У сне мне бачылася Новагародчына. Чамусьці найболей з усіх замкаў нашага княства я палюбіў гэты, які пачаў будаваць яшчэ Міндоўг. Віленскі замак таксама прыгожы, але цені продкаў тут маўчаць, яны, мабыць, яшчэ не асвойталі новыя сцены і вежу, яны не звязаныя з імі, сценам!, лесвіцамі, прыступкамі. А ў Новагародку за паўтара стагоддзя такі набралася тых, чыё жыццё, нібыта водар, навекі ўелася ў чырвоную плінфу, глыбы вапняку і каменне, вывернутае з зямлі, чые вочы азіралі даліну, што ў ясны жнівеньскі дзень уся струменіцца спелым жытам і аўсом, атуляецца сіняй смугой і дыхае ні з чым не параўнальным пахам разагрэтае зямлі. І ў маім сне над гэтай далінай ляцела, як белая аблачынка, Гайна, але ўся празрыста-блакітная, як русалка пасля свайго русалчынага тыдня, калі ёй трэба знікаць, растварацца ў паветры да наступнага года. Я клікаў яе, але яна не пазнавала нікога, яна ўся трапятала, як лісток свяшчэннага дуба, кіруючыся на захад, і я ў сне ведаў, што ляціць яна ў Гародню, да Каложскае царквы, дзе замуравалі ў цэгле костачкі Біруты і ейны медальён-змеявік, які Давыд паклаў ёй на грудзі.

Сон быў у руку — назаўтра ганец прынёс вестку аб тым, што Давыд прапануе вялікаму князю на наступны год паход на Брандэнбургскую зямлю. Прасіў ён на тое дазволу.

Была ў замасленай скураной торбе ганца граматка і для мяне. Разам са слупком чэшскіх грошай у сумцы ляжаў скрутак бяросты, а на ім прывітанне ад Гайны. Пісец пад яе дыктоўку надрапаў свярдзёлкам словы аб тым, што яна здаровая і просіць толькі аднаго (хай даруе ёй Хрыстос): пагадаць, ці вернуцца жывымі з паходу брат

яе і бацька. «І ты ведаеш сам, гаспадзін, за каго я прашу яшчэ» — стаяла ў канцы, і я, трымаючы кавалак бяросты, усёй істотай адчуў трапятанне, з якім яна рашылася на гэта апошні сказ.

Яна магла і не прасіць: мы, жрацы ранейшых багоў, усю тую ноч стаялі перад ахвярнікамі па ўсёй Вільні, падпарадкоўваючыся патаемнаму загаду Гедзіміна — даведацца пра наступствы таго паходу. Але на той раз нічога пэўнага не адказалі нам багі, і мы параілі вялікаму князю пачакаць.

Але тая думка прарастала — і ў самім асяроддзі Гедзіміна, і ў іншых землях. Бесперапынныя напады крыжакоў на Польшчу з кожным месяцам множыліся, і кароль польскі ліхаманкава шукаў саюзнікаў.

Пачасціліся і прыезды манахаў з розных ордэнаў да нас у Вільню. Яны шукалі прыёму і падтрымкі ў вялікага князя, а для таго заводзілі знаёмствы і адорвалі каштоўнымі падарункамі баяр пры двары. Чашнік Гневаш раптоўна купіў вялікі мураваны дом ля самага Ніжняга замка, які яму за нейкую зусім маленькую цану прадаў нібыта хворы баярын Вялюта, які пасля таго з'ехаў у Познань і там, па чутках, прыняў каталіцтва. Галоўны муралей Нарбут, у якога была жонка з Мазовіі — адна з дачок прыдворных дыпламатаў, што прыязджалі да нас у Навагародак, — раптам загарэўся жаданнем пабудаваць касцёл францысканцаў, і праз Нарымунта дастаў-такі дазвол на тое будаўніцтва. І калі пры двары вялікага князя адбываліся прыёмы, то было бачна, як польскія паслы не зводзяць вачэй з дачок Гедзіміна, выбіраючы, якая ж з іх дастойная стаць каралевай Польшчы.

Позіркі іх найчасцей спыняліся на Альдоне. Высокая, рослая, амаль такая ж, як сястра яе Бірута, яна выглядала больш дарослаю, чым былі яе гады. І тулілася заўсёды да сястры Офкі і да Карыята, які відавочна апекаваўся дзяўчынкай.

Карыят і быў ледзь не галоўнай персонай, калі аддавалі яе за каралевіча Казіміра.

Палякаў наехала тады ў Вільню столькі, што амаль два тыдні сталіца хадзіла хадуном, і ўсе бочкі ў княскіх падвалах апусцелі, а рукі ў паляўнічых, якія ледзь не начавалі на ловах, ажно распухлі ад стрэл, якімі яны клалі дзікоў і аленяў, мядзведзяў і зубраў на паляны, каб везці іх на вялікакняскае вяселле. Распухлых ад гарэліцы паноў яшчэ доўга знаходзілі ў аддаленых ад Вільні мясцінах, куды завяла іх шляхецкая зухаватасць і паляванне на маладзенькіх ліцвінак. Упершыню тады зразумеў я, што нарабілі немцы ў Польшчы, у страшных сваіх набегах вывозячы з суседняе краіны найпрыгажэйшых дзяўчат і тым амаль агаліўшы краіну, дзе стала не хапаць не толькі прыгажунь, але і ўвогуле дзевак, якія б раджалі дзяцей і выходзілі замуж. Праўда, рабілі тое і ліцвіны падчас памежных набегаў, таму палякі, што прыехалі з вясельным оршакам, уволю адпомсцілі гаспадарам, праўда, не гвалтам — шчодра адорвалі яны сваіх часовых сяброўак, і доўга тыя ўспаміналі нястомных ў каханні шляхціцаў...

Праўда, шапталіся ў час вяселля, што малады Казімір наўрад ці даруе бацьку, што той скасаваў ягоныя заручыны з Ютай Люксембургскай, якую кахаў пятнаццацігадовы каралевіч. Але рабіў тое кароль дзеля таго, каб атрымаць ў саюзнікі Гедзіміна разам з яго магутным войскам, і ўгаворвалі адзінага сына караля і біскуп, і родзічы. Да таго ж разам з пасагам дамовіліся ліцвіны аддаць польскаму каралю ажно дваццаць чатыры тысячы вязняў, якіх вызваліў з палону вялікі князь літоўскі. Не выпадала Казіміру адмаўляцца!

Аднак у Кракаве, куды павезлі маладую, упершыню паказаў гэты хлопец свой нораў — разам з каралевай Ядвігай патрабаваў, каб да шлюбу вывучыла Альдона польскую мову — маўляў, інакш як жа будзе яна тут каралевай? Ганцы прывозілі Гедзіміну весткі, што тады кароль ледзь не прыбіў свайго нарвістага сына, але нечаканы той вузел развязала сама наша князёўна — за неверагодна кароткі тэрмін вывучыла яна чужую мову і тым пакарыла ганарыстых палякаў.

Слухаючы ўсё тое, я ўспамінаў доўгі твар маладога

каралевіча, яго халодныя, не па-юнацку тужлівыя вочы, яго тонкія пальцы, якімі ён нервова крышыў хлеб, амаль нічога не беручы ў рот за вясельным сталом, і свой жаль да Альдоны. Яна ўсміхалася гасцям, і цёмныя вочы яе блішчэлі святлом і розумам, а белы вясельны вэлюм, здавалася, сам цягнуў яе прэч, далека адсюль, дзе ў сваім доме адзінока ляжаў закаханы ў яе малады рыцар, які ніколі не ўбачыць яе болей. Да яе часта падыходзіў Карыят — ён нешта казаў сястры, а яна ківала галавой і ўсё ўсміхалася, усміхалася… На імгненне са свайго кута я яскрава ўбачыў над ёю адну з Судзяніц — суровая жанчына ў намітцы, уся хісткая, як пара, праплыла над маладымі і наклала на белы вэлюм залатую нітку, і я ніяк не мог убачыць, ці доўгая тая нітка жыцця? Тады ж падумалася — няўжо Альдона хутка памрэ?

Так яно і сталася. Нешчаслівым аказаўся лёс нашае каралеўны. Яна не дажыла і да трыццаці. Але і за гэтыя гады не было ў яе шчасця. Не сына нарадзіла яна Казіміру, а дзвюх дачок, і за тое вечна папракала яе старая каралева. А малады каралевіч не надта захоўваў вернасць жонцы. Праз чатыры гады ў Венгрыі, дзе гасцяваў ён у сваёй сястры Альжбеты і дзе спакусіў знатную шляхцянку, учыніў бацька тае шляхцянкі страшны гвалт у палацы. Казімір цудам застаўся ў жывых — Альдона бараніла яго сваім целам, і ў тым нападзе адсек раз'ятраны шляхціц ёй чатыры пальцы і забіў некалькіх слуг. За той напад заплаціла і каханка каралевіча — ёй адрэзалі нос і вусны, і ейны бацька: мёртвага, яго пасадзілі на кол. Заплаціла і ўся сям'я тых венграў — здаецца, іхняе прозвішча было Захі. Таго разарвалі коньмі, тых замучылі каты, а далёкіх родзічаў выгналі з краіны. І ўсе тыя гады, што правяла Альдона ў Польшчы, яна амаль не пісала ў Вільню. Можа, таму, калі прывезлі вестку аб ейнай смерці, так плакаў Гедзімін? Можа, таму аддаў ён у касцёлы такія багатыя ахвяры, каб паміналі ягоную дачку — новаахрышчаную каталічку Ганну, вясёлую, жывую Альдону, якая адзінокім ценем прайшла ў гісторыі велікакняскай сям'і? Я таксама папракаў сябе — гэтая дзяўчынка, відаць, пакутавала ў пышным палацы, а я амаль не

звяртаў на яе ўвагу і не змог прачытаць па зорках ейны лёс, каб стаць ёй хаця якім апірышчам.

А час ішоў. І на самы новы год, 1 верасня 1325 года, паслаў вялікі князь у Польшчу вестку аб тым, што войска Вялікага княства гатовае ісці на Брандэнбург. А перад тым зноў амаль цэлую ноч праседзелі ў Вялікай троннай зале паны-рада, і там жа, ззаду, сядзелі, рад за радам, святары праваслаўныя і каталіцкія, а таксама жрацы галоўных свяцілішчаў — Гінгівін і Куп, Домаш і Гнеўка. Я сядзеў наперадзе іх, і час цягнуўся для мяне павольна, нібыта ён усё застраваў недзе ў вялізным коле жыцця, а гаворка тым часам набывала страсць і гнеў. Я разумеў прысутных: кожны тут ведаў, чым скончылася вялікая бітва апошняга браніборгскага КНЯЗЯ Прыбіслава з Альбрэхтам Мядзведзем: славяне — люцічы і шпрэвяне — былі анямечаныя, і сённяшняе графства Брандэнбургскае ўжо стала цалкам нямецкім. І хто сёння ўспомніць пра абадрытаў — палабскія тыя славяне не існуюць ні як племя, ні нават як назва часткі тых земляў! А востраў Руяну, дзе ў Арконе было найслаўнейшае свяцілішча славян і які цяпер называецца Ругенам! А колькі там прайшло часу, усяго паўтара стагоддзя! Небяспека, што насоўвалася на нашы землі, сапраўды была вялізнаю, але ў той вечар мне карцела дачытаць старадаўні пергамент са свяцілішча Перуна, дзе гаварылася аб знаменнях пачатку гэтага стагоддзя — пагражалі яны вялікімі бедамі. І таму я слухаў не надта ўважліва.

— Палякі ўжо змушаныя былі аддаць немцам славянскія землі між Одрай і Лабай, і гісторыя не даруе таго Уладзіславу IV Кучараваму! Няўжо пры нашым патуранні да немцаў адыдзе штосьці яшчэ!— гарачыўся ваявода Гаштольд, а Давыд, кашталян гарадзенскі, сядзеў моўчкі і не выступаў. Але ўсе позіркі, калі баяры спрачаліся, выступаць ці не, скіроўваліся на яго, і было ясна, што зяць Гедзімінаў узначаліць той паход.

А ўвечары ён, як я і думаў, прыехаў да мяне, у Перунова свяцілішча. Быў вечар, вераснёўскія зоркі ярка гарэлі ў акне, слюдзяныя створкі якога былі расчыненыя. Я

карміў свяшчэнных змей, пальцы былі ў ліпкім малацэ, пырскі вільгатнелі і на твары, так што, калі зайшоў госць, я спачатку і не пазнаў яго, і толькі цёплая хваля прыязнасці, якая пракацілася па мне, падказала, што госць — чаканы, дарагі.

— Ты жывеш у сваіх уладаннях, і княская сям'я паступова робіцца для цябе чужой, — пачаў Давыд, калі я прывёў яго ў сваю святліцу, дзе Фальк сустрэў яго клекатаннем і нават паспрабаваў усесціся яму на плячо.

— Ведаеш, я часта бываю ў розных свяцілішчах. Галоўны жрэц тут усё ж чужак, як, зрэшты, і велікакняская сям'я, — мае словы прагучалі нейкім апраўданнем.

— Але ты ўсё роўна застается маім сябрам, так, Ляздзейка?

— Не пытайся пра тое, Давыд. Ты ўсё ведаеш.

— Ведаю. Цябе любіла Бірута. Яна мне часта расказвала, як ты яе бараніў ад бацькі. Яна ж была такая... такая няўрымслівая, рабіла ўсё па-свойму.

— Але Гедзімін любіў яе найболей. Ён сагнуўся і амаль увесь ссівеў пасля ейнай смерці.

— Страшнай смерці. Не чакаў я такога. Згарэць жыўцом!

Ён сціснуў кулакі, і твар яго відавочна асунуўся.

— Ты не можаш выкінуць усё гэта з памяці, Давыд?

— Не магу. Забыцца на яе і на дзяцей? Але я мушу забыцца. Чуеш, Ляздзейка, мушу! Хначай душа мая адамрэ, бо яна ўся атручаная атрутай пометы. Мне нічога не дапамагае — колькі службаў я стаяў у Каложы, падаў на калені, але бачыў, як яна гарыць, як яе цела курчыцца ў агні, як крычаць дзеці. А званы і сёння нагадваюць мне памінальныя службы.

Я глядзеў на яго. Ён хацеў гаварыць пра Гайну, але не

мог — нешта сцінала яму вусны. І я прыйшоў на дапамогу:

— Табе трэба ажаніцца, Давыд. Ажаніцца зноў.

— Але і новую нявесту мне выбера вялікі князь. Ведаеш, што ён сказаў учора вечарам, калі я прыехаў і вячэраў з ім сам-насам?

— Што хоча аддаць за цябе кагосьці з дачок. Каторую?

Ён адхіснуўся.

— Табе і праўда дапамагаюць багі! Адкуль ты ведаеш?

— І што ты адказаў, Давыд?

— Я не адказаў нічога. Але я не магу ўзяць кагосьці з сясцёр Біруты. Не магу!

— Ты можаш узяць Гайну Яна не князёўна, ды ўсё ж баярыня, і тады Гарадзенскі ўдзел не выйдзе з-пад улады вялікага князя. Ты навечна застанешся там кашталянам. Хаця і адмовішся ад яшчэ адной дачкі Гедзіміна.

— І тым абражу яго. Адмовіцца ад дачкі князя...

— Дзеля простай шляхцянкі? Але ейны бацька — баярын, і не апошняга кшталту ў тваім войску. Думаю, Гедзімін, калі яго добра падрыхтаваць, згодзіцца ў рэшце рэшт.

— Дык ты лічыш, гэта магчыма?

— Гэта будзе шчасцем для цябе, Давыд. Яна кахае цябе яшчэ з таго часу, калі ўпершыню ўбачыла ў навагародскім замку. Не, яшчэ раней — калі чула аповеды пра тое, як ты перамог крыжакоў пад Навагародкам, як ты абараняў Пскоў. Дарэчы, Гедзімін двойчы ў прысутнасці радных паноў казаў пра тое, што ён — праз цябе — спадкаемца спадчынных правоў на Пскоў. Твой бацька...

— Усё не так проста, Ляздзейка. На Пскоў квапяцца і ноўгарадцы. Ноўгарад Вялікі не адмовіцца ад Пскова, а з ім ваяваць нам не выпадае. Да таго ж яны ўжо звярталіся па дапамогу да Масквы, а князёк, які там сядзіць, учэпісты, яго нездарма празываюць Іванам Калітою. Праўда, ён даволі дробны князь, як і Маскоўскае княства, але мацнее на вачах. Не было б крыжакоў, Гедзімін справіўся б і з Ноўгарадам, і з Масквой, але цяпер...

Ён спахапіўся, перабіў сам сябе:

— Не дзе ля таго прыйшоў я сюды. Гайна казала, што ты — адзіны, хто тут, у княскім замку, шкадаваў яе. І ты адзіны, хто можа схіліць Гедзіміна да згоды на гэты шлюб.

— Царкоўны?

— А ты думает, што кашталян гарадзенскі можа проста тры разы абвесці суджаную вакол свяшчэннага дуба, а паны радныя прызнаюць дзяцей ад гэтага шлюбу?

Мы памаўчалі. Гердзень і адзін са жрацоў прынеслі і паставілі перад намі карцы з журам, кашу і настой з зёлак, але Давыд прагна выпіў журу, са стукам паставіўшы назад драўляны карэц. Памаўчаў. І абвясціў урачыста:

— Можа, і праўда: вярнуся з паходу — ажанюся. Убачу гэты далікатны тварык — і нібы дзіця да грудзей прыціснуў. Тады думаецца не пра благое, а пра той час, калі я быў маладым і жаночая прыгажосць душу грэла.

— Дык любіш ты яе, Давыдзе?

— Не ведаю. Але яна адна змагла мяне неяк... вярнуць да навакольнага. Вочы ў яе — разумеет, як браткі вясной, калі іх раскідае па схіле гары. Ясныя-ясныя, і праз іх нібыта ейная душа свеціцца. Ні ў кога такіх не бачыў.

Я не стаў пытацца, як здолела Гайна наблізіцца да гарадзенскага кашталяна — праз бацьку, брата ці

проста падказала ёй шлях да яго каханне. Я паспакайнеў душой. Нібыта ўвесь час трапятала яна ад благога прадчування, а тут раптам супакоілася.

Давыд устаў, абняў мяне за плечы. Высокі, як дуб, ён, здаецца, запоўніў сабою ўсю маю святліцу. Пахла ад яго лясной дарогай, якая заблукала ў глушэчы, і аленевая шкура на каптане ля плячэй працерлася ад зброі. Твар разгладзіўся, стаў светлым і ясным, як у дзіцяці.

— А ты ўсё ж блаславі мяне, вярхоўны жрэц. І на дарогу, і на паход. Нешта нядобрыя прыкметы вакол — твая змяя, як толькі я ўвайшоў, скруцілася вузлом, нібыта я нясу няшчасце. І Мілавіца, якая была ў акне, адразу ж знікла. Абяцаю табе, што абвянчаюся з Гайнай і па старых звычаях, толькі вось баяры гарадзенскія не павінны пра тое ведаць. Калі вярнуся жывым...

Я не стаў яго суцяшаць. Бываюць хвіліны, калі душа адчыняецца для волі багоў, і тады робіцца чалавек вешчым. А можа, гэта проста багіня Мара накінула на ягоную галаву свой цёмны покрыў і ён бачыць усё праз чорную смугу ейнае наміткі?!

І я, мабыць, быў ахутаны той смугой. Бо не адчуў, што бачу яго ў апошні раз. Сэрца мае поўнілася тады радасцю ад таго, што ўсё ж прыгледзеў ён Гайну, што гатовы пабрацца з ёю, калі на тое будзе згода Гедзіміна. І значыць, стане яна шчасліваю...

А ўжо тут павінен пастарацца я. І, застаўшыся самнасам з Фалькам, я стаў раздумваць, як зрабіць тое лацвей. Што, калі зноў прыдумаць нейкі сон і расказачь яго вялікаму князю? Але цяпер мы неяк аддаліліся, цяпер там, у палацы, часцей бывае Шварна. Акрыяўшы пасля цямніцы, стаў ён асабліва старацца. Аблытвае пацяху не толькі Манівіда, але і Кейстута.

У мае акно глядзела ноч. Тысячазорная, яна велічна плыла над зямлёй, варушыла лісце на дубах, і поўня, як залаты медальён-змеявік, вісела на ейных грудзях, на неабдымным чорным карзне неба, кідаючы бліскучыя

палосы на каменную падлогу маёй святліцы.

Я патушыў свечку, высунуўся ў двор, дзе зжаўцелая за лета трава шалясцела пад вераснёўскім ветрам і дзе цвыркуны трохі стомлена, але ўсё ж бадзёра трашчалі пад ялінамі, што атулялі браму. Было ціха. Па вытаптанай дарожцы прабегла мыш, ільсняная скурка яе на момант выбліснула ў месяцовым святле. Мае адзінае, непаўторнае жыццё няспынна сцякала некуды ў бездань, і на шалёны момант нясцерпна захацелася яго спыніць, утрымаць на гэтай хвіліне, на гэтым імгненні светлай, яснай раздумлівасці. Я не прагнуў жыць — там, далей, чакалі горкія хвіліны адзіноты, тужлівасці, скрухі. Там была старасць і там быў скон — я не ведаў, якім ён будзе. Што, калі багі, разгневаўшыся, дадуць мне спаралізаваную, з памутнелым розумам старасць, абрыдлівую і страхотлівую для навакольных? І што мне рабіць са сваім жыццём — вялікім, але часта невыносным дарам Усявышняга?!

## Апошні паход Давыда

У палацы тым часам амаль кожны дзень сустракалі то паслоў, то ганцоў. Ехалі яны адусюль. Дзівам было з'яўленне рыцара з ордэна Іянітаў — у чорным плашчы і нашытым на ім белым крыжам з раздвоенымі канцамі, рыцар вёў перамовы і не выстаўляў сваіх прэтэнзій да Пскова, хаця і не заміраўся з ім. І адначасна гэты славуты сваім гандлем багаты горад пачаў шукаць падтрымкі ў Масквы, якая паступова ўзвышалася над іншымі гарадамі Русі.

Дзіўна было, але маскоўскія паслы, прыязджаючы ў Вільню, таксама пачалі выглядаць сярод Гедзімінавых дачок тую, якая магла б стаць княгіняй маскоўскай. І хаця колькі гадоў назад Гедзімін мог з усмешкай назіраць за такімі спробамі і прыкідваць, каторая з найменш прыгожых дачок зможа ашчаслівіць маскавітаў, то цяпер ён пару разоў кідаў княгіні Еўне,

што яна павінна добра выштукаваць юную прыгажуню Анастасію, каб тая магла ўплываць на палітыку князя маскоўскага, калі яе выберуць маскавіты для свайго ўладара, і твар яго пры тым быў сур'ёзным і нават заклапочаным. Лічыцца з Масковіяй — гэта было нешта новае ў нашай палітыцы, але вялікі князь умеў узважваць рэаліі, і маскоўскія паслы прымаліся цяпер на тым жа найвышэйшым узроўні, што і пасланнікі папы рымскага ці іншых гасудароў Еўропы і, прыязджаючы, жылі ў найлепшых гасцявых пакоях замка, а двор полацкага Воіна, хаця і князевага брата, мог часам месціцца і ў бакавым, паўночным крыле.

Полацкі князь цяпер не мог, як гэта рабілі яго папярэднікі, сцішаць прагнасць Ноўгарада, ён сам з надзеяй глядзеў на вялікага князя літоўскага Гедзіміна, і пакрысе, крок за крокам, паўночныя суседзі прымушалі яго адступаць. Гэта турбавала двор, і таму Гедзімін паскорыў ад'езд Альгерда ў Віцьбеск — адтуль лягчэй было гэтаму самаму хітраму і разумнаму сыну вялікага князя сачыць за палітыкай суседзяў і дапамагаць дзядзьку ў Полацку.

З палёгкай уздыхнулі жрацы — настырлівасць маладой княгіні Марыі, перакананай хрысціянкі, прымушала іх шукаць падтрымкі ў іншых сыноў віленскага ўладара. Але я не радаваўся. З Альгердам мы былі бліжэй, чымся з іншымі княжычамі, і цяпер найбліжэйшым да бацькі аказваўся Манівід. А ягоная маці была ў сваяцтве са Шварнам — у далёкім, праўда, але гэтага было дастаткова, каб гэты настырнік крок за крокам набліжаўся да княскага двара.

Ен паводзіў сябе, як хітры прыдворны кавалер: падарыў абаім прыгажуням двара — прыўкраснай Дабранезе і Прадзіславе — па нізцы бурштынавых караляў. Дзівоснымі былі тыя каралі: у кожным кавалку застыла нейкая казюрка ці хваёвая іголка, і нашы дамы, захапляючыся тым відовішчам, голасна хвалілі жраца перад вялікім князем. Дагадзіў Шварна і княгіні Еўне — прывёз юхтавыя боцікі такога тонкага вырабу, што яны здаваліся шаўковымі, а сярэбраныя спражкі і падкоўкі

выглядалі на сапраўдныя мастацкія штукарствы. У княгіні апошнім часам ацякалі ногі, але яна не хацела гаварыць пра тое прыдворным гарбарам і абутнікам. Гэты ж падарунак прыйшоўся ёй да асаблівай спадобы — боцікі ляжал! наназе, як улітыя.

Я адчуваў, што Шварна як бы падступаецца пад мяне, спрабуе парваць мае сувязі з дваром. З таго часу, як абодва мы ляжалі на лаве ў старажытным свяцілішчы над лабірынтам, ледзь ачуняўшы ад выпрабаванняў, я ведаў, што ён ненавідзіць мяне. Нам абодвум былі адчыненыя таямніцы свету, але яны засталіся ў маёй памяці, у ягонай жа былі сцёртыя. І вось гэта даравацъ мне ён не змог.

Даходзілі патаемныя чуткі, што ён займаецца забароненай магіяй. Нібыта бачылі, як чорнае вараннё кружыла над ягоным храмам на дасвецці і адзін з воранаў, самы вялікі, сеў на храмавае цяля і разадраў яму вострай дзюбай плячо, каб напіцца цёплай крыві. Шапталіся, што лятае да свяцілішча і Вогненны Змей, носіць галоўнаму жрацу золата, на якое той аднаго за другім падкупляе імянітых людзей горада. Сапраўды, ужо некалькі разоў на паседжаннях паноў-рады той ці іншы шляхціц ганьбіў жрацоў галоўнага храма Перуна, нібыта перасталі яны разумець волю багоў і крыўдзяць людзей падчас набажэнстваў. Стрэлы гэтыя накіраваныя былі ў мяне, але пакуль Гедзімін не звяртаў на тое ўвагі. Нястомна, як сагнуты над кроснам! ткаль, снаваў ён чаўнаком па тых дзяржаўных кроснах, выштукоўваючы ўзоры.

Паціху, але сам я неяк адыходзіў ад клопатаў і трывог двара. Заняты быў іншым, да таго ж ад двара ад'язджалі мае былыя сябры, якія суправаджалі маладых княжычаў, што, падрастаючы, атрымлівалі ад бацькі надзелы. У Навагародку стаў княжыць Карыят, у Кернаве — Манівід, а Нарымонт-Глеб быў пасаджаны ў Пінску. Далей за ўсіх, на Валынь, у Луцк, быў адпраўлены Любарт. Усе яны былі хрышчаныя ў праваслаўе, але свяцілішчаў язычніцкіх не чапалі. Ставіліся прыязна да Захаду, беручы за ўзор двор

вялікага князя. Аднак дарэмна шчыравалі пры іх дварах каталіцкія святары — паства не надта шанавала храмы заходняга абраду, бо значнейшым за ўсе іншыя быў уплыў усходніх земляў княства — Полацкай, Віцебскай, Менскай і Тураўскай. Князі ад'язджалі адзін за адным, і я заставаўся без тых, з кім сябраваў і хто дапамагаў мне ў многія цяжкія моманты жыцця. Амаль усе яны былі мае равеснікі.

Маладыя ж князёўны былі ўжо іншага пакалення, для іх я быў старым і не надта цікавым субяседнікам, які ўсё болей заглыбляўся ў свае думы і трывогі. Я і сам адчуваў сябе такім — гэтыя юныя дзяўчаты, да якіх цяпер былі прыстаўленыя шматлікія мамкі і настаўнікі, усё болей прызвычайваліся да сваіх будучых роляў уладарак, яны прымяралі да сябе княствы і каралеўствы, як уборы, на якія ішла процьма грошай з велікакняскай казны. Патрыярхальныя норавы ранейшага двара знікалі. Кожная князёўна патрабавала сабе паболей служанак і не надта цікавілася будучым, бо ўсе яны верылі ў тое, што гэтае будучае будзе захапляльным. Праўда, пры двары, як і раней, варажылі — на Каляды ў замак, нягледзячы на забарону як праваслаўнага, так і каталіцкага біскупаў, шмыгалі варажбіткі з зернем, з рознымі сасудамі і крынкамі, але моладзь цяпер рэдка хадзіла ў свяцілішчы.

Тая восень праскрыпела па мне, як нямазаныя калёсы па размяк лай ад дажджоў зямлі. Дажджы сапраўды лілі не перастаючы, па вуліцах, нават замошчаных, чвякала бруднае, тлустае месіва з гліны і пяску, а ваколіцы Вільні былі залітыя стылай, мутнай вадой, па якой з цяжкасцю прабіраліся прыезджыя. На Багача я нават не змог паехаць за дваццаць вёрстаў у свяцілішча Дажджбога, дзе рэзалі авечку і ахвяравалі яе гэтаму спрадвечнаму славянскаму богу, ахоўніку ўраджаю. Канечне, і ў нашых храмах у гэты дзень каля ўвахода ставілі лубку, куды навакольны люд прыносіў па жменьцы зерня з новага ўраджаю і дзе з самага світання гарэла ўваткнутая туды, ў жоўтае пахкае жыта, свечка. Але ў храмах балтаў не ўсюды трымаліся таго звычаю, і Шварна, якога слухаліся ў балцкіх

храмах болей, патаемна загадаў не святкаваць сёлета Багача — маўляў, ураджай быў кволы, зерне не налілося як след, што ж святкаваць?

Шэрыя аблокі клаліся пульхнымі, тоўстымі грудзямі на вежу, і, прабіраючыся раніцай да палаца вялікага князя, я не мог разгледзець нават блізкую браму, а не тое што велікакняскі сцяг — ён хаваўся недзе там, уверсе, куды не магло сягнуць нічыё вока. Я часам чуў ягонае трапятанне, але нават высунуўшыся на самым верее вежы з акна, трапляў усё ў той жа несканчоны, апрыкры, вільготны туман, ад якога ныла цела. Гедзімін таксама пачуваў сябе нядобра — асунуўся, схуднеў і, сустракаючы мяне, хутаўся ў доўгае карзно, падбітае вавёрчынымі скуркамі, і бурчліва перабіваў, калі нешта яму не падабалася.

— Кажаш, у нядзелю лепей застацца аднаму і маліцца багам у свяцілішчы? Але зноў прыязджаюць рыжане, і вечарам трэба задаваць баль. Як жа без медавухі? Як без скокаў і дудак, без глумцоў і валынак?

Што я мог яму адказаць? Што людзі ўсё болей жывуць не ў лад з магутнымі рытмамі Сусвету і ад таго хварэюць і знемагаюць, здавалася б, без дай прычыны? Вось і Гедзімін – яго мучылі болі ў страўніку, плячо ягонае ныла пад непагадзь так, што нават самыя моцныя макавыя адвары не здымалі пакут, і ён па начах усё часцей курчыўся ад болю на сваім раскошным ложы, пакрытым самымі дарагімі і пяшчотнымі мяхамі — ад серабрыста-чорных ліс да пушыстых вавёрак і куніц. Тое пакрывала не заўсёды ратавала яго ад холаду, які засеў у самым нутры. І ніхто не мог яму дапамагчы.

Ніхто не мог таксама сцішыць ягоны боль па Біруце. Ён загадаў заказаць яе партрэт, і майстар Ота з Нямеччыны ўзяўся маляваць яго. Але Біруta на тым партрэце выглядала не тою жывой, вясёлай, трошкі іранічнай красуняй, якую так любілі і пры двары, і ў Гародні. Яна надменна-халодна пазірала са сцяны ў Троннай зале, і я стараўся не сустракацца з ёю поглядам, а пераводзіў вочы на князёўнаў і Ёўну — тыя,

як заўсёды, был і шчабятлівазаклапочанымі, ад іх ішло лёгкае, свежае цяпло маладосці і легкадумства, і не верылася, што і ім наканавана застацца ў гісторыі, ператварыцца ў велічныя здані, перад якімі будуць ніякавець нашчадкі. І ім прыйдзецца зведаць халодную адзіноту трона. Васільковыя вочы гэтых дзяўчынак выцвітуць, пульхныя вусны сціснуцца ў грымасе ці то ганарлівасці, ці то адчаю, а навакольныя будуць бачыць толькі золата на іхніх пальцах і сярэбраную аблямоўку на спадніцах, і зайздросціць, і прымяраць да сябе трон і карону...

І ўсё ж пасля размовы з Давыдам я паспакайнеў. Узламаўшы пячатку на пергаменце, дасланым з Гародні і прачытаўшы пасланне, не раз перадаваў мне Гедзімін прывітанне ад гарадзенскага кашталяна. А ганцы паміж Вільняй і Гародняй цяпер лёталі нашмат часцей, чым раней: рыхтаваўся вялікі паход у Брандэнбургскую зямлю. У Вільні дзень і ноч гахкалі жалеззем у кузнях, пад наглядам вялікага стольніка смалілі вепрукоў і тлушч злівалі ў бочкі, а сала складалі ў кадоўбцы. Вэндзілі рыбу і япрычыну, малолі зерне, у вадзяных млынах ажно крышыліся каменныя жорны.

Вайна стаяла на парозе княства. Часта, падыходзячы да вежы, бачыў я, як чорнае вараннё кружылася над вежай і палацам, нібыта зазірала ў пакоі вялікага князя, што разам з сынам, маршалкам і ваяводам раскідваў адмысловую сетку, у якой павінна было заблытацца крыжацкае войска.

Тады ж упершыню бабахнуў над Вільняй стрэл, каб паўтарацца кожны дзень апоўдні, — гэта з вялізнае гакоўніцы страляў вартавы. Грозная гэтая зброя запаўняла княскі склад, і ўнізе, на левым схіле тары, маршалак загадаў выраўняць пляцоўку, дзе вояў вучылі валодаць ружжом і дзе выпушчаныя кулі, пакуль даляталі да зямлі, рабіліся бясшкоднымі. Стрэл апоўдні уздымаў настрой войска, ён паказваў, што ў ліцвінаў дастаткова зброі для будучага паходу.

Затрывожыўся мой Гердзень. Ён кожны дзень тачыў сваю дзіду і, чакаючы мяне з набажэнства, прагна

глядзеў у бок вежы, адкуль даносіліся стрэлы. Каўпак на яго галаве ваяўніча тузаўся, кал і лічыў ён, колькі разоў гахнула гакоўніца, і песні, якія ён пачынаў напяваць, усе былі вайсковыя, баявыя:

Шчыльнымі радамі пойдзем на крыжакаў, Крочыць побач з князем мудры старац з лірай. Прынясу сястрыцы і матулі срэбра, А як не вярнуся — то пайшоў у Ірый.

Заняты сваімі клопатамі, я не надта звяртаў на тое ўвагу. Але аднойчы Гердзень упаў перада мной на калені:

— Вялікі жрэц, адпусці на вайну!

Я аж хіснуўся:

— Ты што, блёкату наеўся? Там страляюць, а ты адзіны сын у маці!

— Дык што, мне цэлымі днямі чакаць цябе і дурэць ад гультайства?

— Навошта ж ты сядзіш? Дапамагаў бы мне ў абрадах, паступова авалодаў хаця б ніжэйшай ступенню жрэчаства.

— Гэта не па мне. Я схіляюся перад багамі, але, калі стаіш занадта блізка ля іх, перастаеш баяцца. Баюся хіба толькі змей. А там, у дарозе,— раздолле, воля. Ды і здабычу такую-сякую можна назад прывезці.

— Табе не хапае тут? Тваёй маці зайздросціць уся вуліца. Ці не для яе перадаў я нядаўна намітку з заморскае кісяі?

— Але гэта т ы перадаў. Гэта ад цябе падарунак і ад цябе мае заробкі. А я сам хачу! Сам, сваёй дзідай ці вось гэтай... гакоўніцай. Я ж калі трымаў яе ў руках, то закахаўся, як... як у дзяўчыну!

Сум ахапіў мяне. І стомленасць.

— Калі ты хочаш забіваць людзей...

Ён перабіў:

— Гэта не людзі. Гэта крыжакі. Ты ведаеш, што яны твораць тут. А Біруга?

Тут я здаўся. За Біруту ім трэба было помсціць. Яны яе нават не паланілі, каб пасля можна было хаця б патрабаваць выкуп. Яны спалілі яе. Разам з дзецьмі.

— Рабі як хочаш.

Ён схапіў свой ваўчыны каўпак і з размаху ўдарыў ім аб зямлю — з радасці. А тады, схіліўшыся перада мной у паклоне, прамармытаў нейкія словы — падзякі, ці што? — і хуценька патрусіў у бок палаца — туды, дзе грымелі стрэламі гакоўніцы...

Я выбраў сярод малодшых жрацоў отрака Кудвара[24] — ён нядаўна служыў у княжай дружыне, ды раптам адчуў неадольнае жаданне дагаджаць багам. Галоўным было тое, што ён валодаў мячом і дзідай, а таксама і ўмеў страляць з гакоўніцы. Я меў патрэбу ў абароне — балты апошнім часам, сустракаючы мяне на вуліцы, кідалі гняўлівыя словы. Яны і раней не раз выказваліся супраць Гедзіміна і велікакняскай дынастыі, але толькі цяпер нелюбоў гэтая перарасла ў ярасную нелюбоў да мяне, вялікага жраца. Магчыма, тут быў вінны Шварна і яго хітрая, штодзённая разбуральная праца, альбо маё асобнае жыццё ў свяцілішчы, або ад'езд сыноў ці смерць Біруты — як бы то ні было, вялікі князь двойчы адмаўляўся мяне прыняць, а стольнік перадаваў тое з непрыхаванай пагардлівасцю... Такога раней не магло быць — калі б князь і заняты быў з пасламі ці кім іншым, то ўсё роўна мяне б адвялі ў пакой і папрасілі пачакаць. Першы раз, калі я адыходзіў ад брамы, як кажуць, з гарбузом[25], ярасць так узварухнула душу, што я моўчкі рвануў з шыі каралі з іклаў дзікоў і шпурнуў іх ля брамы ў цяжкую чырвоную гліну, перамешаную з сенам і трухой. Варта таращчылася на мяне са страхам і ўсё ж з затоенай зласлівасцю...

Калі я ні з чым адышоўся ад брамы другі раз — суцішыўся. Стаў пасля таго за тыдзень-два адпраўляць да вялікага стольніка ліст, дзе прасіў аб патрэбах свяцілішчаў. Праўда, бывала, што вялікі князь пасылаў па мяне і ўначы і прасіў-загадваў тварыць абрады перад Знічам, Перуном і Дажбогам. Мабыць, ён чакаў, што я завяду гаворку аб ягоных адмовах. Я ж маўчаў аб тым. Што там нашы разнагалоссі, калі гіне ўсё, што я любіў, чаму служыў? Калі да мае шапкі вярхоўнага жраца і майго жэзла цягнецца карыслівы, хцівы чалавек, а я бачу тое і не магу нічога зрабіць? Хіба магу я змагацца з ім подласцю? Ён аблытвае не толькі паноў-раду, але і некаторых жрацоў, а тыя спадцішка сварацьпаміж сабою іншых, і, калі пачнеш разбірацца, вінаватым заўсёды аказваецца той, хто стаіць за мяне і верыць мне. Двух жрацоў-славян — Купа і Няжылу — пакаралі смерцю за тое, што ў іхніх храмах згас Зніч, і розгалас хадзіў па Княстве, што на мяне гневаюцца багі, што мае гэта ўлюбёнцы. Але я ведаў і іншае — жрыцы, што дзяжурылі ў свяцілішчах, калі там здарылася няшчасце, былі забітыя. Аднак калегія жрацоў нібыта і не чула пра гэта, і мяне, праз агульнае галасаванне, проста прымусілі вынесці смяротны прысуд. Мудрыя старцы мне не дапамаглі — я сам павінен быў развязваць свае вузлы, сам даваць адпор. Душа мая плакала, калі Куп, што са звязанымі рукамі стаяў перад ўсімі намі на каленях, узняў затуманеныя вочы і злёгку ўсміхнуўся, нібы хацеў мяне падбадзёрыць — мяне, чый голас дрыжаў і перарываўся. Ягоны ж быў роўным і журботным:

— Ці не ўсё роўна, калі ляцець у Ірый? І я прызнаю сваю віну — сапраўды не дагледзеў, калі злачынцы прабраліся ў свяцілішча...

І нарэшце наступіў дзень, калі я зразумеў, што чалавек, з якога я злітаваўся і не пакараў яго смерцю, калі мог тое зрабіць, узяў верх нада мной і цяпер мне трэба альбо змагацца, альбо... альбо схіліцца перад ім. Нас абодвух запрасілі да Гедзіміна, які захварэў, і гэты... гэты жрэц —усяго толькі жрэц капішча! — адчуваў сябе роўным мне, вялікаму жрацу і нязменнаму памочніку

князя.

Калі стольнік пабег дакладаць пра нас, папярэдне нізка пакланіўшыся абодвум аднолькава-роўным паклонам, Шварна звыкла-задаволена дакрануўся кашчавымі пальцам! да залатых грыўнаў, што, сабраныя ў маніста, блішчэлі пад ягонай чорнай акуратнай барадой, а вочы яго сцераглі кожны мой рух.

Мы сядзелі ўдвух у святліцы, чакалі, пакуль паклічуць у палаты да вялікага князя. На стале перад намі стаяў гляк з мядовым пітвом, брэцьяніцы з пазалочанымі ручкам!. Пахла адварам святаянніку, вецер, што гуляў за акном, з грукатам стукнуў шыбай, лісты бярозы ўляцелі ў пакой, закружыліся нада мной, адзін з іх лёг мне на калена. Дзіўна — ён быў зусім зялёны, хаця Жыцень павывозіў усе снапы з палёў і палыселыя дрэвы панура горбіліся пад захмараным восеньскім небам.

— Табе пасылаюць весткі маладыя дзяўчаты? — іранічна запытаўся Шварна.

Я і сам падумаў — хто ж з юных хоча пабачыцца, папрасіць парады? I адразу стукнула ў галаву — Гайна! Даўно не ўспамінаў я пра дзяўчыну, і фіялкавыя яе вочы адразу як глянулі ў душу. Затрывожыла, зашчымела ўнутры. Што з ёю? Ці вярнуўся з паходу на Брандэнбург Давыд? Ці ўсё непарушна-светла паміж імі?

Перавальваючыся, як качка, у пакой убегла княгіня Еўна. Круглы яе твар пад наміткай успацеў, вочы акругліліся, як у спалоханага дзіцяці, белы высокі, пад сківіцы, каўнер быў памяты, а на падоле аксамітавай сукні начаплялася павуцінне.

— Памірае наш князь! — выдыхнула яна амаль з плачам.

Упершыню я бачыў Еўну такой разгубленай, бездапаможнай. Бывала, крычала яна і на дзяцей, і на мяне, але заўсёды румянак на яе шчоках з таго расцвітаў, як кветкі буйнага маку, а вочы блішчалі то

гневам, то радасцю перамогі. Цяпер жа здавалася яна бледнаю, як мярцвяк, перасохлыя вусны сціснуліся ў крыўдлівай грымасе. І праўда — яна крыўдавала!

— Ён столькі ахвяр дае вашым багам, а вы!

Шварна падляцеў да яе, пачціва схіліўся ў паклоне:

— Дзень і ноч нашы жрацы ўзносяць ахвяры ўсім багам, просяць літасці да вялікага князя...

— І ў хрысціянскіх храмах кожны дзень просяць таго ж...

Мабыць, незалюбіла, што я падышоў да яе не схіляючыся ў паклоне. Яна крыкнула:

— Ты ніколі не любіў маіх дзяцей! Толькі тых, ад Віды і Вольгі! А што будзе з маімі?

Яна горка заплакала, смаргаючы носам, выціраючы слёзы аксамітавым брунатным[26] рукавом.

Тут я і сапраўды, шкадуючы, схіліўся перад ёю:

— Вялікая княгіня, сёння ўначы мы прыносілі ў ахвяру Перуну ягня. І гадалі па ягонай печані. Гедзімін не памрэ.

Яна ўтаропілася ў мяне, макавыя кветкі чырвона ўспыхнулі на круглых шчоках.

— Праўда?

— Вер мне.

Шварна, які не асмельваўся гэтак, як я, размаўляць з вялікай княгіняй, разгублена крэкнуў, падхапіў прытарна-радасна:

— Вер нам, вялікая княгіня!

Зайшоў вялікі стольнік, пакланіўся ўсім і паказаў рукой на дзверы. Там, праз калідор, у прасторнай святліцы, дзе на сценах былі развешаныя амулеты-абярогі, на

шырокім ложку ляжаў сам вялікі князь.

Схуднелы яго твар быў непазнавальным, нібыта наўе доўга насіла яго па чорных сваіх падземных сцяжынках і піло кроў, а цяпер сцерагло непадалёк, спуджанае нашымі малітвамі і ахвярамі. Павекі яго запалі, вочы былі заплюшчаныя, а да жаўтлявага ілба прыліплі сівыя жорсткія пасмы. Лекар-немец спадылба глядзеў на нас, тулячыся за полагам з празрыстай кісяі-камкі, яго доўгі нос нервова вынюхваў пахі, якія кружылі над намі. Сапраўды, мы неслі шкляны сасуд з новай порцыяй пітва, дзе завараныя былі 108 зёлак і якое два дні назад вярнула на гэты свет вялікага князя, хаця лекар ледзь не клаўся пад нашыя ногі, каб не дапусціць да Гедзіміна язычніцкіх жрацоў. Але тады, гледзячы на марныя намаганні чужаземца, настояў вялікі стольнік перад панамі-радай, каб замовілі той настой зёлак яны сваёй воляй. Шмат было, казалі, галасу і нязгоды, але і мы стараліся — мудрыя старцы ноч сядзелі над катлом, прыносячы Знічу ахвяру за ахвярай і тым як бы наслойваючы на пітво свае малітвы. І, хаця аб'явіў біскуп у касцёле, што гэта па малітвах манахаўфрандысканцаў расплюшчыў вочы вялікі князь і ачуняў, усё ж зноў паны-рада распарадзіліся, каб мы прыгатавалі яшчэ адзін сасуд з тым пітвом. Сёння ўсе яны тоўпіліся ў троннай залі, чакаючы вынікаў ад нашага новага прыходу.

Гедзімін расплюшчыў вочы, працягнуў тонкую, як у дзіцяці, руку да брэцьяніцы, але ўтрымаць яе не мог, і тады вялікі стольнік асцярожна, глыток за глытком, стаў уліваць у парэпаны ад вялікага нутранога вогніка рот светла-жоўтую вадкасць. Княгіня, стаўшы на дыбачкі, нібыта сама глытала адвар, бо раптам папярхнулася, закашлялася. Тады Гедзімін адштурхнуў брэцьяніцу, жоўтая пляма папаўзла па кашулі, а ён з неверагодным напружаннем, ажно на шыі ўздуліся жылы, сеў. Касцістая, з растапыранымі пальцамі нага яго высунулася з-пад цёмнай мядзведжае шкуры. Ён некалькі імгненняў неяк замглёна глядзеў на ўсіх, пасля вочы яго прасвятлелі. Лекар зашыўся ў полаг яшчэ болей, а княгіня падкацілася пад ложак і,

схапіўшы вялую руку мужа, стала яе цалаваць.

— Ты не памрэш, Ляздзейка гадаў па печані, княжа, ты будзеш жыць доўга!

Ён перавёў позірк на мяне. Я пацвердзіў яе словы. Слабая ўсмешка варухнула вусны, але сіл на тое, каб гаварыць, у яго яшчэ не было. І ўсё ж ён слаба падміргнуў нам, а стольнік тым часам паціху выцясняў усіх са святліцы, шапнуўшы памочніку, каб ён парадаваў паноў-раду і нашым прадказаннем, і тым, што вялікі князь ачуняў.

Я не казаў нікому, што гаданне нас не толькі ўзрадавала, але і ўстрывожыла — князь Гедзімін сапраўды выжыве, але нехта, хто побач з ім, усё ж без пары адправіцца ў дубовую калоду. Хто б гэта мог быць? Старая княгіня ці жонка? Але Еўна на той свет відавочна не збіраецца. Хтосьці з нявестак? Любая смерць у гэтай сям'і магла адбіцца на лесе дзяржавы, таму што новы шлюб мог змяніць нешта ў звыклай палітычнай раскладцы. А хто ведае, чым абернецца набліжэнне да дзяржавы іншага караля ці князя? І раптам, як крапівой, жыганула па мне новая думка — а што, калі смерць забярэ Давыда?

Колькі разоў гадаў я на яго, і неяк смутна клаліся знакі, то перамогай, то няшчасцем. Але і сапраўды страціў ён Біруту і двух малодшых сыноў. Няўжо не спыніцца на тым Лес?

Пацягнуліся доўгія зімовыя дні, калі да самых макавак засыпае дамы-камяніцы снегам, калі на Каляды гадаюць нават падлеткі і калі ў свяцілішчах асабліва шмат вернікаў, бо ўлетку на багоў забываюцца за цяжкай працай на палях і сенажацях. У боднях[27] дадалося шмат веленсаў і вяршкоў, бламаў і боцікаў — год за годам збіраўся ў палацы пасаг для князёўнаў. Па святліцах ірвалі жылы ткаллі і праллі, швачкі і пляцельшчыцы карункаў, пры двары ж красаваліся паны-рада ў новых заморскіх жупанах і куртах — баршчовых, бурачковых, шытых золатам і перламі, з вачкамі[28], прымацаванымі да паясоў — шырокімі тымі пасамі абкручваўся сёння

кожны, хто хацеў паказаць, як ён цягнецца ўслед за вялікім князем. Гедзімін, я ведаў, не надта сачыў за тым, што нацягвалі на яго штодзень служкі, але затое пільнае вока княгіні Еўны заўважала ўсё — і залатую ніту, абарваную ля вуха магеркі[29], і адтаптаную сярэбраную аблямоўку на плашчы, і нячышчаны брайцар[30]. І даставалася ж пасля стольніку і галоўнаму краўцу! Таму і сачылі яны за кожным рухам князя, нават тады, калі працягваў ён руку да талеркі, каб узяць адтуль пячэнне. Тады ж сталі дадаваць у варыва, што падавалі пры двары, бобкі — чужаземная тая прыправа надта падабалася князю, а князёўны патаемна выплёўвалі яе альбо асцярожна выкідалі на край алавяных тарэлаў. Любілі найбольш бацвінню, смажаніну, лой шмальцаваны ды капусту — яе шаткавалі на гаспадарчым двары пад самыя маразы. Елі таксама і візіну, частаваліся мёдам — бортнікі прывозілі кадзь за каддзю, і соладка, духмяна пахла па каменных калідорах у нядзелю ўвечар.

Я не часта прыходзіў цяпер у палац, але пасля таго, як мы вярнулі да жыцця Гедзіміна, ён падабрэў да нас, жрацоў — аддаў галоўнаму храму дзесяць вёсак з бабровымі ловамі, сенажацямі і палямі, загадаў, каб і з ягоных уладанняў прывозілі ў храмы мёд і воск для свечак. Цяпер смалякі гарэлі толькі па калідорах — у святліцах жа, у залах павесілі вялікія жырандолі, дзе свечкі стаялі дзесяткамі.

Пра паход Давыда я амаль не чуў: заняты быў сваімі справамі. Як ніколі, прыходзілі ў Перуновы храм месцічы Крывіч-горада, прасілі ратунку ад хцівых мытнікаў, ад пасадніка, які па загаду князя браў неймаверныя падаткі з кожнага дыма[31] — на вайну. Не крыўдзілі людзі пасадніка і сябе, так што бывала, што забіралі ў халопы ўсю сям'ю, якая не магла выплаціць прызначаных кунаў і пенязяў. Але чым маглі дапамагчы ім жрацы? Хіба што маліць багоў аб міласці да няшчасных. Ды толькі тою зімою і багі не хацелі адгукацца на нашы маленні, нібыта сердавалі на нас, што просім занадта.

На весну пацішэла тое людское віраванне, дый ганцы прыносілі радасныя весткі аб тым, што князь Давыд спустошыў адзін за адным некалькі нямецкіх гарадоў, а неўзабаве прыйшлі ў Вільню першыя вазы з дабром, і ад таго шмат радасці было ў горадзе. Адразу загадаў князь зменшыць падаткі, а таксама выкаціць на княжы двор бочкі з півам, і цэлы дзень вілася шэрай змяёю чарга па дармавое. І тыя, хто найбольш жаліўся, цяпер найбольш і славілі Гедзіміна, крычалі «Люба!» і магеркі ўверх падкідалі, калі князь вяртаўся ў замак. З дня на дзень чакалі ў сталіцу Давыда.

А пасля прыйшла і іншая вестка. І такою чорнай яна была, што князь у бязмерным і бяссільным гневе засёк ганца шабляй.

Уначы зарэзаў Давыда польскі рыцар, які разам з наглым войскам быў у тым паходзе. У сне зарэзаў, як авечку, тым прынізіў героя, якому ў сталіцы ўжо плялі служкі вянок з дубовага лісця і калідор да замка з бярозак, перавітых зялёнай дзеразой, рыхтавалі. Калі назвалі імя забойцы, нешта знаёмае падалося мне ў ім, хаця спачатку ніяк не мог я ўзгадаць, дзе ж чуў яго — Андрэй Гост. А ноччу, калі лёг спаць і не мог заплюшчыць цяжкіх павекаў, нібыта сталіся яны жалезнымі і не хацелі змыкацца, узгадаў Новагародак. Сонечную раніцу, рыпенне жоўтага вільготнага пяску пад поршнямі, роены след ля цэркаўкі і рыцара. Ягоны погляд на Гайну ўспомніў, як стаяў ён пад акном і гарэў, нібы каснік полымя. Круты лоб, запалыя вочы, малады твар паляўнічага, што гатовы гнаць аленя ці казулю да шалу, да самазабыцця, ламаючы пальцы на тугой цеціве... Хто, апроч мяне, падгледзеў ягоны шал, хто выкарыстаў яго, каб расправіцца з Давыдам? Не мог ён сам да таго даўмецца — не след рыцару паздрадніцку забіваць уначы соннага, і ў ім не адчуў я тады подласці, а толькі вось гэтае — неразважнасць і прагную хоць. Такія з-за погляду жаночага б'юцца на дзідах ці на мячах на рыцарскіх паядынках, такі мог украсці Гайну і мчаць яе куды-небудзь у глухі замак на выгіне ракі, куды зазіраюць толькі ваўкі ды манахі.

Той ноччу, упаўшы ў вешчы сон, я ўвачавідкі ўбачыў, што і як адбывалася. Глыток пітва з атрутных грыбоў — і душа мая пераляцела ў мінулы час і тое месца каля нямецкага горада Франкфурта-на-Одэры, дзе на яловых галінах, на шкурах, ляжаў Давыд, у той час як ягоная душа спалохана мітусілася ў вышыні, белым воблакам падаючы на соннае цела і ўздымаючыся зноў, таму што ніяк не мог прачнуцца Давыд, натрудзіўшы цела ў шалёнай гонцы. Спяшаўся ён у Гародню, таму гнаў скакуна, які ўсё яшчэ аддыхваўся ў статку коней, што збіліся ў загоне. Усё навокал спала.

Моцна спаў і слуга, што павінен быў вартаваць свайго пана кашталяна, а варта загаварылася ля недалёкага кастрышча і не заўважыла чорны цень, што слізгануў між шатрамі. Крок за крокам прасоўваўся наперад рыцар-забойца, мацаючы гарачы ад ягонага цела кінжал, а я кружыў над ім, бяссільны — усё было ўжо запісана на скрыжалях часу і ніхто не мог змяніць ніводнае рыскі. Пахла конскім потам, вільготным адзеннем, якое сушылася каля вогнішча, свечка згасала, кідаючы слабыя водбліскі на неспакойны твар Давыда — ён дыхаў цяжка, з прысвістам, нібыта неадольны цяжар зямлі і страшнай Шкляной гары ўжо давіў яму на грудзі. Цяжка дыхаў і Андрэй Гост — у маладых яго грудзях таксама нешта хрыпела, клекатала — быў ён моцна прыхоплены холадам, які ніяк не мог выгнаць з нутра, і таму не хапала яму паветра. А яшчэ баяўся ён кашлянуць, і таму спяшаўся, паскараў свае асцярожныя крокі, і нарэшце, нахіліўшыся над сонным і баючыся зірнуць яму ў твар, з усяе сілы ўвагнаў смяротнае жалеза прама пад сэрца Давыда, і той не крыкнуў, толькі коратка хрыпануў і скурчыўся. Сутаргай звяло яму рукі і ногі, і тады папаўзла чырвоная пляма па белай кашулі, па Жытняй Бабе, што вышытая была на грудзях. А забойца, так і не глянуўшы ў твар Давыду, кінуўся прэч, ад спуджанага да смерці слугі, што не паспеў, прачнуўшыся, схапіць рыцара за крысо плашча. Але яго схапіла варта, і не давяла назад, да шатра — закалола дзідамі, як парсюка, што вішчаў тонка і бесперапынна, аж пакуль не змоўк назаўсёды...

Тры дні матляўся пад ветрам на Гедзімінавай вежы чорны сцяг жалобы, тры дні не выходзіў нікуды вялікі князьг а мяне прыняла толькі княгіня Еўна.

— Ен не пускае нават стольніка, — сказала яна мне. — І не есць нічога. Я да яго заходзіла тры разы, але і мяне ён прагнаў. Здаедца, і па Біруце не жальбіў столькі, як па зяцю.

Якраз тады зноў прыгналі ў сталіцу вазы з новай ваеннай здабычай Давыда, ды на гэты раз не святкавалі тое ў горадзе, толькі моўчкі згрузілі ўсё ў падзямелле. Тады ж мне перадалі просьбу вялікага князя з'ездзіць ў тое месца, дзе пахавалі зяця, і там сатварыць язычніцкае маленне.

— Бацька яго нарадзіўся сярод старых багоў, — перадаў мне словы Гедзіміна спецыяльны ганец, які прывёз скураны мяшэчак з залатымі манетамі, — і няхай не пераследуе яго душу Марэна, пакуль ён будзе караскацца на Шкляную гару.

Я быў рады той просьбе — змагу дапамагчы душы Давыда і з'ездзжу ў Гародню, каб пабачыць яе... Гайну.

Баяўся нават уявіць яе твар, бо як думаў пра дзяўчыну, то падаў на душу такі згустак болю і адчаю, што цямнела ўваччу. І мроя прыходзіла некалькі разоў — рагатаў у глыбокім віры Немана пад кручай, дзе стаяў замак кашталяна, не стары яшчэ Вадзянік з доўгай лапацістай барадою, з зялёнымі космамі на лабастай галаве, пялёхкаўся азызлым пузам па вадзе і плыў сажанкамі, махаючы лапам! з бялёсымі перапонкамі між пальцамі. Чакаў кагосьці. Хутчэй за ўсё, новую тапеліцу-самагубцу альбо праклятую маткай дзяўчыну — якраз такія падпадаюць пад ягоную ўладу, такіх робіць ён палюбоўніцамі. І нікуды не ўцячы грэшнай той душы — мусіць яна служыць ненасытнай хоці Вадзеніка, мусіць раджаць ад яго вадзянят, ненавідзячы і іхняга бацьку, і іх саміх. Той Вадзянік, які мроіўся мне пад нёманскай кручай, згаладнеў на жанчын — апошнюю, што ўтапілася дзесятак гадоў назад і зрабілася Русалкай, пацягнуў у далёкае мора насмешлівы, але і

жаласлівы Неман, якому прыеліся ейны галас і горкія скаргі. І я ведаў — мроіўся ён мне не дарэмна. Чыясьці душа там, у замку ці каля яго, глядзела ў цёмную крутлівую ваду, спадзявалася там знайсці забыццё свайму болю. Чыя? Мне не паказвалі таго багі, але тачыла і тачыла душу няўпэўненасць. Ці не Гайну агарнула чорная безнадзейнасць?!

...На свежы курган Давыда вясновая завея паклала белы каптур, і не было ва ўсёй пустэльнай даліне нават следу таго, што колькі тыдняў таму стаяла тут вялікае войска і хавала свайго найвялікшага воя — усюды роўнае поле, ужо падталае, шэрае, і сіняй талай вадою наліваюцца сляды.

Тры ланцужкі сірочых тых слядоў праклалі мы да кургана, і там, расклаўшы белы абрус і паставіўшы на хісткую паверхню шклянку віна, кавалак хлеба і драўляную постаць Марэны, якую беражліва трымаў адзін са жрацоў, доўгія хвіліны чытаў я памінальную малітву наўздагон душы, што адплыла ад нас, жывых, і, мабыць, стаяла зараз у чарзе на Страшны суд сярод безлічы памерлых, і трапятала сухім апалым лістом на вузлаватых карэннях вялікага дуба. Я ведаў, што, хаця адпяваў Давыда святар, воі, яго сябры, паклалі яму ў дубовую кал оду ручнік і меч. Але не было пры тым праліта ахвярнае крыві, і таму другі жрэц, Корань, дастаў з катомкі пеўня, і яго прынеслі мы ў ахвяру багіні смерці. Моцна скуголілі вятры, спрабавалі нават скінуць шклянку з віном, але мы палілі чырвонай той вадкасцю белы каптур снегу, і кроў, змешаная з віном, спатоліла і багіню, і яе спадарожнікаў — усё заціхла, вось толькі паваліў вільготны, цяжкі снег, так што мы скарчанелі пад канец абрадаў, як беспрытульныя сабакі пад плотам.

Назаўтра, калі мы прыехалі ў Гародню, я адчуў, што злыдухі пастараліся: мяне стала калаціць Трасца. Я хутка вызначыў яе: з усіх дванаццаці сястрыц — гарохавай, лістаадзяватнай, асінавай, ядленьцавай, агнявой і іншых на мяне напала не самая горшая — касцявая, калі ломіць косці і дробна трасуцца рукі.

Самая страшная з усіх Трасцаў — смяротная, ад яе няма паратунку, і нездарма яна кажа бедалагу, якога абрала: «Ляшчына, не ляшчына, а я цябе насмерць затрасу!» Але і тая з дзявок-хвароб, якая напала на мяне, добра растрэсла мае бедныя косці, таму давялося праляжаць цэлы тыдзень у мясцовым свяцілішчы Дажбога. І толькі калі потам і харкавіннем сышлі з маіх вантроб холад і злыдушша, я ачуняў і загадаў жрацу Кораню даведацца, дзе і як жыве Гайна — у пасадзе ці пры замку, у свяцілішчы ці пры двары кашталяна. Ён вярнуўся з нярадаснай весткай — дзяўчына ляжыць пры смерці ў сваім доме, што прымыкае да замкавай сцяны, і слугі ў вялікай трывозе, таму што пасечаны быў у паходзе ейны бацька Рацібор, а маладога баярына Віта яшчэ няма з паходу. Што, калі памрэ гаспадыня? І хто кашле ў храм ці ў свяцілішча, каб памянуць душу баярына, якога, як і Давыда, пахавалі па дарозе?

Усё ж, хаця і кароткі час, была яна маёй жрыцай, таму і змог я паехаць у вялікі мураваны дом, дзе ў ціхай, зацемненай дошкамі-аканіцамі святліцы знайшоў Гайну.

Другі ўжо раз я сустракаў яе ў час бяспамяцтва, калі душа блукае ў смузе, у чорнай бездані без канца і краю, шукае некага ці нечага і плача. Белы тварык яе быў без крывінкі, пушыстыя веі ляжалі на шчоках, як цёмна-шэрыя матылькі, а вусны гаротна сціснуліся ў палоску. Першы раз, у лесе, калі бязвольна абвісла яе цела і была яна без памяці, не было вакол рота гэтых маленькіх рысачак (хто высек іх на беламармуровай скуры?), а між брывамі круглай, як ружовая вішня, плямы. Я ведаў, што значыць гэтая пляма — чалавеку дадзена зазірнуць у вечкае, вокам не тым, што накіравана ў зямны свет, а тым, што бачыць незямное. Нездарма ў казках баяць пра трэцяе вока — яно было ў чалавека, ды знікла, бо ён развучыўся глядзець у свет наўя. Такія ружовінкі бывалі і ў мяне ў тыя ночы, калі бачыў вешчыя сны альбо перакідаўся ў мінулае ці будучае, часам яны нават свярбелі, гнаіліся, а пасля праходзілі.

Я доўга ўглядаўся ў яе. Не было ніякага знаку цяжкай

хваробы, а між тым бачылася, што жыццё пакідае дзяўчыну, ледзь цепліцца ў ей, як кволае полымя свечкі. Слугі расказалі, што ў адзін вечар даведалася яна і пра смерць бацькі, і пра смерць Давыда і нават не заплакала, а зачыніла дзверы за ганцом і пайшла ў святліцу. І толькі раніцай знайшлі яе на ложку — без памяці, без румянку на шчоках, і ніякія лекары не вярнулі яе да прытомнасці. Так і ляжыць два тыдні, нібы краска, пакладзеная пад лёд, і толькі бронзавае люстэрка паказвае, што жыццё ў ёй курыцца лёгкім парам, туманіць халодную паверхню люстэрка.

Я раздумваў. Марэна (ці як яе тут, на землях былых яцвягаў, клічуць? Мажана, Паляндра?) не прымае душу Гайны, значыць, усё ж не прыйшоў ейны час. Паглядзеў на тонкую, амаль празрыстую дзявочую далонь. Вялая, дрыготкая, рука была цёплаю, і знака смерці на ёй не было.

— Начнём абрад, — загадаў я жрацам, і Корань паслужліва заскрыпеў скуранымі зашчапкамі на вялікай торбе, якую заўсёды насіў за плячыма.

І зноў стаялі на стале шкляныя сасуды, толькі віна не было ў іх, а была вада з трох жыватворных крыніц, вада, загавораная на тое, каб дапамагчы душы вярнуцца ў гэты свет. І ўсё ж я паўтарыў замовы, але, як пачаў першую, вада ў шклянцы раптоўна забурліла і стала шэраю, а ў час другой замовы выпалі ў ваду драбінкі чорнага і апалі на дно. А трэцяя вада ў шклянцы, калі гаварыў над ёю словы гаючыя, магутныя, засталася, як і была, чыстаю. Той вадою абмыў я твар Гайны і намачыў ёй вусны. І, паставіўшы шклянку ля ложа, загадаў, калі ачуняе, даваць ёй піць колькі захоча. А для таго, каб слугі не перашкодзілі лячэнню, пасадзіў каля ложка Караня.

Назаўтра прыбег ганец з дому дачкі Рацібора — яна ачуняла і хоча бачыць мяне неадкладна. Вочы яе на белым тварыку былі вялізнымі і бяздоннымі, як быццам усё яшчэ была яна ў двух светах адначасна, але не ззялі, як заўсёды, а былі заімглёнымі і адрачонымі:

— Толькі ты ведаеш, што ў мяне на душы. Ты быў на ягоным кургане?

— Быў.

— Што там — даліна, узгоркі?

— Даліна. Белае поле вакол.

— І груганы?

— Груганоў не бачыў. І чорнага варання не было. Яго душа праведная і чыстая. Ваяваў за радзіму, бараніў яе. Курган відзён здаля, туды ўлетку, думаецца мне, сойкі і стрыжы будуць прылятаць. А можа, і ластаўкі.

— Гэта добра, — яна глыбока ўздыхнула. — Бацьку майго спалілі на вялікім кастрышчы, разам з іншымі воямі. Не будзе куды і прыехаць, калі захачу.

— Ты ж ведаеш — душа лётае ўсюды, яна не прывязаная да праха. Гэта хрысціян хаваюць у зямлю мёртвымі і тым апаганьваюць яе.

Яна адвярнулася, заплюшчыла вочы.

— Ужо не ведаю, дзе праўда. За кім яна? За табой ці за тымі, з кім мой бацька і Давыд былі? Каму ў палацы моляцца? Святой Параскеве і Іллі Прароку, Багародзіцы і Спасу. Але не Дажбогу ці Мокашы.

— Ці Жыценю, ці... ці Лялі, — прадоўжыў я за яе. — Простыя людзі іх не забудуць. Асабліва Лялю. Дзяўчаты вянкі ёй плятуць, і гэта ніколі не згіне на нашых землях. Чуеш — ніколі! Без кахання перапыніцца жыццё!

— Мне яны не прынеслі шчасця, — прашаптала яна. — Ні Ляля, ні Лель. І я вянкі завівала, кахання прасіла. І Ляляй была — на дзярновай лаве сядзела, малако, сыр і яйкі раздавала, хлеб у ваду кідала, каб ім весела з намі было. Не — яны з мяне пасмяяліся, падражнілі і зніклі. А я адна засталася. Адна на зямлі.

І зноў я не знаходзіў слоў. Не ведаў, што ёй казаць, чым

суцяшаць. Расказаць, як рагоча пад кручай не стары яшчэ Вадзянік? Боязна — а як зробіць усё насуперак, у адчаі? Толькі і змог бадзёра вымавіць тое, што казаць вярхоўнаму жрацу было проста сорамна:

— Ты знойдзеш яшчэ сваё шчасце. Ты такая юная..

Яна моўчкі паглядзела мне ў вочы. І чырвань сапраўды заліла мой твар, а цяжкі сакавіцкі вецер — відаць, сам Падвей — ударыў у слюдзяныя шыбы з такой сілай, што ўздрыгнулі жрацы. Мне трэба было вяртацца назад, і я развітаўся з ёю, а душа шчымела так, нібыта яе скаблілі знутры вострым нажом. Як мездру.

У Вільні было сцюдзёна і сыра. У свяцілішчы Перуна загінула адна са свяшчэнных змей. Як казалі жрацы, малако было атручаным — яна, першаю лізнуўшы яго, скруцілася ў сутарзе і хвастом хлестанула па талерцы, чым уратавала іншых. Аднак служка мог сказаць і няпраўду, каб уратаваць сябе ад кары. Кару ж, калі тое была ягоная віна — недагляд ці які іншы грэх — ён заслугоўваў: у горадзе з новай сілай папаўзлі чуткі аб тым, што мяне пакінула цудадзейная сіла і вернікі, прыходзячы да нас, не атрымліваюць палёгкі. Затое надта хвалілі храм Шварны, і туды памкнуліся ўсе нябогі і хворыя, якіх так многа было ў сталіцы. Я падазраваў, што чуткі шырыліся не проста так: мне казалі верныя людзі, што ў свяцілішчы Рагуціса абраным і davераным паломнікам плацяць за тое, каб яны хвалілі менавіта гэтае свяцілішча.

І я адчуваў, што цянёты няпраўды давяць на мяне, аплятаюць, нібыта ліпкае павуцінне. Шукаў супакаення ў абрадах, у гаданні па зорках. Але гадаць трэба са спакойнай душой. Мая ж была ўскаламучаная турботамі. Чакаў няшчасця. Ведаў — яно тут, вартуе, ходзіць навокал кругамі.

І дачакаўся.

З Гародні прыйшла вестка — Гайна пайшла ў манастыр.

Ах, праўнучка жрыцы старадаўніх блізнятаў, што ты

нарабіла! Ты магла б нарадзіць золатавалосых дзяцей з вачыма-браткамі, што расцвітаюць вясной на схілах узгоркаў. Трымаць іх на руках і прыціскадда шчакой да цёплых цельцаў, і гадаваць іх, назіраючы, як з немаўлятаўператвараюцца яны ў падлеткаў, а пасля юнакоў і дзяўчатак, азораных промнямі радасці і любові.

Радасць і любоў — вось чым адорвае чалавек усё навакольнае, вось чаго хочуць ад яго багі і што недаступнае чорнай сіле. Можа, ад таго так імкнецца зрабіць яна чалавека няшчасным, адабраць ад яго самае дарагое. А каб атрымліваць радасць у служэнні багам (ці, як выбрала яна, хрысціянскаму Богу), трэба мець шмат духоўных сіл. Ці ёсць яны ў цябе, маленькая дзяўчынка з фіялкавымі вачамі? Ці ты кінулася ў манастыр толькі каб схаваць там свой боль і камусьці — мо, самой сабе, даказаць, што ты ніколі больш не пакахаеш? Але ж чалавек прыйшоў у гэты свет менавіта для таго, каб каханнем і гарачай верай мяняць свет. Ніхто, ніхто на зямлі не здольны таго рабіць, бо не дадзена веры, любові і надзеі ні расліне, ні жывёле. Толькі чалавеку.

Той, хто бяжыць забіваць, і той, хто бяжыць, каб ратаваць, маюць розную сілу. Сілу зла і дабра, хаця трацяць яны, здаецца, тую ж колькасць жыццёвае энергіі.

Ці лепш табе будзе у манастыры, юная Гайна, новагародская панначка, што сустрэла ў свеце толькі боль і зусім мала шчасця?!

Я не паехаў да яе, каб даведацца пра тое. У кожнага свой шлях. Але чамусьці пустой падалася мне Вільня. І халодным наваколле. І невыноснымі інтрыгі жрацоў. І чужым двор вялікага князя.

Гудзелі ў комінах вятры, скуголілі завірухі, але нарэшце стаміўся Зюзя і саступіў сваё месца юнай Ладзе. Я пачуў яе звонкі смех раненька, на дасвецці, і, выглянуўшы у двор храма, убачыў пад калматай, непрыветнай ялінай першую пралеску. Гэта мне

пакінула яна белую, далікатную красачку, каб перастаў я нудзіцца і лічыць, што жыццё — невыноснае. І я нібыта акрыяў, стаў зноў цікавіцца, што ж дзеецца ў няскім двары, якімі бываюць наступствы той няўхільнай, няспыннай працы, якою ў палацы заняты Гедзімін і ягоныя паны-рада.

У верасні 1329 года ў сталіцу прыйшла вестка — просіць цвярскі князь Аляксандр абароны ў вялікага князя Гедзіміна. Тое расказаў мне Карыят, калі, прыехаўшы з Новагародка да бацькі, наведаў мяне ў свяцілішчы.

Невысокі, рухавы, ён абняў мяне, а пасля, распшіліўшы фібулу на карзне і кінуўшы аксамітавы плашч у кут, нібыта гэта была не каштоўная адзежына, шытая золатам, а пасконь, сеў за стол і, выпіўшы медавухі з зёлкамі, доўга расказваў пра усходнія княствы. Аказваецца, 15 жніўня цверычы перабілі татар у сваім горадзе, не выцерпеўшы іхніх здзекаў, а сярод іх — асабістага пасла хана Узбека, Шаўкала. І што ж — адзін з князёў, а менавіта маскоўскі, празваны за сваю сквапнасць Калітой, тут жа паімчаўся да хана, каб паказаць яму сваю адданасць, і вярнуўся з пяццюдзесядцю тысячамі татараў. І паліў непакорных, і біў столькі, колькі мог, і прымусіў князя Аляксандра ратавацца ў Пскове. Сам жа за ўсё зло, ім зробленае, атрымаў ад хана Узбека ярлык на вялікае княжанне і робіць сваю Маскву паперадзе ўсіх славутых гарадоў рускіх. А Аляксандру давялося ўцякаць і з Пскова — Каліта той пракляты прыдумаў хітрасць: угаварыў мітрапаліта Феагноста праклясці і адлучыць ад дарквы і Аляксандра, і пскавічоў, калі яны не паддадудца Каліце і не скарацца перад Узбекам. Тады з'ехаў непакорны князь з Пскова, хаця плакалі гараджане і надта яго іпкадавалі.

«Масква» — я не ўпершыню чуў пра гэты горад сярод усходніх княстваў. Ведаў, што страшная татарская навала падмяла пад сябе рускія гарады, але нас яна не зачапіла. Наша княства шырылася, Гедзімін рабіўся ўсё больш магутным, і ўсё меней раіўся ён з язычніцкімі багамі, хаця і не адмаўляўся ад іх.

Забягаючы наперад, скажу, што цвярскі князь жыў у нас паўтара года, і вяртанне на радзіму не прынесла яму шчасця — вымушаны праз колькі гадоў ісці з наклонам у Арду, да Узбека, быў ён, як аб тым стала ў нас вядома, разам з сынам Фёдарам «разняты па суставах» катамі няўмольнага хана. Але затое і гордыя наўгародцы прыслалі неўзабаве да нашае сталіцы ганцоў з просьбай — ратаваць ад ненасытнае Масквы і Каліты і іх, і гатовыя былі для таго ўзяць на княжанне кагосьці з сыноў Гедзіміна. Нарымунт-Глеб, які тады быў князем пінскім і тураўскім, паехаў туды княжыць, і я праз гады наведваў яго — але тое было пазней.

Седзячы за маім сталом, Карыят (хрышчаны Міхаілам, ён, аднак, не любіў гэтага свайго імені) надта крыўдзіўся на зводных братоў, Альгерда і Кейстута, якія заўсёды трымаліся разам і звысака паглядалі на іх, дзяцей ад Еўны. Сыны Вольгі, тыя мелі ўплыў на бацьку, і той, нягледзячы на тое, што Еўна і маладзейшая, і, як кажуць, прыгажэйшая ад Вольгі, усё ж часта ўзгадваў другую сваю жонку, кажучы, што мела яна сэрца воіна і постаць багіні Лялі.

Я суцяшаў яго, а ён, напіваючыся медавухі, усё болей распаляўся, а пасля раптоўна запытаўся, з ухмылкай гледзячы мне ў вочы:

— Я чуў, што ты чараваў, каб дабіцца Гайны, але яна ўсё роўна ўцякла ад цябе ў манастыр.

Я моўчкі глядзеў на яго, але ён, сумеўшыся на хвіліну, усё ж гнуў сваё (гаварыў у ім і хмель і нешта даўняе, таемнае. Я здагадаўся пазней, што ён хціва пaглядаў на Гайну, паклаўшы на яе вока, але саромеўся да яе наблізіцца).

— Дарэмна толькі сапсаваў дзеўку, Ляздзейка...

Гнеў, які маланкай сekануў усё цела, быў такі, што Фальк мігам сарваўся са свае жэрдкі, на якой драмаў, і не паспелі мы маргнуць, як ён кіпцюрамі драпануў па твары княжыча.

Шчасце, што той паспеў у апошняе імгненне адвярнуць твар, іначай застаўся б без вока. Я схапіў сокала, моцна прыціснуў да сябе. Княжыч Карыят пабялеў, пасля рука яго пацягнулася да мяча. Але мяча не было — той разам з поясам і плашчом ляжаў ля ўвахода.

Калі ж ён ускочыў і памкнуўся да зброі (а можа, проста хацеў вылецець з пакоя), я падставіў яму нагу, і ён з грукатам пакаціўся па падлозе, так што забрынчалі ягоныя бранзалеты, зашчоўкалі воўчыя клыкі-абярогі на шыі і з трэскам парваўся, зачапіўшыся за крэсла, тонкі юхтавы бот.

Я моцна абхапіў яго за плечы ззаду, так што ён не мог ні вырвацца, ні стукнуць мяне, і паклікаў Гасцілу, што каравуліў за дзвярыма:

— Дапамажыце княжычу, ён паслізнуўся.

Пры жрацу Карыят сцішэў. Ён цяжка глянуў на мяне пачырванелымі вачыма, падобны ў гэты момант на маладога бычка, што не асмельваецца з усяе моцы вырвацца на жаданую волю, і, нешта працадзіўшы, хутка пайшоў з пакоя, нават не развітаўшыся.

Сэрца мае шчымела. Ніколі не зважаў на плёткі, а тут не змог стрымацца. Мець княжыча ў ворагах нядобра, усё ж Еўна забірае ўладу пры двары, нават незаўважна для самога Гедзіміна. Але бегчы следам за пакрыўджаным? Ён расцэніць гэта як слабасць.

І зноў усю ноч я думаў над дзіўнымі звівамі чалавечых узаемаадносін, калі самае простае — разуменне — робіцца недаступным і недасяжным, а крыўда і злосць, наадварот, авалодваюць чалавечым сэрцам хутка і часам незваротна...

Раніцай мяне паклікалі да Гедзіміна. Ганец, чаго не бывала даўно, прывёз і перадаў у мае рукі вялікі кашэль з залатымі пенязямі, якія толькі нядаўна адлілі у Князевым манетным двары. І па гэтым я адчуў, што мяне чакае нешта непрыемнае. Але што? Чаго хацеў ад мяне вялікі князь? Я перабіраў нашы размовы з ім,

трывожыўся, ці не нагаварыў чаго на мяне Карыят, але усё выйшла не так.

— Мне патрэбна добрае прароцтва, Ляздзейка, — амаль адразу ж заявіў Гедзімін пасля таго, як мы селі насупраць адзін аднаго за доўгім сталом у дубовай зале, дзе звычайна засядалі паны-рада. — Я рыхтую паход на Прусію, і жамойты пойдуць за мной толькі тады, калі пачуюць аб добрым зыходзе. Ты ведаеш, яны ў крыўдзе на мяне, я не заўсёды бараніў іхнія інтарэсы так, як славян.

— Але ж я адказваў табе дзве сядміцы назад, вялікі князь, што гаданне па змеях не ўдалося, а печань ахвярнай авечкі была ў злавесных пражылках.

— Час ідзе, прыкметы мяняюцца. Можа, паход і не пачнецца сёлета, але жамойты павінны рыхтавацца — каваць дзіды і мячы, сушыць мяса, плесці шчыты.

Ён хутаўся ў доўгі мехавы каптан, накінуты паверх барвовай суконнай адзежыны, яго правае плячо торгалася, а вочы, ужо памутнелыя і набраклыя старэчай вільгаццю, жмурыліся. І ўвесь час нібыта гарэла ў ім несціхальная нянавісць, ад якой слабыя ўжо вочы яго раз-пораз успыхвалі маладым агнём.

Я ведаў: ён не мог перажыць гібель Біруты і Давыда, колькі ні высільваў сваю душу. Асабліва Давыда. Той быў яму заўсёднай падпорай больш, чым сыны. І хаця на сыноў, асабліва на Альгерда, ён не мог жаліцца, усё ж без Давыда ягоныя ваенныя рады былі, як мне гаварылі, меней дзёрзкія, меней натхняльныя. Альгерд загараўся нячаста. Асцярожны, абачлівы, ён часам раздражняў гарачага, нястрымнага Гедзіміна. Давыд быў такі ж — таму яны, бывала, і сутыкаліся лоб у лоб, але заўсёды іскры, якія ўспыхвалі пры тым, давалі свой плён — нараджалася нейкая ваенная хітрасць, нейкая закавыка, ад якой пасля шалелі ворагі...Цяпер жа ўсё было значна цішэй, ды і сыны сядзелі па сваіх удзелах, з'язджаліся разам рэдка, а з панамі-радай у яго не было асаблівых клопатаў, што яго відавочна раздражняла. Можа, ад таго ён паступова і страчваў уменне слухаць,

а галоўнае, чуць іншых?

Я адчуў, як ягоная сіла спрабуе скруціць мяне, падпарадкаваць, у той час як сам ён мяне ўгаворвае — быццам я дзіця ці дзяўчына, якія паддаюцца чарам! Ці які-небудзь хцівы баярын, які ў абмен за тое, што саступіў у патрэбны час і патрэбную хвіліну, выгадвае, чаго яму потым прасіць у гаспадара!

— Вялікі князь, багі не далі мне знаку, а я павінен слухаць толькі іх...

Вачэй я не паднімаў. А ён хацеў, каб я зрабіў гэта, таму што амаль крычаў:

— Чаго не глядзіш на мяне? Таму што сорамна? Таму што ты, ты, якога я... падабраў, выгадаваў, не хочаш памагчы ў цяжкі час. Што будзе з таго, калі ты адзін раз схлусіш? Багі даруюць табе, таму што я... чуеш? Я вазьму на сябе гэты грэх! А мне яны даруюць! Бо яны выбралі мяне, яны ўзнеслі на трон не цябе, а мяне!

Ягоная сіла шырылася, віравала, захліствала... Аж пакуль я не падняў вочы, і ён аж адхіснуўся назад, у сваё дубовае шырокае крэсла з разьбянымі падлакотнікамі. Але я прашаптаў толькі адно:

— Не. Я не скажу няпраўды.

Тады ён зароў, узняўшыся на ўвесь рост:

— Дык знойдуцца іншыя! А ты...Прэч!

Я павольна ўстаў. А ён, ужо не памятаючы сябе ад гневу, працягваў:

— Ты думаеш, што цябе і сапраўды знайшлі ў арліным гняздзе і ты прарок? Ты валяўся пад дрэвам у лахманах, а я пашкадаваў цябе, подлы смерд, і прыдумаў казку, каб княгіня не выкінула цябе з палаца. Каб не я, ты заставаўся б халопам, чуеш?

У яго перакасіўся твар, сівыя валасы грывай упалі на лоб, і ён паправіў іх рукой, дзе скалечаны мезенец

тырчаў абрубкам. Хваля шкадавання прыліла да сэрца. Усё тое, што ён гаварыў, стала для мяне нейкім як бы мёртвым, не мела значэння.

— Бывай, бацька Гедзімін.

Ён нібы спатыкнуўся. Я назваў яго так, як называў хлопчыкам, бегучы да яго, каб прыціснуцца шчакой да калючага карзна і з асалодай адчуць пах скуры і жалеза. І ўжо ў спіну маю паляцела іншае — не рык, а голас невымерна дарагога для мяне чалавека, у якім былі шкадаванне і пакута:

— Тху ты, нячыстая сіла! Пачакай!

Я прыкрыў цяжкія дзверы, і здалося — усё маё жыццё засталося там, за імі...

А раніцай, калі юнае сонца прарэзала першую шчыліну ў начной заслоне, я ўсхапіўся з ложа.

Стаяў на паліцы крыштальны шар — пацік, абгорнуты ў тонкае палатно. Ляжала глядзельная трубка, якая робіць зоры блізкімі. Драмаў, зрэдзь паглядаючы на мяне адным вокам, Фальк — адзіная блізкая на зямлі істота, якая заўсёды гатовая была абараняць і ляцець за мной.

А больш не было нічога, што хацеў бы я забраць з сабою. Хіба колькі грошаў, каб не прапасці з голаду па першым часе, і кавалак хлеба, каб хапіла яго на сённяшні дзень.

Заўтра я здабуду сабе ежу. А калі і пагаладаю, то таксама нічога страшнага. Чалавек і так есць нашмат болей чым яму трэба, ператвараючыся ў свінню, што не падымае галавы да неба і гатовая за смачны кавалак прадаць усё, што можна і чаго нельга.

Што мяне чакае ў будучым? Не хачу ведаць. Можа, я памру дзе-небудзь пад кустом, што атуліць мяне ад гарачыні, можа, прыб'е нейчы кісцень. Але жыццё да апошняе хвіліны будзе для мяне бясцэнным падарункам.

А яшчэ — воля. Неабдымная, вялізная, як неба, на якое можна цяпер глядзець не тады, калі стомішся ад чалавечых звадак і сварак, а тады, калі захочацца. І крыніцы, якія можна слухаць усю ноч. І вогнішча, якое можа згаснуць, і за тое нікога не трэба караць.

І я пайшоў — спачатку па брукаванай дарожцы свяцілішча, яшчэ вільготнай ад расы, пасля да гарадское брамы, дзе вартаўнікі пачціва схіліліся і адчынілі вялізныя каваныя жалеззем вароты, якія працяжна зарыпелі і з грукатам зачыніліся за мной. А пасля пакрочыў па мяккай пясчанай дарозе, дзе тугі пясок рыпеў і стагнаў. А пасля павярнуў у лес — і сосны схавалі ад мяне Вільню, вежу Гедзіміна з ягонай харугвай, і я ішоў і ішоў напрасткі, не стамляючыся і не шкадуючы аб жыцці, якое заставалася ззаду...

***1999***




# Вольга Іпатава

Нарадзілася ў гарадскім пасёлку Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці ў сям'і служачых. Пасля смерці маці выхоўвалася ў дзіцячым доме (1956-1961). У 1961 годзе скончыла ў Гродне сярэднюю школу № 7 і паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1963 г. перавялася на завочнае аддзяленне (скончыла ў 1967).

Працавала настаўніцай ў вёсцы Руба на Віцебшчыне, таваразнаўцам у Віцебскім абласным кнігагандлі (1964), інструктарам, загадчыкам сектара ў Гродзенскім гаркаме камсамола (1965-1968), рэдактарам на абласной студыі тэлебачання (1968-1970). У 1970-1973 гг. — літсупрацоўнік газеты «Літаратура і мастацтва», затым літкансультант газеты «Чырвоная змена». У 1975-1978 гг. — аспірантка Літаратурнага інстытута ў Маскве. У 1978-1979 зноў працавала літкансультантам у «Чырвонай змене». У 1985-1989 гг. — галоўны рэдактар літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання. З 1989 года — загадчык аддзела, з 1990 года — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Спадчына».

У 1991-1995 гг. Вольга Іпатава была галоўным рэдактарам газеты «Культура». З 1998 да 2001 года — намеснікам старшыні, а з 2001 да 2002 года — старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Узнагароджана ордэнам «Знак Пашаны», медалём Францыска Скарыны, з’яўляецца лаурэатам прэміі імя Барыса Кіта (2003), «Залаты апостраф» (2006, за аповесць «Апошняя ахвяра свяшчэннага дуба»), прэміі імя Міколы Ганька (2009, за "вялікую асветніцкую працу і прапаганду духоўных дасягненняў беларускай эміграцыі ў Канадзе") і інш. З’яўляецца ганаровым акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук «Еўразія».

Друкуецца з 1959 года. Аўтар зборнікаў вершаў «Раніца» (1969), «Ліпеньскія навальніцы» (1973), «Парасткі» (1976), «Крыло» (1976, на рускай мове), зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Вецер над стромай» (1977, расійскае выданне, Масква, 1980, адзначана на Ўсесаюзным конкурсе імя М.Горкага, 1981), «Дваццаць хвілін з Немезідай» (1981), «Перакат» (1984), «Агонь у жылах крэменю» (1989), «Чорная княгіня», (1989) «За морам Хвалынскім» (1989), кніжак для дзяцей «Снягурка» (1974), «Казка пра Паўліна» (1983). Напісала тэлеп'есу «Давыд Гарадзенскі» (пастаўлена ў 1988).

У 1996 годзе выдадзена кніга «Паміж Масквой і Варшавай», у 2002 годзе выйшла трылогія «Альгердава дзіда» («Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедыміна», «Альгердава дзіда») і інш.

Творы Вольгі Іпатавай пераведзены на рускую, англійскую, нямецкую, узбекскую, балгарскую, польскую, славацкую, чэшскую мовы, а таксама на мову хіндзі.

Акрамя таго, Вольга Іпатава выступае ў друку з крытычнымі артыкуламі і публіцыстычнымі нататкамі, перакладае на беларускую мову творы рускіх, літоўскіх, украінскіх, узбекскіх, армянскіх пісьменнікаў, займаецца грамадскай дзейнасцю.

**Крыніца:** www.be.wikipedia.org

1. Парфума

2. Шчырымі называлі баравікі

3. Сённяшні Калінінград

4. Сірыус

5. Па некаторых звестках, язычніцкія жрацы ўжывалі падчас службаў сок мухамораў

6. Так называлі ў старажытнасці лічбу пасля ста тысяч

7. Картэж з мноства фурманак ці карэт называўся оршакам, ці поездам, ад чаго ёсць слова «паязджане»

8. Ад «пошліна»

9. Раней музычныя спевы запісвалі нотнымі крукамі

10. Дакладны тэкст з летапісу

11. Існуе гіпотэза аб тым, што Вільня раней называлася і Крывіч-горадам (горадам крывічоў)

12. Шаўковая тканіна з Дамаска

13. Крыштальны шар

14. Старадаўняе, праарыйскае ўяўленне аб тым, што Купала — гэта бог Гопала, які ў выглядзе быка гуляў з дзяўчатамі-пастушкамі

15. Сельдэрэй

16. «Шварна» — паходзіць ад індаеўрапейскага «сваруна» (аб славяніне Сваруне ўзгадваюць візантыйскія крыніцы VI стагоддзя)

17. Па некаторых звестках, славяне таксама валодалі апаратам кіравання энергіяй, які апісаны ў «Премудростях» вялікага егіпецкага мудраца Тота і якім упраўляе жанчына (апісанне яе і шара тут даецца менавіта паводле Тота). Але і наша Жытняя Баба

таксама мела вакол сябе дванаццаць зорак↵

18. Вар'ят↵

19. Дзяволтва — тут у значэнні племянной прыналежнасці↵

20. Нафта, якою мазалі раны↵

21. Аб Сінім Камені і па сёння захаваліся паданні↵

22. Кастрыраваны жарабок↵

23. Сумненні ў тым, што Гедзімін захапіў Кіеў, выказваюць асобныя гісторыкі↵

24. Імя гэтае засталося як назва мястэчка ў Гомельскай вобласці↵

25. Калі дзяўчына адмаўляла сватам, яе бацькі давалі ім гарбуз↵

26. Карычневым↵

27. Кадушка з векам, куды клалі адзенне↵

28. Сумка, кашалёк↵

29. Шапка↵

30. Кальцо для прымацавання шпор да ботаў↵

31. Хаціны, гаспадаркі↵

Падрыхтаванае на падставе: Вольга Іпатава, Альгердава дзіда. Раманы, — Мінск: Беллітфонд, 2002. — 608 с.

ISBN 985-6576-31-8

УДК 882.6-31

У кнігу вядомай беларускай пісьменніцы Вольгі Іпатавай увайшлі тры раманы на гістарычную тэму — «Залатая жрыца Ашвінаў», «Вяшчун Гедзіміна» і «Альгердава дзіда».